што можа быць заўтра. Магла здагадвацца, як яно пойдзе на паслязаўтра. Яна думала пра тое, што калі сёння павыбіваліся з зямлі на ясны свет хвойкі, то праз гады тут будзе лес. Ён-жа ўяўляў свет так, як яго бачыў у той момант, калі глядзеў на яго.

„Свет! Свет у якім жыве і на які глядзіць чалавек! Ён цяпер будзе не страшан! Цяпер ёсць паратунак. Няхай сабе будуць войны і трывогі, моцны будзе ратавацца ад няшчасця. Мацнейшаму будзе лёгка ратавацца, слабейшаму цяжка, зусім слабы не вытрымае і згіне. А я цяпер смелы“.

Такім адчуваннем поўнілася ўся яго душа, калі ён нёс знойдзеныя грошы.

Чым больш падыходзіў ён дадому, тым трывожнейшы рабіўся. Раптам усё гэта пачало яго гнясці і мучыць. У адну хвіліну ясныя колеры зменьваліся змрочнымі, пасля зноў успыхвала яснасць. Так бывае ў слабавольных натур. У моцных-жа гэта бывае ў моманты найвялікшых утрапенняў, калі ўжо і ад самага мацунку іхняй натуры, на той момант мала што астаецца.

Міхал Тварыцкі ўвайшоў у хату ціхом і вінавата паглядзеў на жонку.

— Цэлы дзень ты недзе хадзіў?

— Усялякія інтарэсы.

— Ты зноў стаў нейкі дзіўны. Туляешся, мала гаворыш, людзі бачылі, што ты нечага паўз лес і па лесе ходзіш, кінуўшы араць. Што ты, зноў грошай шукаеш, ці што?

Гэтае слова патрапіла ў самую цэль. Яна ўспомніла тыя дзве першыя трохрублёўкі і сказала жартам, а ён збялеў, спалатнеў, збянтэжыўся. Але адагнаў ад сябе гэтую слабасць адразу. Ён гукнуў:

— Ідзі ты к чорту!

Яна жахнулася: можа і праўда грошай шукае, калі спачатку так сумеўся, а пасля так хваравіта крычыць. Раптам яе страсянула думка, у якую яна і сама не верыла: а можа гэта ён сам прычынен як-небудзь да таго забойства? Бо што з ім робіцца? Яе яшчэ пеканула думка пра тое, што як гаварыў ён ёй тады навіну пра труп і знойдзеныя дзве трохрублёўкі, то сказаў „каб нікому ні слова“. Што-ж ён такое не сказаў мне, пра што трэба маўчаць?

— Слухай, Міхалка,—паклала яна яму рукі на плечы,—ты мне ўсё скажы, што цябе мучыць. Ты нешта хаваеш ад мяне.

— Адчапіся, што табе здаецца.

„Каб людская жонка, можна было-б разам з ёю рабіць усё, а то туляйся як ад ворага“—так ён думаў і злаваў.

— Ты крычыш? Гавары мне ўсё!

— Ідзі вон!

І тут-жа гукнуўшы падумаў: „трэба будзе ўночы грошы гэтыя дзе-небудзь перахаваць, трэба, каб яна за мной не падглядала, няхай паспакайнее“. І ёй сказаў:

— Крычу, бо ты мяне з цярплівасці выводзіш. Якія грошы шукаў, што ты выдумляеш! І не вытрымаў да канца ролі. Раптам закрычаў. Што за допыты ты тут мне робіш?

Зазлавала цяпер і яна.

— А чаго ты гаварыў мне тады што каб нікому ні слова! Можа грошы знайшоў і хацеў прызнацца, а пасля ўтаіў. І на мяне крык паднімаеш, калі я з табой гавару па добрасці.

— Твая гэтая добрасць—мне няшчасце.

— Няшчасце? Ты рубля шкадуеш даць на дзіця, а крычыш, што ты

любіш і шкадуеш яго (яна плакала). Калі ты так вар'юешся, то мусіць нешта зрабіў нядобрае.

Ён знайшоў зручны момант. Вышаў з хаты ляпнуўшы дзвярыма. Было цёмна. Ён узяў за вуглом рыдлёўку і пашоў пад гумно. Даўно быў ужо вечар. Распагоджвалася. Халадала. У гумне ён выцягнуў з-пад сена грошы, запакаваў у скрынку, шчыльна накрыў зверху дошкай і хацеў забіць, але баяўся стуку. Усё прыслухоўваўся ці не ідзе „яна". Вышаў за гумно, дзе пачыналася поле. Там былі заднія гуменныя дзверы і пад імі вузенькая падпаветка—вытыркаў кавалак страхі, каб дождж не засекаў. Там ён у гэтым сухім месцы і пачаў капаць зямлю. Паставіў у яму скрынку і засыпаў. А зверху нацярусіў саломы, прынёс з дрывотніка дробнай кары і прысыпаў. Увайшоў у хату і не сказаў жонцы ні слова.

З гэтай хвіліны ён стаў як-бы ўраўнаважаны. Было падобна, што дайшоў да звычайнага свайго стану. Вельмі многа рабіў, нават больш як раней. Здавалася—яму вялікая асалода ў рабоце, нават лішняй: ён пааблямоўваў плугам ад дарог свой палетак, перавіў нанава плот, хоць ён быў яшчэ моцны. Пачаў рабіць сані, хоць і старыя былі зусім як новыя. Нельга было нічога дрэннага падумаць, гледзячы на гэтага нявіннага працавіка. З жонкай ён пачаў абыходзіцца лепш і яна паспакайнела.

Ен меў прывычку да самых халадоў спаць у сенцах. Аднойчы (было яшчэ цёмна) яна ўстала і пашла з ліхтаром у пограб. Ён спаў і не чуў, як яна праходзіла праз сенцы. Яна спынілася ля яго, соннага і пачала аглядаць яго адзежу. Кішэні былі пустыя. Тады яна падышла бліжэй да пасцелі. Заўважыла, што пад падушкай у яго штосьці ёсць, старанна завязанае ў хустачку. Хустачка была малая і не закрывала як належыць таго, што было ў ёй. Льга было заўважыць зеленаваты колер. Ціхом, баючыся дыхнуць, яна падсадзіла руку пад падушку і пачала цягнуць. Ён спаў, напрацаваўшыся за дзень. Яна адвярнулася, каб не свяціць яму ў вочы і паглядзела. У хустачцы быў пачак новых трохрублёвак, крыху змятых ад таго, што іх насілі ў кішэні, ці за пазухай. Яна вярнулася ў хату, паставіла на зямлю ліхтар і падперла рукой твар. Дзве маўклівыя слязіны ўпалі з яе твару на зямлю.

„Нават калі і не прычынен ён да забойства, то ці не зрабіў якога-небудзь іншага тут злачынства? Адкуль у яго гэтыя грошы? Новенькія трохрублёўкі! Што ён ад мяне, ад людзей, ад следства, ад улады хавае? Чаму ён такі? Ці ён напалохан чым-небудзь і шукае для сябе толькі аднаго ратунку?"

Яна была так аглушана, што сама з сабой гаварыла. Такі кірунак думак паказваў на яе здатнасць думаць і разбірацца ў справах.

Яна сядзела так доўга. У цьмяным святле ліхтара постаць яе была вялікая, важная. Рыжаватыя валасы густа звісалі над скронямі, твар, ледзь крануты рэшткамі не сышоўшага яшчэ з лета, загара, быў у гэтыя моманты як акамянелы. Яна чула, як ён устаў, як грукаў ботамі, як грукаў нечым драўляным—шукаў мусіць грошай. Нарэшце ён увайшоў у хату і нічога не сказаў. Моўчкі перапароў шуфляду ў стале, перамацаў кішэні ў вопратках.

— Грошы згубіў!—сказала яна, з пагардлівым здзекам.

Ён маўкліва паглядзеў на яе.

— У мяне твае грошы. На. Дзе ты іх узяў?

— Зарабіў.

— Каля трупа?

— Знайшоў на дарозе.

— Гэта пра іх казаў што каб нікому ні слова?

— Пра іх.
— А колькі больш знайшоў.
— Больш не.
— Брэшаш!
„Яна ведае, падгледзела. Ці наманы гаворыць, ловіць мяне? Мая ўласная жонка ловіць мяне?“
— Сціхні! Дай есці, мне трэба за работу брацца!
— Прызнайся мне ва ўсім.
— Ты лазіш уночы па маіх кішэнях? Шукаеш у мяне пад галавою? Я напрацуюся за дзень і сплю як забіты, мне ўсё цела ные ад працы, а ты... Чаго ты шнарыш па маіх кішэнях!
Ён хапіў са стала хлеб і шпурнуў у яе. Дзяўчынка сядзела на пасцелі. Яна закрычала, заплакала. Ён крыкнуў:
— Цераз цябе дзіця спакою не мае, калоціцца, расце як у брыдкіх людзей.
— Не чапай дзіцяці! Апякун такі знашоўся!
Яна падышла да дзяўчынкі і прытуліла да сябе. Ён рвануў яе за руку:
— Адыдзі! Мая дачка маё прозвішча носіць!
— Вон!—загадала яна.
Твар яе стаў сухі. Кусаючы губы, ён падаўся к сталу. Угнуў плечы, варушыў губамі і барадой, адкусваў паперку, сыпаў у яе з кішэні махорку, паклаў незакураную папяросу ў кішэню, пасля дастаў назад, закурыў, падышоў да самага акна і глядзеў у поле. Пасля выцягнуў з-за печы брусок і пачаў вастрыць сякеру. Бруском пацягнуў разоў дваццаць, паклаў яго назад, сякеру заткнуў за папружку, нагнуўся і падняў з зямлі хлеб. Адламаў кавалак, запхнуў за пазуху, другі кавалак пачаў есці, дастаў з паліцы сала, разы два ўкусіў, шпурнуў і хлеб і сала на стол, шырока расставіў ногі і закрычаў:
— Чаго ты на мяне глядзіш? Ачэй не зводзіш!
Рушыў к дзверам. Яна загарадзіла яму дарогу:
— Так ты не выдзеш з хаты! Ты ўсё мне раскажаш! Ты маўчыш? Ты мяне за чалавека не маеш? А сам ты—чалавек? Ты зверам робішся! У цябе душа, як у гада. Я думала, што ты паразумнееш, што ты будзеш магчы пераступіць часамі і высокі цяжкі парог калі трэба. А ты такі самы і астаўся, як і змалку быў. Я за цябе пашла, я шанавала ў табе працавітасць, але ў які бок ты скіроўваеш гэтую сваю працавітасць?
Ён адапхнуў яе і вышаў. Праз хвілін дзесяць ён выехаў з плугам на поле і араў цэлы дзень. Увечары прыехаў, моўчкі, з'еў хлеба і кінуўся на пасцель.
— Зося,—сказаў ён, шукаючы прымірэння.—Мне холадна, накрый мяне зверху чым... Ты гэтыя грошы трыста рублёў занясі ў сельсовет і аддай, і скажы, што пры дарозе ў лесе знайшлі. Скажы, што нядаўна, што ўчора знайшлі. А то будуць пытацца чаму раней не аддалі. Скажы, што ты знайшла, бо мяне ўжо два разы дапытвалі. А на цябе нічога і думаць не будуць, на цябе там вока маюць, ты ў сельсовеце ўсёадно, як дэлегатка якая лічышся.
— Не, ты грошы сам аддай. І ўсе аддай. Я табе не веру, што трыста рублёў. Падумай сам, як-жа я табе буду верыць! Ты-ж мне праўды не гаворыш, каб я сама не знайшла, то ты ад мяне таіўся-б. Падумай сам—гэта не якія-небудзь Скуратовічавы грошы, гэта з дзяржаўнага банку ўкрадзены. Як я гавару, ты так і зрабі. Я не пайду. Што-ж ты маўчыш?
— Вон!

Ён усхапіўся, хапіў пад паху кажух і кінуўся ў пуню. Яна чула з сянец як ён пакуль заснуць, доўга стагнаў там і лаяўся.

Так пашлі дзень за днём. Яна яму не верыла аніяк. Яна была ўпэўнена, што ён штосьці ведае пра ўсе гэтыя справы і маўчыць. А можа нават сам туды ўмешан? З яе думак не выходзілі колішнія справы з Скуратовічам, калі яму было чатырнаццаць год. З кожным днём яны ўсё больш пачыналі ненавідзець адно аднаго. Грызня была траха не кожны дзень. Ім было праціўна быць блізка разам. Тую работу, якая вымагала гэтай блізасці, яны стараліся як мага хутчэй скончыць, збыць з рук. Так яны малацілі ў два цапы, так ссыпалі ў пограб бульбу. Калі малацілі, то першы пасад збілі абы як. Пасля заўважалі, што ў каласох асталося шмат зерня. Праклінаючы ў думках увесь свет, яны перабілі салому нанава. Нарэшце пачалі рабіць работу па адным. Так было ім лягчэй. Яна дамагалася ад яго праўдзівага прызнання. Ён або адмоўчваўся, або крычаў і лаяўся. Нарэшце прышоў момант, калі зроблен быў канец усёй гэтай пакуце.

Быў марозлівы дзень. Снегавыя хмары стаялі над лесам. Зося цэлы дзень малола ў жорнах. Ён нешта корпаўся ў гумне. Перад змрокам яна села на парог, глядзела на прымерзлую зямлю. На душы ў яе было чорна, ад жорнаў балелі рукі і плечы. „Больш ніколі не буду малоць. Нашто мне гэтак рвацца!“ Ён ішоў з гумна.

— Што, утамілася? Гэта цябе нічому не вучыць?

— Вучыць. Больш так мучыцца не буду, калі навокал млыны стаяць.

— Ага! А там дарма табе зробяць? Ты хочаш усё ад сябе раскідаць і каб было за што па-панску жыць, каб лёгка рабіць, каб не самому, а каб недзе табе ўсё гатовае, зробленае... Каб гэтыя трыста рублёў я і ўтаіў, то гэта на згубу нам пашло-б? З банка прапала, то туды больш прывязуць і пакладуць, банк пуставаць не будзе. А тут—жыць лягчэй можна было-б! У цябе адна рука не ведае, што робіць другая.

— Ты на такую дарогу ідзеш? Ты так думаеш ратавацца?

— А, ты зноў? Гэтага ніколі не будзе. Грошы можна аддаць, а гаспадаркі рашаць я не буду. Каму я аддам яе? Калгасу? Каб там усё згінула, прапала?

— Людзі ўжо блізка год жывуць і не прападаюць.

— То прападуць!

— Я не буду ў гэтай нары! Я не хачу ў гэтым пекле жорны круціць!

— Ну то, выбірайся к чорту вон!

— От што, ты паслухай...

— Я не буду цябе слухаць. На гэты кавалак я змалку кладу сілу і спрыяю сюды, на гэты кавалак, на сям'ю. Ты была-б рада, каб я з хаты ўсё рашыў? Мая зборлівасць табе не па душы? Ты хочаш, каб у чорную гадзіну і дзіця маё зайшлося, за душой нічога не меўшы?

— Ты паслухай. Занясі, аддай грошы і раскажы ўсё, як было. Можа ты ведаеш, то памажы следчым. Я табе не веру. Ты памятаеш як тады, каб не я, то ты не памог-бы з бандытамі расправіцца. Ты не сціскай зубоў, а зрабі ўсё, што я кажу. Бо калі не, то я сама пайду і ўсё скажу. Зараз-жа, сёння, пайду. Ты чуў напэўна, што следчы тры дні як зноў тут.

Ён не верыў, што яна можа сказаць. Яна-ж жонка! Падагнуўшы плечы, ён пашоў назад у гумно.

— Пойдзеш ці не?—гукнула яна яму ўслед.

Ён нават не азірнуўся. Тады яна ўвайшла ў хату, адзела дзяўчынку, узяла на рукі і пашла.

— Я злачынцам быць не хачу і ў маёй сям'і злачынства не будзе!— крыкнула яна цераз двор.

Але ён быў у гумне. Чуў ці не чуў, але не паказаўся. Ён убачыў яе ўжо па дарозе. Ён падумаў, што яна хоча зусім сысці ад яго. Гэта не было яму непрыемна, хоць трывога і кальнула яго. Але ніколі ён не думаў, што яна пашла заяўляць: „ёй-жа самой будзе згуба, калі яго забяруць".

— Дзіця пакінь—крыкнуў ён.—З такой маткай яно прападзе!

Яна азірнулася на яго голас і пашла шпарчэй. Следчага яна знайшла ў сельсовеце. Там быў і старшыня сельсовета, і так некалькі чалавек, і старшыня калгаса.

— Што, Тварыцкая!—сказаў старшыня калгасу,—можа заяву прынесла, можа ўгаварыла ўжо мужа ў калгас ісці.

— Гэта пасля можна, тут іншая справа... Я вам хачу сказаць...—глянула на следчага.

Той вышаў з ёю ў бакоўку. Яна расказала пра грошы, сказала ўсе свае думкі, сваю падазронасць.

„Можа ён і ведае што. Я не кажу, што ён канешне вінават, але грошы гэтыя..."

Людзі бачылі, як яна пасля гэтага ішла з дзіцем дадому. Сыпаўся дробны і мёрзлы снег. Неба шарэла нізка. У яе пад нагамі раскоўзвалася заледзянелая зямля. Яна глядзела далёка перад сабой, быццам старалася разгледзець штосьці за абледзянелым полем. Яна туліла да сябе дзіця, гаварыла з ім пра лес, пауз які ішла, пра снег, які сцірала з яго тварыка. Узнімаўся вечар, змрок пачаў рабіцца яснейшы. Хмары пайшлі за лясы, па небе ўжо адчуваліся першыя зоры. Яна любіла зорнае неба!

Пад дом яна падышла баючыся. Каб не дзіця, яна можа і зусім не пашла-б сюды. У вокнах цёмна. Яна пхнула дзверы—яны замкнёны. Падняла руку—ключ як і заўсёды схован над дзвярыма. Увайшла ў хату, пакарміла дзяўчынку, паклала спаць. „Славачка, дачушка, спі, расці здарова. Будзь шчаслівая"... Славачка заснула, паклаўшы кулачок на губы. Зося пашла з хаты. Міхал яшчэ здаецца ўпарцей, як калі працаваў. Пот цурком ліўся з яго. У гумне, пры такім газовачным святле, якое хутчэй было падобна да цемрыва, ён абчэсаў бервяно. Гэта не была пільная работа, але вельмі можа быць, што яна была яму тым, чым ёсць у пустыні страусу пясок, куды ён хавае ад страху сваю галаву. Ці было страшна гэтаму чалавеку цяпер? Не. Гэта можна сцвярджаць. „Уласная жонка не згубіць мяне". Але трывога, вялікая, незразумелая, змагалася ў ім з спакоем. І ён тапіў яе ў працы. Ён біў з-за вуха сякерай, гэты працавічок, лічачы сябе нявіннай ахвярай перад усім светам, і вельмі-ж перад жонкай. А як-жа! Ён-жа хіба забіваў каго, ці абкрадаў, ці грабіць хадзіў? Гэтая нявінная авечка сваімі рукамі не прычынялася ні да якога злачынства. Гэтая авечка арала і сеяла, і ў гэтую восень яшчэ больш, як калі працавала! Хіба яна не выпаўзла з плугам на поле, калі людзі яшчэ спалі? А грошы? Яна іх знайшла, а не крала!

„Жыццё-ж непэўнае, і кожнае стварэнне сваё месца павінна абгарадзіць... Дзіцё малое! Слабенькая дзяўчынка! Можа бацьку заб'юць на вайне калі-небудзь, а яна астанецца басаногая сірата. Хіба не павінен бацька падбаць пра яе? А тая справа, на якую гэтыя грошы былі прывезены ў банк? А што яму да таго! Гэта ўсё чужыя людзі, ён іх ніколі не бачыў і можа бачыць не будзе. Пайдзі, паспрабуй, папрасі ў іх чаго.

Дадуць? Ніколі. Прыдбаеш—будзеш мець. А не прыдбаеш—не будзеш мець".

— Слухай,—перарвала жонка яго думкі.—Я заявіла.

Ён выпрастаўся над абчэсанай дзеравячынай, спусціў да нагі сякеру. Абцёр рукавом пот з ілба. Штосьці накшталт усмешкі з'явілася на яго цёмным ад брыдкага святла і неахайнасці твары.

— Заявіла?

— Я заявіла. Следчы ўжо ведае, што ты знайшоў грошы і не аддаеш іх. Падазронасць на цябе кладзецца, што ты больш недзе хаваеш грошы. Цяпер старайся давесці, што ты толькі іх знайшоў, калі гэта сапраўды так. А калі не—прызнайся ва ўсім. Усё адно дазнаюцца, тады горш будзе.

Авечы твар раптам разспоўзся ў сабачую грымасу і вышчарыў зубы. Ён убачыў, што справа пашла не на жарты, што жонка не прышла жартаваць з ім. Ён падняў з-пад ног сякеру, яшчэ чамусьці пацёр ею аб жывот і, раптам, размахнуўшыся, кінуў на жонку. Яна стаяла ад яго даволі далёка, у самых дзвярах, бліжэй не падыходзіла. Але сякера ўсё-ж кранула яе плячо. Жанчына хістанулася, крыкнула, яшчэ не разабраўшыся добра, што здарылася.

— Вар'ят!.. Што ты...

— Вар'ят? Што я раблю? А ты што робіш!

Павоўчы ляснуў зубамі.

Яна адчула боль у плячы і кінулася бегчы. Заціскаючы рукой рану, убегла ў хату. Пакінутая яго нядаўна лямпа, курадымела, але яна не магла спусціць агонь. Яна толькі падумала пра дзіця, што яно спіць і не прачнецца мусіць аж за поўнач, як заўсёды. Яна хацела апусціцца на лаву, страціўшы яснасць думак—што рабіць, і з'ехала на зямлю. Неўзабаве ўбег у хату ён. Вочы яго бегалі па сценах, па рэчах, ён як-бы шукаў чаго. Нарэшце падбег да дзіцяці. Як шалёны ён нагнуўся над дзіцям і казлынуў яго сваёй неахайнай барадой. Дзіця паварушылася. Ён штосьці прахрыпеў (нешта хацеў сказаць), азірнуўся на хату. Зося ляжала на зямлі. З пляча ў яе сачылася кроў. Выскачыў на двор і пашоў слізкім няроўным полем. Лёд трашчэў і лопаў у яго пад нагамі. Праз хвіліну ён пусціўся бегчы. Так дабег да бліжэйшай хаты. У вокнах свяціўся агонь.

— Зайдзеце зараз-жа да Міхала Тварыцкага!—гукнуў ён у самую шыбу.

І адразу адскочыў ад акна, каб яго не пазналі. „Дзіця яшчэ зусім малое"—мармытаў ён, ідучы полем. Цяпер ён ішоў зусім паволі. Ногі як-бы прыраслі да зямлі. Перад ім ціха чарнеў лес. Выносістыя хвоі як застылі. Ён прыпёрся плячуком да дрэва. Загрымела ў вушах, віхор іскраў рвануўся ў вочы. Шпаркай хадою кінуўся ўздоўж сцежкі. От рэчка. Праз лёд дзесьці прабіваецца вада. „Тут ляжаў Сэдас! Сэдас ці не? Сэдас, гад, так яму і трэба". Не думаючы, ён пашоў проста цераз рэчку на той бок. Лёд праламаўся, ён праваліўся па пояс у ваду. Ломячы лёд рушыў назад к берагу, вылез наверх і ўжо каб сагрэцца пабег. Як дабег да свае хаты, зусім задыхаўся. Горача было. Мокрая адзежа ацякла і правяла. У хаце гарэлі дзве лямпы і былі людзі. Ён сеў на прызбу і пачаў слухаць, што гавораць. Ніводнага слова не разабраў. Пашоў назад пад гумно, абышоў яго. Каля задніх дзвярэй нагнуўся, грабянуў рукой. Дробная кара з дрывотніка граблася ў пальцы. „За такія мае пакуты аддаць ім грошы? Не знойдуць! Трыста рублёў знайшоў і ўсё... Нашто я сякеру кінуў! Божа мой, гэта горш як грошы... Увайсці цяпер у хату? Сысці зусім з гэтай мясцовасці?"

Ён паволі ішоў паўз гуменную сцяну. Бралася на дзень, неба палавела, шэрыя палотны цягліся на ўсходзе.

— Хто? Стой!

Ён прыціснуўся к сцяне.

— Выходзь! Хто? Страляю.

Ён пачуў сухі стук вінтовачнага жалеза. Сілуэт чалавека застыў за крокаў дваццаць ад яго, на выхадзе ў двор. Ён адышоўся ад сцяны.

— Рукі ўгару і ідзі ў хату! Хто? Як завешся?

Ён пашоў у хату. Чалавек з вінтоўкай рушыў за ім. Жанчына ляжала на пасцелі і стагнала. Местачковы доктар (ён адразу пазнаў яго) перавязваў ёй плячо. Былі людзі. Міліцыянер стаяў пасярод хаты. Міхал Тварыцкі папрасіў дазволу пераадзецца ў сухое.

*(Працяг будзе)*

Я. Колас

# НА ШЛЯХАХ ВОЛІ

## XXV

### НА ЦІХІМ ДОНЕ

Спіць знямела постаць вёсак,
Топчуць лапці снег задворкаў.
З хаты ў хату йдзе гаворка...
А тых чутак, пагалосак!
Ох, народ яшчэ заплача,
Паўшы крыжам на загоны!
Шугне золак бляск чырвоны—
Кроў вяшчае, не іначай!
І яшчэ адна праява—
Мёртвы бусел паў на воду!
Не было-ж буслоў тут зроду—
Нешта-ж значыць гэта з'ява!
Пашыбае страх няясны,
Ліха зорыць з-за парога.
Стой, падумай ты нябога:
Ці не голад скаліць дзясны?
Люд пабожны, болей сталы,
Чые хаты пад жалеза,
Сціха точаць контры леза
Супроць тых, каму ўсё мала.
І салдаты без дазволу
Валяць з фронту самапасам.
А як немец прыдзе часам
Ды ніжэй прыгне да долу?
Ні парадку, ні закону,
Страх прад богам знят усякі
Выюць—чуюць штось сабакі...
Дык якога-ж слухаць звону?
Растрывожан сон вясковы,
Свет узбіўся на ўзмежак.
Многа ўсюды розных сцежак,
А дзе пройдзе шлях той новы?
Ходзяць плёткі, байкі, чуткі,
Забірае страх пачварны—

На дабро надзеі марны,—
Вось прагорклыя пагудкі!
Разганяюць страх салдаты,
Што глядзелі смерці ў вочы:
Друг нам—Ленін і рабочы,
Вораг той нам, хто багаты.
Прэч, далоў старыя казкі!
Годзі поўзаць чарвякамі!
Ідзі ў крок з большэвікамі:
Большэвік — ён свой і наскі!

* *
*

Гамоняць чугункі, гудуць неспакоем,
Аж стогнуць драты на слупах.
Стыхійнаю сілай, нястрымным прыбоем
Б'юць хвалі шынеляў, папах.
Знямелі на фронце смяротныя цэхі,
Што ў бой пасылалі салдат.
На спаленым полі пустыя агрэхі—
Астаткі дывізій, брыгад.
Як мора, шугае салдацкая воля,
Не ведае больш перашкод.
Начальства—яго ўжо скасована роля,
Парадак сам ладзіць народ.
Ідзе ўрассыпную армада ваякаў
Па рускай шырокай зямлі,
І тут дысцыпліны няма ўжо ніякай
Адно памятай—не драмлі!
Разбіты цяплушкі, маўчаць паравозы,
На станцыях холад і цьма,
І не памагаюць ужо і пагрозы—
Вагонаў, цяплушак няма.
Ратуйся, як можаш, чым хочаш карміся—
Даўно апусцеў кацялок.
Няма камендантаў, няма і камісій,
Ёсць вольны салдацкі паток.
Плыве саматугам, гарласты і прагны,
Дарогамі і без дарог.
Прастор расчыняе бяздонныя багны,
Вялікі расійскі разлог.
Паток увальецца ў драўляныя хаты,
Прастор застанецца, як быў:
Раўніны гарысты, лясамі багаты.
Дзе-ж спыніцца грозны разліў?

Натоўп, як лес: глядзіш—аднакі!
І шум і гуд на адзін лад,
Бы постаць постаці ў ім брат.
Але свой твар, свае адзнакі
У тым натоўпе мае ўсякі,
І па сваему кожны хват.
І кожны ў сэрцы і сам-на-сам
Хавае думак чараду
Пра радасць, шчасце ці нуду—

Хто ім пашкодзіць лётаць часам
Па вольным свеце самапасам,
Забыўшы тлум і грамаду?
Плыве адным жывым патокам
Шынельны тлум з усіх краін,
Жыхар узгор'я і раўнін,
Плыве назад у тыл глыбокі—
Пярмяк, татарын чорнавокі,
Казак уральскі, волжанін.
Адным ён жывіцца парывам—
Хутчэй да родных берагоў,
У кут наседжаны і схоў,
Бо ў ім у думках быў шчаслівы
І спелым радасці налівам
Ён вабіў стомленых сыноў.
Каго не туліць збор дружына,
Натоўп людзей усіх краёў!
Тулягам ён—надзейны схоў.
Якая тайная спружына
Вядзе на Дон грамадзяніна
У тлуме брудных шынялёў?
Ён у натоўпе не прымецен,
Не вылучаецца нічым.
Шынель салдацкая на ім,
Што ўжо трапалася па свеце:
І твар яго абвеяў вецер
І налажыў суровы грым.
І з віду ён і па адзежы
Салдат звычайны, як і ўсе
У іх аголенай красе
І па салдацкі лоўка рэжа
Ды сказ часамі знойдзе свежы,
Такі, што смехам затрасе,
З салдацкай масай шчыльна зліты
Ён сходзіць тут за зямляка,
Што з фронту едзе здаляка,
Вайною змяты, абабіты,
Такі-ж азлоблены, сярдзіты
І заграбастая рука.
На справе-ж ён—іх вораг люты.
На ім салдацкі маскарад,
Ен—афіцэр, а не іх брат!
Не траціць часу ні мінуты—
Паручык Далін куе путы
Супроць рабочых і салдат.
Адно яго жаданне, мэта:
Хутчэй на Дон склікаць ваяк
Ды афіцэрскі мецъ кулак,
Каб не пазней пачатку лета
Над Руссю бліснуць, як камета
І большэвізм скрышыць у мак.

Не адзін паручык Далін
Шлях снуе на ціхі Дон,—
Сотні, тысячы, як хвалі,

Мкнуць сюды з усіх старон.
Уцякаюць з агню-дыму
Чэрпаць сілу з донскіх вод,
Каб на ногі стаць за зіму,
А вясной ісці ў паход.
Іх дэвіз: „За Русь святую!
Біць на смерць большэвіка!“
І Расію адратуе
Дон і вернасць казака.
Дон—прыпынак—„чэснай“ сіле,
Дон—збавення адзін пуць.
Дон уславяць песні-былі,
Што ніколі не памруць!
Па кампасу і па зорах
Ноччу, днём уцекачы
Лютай помсты зносяць порах
З крыкам: „Бі іх! рэж! сячы!
Дон—плацдарм, вайны арэна:
Лёс Расіі на Дану.
Большэвіцкую гангрэну
Тут уложым мы ў труну!“

Вось і яна, зямля Данская!
Вянок прыязнейшых прымет
Уводзіць Даліна ў свой свет
І сэрца горне і ласкае,
Як маці сына сустракае
Пасля разлукі горкіх лет.
І заўважаецца адразу
Тут іншы край і арамат:
Парадак, дысцыпліна, лад,
Адданне чэсці без прыказу...
Нішто, як Дон, стварае базу,
Каб крута ўсё вярнуць назад.
Вось і яны, яе станіцы
Казацкай вольнае зямлі,
Як гістарычныя крэмлі,
Аховы рускае граніцы,
Дзе б'юць „здаровыя“ крыніцы,
І людзі—крэпкія камлі.
Забыты ночы вандравання
І фронта жудасныя дні
У віры „здрады“ і крутні,
Дзе ўсё распалася дазвання...
Эх, большэвіцкае братанне!
Распуста дзікай салдатні!
І колькі „слаўных“ афіцэраў—
Спакой вам вечны, бедакі!—
Ад іх загінула рукі—
Праз самасуд гарластых звераў
І дэмагогію блюзнераў!..
Збірай-жа Дон, свае палкі!
    У першы-ж дзень паручык Далін
Вайшоў у справы на Дану,
Дзе меў сустрэчу не адну,

Між тых, хто помстаю распален,
Дзе шмат заложана падвалін
За „вызваленчую“ вайну.
Навін-жа розных тут не мала.
Сагнана Русь з усіх канцоў
На „вольны“ Дон сваіх ганцоў
І ад папа да генерала
„Герояў ісцінных“ збірала,
Выжыг праслаўленых, купцоў:
Вядомы Савінкаў, Радзянка,
Графы, бароны і князі,
Падонкі рускае гразі,
Патрыятычная трасянка
Ад кулака і да поўпанка
Шукала страчанай „стези“.
Дзенікін, Маркаў, Алексееў,
Старыя царскія ваўкі,
Збіралі першыя палкі,
Каб рушыць іх на „ліходзея“,
Што супроць іх ненавісць сеяў
І паскідаў у раўчакі.
Усе, каму быў міл і дораг
Буржуйскі лад, стары закон,
Як мошкі, шыліся на Дон.
Тачыў свой нож бяссільны вораг,
Як звер, туляючыся ў норах,
Каб дзікай помсце даць разгон.
Пад сцягам „волі ўсенароднай“,
За „ўсенародны вольны сход“,
Дзе лад свой выращыць „народ“,
Вайну ўзнімаў адкід бясплодны,
Не меўшы соку ў глебе роднай,
На сметнік выкінуты зброд.
Карміўся ён яшчэ надзеяй,
Што „Русь, усведаміўшы „блуд“
І большэвіцкай „здрады“ чмут,
Сама іх клікне, „дборадзеяў“
І „хвор“ сваю сама развее,
І явіць бог над ёю цуд.
А ім пашана будзе, слава,
Маёнткі, фабрыка, завод,
Прыбытак верны і даход,
Уласнасці святое права
І ўся ранейшая забава,
Жыццё без страху і турбот.
Як добры знак іх чорнай змовы,
Узлётам—сымболем арла
Між імі вестка прагула—
Жывы Карнілаў і здаровы
І на чале свае аховы
На Дон імчыцца, як страла.
Паручык Далін цвіў душою,
Яго расчуліў „ціхі“ Дон:
Такіх, як Далін, тут мільён,
І справа шыракай шашою

Да мэты пойдзе ў гучным бою
І „нечысць“ вышпурне ўсю вон.
Яму надзеі Дон навеяў,
Падмацавала навіна...
На лета здраднікам—труна,
Таму парука Алексееў,.
Што тут „святую“ справу дзеяў—
Не падкачае старына.
Але ёсць плямы і на сонцы,
І Далін мой праз пару дзён
Убачыў, што іх меў і Дон:
Тут быў і тыл і абаронцы,
Што, прытаіўшыся ў старонцы,
За „Русь святую“ білі ў звон,
А самі, выгладзіўшы маскі,
Не паспытаўшы фронту, ран,
Ахвяры неслі ў рэстаран
Або ў шынок новачаркаскі,
На дабравольцаў-жа з іх ласкі
Гулу стары меў ветаран.
І „Цэнтр маскоўскі“ на ахвяры,
„Збавенне“ ўзважыўшы на нюх,
Таксама быў і скуп і глух.
Замкнуў кашэль купец паджары,
Цішком купляючы далары...
Вось і ваюй, за іх, падлюг!
І горш за ўсё—сам Дон казачы
І сам Каледзін атаман
Нібы наводзілі туман
І на „агульныя“ задачы
Глядзелі ўпотайку іначай
І нейкі свой хавалі план.
Ішлі таргі і перамовы.
За „Русь святую“, за „народ“
Задаткі бралі напярод.
Бо так не вернеш „дух здаровы“
І тыя „цвердыя асновы“,
Што ўжо пакідалі за плот.
Між генеральскае аравы—
Прэвасхадзіцельствы-ж—казлы—
Вяліся спрэчкі за „жезлы“,
За формы „новае дзяржавы“,
За лозунг крэпкі, хоць каравы
І за ўсе „важныя вузлы“.
А дух „анархіі“ і „здрады“
Тым часам пёр з усіх бакоў
І ўжо падкошваў казакоў—
З казацтвам „верным“ няма рады,
А большэвіцкія атрады
Ужо абкладвалі Растоў.
Не мог сцярпець такіх „дыскусій“
І знесці гэтакіх згрызот
Паручык Далін-патрыот,
І ён сказаў ад „імя Русі“

Паручык Далін
Даруйце, гаспада;
Нас губіць слоўная вада!
Мы наслядуем штацкай гнюсі:
У словах згінула Расія,
А мы—хіба не чудасія?—
Ніяк не можам без дыскусій!
А наш павінен быць язык—
Вінтоўка, штык,
Грымоты бою,
А не грызня паміж сабою!
Сыны адданыя Русі святой,
Мы, афіцэры, рвёмся ў бой.
І сіла ёсць, няма правадыра.
Назваць яго пара!
А мітынгі і спрэчкі ўсё—пусцяк!
Давайце напрасцяк,
Чаго там?
Няхай у добры час
Карнілаў вядзе нас,
А з лозунгамі потым!

26/II 1935 г.

Ільля Гурскі

# СВАТЫ

### Камедыя ў 2-х дзеях

### ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ

ШЧУЦКІ Юры Лявонавіч—рахункавод калгаса „Прамень", нізенькі, тоўсценькі, заядлы рыбалоў.
ШПАКОЎСКІ Антон Антонавіч—загадчык гаспадаркай калгаса, высокі, хударлявы, заядлы паляўнічы.
ПАТОЦКІ Піліп Мітрафанавіч—селянін, апошні аднаасобнік у ваколіцы калгаса.
ПАТОЦКАЯ, Марфа Андрэяўна—сялянка, яго жонка.
ГАННА—іх дачка, маладая дзяўчына.
ПЯТРУСЬ—брыгадзір калгаса „Прамень", малады хлопец, знатны чалавек.

Дзея адбываецца на вёсцы ў нашыя часы.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### З'ява І

На беразе рэчкі. Шчуцкі ловіць рыбу, насвістваае на матыў: „Когда-б имел златыя горы". Потым дрэмле. Шпакоўскі ціхенька падыходзіць са стрэльбаю.

Шпакоўскі *(падышоўшы)*. Апчхе!
Шчуцкі *(уздрыгануўся)*. А бадай на цябе немач! (Шпакоўскі задраўшы галаву насвістваае на матыў: „Чыжык-пыжык"). Эй, ты, чыжык! (Злосна). Поўны колас уніз пазірае, а пусты, задраўшы ўгару... (Падкручвае левы вус). А чаму? (Падкручвае правы вус) А таму!
Шпакоўскі. То як, злавіў што?
Шчуцкі. Зловіш за вамі... Швэндаюцца тут...
Шпакоўскі. І не торкае?
Шчуцкі *(неахвотна адказвае)*. Торкаць—торкае, ды нешта не бярэцца...
Шпакоўскі *(усміхаючыся)*. Дзівак-рыбак, хто-ж гэта ловіць у чыстай вадзе? *(кідае ў рэчку палку)*. Ускаламуціць трэба!?
Шчуцкі *(злосна паглядзеў)*. Вырас пад неба, а дурань, як трэба... *(падсякае вудачкай)*. От падла, мусіць-жа ёрш дражніцца...
Шпакоўскі. Прынцыпова не ўжываю ерша... *(Крычыць)*. А-ай! Учапіўся! Недавярак!—вырвеш вока...
Шчуцкі *(крычыць)*. Сто-ой! Шалудзька! Выб'еш зуб... *(Асцярожна здымае стрэльбу, адчэплівае кручок)*. Бо хто-ж гэта плюхае?
Шпакоўскі. Чаго-ж ты ні свет, ні зара ўспароўся? У сваты трэба ісці, а ён на рыбу...
Шчуцкі. У сваты?

Шпакоўскі. Ну, так.
Шчуцкі. Якія сваты?
Шпакоўскі. А такія... Так што, таго, як той казаў, ды вось што... Ага, пакольки мы з табой самыя старэйшыя калгаснікі, то праўленцы нашы вынеслі пастанову пасляць нас да Патоцкіх у чырвоныя сваты... *(Дае паперку)*. Чытай... А я, тым часам, паўлітэрку захапіў... *(Ідзе да рэчкі, ставіць поўлітра ў ваду)*.
Шчуцкі *(бегла прачытаўшы)*. А што? *(Стукнуў сабе ў лоб)*. Ідзэя. Патоцкі можа і пачакаць... Вось, каб яе ўвабраць... *(Падміргвае)!* А дзяўчынка, як журавінка... *(Задумаўшыся)*. Толькі, ці пойдзе?
Шпакоўскі *(падыходзіць)*. Пойдзе, ні-дзе дзенецца...
Шчуцкі. А можа?
Шпакоўскі *(у захапленні)*. Пойдзе! *(Лічыць у паветры)*. Дзвесці сорак плюс адна,—дзвесці сорак адна сям'я. Калгас „Прамень" буйнейшы ў раёне і ні аднаго аднаасобніка... Юры Лявонавіч! Ды тады-ж, як усватаем апошняга аднаасобніка, то нашы партрэты ў ва ўсіх газетах... Мяне, значыцца, як чырвонага свата і загадчыка гаспадаркай, здымуць ля свірна...
Шчуцкі. Даўно пара!?
Шпакоўскі. А цябе...
Шчуцкі *(спалохана)*. І мяне? Завошта? Завошта мяне здымаць? Здаецца, усё ў парадку...
Шпакоўскі. Не здымуць, а сфотаграфуюць... Стаіш ты і поруч лічыльнікі... На лічыльніках дзвесці сорак адна сям'я... Лічбы самі за сябе гавораць...
Шчуцкі *(зразумеўшы)*. А-а-а... *(У захапленні)*. Антон Антонавіч! Тады мяне поруч з маладой...
Шпакоўскі. Ну, так поруч з маладой калгаснай сям'ёй... А ў нізе надпіс: „Юры Лявонавіч Шчуцкі—рахункавод калгаса „Прамень", заносіць у спіс апошняга аднаасобніка, уступіўшага ў калгас". То пойдзем! Ёсць пастанова, трэба выканаць.
Шчуцкі. Ды ўжо-ж якое там заможнае жыццё без бабы...
Шпакоўскі *( у захапленні)*. Як усватаем!
Шчуцкі. Хаця-ж...
Шпакоўскі *(перабівае)*. Дзіва што пойдзе!
Шчуцкі (*у бок*). Ганна! Ганулька! Ганна Піліпаўна! Я пакахаў цябе яшчэ да пастановы... Як пахаваў пакойніцу жонку колькі год таму, то ні на адну кабеціну і вокам не зірнуў... (*падкручвае левы вус*). А чаму? (*Падкручвае правы вус*) А таму!
Шпакоўскі (*у захапленні*). Дзвесці сорак адна сям'я! Апошні аднаасобнік... Калгас „Прамень" на ўсесаюзнай чырвонай дошцы... Партрэты нашы ў ва ўсіх газетах... Імёны нашы красуюцца ў Маскве, на мрамарнай дошцы, упісаныя ў гісторыю залатымі літарамі...
Шчуцкі. От, тым часам, таго, каб якую дзіч... (*Прыглядаецца*). Нейначай качка... Ну, так...
Шпакоўскі (*захваляваўся*). Дзе? (*Узвёў курок, аступіўшыся наступіў на вудзілішча)*.
Шчуцкі (*напалохана выцягвае вуду*). Як той казаў, відаць ёрш тузае...
Шпакоўскі *(адскокваючы знянацку выстраліў)*. Но,но!. *(Спаткнуўшыся упаў тварам на зямлю, а Шчуцкі тым часам паляцеў у ваду)*.
Шчуцкі (*У кажуху, вылазячы з зады, бармоча*). Гэтакі, пане ты мой, кажух сапсаваць... То гэта-ж каб ён быў мой, а не калгасны, я-ж бы табе вочы выдраў... (*Распранаецца, расцілае кажух*).

Шпакоўскі *(трымаецца за лоб, відаць, моцна пабіўся).* Ну, а лоб, таго-ж не казённы... *(Хватае загрудкі).* Прызнавайся, ці хочаш жыць?!

Шчуцкі *(напалохана).* Антон Антонавіч! Ды ты...

Шпакоўскі *(тузаючы).* Ах, ты, канцылярская душа твая! *(зласліва).* Пытаю, ці ёсць кашуля на смерць?!

Шчуцкі *(дрыжачым голасам).* Братка, то гэта-ж ёрш...

Шпакоўскі *(адскочыў).* Но, но! *(Падыходзіць Патоцкі з вудаю ў руках).*

## З'ява II

Тыя-ж і Патоцкі.

Патоцкі *(вітаючыся).* А-а, калгаснічкі! Добрай раніцы! Не спіцца вам, каб вы скіслі...

Шчуцкі *(падкручвае левы вус).* А чаму? *(Падкручвае правы вус).* А таму!

Шпакоўскі *(моцна паціскаючы руку).* Апошняму, так сказаць, „нехацімцу" шчырае прывітанне...

Патоцкі *(усміхаючыся).* А каб на цябе пагібель, заўсёды пакепліваае... „Нехацімцу" цяпер, як той казаў, ды што казаць, таго гэтага... Дзеці не даюць праходу... Хоць ты лажыся, ды памірай... *(Глядзіць на кажух).* То ты ў кажуху, таго-гэтага, каб ты скіс...

Шчуцкі. То мы да цябе, пане Патоцкі, збіраемся ў сваты ісці...

Патоцкі *(вітаючыся з Шчуцкім).* Што-ж, міласці просім... Дзеўка, дзякаваць богу, нічым не пакрыўджана... Як да работы, што ні возьме, то у руках у яе гарыць, дый таго-гэтага...

Шчуцкі *(з надзвычайнай далікатнасцю).* А ці-ж пойдзе?

Патоцкі. А чаму-ж бы ёй не пайсці, калі добрыя людзі здараюцца... *(З гонарам).* Поўныя куфры напханы... *(Глядзіць на Шчуцкага).* Дый ён нішто сабе, таго-гэтага...

Шчуцкі *(задаволена думае, што гэта пра яго).* На мне, можна сказаць, ляжыць уся гаспадарка... У маіх руках ключы да шчасця людскога...

Патоцкі. Як сказаць? Цяперашнім светам, дык больш за ўсё на мускулы глядзяць... Як мускулы ёсць, то будуць: і працадні, і каханне, і шчасце... *(скручваючы вуду).* То тут, таго-гэтага, не да рыбы...

Шчуцкі. Ды яно-ж, як той казаў, так: як маеш дачку, то трымай гарэлку ў глячку...

Патоцкі *(усміхаючыся).* А сваты, таго-гэтага? Хіба няма за што?

Шчуцкі *(у захапленні).* Каб-жа ведаў, што не скруціцца, то яно можна было-б памеркавацца.

Патоцкі. Як убярэш, то не скруціцца... *(збіраецца ісці).* То прыходзьце, так і быць, поўлітэрку якую-небудзь агораю... Піце, каб вы скіслі...

Шчуцкі. Хаця-ж ці пойдзе?

Шпакоўскі. Пайдзе, нядзе дзенецца. *(У захапленні).* Дзвесці сорак, плюс адна, дзвесці сорак адна сям'я... Калгас на Ўсесаюзнай... Імёны нашы, залатымі літарамі, у вякі войдуць... *(Падыходзіць да рэчкі).*

Шчуцкі *(паціраючы рукі).* Як-жа там маецца Марфа Андрэяўна? Ці здарова?

Патоцкі. Ды так, нішто сабе. Паехала на кірмаш.

Шчуцкі. Мо' купляць што будзе?

Патоцкі. Як пападзецца што, то можа і купіць.
Шчуцкі. Што-ж сам не паехаў?
Патоцкі. Каняка слабы...
Шпакоўскі *(падыходзячы)*. Даездзіўся?!
Патоцкі. Эт, мае поле ўробленае... Але, каб сказаў на кірмаш у дваіх, то цяжкавата, шчэ ці давязе...
Шпакоўскі. Ага! Марфа Андрэяўна прасіла, калі ўгледжу цябе, то сказаць табе, каб ішоў дадому.
Патоцкі. Хіба-ж яна не паехала?
Шпакоўскі. Да не, як дачулася аб сватох, то павярнула аглоблі...
Патоцкі *(захваляваўся)*. Ну-у?
Голас Марфы. Піліп! А, Піліп! Піліп!
Патоцкі. Го-го!
Голас Марфы. А каб ты недаждаў! А каб на цябе немач! От коньстары! Не паспела ад'ехаць, як ён за вуду! *(Хутка падыходзіць)*.

## З'ява III

Тыя-ж і Марфа.

Марфа *(накідваецца на Патоцкага)*. А бадай на цябе з тваёю вудаю... Ішоў бы лепей курыцу прасачыў... Яешню, унь як жрэ, аж нос гнецца... Ну і ўсадзіў-жа бог душу, нібы ў пень... *(Праз слёзы)*. А каб на цябе пагібель! А каб...
Патоцкі (*перарывае*). Ціха, чаго ты раскудахталася?
Марфа (*лезе з кулакамі*). Ах так! Ты яшчэ агрызацца! То я ж цябе ў баранні рог сагну!
Патоцкі *(злосна)*. Не чапайся лепей, таго-гэтага...
Марфа *(адступаючы)*. Анцілігентныя людзі ў сваты збіраюцца, а ён... Дзекрэт сама бачыла... і пячатка супраўдная... *(Цягне Патоцкага)*. Пойдзем, а то ў хаце дубам-рубам...
Шчуцкі *(падыходзячы)*. А-а, Марфа Андрэяўна! *(Паказвае паперку, хітра)*. Вось ён дэкрэт савецкае ўлады...
Марфа *(выціраючы аб фартух рукі дробненька смяецца)*. Ведаю, ведаю.. Новыя хформы сватоў... *(Прывітаўшыся)*. Прыходзьце, прыходзьце. Калі ласка...
Шпакоўскі *(да Патоцкага)*. Пойдзем! Ды хутчэй, хутчэй! (*Цягне за рукаў*). Чаго гэта ты скрывіўся, як серада на пятніцу...
Шпакоўскі *(ідучы з імі)*. Двесці сорак адна сям'я... Калгас на Ўсесаюзнай... імёны нашы залатымі літарамі...
Шчуцкі *(адзін)*. Патоцкія могуць і пачакаць... Дзе яны дзенуцца... Будуць у калгасе... А мне, тым часам, баба... Якое гэта заможнае жыццё без бабы... *(Глядзіць на паперку, успамінае)*. „Дэкрэт сама бачыла“... *(Усміхаючыся)*. А дзяўчынка... сінявокая мая радасць... вочкі, нібы зоркі гараць... ножкі нібы вытачаныя... А паходка? Ідзе і да зямлі не датыкаецца... *(Прыцмокнуўшы)*. Здобная булачка... Вішанька спелая...
Шпакоўскі *(звяртаючыся)*. Апошні аднаасобнік... імёны нашы залатымі літарамі... партрэты ў ва ўсіх газетах...

## З'ява IV

Там-жа. Шпакоўскі і Шчуцкі.

Шчуцкі (*напяваючы на матыў: „Когда-б имел златые горы“, робіць некалькі гімнастычных рухаў, потым хватаецца за бок*). О-ой! Сярэдзіна... (*Закашляўся*).

Шпакоўскі. Юры Лявонавіч! Што з табой? У цябе падазроны кашаль...
Шчуцкі. Колькі гадкоў таму, як пахаваў пакойніцу жонку...
Шпакоўскі. Спачуваю... Цяжка чалавеку ў адзіноце... Жаніцца трэба...
Шчуцкі. Хіба цяперашнім светам жэнішся? Бывала, на грошы гналіся, а цяпер, дык больш за ўсё на мускулы... (*Падкручвае левы вус*). А чаму? (*Падкручвае правы вус*). А таму! (*Займаецца фізкультурай, потым хапаецца за нагу*). А-ай. Аё-я-ёй!
Шпакоўскі. Што з табой?
Шчуцкі. Нешта ў каленях трэснула... А, братачка, ратуй... Хай яна згарыць з гэтай фізкультурай... (*Прысаджваецца*).
Шпакоўскі. А ты кожнае раніцы па крысе... З'явіцца бадзёрасць, мускулы...
Шчуцкі (*цяжка ўздыхнуўшы*). Дык ты, так нічога і не забіў?
Шпакоўскі (*таксама прысаджваецца*). Дзе там? З-за вашага брата-рыбака, ніводнай качкі седзячай не возьмеш, усюды ўспоруць... А на ляту, як той казаў, альбо пацэліш, альбо не... Праўда, учора, неяк пашанцавала, адным стрэлам забіў тры качкі...
Шчуцкі. Пэўна, на седзячых успароўся?
Шпакоўскі. Не-е. (*У захапленні*). Іду гэта я, гляджу, ажно яны, браце ты мой, пырх-пырх, ды ўгару, адна за другой... Я стрэльбу з плеч... Злажыўся дый гахнуў...
Шчуцкі. Як-жа ты страляў?
Шпакоўскі. А так цэліўся па першай, потым павёў дулам... (*Паказвае*).
Шчуцкі. Скажы ты ўсіх забіў?!
Шпакоўскі. Усіх. (*Падсоўваецца бліжэй*). А то неяк яшчэ лаўчэй вышла. Адным стрэлам забіў: качку, шчупака і зайца...
Шчуцкі. Што ты кажаш?
Шпакоўскі. Ей—права! Іду гэта я, гляджу, бачу, качка плюхаецца. То я і гахнуў. Адно-ж у землі стаяў шчупак, а заяц сядзеў на тым баку. От усіх трох і перакуліў.
Шчуцкі. Адным стрэлам?
Шпакоўскі. Адным.
Шчуцкі. Адразу трох?
Шпакоўскі. Трох.
Шчуцкі. Качку, шчупака і зайца?!
Шпакоўскі. Ну, вядома, не вярблюда.
Шчуцкі. І не маніш?
Шпакоўскі. Ей-права! (*Зазлаваўшы*). А як не хочаш слухаць...
Шчуцкі. Не, не! Мані, толькі гладка...
Шпакоўскі. Не то, што каб сказаў маніць... (*Падсоўваецца бліжэй*). Выдумляюць-жа пісьменнікі... чытаеш і думаеш, праўда гэта ці казка.
Шчуцкі (*адсоўваецца*). Пакладзі стрэльбу.
Шпакоўскі (*кладучы наводдаль*). Пісьменнікі...
Шчуцкі. Пісьменнікі, пісьменнікі... Адкуль ты іх ведаеш?
Шпакоўскі. Хіба не чуў, як апавядаў настаўнік?.. Чым, кажа, больш выдумкі, тым цікавей кніжка.
Шчуцкі (*здзіўлена*). І пісьменнікі выдумляюць?
Шпакоўскі. Ого, яшчэ як!
Шчуцкі. Відаць, яны добрыя паляўнічыя?!
Шпакоўскі. Ага! Яшчэ якія! Ну і паляўнічыя бываюць зухі: адзін мой знаёмы, бывала, здаецца не глядзіць на качку, а як гахне, то

толькі пер'е ляціць... Неяк давялося мне з ім быць на паляванні, то ці паверыш, за адну раніцу каля капы ўлажылі...
Шчуцкі. Ая-яй! Якое шчасце!?
Шпакоўскі. Паляўнічаму без шчасця, што рыбаку без портак...
Шчуцкі *(падкручвае левы вус)*. А чаму? *(Падкручвае правы вус)*. А таму! *(Падсякае)*. А бадай на цябе, мусіць зноў ёрш...
Шпакоўскі *(адскочыў)*. Но, но!
Шчуцкі. Ну, і труслівы-ж ты, што заяц...
Шпакоўскі *(важна)*. Напуджаны сокал і куста баіцца.
Шчуцкі. Толькі гэты сокал на варону падобны!
Шпакоўскі *(абурана)*. Вароне варта каркнуць, каб яе пазнаць!?
Шчуцкі. Ты гэта пра каго?
Шпакоўскі. Пра суседа... А ты пра каго?
Шчуцкі. Таксама пра яго...
Шпакоўскі. То-то-ж! Ага, аднак ты ўспомніў пра зайца. Аднойчы, мой ты суседзе, прыпёр гэта я яго аж да самага берага...
Шчуцкі. Бывала... Паляўнічыя ганчакоў мелі... *(Падкручвае левы вус)*. А чаму? *(Падкручвае правы вус)*. А таму!
Шпакоўскі. Нічога не зробіш: не маеш ганчакоў, сам ганяйся... Дык вось, прыпёр гэта я яго аж да самага берага... І раптам, няма зайца... Я, не раўнуючы, як той апартуніст: і ўправа, і ўлева, а яго і след прастыў... Гляджу, ажно ён на вярбе.
Шчуцкі. Ну?!
Шпакоўскі. Ей-права!
Шчуцкі *(усміхаючыся)*. Бывала... на вярбе ігрушы раслі!?
Шпакоўскі *(не звяртаючы ўвагі, працягвае)*. Ды да таго напалохаўся, што і вочкі зачыніў... Відаць, вырашыў: „От, што будзе,то будзе, абы смерці ў вочы не бачыць"... *(Тузае за плячо)*. Паслухай, чалавеча... *(Крычыць)*. Шчуцкі!
Шчуцкі. Га? Што?
Шпакоўскі. Ты спіш?
Шчуцкі. Да не. От, крыху, як той заяц, заплюшчыў вочы.
Шпакоўскі *(гаворыць далей)*. Гляджу, ажно ён на вярбе.
Шчуцкі *(паціскаючы плячыма)*. Хаця, што тут дзіўнага? Прыцісні зайца, будзе сярнічкі запальваць... *(Прыглядаецца на паплавок, ускочыў)*. Нейначай ён! От, каб увабраць... Будзе маёй Ганначцы добры ўлоў...
Шпакоўскі *(таксама ўскочыў)*. Мо' часам на след напаў?
Шчуцкі. Торкнула, працягнула. Ды нешта-ж людскае. О, каб мне невад! Невад дайце мне! *(Падсякае. Вудачка гнецца, трашчыць, абрываецца кручок)*. Ні то за корч зачапіўся, ні то шчупак адсек... Адным словам, і без рыбы, і без снасці... А гэтакі быў кручок!
Шпакоўскі. Як? Уцёк? О, каб мне ганчакоў! Ганчакоў дайце мне!
Шчуцкі. Ціха, чаго ты крычыш?
Шпакоўскі. А ты чаго?
Шчуцкі. Мне хочацца якую-небудзь рыбіну ўвабраць. Не пойдзеш-жа ты ў сваты з пустымі рукамі... А як ты яе ўбярэш без снасці? *(Шукае ў шапцы кручка)*. Не, ёсць. Як гэта кажуць, на лаўца і звер бяжыць...
Шпакоўскі *(схапіў стрэльбу)*. Дзе? О, каб мне ганчакоў!
Шчуцкі *(адскочыў у бок)*. Ты не вельмі... Палажы стрэльбу. Гэта цацка не для дзяцей...
Шпакоўскі *(паклаўшы, прысаджваецца)*. А то неяк, леташняй зімой на мядзведзя ўспароўся...
Шчуцкі *(прывязваючы кручок)*. Ну-у?

Шпакоўскі. Ей-права! Руды такі, ляжыць, падла, і лапу смокча... А як згледзеў мяне, то кулець-кулець перад самым носам. Я за дубальтоўку... Злажыўся, дый гахнуў... То ён, як уздыбіцца, як зараве... Я, доўга немарудзячы, у другі раз смальнуў... То ён за мной, а я наўцёкі... Я на елку, і ён туды... Я скок у гурбу снега, і ён кулець... Я на прагалінку, а там бабы жыта жнуць... Як загалёкаюць, то ён драла. Гэтым толькі ўратаваўся...

Шчуцкі *(закідваючы вуду, усміхаючыся)*. Бывала... Бабы летам жыта жалі...

Шпакоўскі. Які Калумб, ясна, што летам...

Шчуцкі. То ты-ж скакаў у гурбу снега, і раптам на прагалінцы...

Шпакоўскі. Ну, знайшоў прычэпку... І ў пісьменнікаў, часамі, не ўсё гладка... Э, ды ты, відаць, не чытаеш кніг. Скажы, ты гэта прынцыпова?

Шчуцкі. Якое там прынцыпова? Зойдзеш у бібліятэку, паглядзіш — кніг многа, а ты адзін і думаеш: „Чорт іх усе перачытае"... Так і пойдзеш, дый на вочы нешта слаб стаў...

Шпакоўскі. А то неяк спаткаў ваўка, шэры такі, ды вялізны, падла, што конь... Увабраў авечку, дый прэ прама ў Нёман...

Шчуцкі. Скажы ты, нейначэй наважыў утапіць?!

Шпакоўскі. Не то, што каб сказаў утапіць... Відаць воўчае мяса, быў пад'еўшы, то жартаваў... Пастушок лемантуе, аж заходзіцца, а яму хоць бы што... Вагнуўся, прэ і ў вус не дзьме...

Шчуцкі. Хіба ў ваўка ёсць вусы?!

Шпакоўскі *(не звяртаючы ўвагі, гаворыць далей)*. Часамі азірнецца, гляне скоса, паляскае зубамі, дый далей... Што мне рабіць? Страляць? А што, як не пацэліш, ды авечку заб'еш?

Шчуцкі. Ну, і стралок-жа з цябе.

Шпакоўскі. *(Гаворыць далей)*. Стаяць і пазіраць? Не чэсна. Авечка не абагуленая, шкада, яшчэ захлынецца...

Шчуцкі. Ну, і калгаснік-жа з цябе!? *(Усміхаючыся)*. Як ты ваўка не кармі, то ён у лес глядзіць...

Шпакоўскі *(не зразумеўшы)*. Не ў лес... На гэты раз у рэчку пёр... Імчыцца, гад, што ёсць сілы, а ён-жа нахаду лёгкі... Ну то і я націснуў... Пусціліся навыперадкі... Ён сабе, а я сабе. Гляджу, ваўкалыга ўплаў пусціўся... То я злажыўся і гахнуў... Заблеяла авечка, завыў воўк... Я са злосці ў другі раз пальнуў... Гляджу, павярнуўся назад, але авечку не кідае... Э, думаю — „Не ўдасца табе яе спажыць"... І, даслаўшы патрон, у трэці раз смальнуў. Ну, і жыгануў-жа ён! Праз бары гушчары, праз даліны і горы, што чорт яго пёр... Ля рэчкі Бярэзіны, усё-ж нагнаў і адабраў авечку...

Шчуцкі. І трэба-ж было перціся блізкі свет? Дзе Нёман, а дзе Бярэзіна? Няўжо работы не хапала?

Шпакоўскі. То гэта-ж было ў першыя гады калектывізацыі, калі адзін працаваў, а семера ляжала. Дый то якая там работа была: сяк-так, накасяк, абы не па людску... Прызнацца, па праўдзе і сам туляўся... *(Паўза)*. Толькі ты не праў, сказаўшы: „Як ты ваўка не кармі, то ён у лес глядзіць"... Ваўком ніколі я не быў. Праўда, у першыя часы, сумняваўся крыху, не верылася, што толк які будзе.

Шчуцкі. Бачыш ты яго, які ўрэдны...

Шпакоўскі. Не хацелася лапцей скідаць... Прывычка... А прывычка — другая натура... А цяпер, як той казаў, калі адзеў боты, то яно неяк спрытней... Ды што грэх таіць? Думалася, разуюць му-

жычка, адно-ж паздароў-божа... (*Паказвае*). Бачыш боты? Ды не абы якія! Выцяжкі. Нагу не прамочыш. (*Паўза*). А яны-ж у мяне, як той казаў, першыя. Жаніўся ў чужых. Сам добра ведаеш... (*Паўза*). Вось, каб яшчэ ганчакоў.

Шчуцкі. Ну і хітры-ж ты, як ліса...

Шпакоўскі (*уздыхнуўшы*). І з ёю, было, сустрэўся... Хвост даўгі, пушысты... Зачаравала, хітруха, прывабніца была ў ва ўсёй красе... Я і так, я і гэтак, ды дзе там—і блізка не дапускае. Пакладзеш прынаду, як без атруты, то з'есць, як толькі з атрутай... Мала таго, што сама не возьме, але і другім не дасць... Сядзе побач і блізка не дапускае... Аднойчы ўзяла засыпала зямлёй прынаду, дый каменем прылажыла...

Шчуцкі. Дык-жа яна і блізка не падступалася?

Шпакоўскі. Не-е... Часамі, як забудзецца, то падыйдзе... (*Паўза*). І ўсё-такі ўвабраў...

Шчуцкі. Няўжо перахітрыў?

Шпакоўскі. Яшчэ як лоўка выйшла: жывою ўзяў...

Шчуцкі. Што ты кажаш?

Шпакоўскі. Ей права!

Шчуцкі. Як-жа гэта?

Шпакоўскі. Вельмі проста. Ад нары і да самай хаты накідаў кавалачкаў мяса... А ў хаце паклаў прынаду... Гляджу, ідзе, ды, доўга не думаючы, гоп у акно... Я дзверы на замок...

Шчуцкі. І яна не выскачыла назад?

Шпакоўскі. От разявака. Кудэю-ж яна выскачыць, калі дзверы на замку?

Шчуцкі. Ты сам разявака. Што-ж ты акно не зачыніў?

Шпакоўскі. Эт, табе абы прычапіцца...

(Падыходзіць Пятрусь).

### З'ява V

Тыя-ж і Пятрусь.

Пятрусь (*у майцы*). Ну, як, дзядзька Юрка, злавілі што?

Шчуцкі (*злосна*). А табе што да таго? Цягаюцца тут...

Пятрусь (*няёмка сябе адчувае*). Ранішняя зарадка.

Шчуцкі. Зарадка, зарадка... (*з пад ілба паглядзеў на мускулы*).

Пятрусь (*заўважыўшы*). Зайздросціце? (*Напяваючы без слоў: „Всё выше и выше“, робіць некалькі фізкультурных нумароў. Шчуцкі з зайздрасцю паглядае*). Скажыце, і не брыдка вам летам у кажуху?

Шчуцкі. Эт, пара касцей не ломіць...

Пятрусь (*да Шпакоўскага*). Антон Антонавіч! А ў вас як, забілі што?

Шпакоўскі. Забіць—забіў, да спажыць не ўдалося...

Пятрусь. Чаму?

Шпакоўскі. Качка ўтапілася...

Пятрусь. Што вы кажаце?

Шпакоўскі. Ей права! (*Падымаецца*). Толькі гэта я падышоў да рэчкі, як яна лапу-лапу, дый угару... Я і смальнуў... То яна, доўга не марудзячы, каменем у ваду боўць і няма... Хадзіў я, хадзіў, паклікаў Юрыя Лявонавіча, у двух плюхаліся, аж да гэтага часу, так і не знайшлі. Нейначай захлынулася...

Пятрусь (*усміхаючыся*). Ая-яй! Шкада... Мо' каб паказалі, то я нырца даў-бы... (*Бяжыць да рэчкі*).

Шпакоўскі. Што-ты? У вір? Бронь-божа... Не-е...
Пятрусь *(да Шчуцкага)*. А вы і ў ваду ў кажуху? *(Дае нырца)*.
Шчуцкі *(прыглядаецца)*. Яна! *(Заіграў гармонік. Чутна песня: „Прокати меня, Петька, на тракторе“. Песня нарастае)*.
Голас *(Ганны)*. Пятрусь!
Пятрусь *(з вады)*. Гануся-я! Хлопцы! Дзяўчата! Сюды! Качка ўтапілася... *(Вылазіць з вады з поўлітрам у руках)*.
Шпакоўскі *(адбіраючы поўлітра)*. Як не да цябе п'юць, то не кажы— на здароўе... Сапсуеш вяселле... *(За сцэнай з песняй праходзіць моладзь. Убягае Ганна)*.

## З'ява VI

Тыя-ж і Ганна

Ганна *(у майцы)*. Пятрусь! Гадкі, што-ж ты мяне не пачакаў? *(Хапае за рукі)*. Пойдзем з намі! Хутчэй-жа!
Шчуцкі *(загарэліся вочы)*. Гануся!
Ганна *(весела ўсміхнуўшыся)*. А-а, дзядзька Юрка! *(Падбягае)*. Злавілі што?
Шчуцкі. Не заві мяне дзядзькам... *(Падкручвае левы вус)*. А чаму? *(Падкручвае правы вус)*. А таму!
Ганна *(зарагатала)*. Ці не думаеце вы толькі ў сваты ісці? *(Падміргнуўшы выбягае, а за ёй Пятрусь)*.
Шчуцкі *(удагонку)*. Ганна! Ганулька! Ганна Піліпаўна! Яна любіць мускулы, а ў мяне яны што торбы... *(Падкручвае левы вус)*. А чаму? *(Падкручвае правы вус)*. А таму! *(Займаецца фізкультурай, потым хватаецца за бок)* Оё-ё-ёй...
Шпакоўскі *(падбягае напуджана)*. Што з табой? Белены аб'еўся ці што?
Шчуцкі. Я кахаю яе...
Шпакоўскі. Ну то пойдзем, цяпер не да рыбы... Пакуль збярэмся.
Шчуцкі. Куды-ы?
Шпакоўскі. У сваты...
Шчуцкі. А-а-а... *(Хутка скручвае вуду)*. Хаця-ж ці пойдзе? *(Далёка-далёка чуваць песня: „Прокати меня, Петька, на тракторе“)*.
Шпакоўскі *(ідучы)*. Пойдзе нідзе дзенецца... *(Песня абрываецца)*.
Шчуцкі *(падкручвае левы вус)*. А чаму? *(Падкручвае правы вус)*. А таму! *(Выходзячы заспяваў: „Когда-б имел златые горы“)*.

*Заслона.*

# ДЗЕЯ ДРУГАЯ

## З'ява I

Хата Патоцкіх. Стол. Лавы. У куце абразы, поруч партрэты: Леніна, Сталіна, пакрытыя белым кужэльным ручніком. Ганна моўчкі адчыніла акно, прыбіраючы ложак, напявае на матыў: „Прокати меня, Петька, на тракторе“. Падзьмуў лёгкі ветрык, зашалясцелі фіранкі. Урываецца песня: „По долинам и по взгорьям“. Песня нарастае.

Ганна *(усхвалёваная падбягае да акна, угледаецца ў блакітную даль)*. Рэ-бя-та-а! Пятрусь! *(Цяжка ўздыхнуўшы)*. Яму весела і без мяне... *(Падбягае, раскідае падушкі)*. Пачакай-жа, гад ты печаны, я-ж табе пакажу... Бачылі вы яго, прайшоў і ў той бок не глянуў... *(Садзіцца ля акна. Задумалася. Потым ціха, ціха

*спявае: „Прокати меня, Петька, на тракторе". Праходзіць паштальён, кідае ў акно газету і пісьмо. Ганна ад нечаканасці аж падскочыла. Паштальёну ўдагонку).* Якая далікатнасць!?

Голас *(адыходзячага паштальёна).* Заткніся! А то ў другі раз можам зусім не прынесці... Яшчэ чаго нехапала, з „нехацімцамі" будзем цацкацца...

Ганна *(акінуўшы вачыма пісьмо кладзе на стол. Разгортвае газету. Углядаецца).* Пятрусь? Ну так... *(Голасна чытае).* „Пятрусь Тамашэвіч Высоцкі, лепшы брыгадзір калгаса „Прамень". *(Цалуе некалькі раз партрэт).* У знатныя выбіўся... Пятрусёк... Давай свой кірпаты носік... *(Дае пстрычкі).* Вось табе, вось табе... Не лезь, куды не трэба... Раней было мяне ўзяць, а потым і ў знатныя... Карантыш... Вось хто ты... а не Высоцкі, ды яшчэ Пятрусь Тамашэвіч... *(Уваходзіць Патоцкі, чуе апошнія словы).*

Патоцкі *(агдядаецца навакол).* Ганусся, ты адна?

Ганна. Адна.

Патоцкі. А мне здалося, нібы ты размаўляла з кімсьці... *(Глядзіць на раскіданыя падушкі).* Хто гэта табе іх паварочаў?

Ганна *(папраўляючы).* Самі раскідаліся...

Патоцкі. Не, такі з кім ты размаўляла?

Ганна. Я чытала газету...

Патоцкі. То што там новага? Цісгуць нашага брата-аднаасобнічка, каб яны скіслі... То якое там яшчэ выдумалі абкладанне?

Ганна. Тата!

Патоцкі *(ставячы гарэлку ў шафу).* Я-ж у сваёй хаце... што хачу, тое і кажу... *(Бярэ газету, разглядае).* Хто гэта? Пятрусь?

Ганна *(з гонарам).* Пятрусь.

Патоцкі *(усміхаючыся).* Дык гэта ты з ім завочна, шуры-муры, каб ты скісла...

Ганна *(кладучы наверх малую падушачку).* Та-та!

Патоцкі *(усміхаючыся, падыходзіць, разглядае падушачку).* Ці даўно ў лялькі гуляла... А каб ты скісла, таго-гэтага...

Ганна. Та-та!

Патоцкі *(бярэ газету, разглядае партрэт).* Але скажы ты, як народ расце, каб ён скіс, таго-гэтага... Ці даўно быў авечым пастушком, а цяпер, брыгадзір, знатны чалавек, партрэты з яго друкуюць... Ды гэта-ж каб пры Нікалаю II... дзяржыся, донька, за савецкую ўладу, мацней трымайся, з ею не прападзеш. *(Усміхаючыся).* Ну і за Петруся, таго-гэтага... Людскі хлопец... *(Паўза).* То яны яшчэ не прыходзілі?

Ганна. Хто-о?

Патоцкі. Сваты...

Ганна *(у бок).* Гадкі, чаму-ж ён мне нічога не сказаў?

Патоцкі. Пыталіся ці пойдзеш?

Ганна. Хіба ён не ведае?

Патоцкі. Не ён, а сваты: Антон Антонавіч з Юры Лявонавічам...

Ганна *(зарагатала).* Два сваты?

Патоцкі. Ну вядома, як у знатнага чалавека...

Ганна. І што вы сказалі?

Патоцкі *(хітра).* Сказаў, што дзеўка аж гарыць, замуж просіцца...

Ганна *(засаромілася).* Вой, вой, вой, вой...

Патоцкі. А хіба не праўда? Па вачах бачу... Ну, пойдзеш? Ці можа другі прыглянуўся? Кажы, бо як не пойдзеш, то не варта поўлітра псаваць... *(Гладзіць па галаве).* Ну?

Ганна *(усміхаючыся).* Пай-ду-у...

Патоцкі. Ну, то і добра...
Ганна. А вы ім так і сказалі?
Патоцкі (*усміхаючыся*). Воткалі, за каго ты мяне прыймаеш, таго-гэтага... Сказаў: а чаму-ж бы ёй не пайсці, калі добрыя людзі здарацца... поўныя куфры напханы... (*З гонарам*). Патоцкі не выпхне дачку з хаты абы як... (*Паўза*). Дзе-ж маці?
Ганна. Не ведаю.
Патоцкі. Куды яе панесла нячыстая?

(У дзвярах з'яўляецца Марфа).

## З'ява II

Тыя-ж і Марфа.

Марфа (*вызверыўшыся*). Нячыстая? Ах ты нягоднік! Качарга старая. Ішоў бы лепей, ды прасачыў-бы курыцу... (*Узялася ў бокі*). А ён, тары-бары, растабары... (*Цяжка ўздыхнуўшы*). Згінь здань з маіх вачэй... (*Падыходзіць бліжэй*). Ну, каму кажу?
Патоцкі (*насунуў шапку выходзячы*). От, каб яго, таго-гэтага... Ды толькі рук не хочацца смуродзіць... (*Выйшаў, чуваць голас: „А кыш-кыш-кыш!“*)
Марфа (*да Ганны*). Дык вось што, дачушка, рыхтуйся, дзеткі, добрыя людзі здараюцца...
Ганна (*загарэліся вочы*). Пятрусь?
Марфа (*грозна*). Кінь дурыцца, дзяўчына. (*Дробненька смяецца*). Юры Лявонавіч! От гэта чалавек...
Ганна (*зарагатала*). Чалавек?! З яго, што з казла, ні шэрсці, ні малака...
Марфа. Ой, не грашы, дзяўчына... За ім ты будзеш панаваць...
Ганна (*рэзка*). Не трэба мне гэтага панства...
Марфа (*хітра*). Ну, што з таго, што ён удавец? Але-ж затое галава на карку. Ды якая галава—залатая. Сам напіша і падпіша...
Ганна. Не, гэтаму не быць!
Марфа. Дачушка, дурненькая, гэта будзе... Ты-ж не пойдзеш насупроціў дзякрэта...
Ганна. Якога дзекрэта?
Марфа. Сама сваімі вачыма бачыла... Ёсць дзякрэт, пасласць сваты да Патоцкіх... (*Паўза*). Падумай толькі, што твой Пятрусь у параўнанні з ім...
Ганна (*загарэліся вочы*). Пятрусь? Ён Пятрусёвай падэшвы не варты.. (*Напявае „Прокати меня, Петька, на тракторе“*).
Марфа (*злосна*). Пятрусь! Пятрусь! Што твой Пятрусь! Толькі і таго, што тыя плечы, ды рукі, як у мядзведзя... Падумаеш—брыгадзір. Сёння брыгадзір, а заўтра зноў пастух... (*Паўза*). А ў Юры Лявонавіча,—галава, ды не абы якая, поўная навук розных...
Ганна (*усміхаючыся*). Эт, якія там навукі.
Марфа. Ой, не кажы! (*захваляваласся*). Ідуць...

(Уваходзіць: Шчуцкі у новым гарнітуры і Шпакоўскі ў чорным суконным палітоне з чырвонай істужкай цераз плячо).

## З'ява III

Тыя-ж і Шчуцкі з Шпакоўскім.

Шчуцкі (*увайшоўшы*). Добры дзень у хату! (*Да Марфы*). Добры дзень, Марфа Андрэеўна!
Марфа. Добры дзень! Дзень добры! Сядайце. Калі ласачка... (*Крычыць у акно*). Пілiп! А Піліп!

Голас Патоцкага. Іду! *(Уваходзіць).*

Шпакоўскі *(некалькі афіцыйна).* Так што, як ёсць мы, самыя старэйшыя калгаснікі, то праўленцы нашы вырашылі пасла́ць нас да цябе, Піліп Мітрафанавіч, паколькі ты ёсць апошні аднаасобнік у ваколіцы, у чырвоныя сваты...

Патоцкі *(незразумеўшы).* Што-ж, міласці просім... Дзеўка, дзякаваць богу, нічым не пакрыўджана... Як да гаспадаркі, што ні возьме, то ў руках яе гарыць, ну і таго-гэтага, каб яна скісла...

Ганна *(засаромілася).* Та-та!

Марфа *(да Ганны).* Ды яно-ж, як той казаў, дзеўка ў бацькі ў гасцях...

Шчуцкі *(да Шпакоўскага).* Хаця-ж ці пойдзе?

Шпакоўскі. Пойдзе, нідзе дзенецца... *(Да Патоцкага).* Аднаасобнічку цяпер семафор зачынен...

Патоцкі. Каторы год на запасным стаім... *(Марфа накрывае стол, потым выходзіць).*

Шчуцкі *(падняў палец і як бы на лічыльніках адстуквае).* У тупіку, у тупіку...

Шпакоўскі. Так, так, у тупіку. З запаснога яшчэ ёсць выхад... *(Ківае пальцам).* А з тупіка..

Патоцкі. Ды ўжо-ж, як упарадкую дачку, то трэба будзе і самому падумаць...

Шпакоўскі *(многазначна).* Адклад не ідзе на лад...

Патоцкі *(паказвае газету).* Бачылі? *(Углядзеў пісьмо, бярэ).*

Шпакоўскі *(разглядае партрэт, падміргнуў Шчуцкаму).* Дай толькі ўсватаць, тады... тады пайшла пісаць... у ва ўсіх газетах, партрэты... прозвішчы нашы залатымі літарамі на мрамарнай дошцы... Памрэш, будуць казкі аб табе складаць, песні, легенды...

Шчуцкі *(напуджана).* Што-о? Я жаніцца хачу, а не паміраць...

Шпакоўскі *(падміргнуўшы).* Жэнім!

Патоцкі *(чытае ліст).* „... Тата ты вельмі ўпарты, а на ўпартых ваду возяць...“ *(Задумаўся).* Гм... Добра сказана: „на ўпартых ваду возяць“...

Шчуцкі *(падкручвае левы вус).* А чаму? *(Падкручвае правы вус).* А таму!

Патоцкі *(злосна).* Упартаму не страшна пуга... Аглобляй не возьмеш... А страхам тым больш.

Шпакоўскі. Не, не! Ласачкай, ласачкай. А толькі семафор зачынен...

Патоцкі *(працягвае чытаць пісьмо).* „... Як чырвонаармеец, словамі свайго камісара, скажу: „Хто хоча, каб не застацца на поўстанку, няхай хутчэй садзіцца ў поезд, што на галоўнай лініі, бо паравоз пад парамі і семафор адчынен...“ У нагу з жыццём, а не туляцца ў пазавуголлю... Жыццё гэта самае дарагое... А жыць, гэта значыць тварыць... Тваё-ж жыццё аднаасобніцкае: што ўбіў, тое і ўехаў... Дакуль гэта ты будзеш скрыпець...“ *(Кладзе пісьмо на паліцу).* То сын-жа піша, што адчынен.

Шпакоўскі. Адчынены поезду, што на галоўнай лініі... Садзіся хутчэй, бо застанешся на поўстанку...

Шчуцкі *(падкручвае левы вус).* А чаму? *(Падкручвае правы вус).* А таму!

Патоцкі *(пачухаў патыліцу).* Ды ўжо-ж, прыдзецца... Прыціснулі так, што няма дзе дзецца...

Ганна *(заглядаючы ў акно).* Дзе-ж ваш малады?

Шчуцкі (*ускочыў*). Так што я, можна сказаць... Колькі год таму, як пахаваў пакойніцу жонку, то ні на адну кабеціну і вокам не зірнуў...

Ганна *(зарагатала)*. Які вы жартаўнік... *(Выходзіць па гаспадарскіх справах)*.

Шчуцкі *(у бок)*. Яна любіць мускулы... *(Займаецца фізкультурай)*. А ў мяне яны, што торбы... *(Падкручвае левы вус)*. А чаму? *(Падкручвае правы вус)*. А таму!

Патоцкі *(Ставіць поўлітра на стол)*. Нешта-ж нейкае, што яго няма? Пэўна дзе-небудзь, таго-гэтага... *(Уваходзіць Ганна)*. Гм... Дзіўна... Сам казаў, што прыдуць сваты... яшчэ на поўлітэрку ў яго пазычыў...

Шпакоўскі *(усміхаючыся)*. Прыдзе. Хлопец аж гарыць... ды толькі праўленне крыху наківала. *(Да Ганны)*. Не ўздумай, кажуць, з Ганнай...

Ганна *(праз слёзы)*. Блазнота! Так яму трэба жаніцца? Суслу ў рот...

Шчуцкі *(няёмка сябе адчувае, думае, што гэта пра яго)*. Суслу ў рот? *(Брыдліва выціраецца)*. Вы гэта дарэмна... *(Закашляўся)*.

Шпакоўскі. Што з табой? Трымайся...

Ганна *(дакорліва)*. Ведаю, у каго ён затрымаўся. Пэўна ў той чарнявай блыхі, што настаўніцай у Матэцкіх... Ну і выбраў-жа з гурту курту...

Шчуцкі *(закашляўшыся, сашчапіўшы рукі перад абразамі)*. О, прэсвятая дзева Марыя! Клянуся! Ніякай настаўніцы... *(Усе глядзяць на абразы)*.

Шпакоўскі *(усміхаючыся)*. Дзева. Ад каго-ж у яе дзіця?

Шчуцкі. Ад духа святога... *(Просячы)*. Сыйдзі, будзь сведкай.

Шпакоўскі *(усміхаючыся)*. У наш суровы век не павераць распусніцы...

Ганна *(замахала рукамі)*. Дзядзька Антон!

Шчуцкі. То ты, гасподзь бог Саваоф, змілуўся... Сівізна на галаве... Каго-каго, а цябе не западозраць...

Шпакоўскі. Тым больш. Як сівізна на галаву, то д'ябал у рабро... Самы небяспечны ўзрост...

Патоцкі *(да Шчуцкага)*. Вот калі, чаго ты прычапіўся да аднаасобніцкага бога...

Шчуцкі *(укленчыўшы да Ганны)*. Клянуся богам, усімі святымі, ніякай настаўніцы... Як памерла нябошчыца жонка...

Ганна *(зарагатала)*. Ведаю, ведаю... то вы ні на адну кабеціну і вокам не зірнулі...

Шчуцкі *(узрадавана ўстаўшы)*. Не. Каб я з гэтага месца не ўстаў... *(Падкручвае левы вус)*. А чаму? *(Падкручвае правы вус)*. А таму!

Патоцкі *(усміхаючыся)*. А Параска, таго-гэтага, каб ты скіс...

Шчуцкі *(ухмыляючыся)*. Эт, калі яно было? Ды хіба-ж Параска настаўніца?

Ганна *(махнуўшы рукой)*. Усе вы... У вас Параска... А ў яго настаўніца...

Шчуцкі *(перарывае)*. У яго? У яго можа быць... Такі распуснік, не дай бог...

Ганна *(абурана)*. Няпраўда!

Шчуцкі *(папраўляецца)*. Не то, што, каб сказаў, распуснік, але блізка каля гэтага...

Ганна *(прыстуквае нагой)*. Няпраўда!

Шчуцкі. Не, не! Ніякае чарнявае блыхі...

Ганна *(застукала нагамі, праз слёзы)*. Няпраўда!!!

Шчуцкі (*пацiскаючы плячыма, у бок*). Знойдзеш цяперашнім светам у дзяўчыны праўду... Ты так, яна гэтак, ты гэтак, яна так... (*Да Ганны*). То як, пойдзеце?
Шпакоўскі. Ну але, ці сёе, ці тое...
Ганна. А хто-ж яго ведае? Пытайцеся ў таткі.
Патоцкі. Пры чым тут татка?
Шпакоўскі. Як пры чым? Тваё слова.
Патоцкі. Што-ж маё слова, як той казаў, такое: як маеш дачку, то трымай гарэлку ў глячку...
Шпакоўскі. Толькі без жартаў...
Патоцкі. А як без жартаў: як маеш дзяцей, то май і клопат... малымі былі, біўся, як рыба аб лёд, каб кусок хлеба быў на стале, падраслі, кожны ідзе ў сваю дарогу, то зноў бацька гніся—не выправішжа з пустымі рукамі...
Шпакоўскі (*пацiскаючы плячыма*). Не разумею цябе...
Патоцкі. Не разумееш? А для мяне, дык ясна, як на далоні... (*Паказвае рукамі*). Як самому жыццё каратаць, не ведаю... Баюся, каб на старасці год не прышлося класці зубы на паліцу...
Ганна (*пакрыўджана*). Татка...
Патоцкі. Што татка! (*Да Шпакоўскага*). Аб'аралі з усіх бакоў. (*Паказвае рукамі*). Замкнутае кола... Курыцы няма дзе выпусціць... А ён мне: „на ўпартых ваду возяць". Гэта-ж, каб чужы хто-небудзь так кальнуў, то не так-бы балела, а то роднае дзіця...
Ганна (*усміхаючыся*). Па чырвонаармейску...
Патоцкі. Лепей бы ён мне ў морду даў! (*Пакрыўджана*). Ну, то што-ж, запрагай... Стары конь не расплюхае вады...
Шчуцкі. Не, не! (*Падкручвае левы вус*). А чаму? (*Падкручвае правы вус.*) А таму!
Патоцкі (*цяжка ўздыхнуўшы*). Метка, сынку, страляеш.
Ганна (*падыходзіць да бацькі*). Варашылаўскай вывучкі.
Патоцкі (*глядзіць на Ганну*). А каб вы скіслі, мае вы дзеткі... Варашылаў, Варашылаў, і без вас ведаю, што метка б'е... (*З гонарам*). Чалавек, маіх год... (*Да Ганны*). Паспрабуй ты так біць!.. Не выйдзе!..
Ганна. Варта толькі захацець...
Патоцкі. Толькі-ж таго, што захацець... А яшчэ моладзь можна сказаць... Дакуль гэта вы будзеце скрыпець... Кожны павінен страляць па варашылаўскі... (*З гонарам*). Чалавек можна сказаць маіх год і то як б'е...
Шчуцкі. То як? Будзем гуляць вяселле? (*Скоса паглядзеў на паўлітроўку*). Ці можа, яна будзе кіснуць?
Патоцкі. А хто-ж яго ведае? Пытайцеся ў дачкі, хоча яна кіснуць, ці не?
Ганна. Пры чым тут дачка?
Шпакоўскі. Як пры чым? Тваё слова.
Ганна. Што-ж маё слова такое, як татка з мамкай згодны, то я... Толькі нешта яго няма...
Шпакоўскі. Без жартаў...
Ганна. А як без жартаў, то хто-ж гэта ідзе ў сваты без маладога?
Шпакоўскі. Бліжэй да сутнасці...
Патоцкі. Але... Кажы, што думаеш...
Ганна. Нічога я не думаю... (*Садзіцца ля акна*). І думаць не хачу...
Патоцкі. Саромецца няма чаго... Людзі пытаюцца, трэба адказваць...
Шчуцкі (*падсажваецца да Ганны*). Што-ж горкая гарэлачка, але п'юць дрэнна замужам, але ідуць. Праўда?

Ганна. Не чапайце мяне...

Шчуцкі (*да Патоцкага*). Смачны бацькаў хлеб, ды ўсё-ж дзяўчына ў бацькавай хаце, што птушка ў клетцы... Як ты хораша не спявай, то кожны бацька хоча хутчэй выпхнуць дачку з хаты...

Патоцкі. О, не-е!.. Што ў мяне хлеба не хапае? (*Пакрыўджана*). Донька... І ты маўчыш?

Ганна. Маўчыш... Дзявочае сэрца не камень... Б'ецца, просіцца на волю, рвецца на прастор...

Шпакоўскі. Па дзявочаму, з усёй шчырасцю...

Шчуцкі. (*падкручвае левы вус*). А чаму? (*Падкручвае правы вус*). А таму!

Шпакоўскі (*да Шчуцкага*). Толькі вы дарэмна, што замужам дрэнна...

Шчуцкі. Яно, як без прывычкі, то можа і страшна. Хаця з увядзеннем электрычнасці, жанчыне шмат лягчэй.

Шпакоўскі. А гэта праўда, бывала, колькі папабегаеш, пакуль дастанеш поўлітра газы... Ну, а цяпер яна, як той сказаў, не вельмі што і патрэбна ..

Патоцкі (*не дачуўшы*). Што, поўлітра?

Шчуцкі (*з зайздрасцю пагаядзеў на поўлітроўку*). Яна, як той казаў, можа стаяць... Хаця, як неадбіта, то і вінтэрас, бадай, не вялікі...

Шпакоўскі (*да Ганны*). Электрычнасць вялікая штука.... Ну, скажам—трэба вам спекчы яешню...

Патоцкі (*да Ганны*). Ды ўжо-ж ускінула-б там на скавародку таго-гэтага... (*Ганна падыходзіць да печы, бярэ скавараду*).

Шпакоўскі (*хітра*). Я гэта так між іншым... Як поўлітроўка ёсць, то можна і салам закусіць... Ды яшчэ, каб часнычку, то і зусім добра...

Патоцкі (*у акно*). А кыш-кыш-кыш-кыш! А каб на вас немач! А кыш-кыш-кыш-кыш!

Шчуцкі. Эт, калі і сашчыпне там якое-небудзь каліва калгаснага ячменю, то па гэтым не збяднеем... Тым часам можа лішняе яйцо на скавародку перападзе...

Шпакоўскі. Ды яно-ж, як той казаў, не пашкодзіла-б... А што да курэй, то ўсё-ж выганяй.

Патоцкі. Ганна!

Ганна. Га?

Патоцкі. Пячы яешню.

Ганна. На чым?

Патоцкі. Вазьмі там, у кубелку, таго-гэтага...

Шпакоўскі (*усміхаючыся*). Навошта гэты клопат? (*Хітра*). Лішнія турботы...

Патоцкі. О-о, не-е. Як зайшоў у хату, з маладым, ці без маладога, будзе там які вінтэрас, ці не, а як поўлітра ёсць, то не схаваюся... (*Праз дзверы*). Ганнуся... Кумпячка ўрэж... Ды й кілбаскі каліва якое, таго-гэтага...

Голас Ганны. Добра.

Шпакоўскі. Дзе-ж старая?

Патоцкі. А ліха яе ведае. (*Уваходзіць Марфа*).

Марфа. Што-о? (*Да Патоцкага*). Хіба не бачыш, куры ў ячмяні...

Шчуцкі. Эт, невялікі клопат...

Шпакоўскі. О, не-е! Сваты сватамі, ці як той казаў—дружба дружбай...
(*Патоцкі выходзіць, чуцен голас: „А кыш-кыш-кыш-кыш!“*)

Марфа (*да Шчуцкага*). А мае-ж вы госцейкі, а мае-ж вы даражэнькія, а мае-ж вы залаценькія... Рада вам, як не ведаю чаму... (*Рыхтуецца пячы яешню, уваходзіць Ганна*).

Шчуцкі (*да Ганны*). Электрычнасць важная штука. Скажам, трэба вам нагрэць гарбаты...

Марфа (*дробненька смяецца*). Будзе дзеткі і гарбата...

Шчуцкі. Па мне яе можа і не быць... Я гэта да справы... (*Пауза*). Альбо трэба вам зварыць якой-небудзь заціркі, ці выпрасаваць сукенку. То што вы робіце?

Ганна. Ну, што?

Шпакоўскі. Хіба не ведаеш? (*Паказвае два пальцы*). Устаўляеш штэпсэля і гатова.

Ганна. Адразу?

Шпакоўскі. Ну, не адразу, а праз некалькі хвілін, але-ж не трэба пэцкацца каля гаршкоў.

Шчуцкі (*у захапленні*). Альбо, скажам, трэба вам падаіць карову: абмылі вымя, падставілі вядро... Больш таго, можна нават куранят выводзіць... (*Уваходзіць Патоцкі, чуе апошнія словы*).

Патоцкі. Чаго добрага і дзяцей?

Шчуцкі. Вядуцца доследы, можа і дзяцей... Навука!

Ганна (*замахала рукамі, скаварада вобзямлю*). Не, не, не, не...

Патоцкі. Глядзі ты, які рашучы пратэст супроць навукі?

Шчуцкі (*падкручвае левы вус*). А чаму? (*Падкручвае правы вус*). А таму!

Ганна. Няпраўда! Няпраўда!

Шчуцкі. Няпраўда? Дасягненні нашы ў галіне навукі настолькі вялікі, што толькі сляпыя не бачаць... Альбо, скажам, трэба вам памыць галаву, што вы робіце?

Ганна. Ну што?

Шчуцкі. Уставілі штэпсэля, дый плюхайцеся, колькі вашай душы захочацца...

Ганна (*зарагатала*). Хіба ў чалавека ёсць душа?

Шчуцкі. Як мне здаецца, то павінна нешта быць...

Ганна (*рэзка*). Няверна!—Нам нейк у сямігодцы настаўнік Курачкін тлумачыў... (*Успамінае*). „Ага, трэба, кажа Курачкін, гэту душу, як яна ёсць прадстаўніца ідэалізма, з карэннем вырваць з пралетарскіх грудзей“.

Шчуцкі. Душу вырваць? Курам на смех... Хаця, калі, скажам, узяць якога-небудзь бяздушнага бюракрата Курачкіна, то якая ў яго душа? (*Стукае сабе пальцам у лоб*). Пачакай, пачакай! Цяпер толькі я зразумеў словы сакратара райкома партыі, які назваў нашага Курачкіна бездушным бюракратам... Ну так, хіба ў яго можа быць гэта прадстаўніца ідэалізма?

Ганна (*падумаўшы*). І сапраўды, хіба можна без душы?

Шпакоўскі. У наш век усё можа быць. Часамі і мёртвы смяецца...

Ганна (*абурна*). Міф!

Патоцкі (*прыглядаецца ў акно*). Які там міф? Самы сапраўдны заяц...

Шпакоўскі (*загарэліся вочы*). Дзе?

Патоцкі (*паказвае*). Унь, ля грушы. Але-ж, падла, вялікі... (*Да Шпакоўскага*). От, каб таго-гэтага...

Шпакоўскі (*цэліцца*). Ну то і смальнуў-бы...

Патоцкі. З акна?

Шпакоўскі. А што-ж тут такога? (*У захапленні*). Леташняй зімой здаецца, ну так... Еду гэта я ў горад купіць сёе-тое, ці прадаць, от добра і не помню... Ну, такі прадаць. Неяк раніцою хлопец

падахвоціўся папасвіць карову, то ці паверыце, баба за адзін раз збіла фунты тры масла.

Патоцкі. Ад аднае каровы і за адзін раз?

Шпакоўскі. Дык-жа хлопец крыху папасвіў... (*Працягвае*). Гляджу праз акно вагона, бачу—заяц, навыперадкі з паравозам стралой нясецца... Відаць, падла, згалеў, то грэўся, бо мароз-жа быў пэўне 40 градусаў, а можа хто спудзіў... То я, доўга не марудзячы, ціханька адчыніў акно, злажыўся і пальнуў... Заяц дагары нагамі. Я саскочыў, схапіў за ногі, ды бягом у вагон... Сеў і далей...

Шчуцкі. Хоць ты і сват мой, але брэшаш, як наняты...

Шпакоўскі. Ей права!

Патоцкі. І цябе не аштрафавалі?

Шпакоўскі. За што?

Патоцкі. За астаноўку цягніка?

Шпакоўскі. Навошта мне было яго астанаўліваць, калі ён так ішоў, хоць ты вазьмі злезь, ды папхні... (*Пауза*). Цягнікі тады хадзілі, не раўнуючы, як цяпер паштальёны, у тыдзень адзін раз, ды й то якая там была язда.

Патоцкі. Калі-ж гэта было?

Шпакоўскі. Уга-а, даўно, яшчэ тады, калі мяшочнікі ездзілі... (*Да Шчуцкага*). Так, здаецца?

Шчуцкі. Так, так.

Патоцкі. То ты-ж казаў, што леташняй зімой...

Шпакоўскі. Эт, важней факт, а не час... Ну і народ за шчэпку знойдзе прычэпку... Абы збіць... (*Чуваць знаёмы матыў: „Все выше и выше“—гэта ідзе Пятрусь*).

Ганна (*узрадаваная падбягае да акна*). Ён! Ён! Ён!

Патоцкі (*адбівае поўлітроўку*). Нарэшце дачакаліся... (*Да Марфы*). Стаў яешню.

Марфа (*злосна*). Скулу ў бок. (*Да Ганны*). Ну? Выходзіць, што ты супроць улады... Бачыла дзякрэт?

Ганна. Не, не бачыла...

Шчуцкі (*паказвае*). Вось ён...

Марфа (*цягне ад акна*). Дурненькая, за ім ты будзеш красавац. (*Уваходзіць Пятрусь*).

## З'ява IV

Тыя-ж і Пятрусь.

Ганна (*да Пятруся*). Гадкі, што-ж ты так позна?

Пятрусь. А куды мне спяшацца? (*Да Шпакоўскага*). Ну як?

Шпакоўскі. Туга.

Пятрусь (*усміхаючыся*). Калі туга, то трэба пуга...

Шпакоўскі (*да Пятруся*). Глядзі-ж, не сапсуй вяселля... Ведаем цябе, зараз да дзяўчыны...

Патоцкі (*да Пятруся*). Не добра, дзеткі... Сын збіраецца ваду вазіць, а заяц пугу рыхтуе...

Шчуцкі (*абурана*). Што ты, якую пугу... Дзякрэт сам бачыш...

Пятрусь. Які дэкрэт?

Марфа. А такі: непрошаны госць горш татарына... (*Адварочваецца ў другі бок*).

Пятрусь (*разводзячы рукамі*). Не разумею...

Патоцкі (*да Пятруся*). Дык вось што, як не запрог, то не кажы „но“, таго-гэтага... (*Пауза*). Скажы, хто-ж гэта выпраўляе сватоў без маладога... То сядай... (*Наліўшы чарку*). Прашу! (*Усе

*садзяцца за стол*). Дай божа, не апошнюю... (*Выпівае*). А-ах, смашна пайшла... Ды падсоўвайся бліжэй. (*Дае чарку Пятрусю*). Ну, сынку...

Шчуцкі (*пакрыўджана*). Няхай сынку пассе свінку...

Марфа. То ты раней свату...

Патоцкі. А я хачу маладому...

Шчуцкі (*працягвае руку*). Як маладому, то дай сюды...

Патоцкі. А я хачу маладому... (*Дае чарку Пятрусю, Марфа падае закуску Шчуцкаму*).

Шчуцкі (*паглядзеў на Марфу*). Заўсёды гэтыя маладыя напоперак дарогі... (*Падкручвае левы вус*). А чаму? (*Падкручвае правы вус*). А таму!

Пятрусь (*падняўшы чарку*). Я п'ю ў тым выпадку, калі вы...

Патоцкі (*перарывае*). Згодзен, згодзен... Мець такога зяця бацьку гонар...

Шчуцкі (*думае, што гэта пра яго*). На мне, можна сказаць, ляжыць уся гаспадарка... У маіх руках ключы да шчасця людскога... (*Абнімае Ганну*). Э-эх, Ганулька, і зажывём-жа мы з табою... Табе за мною, што ў бога за пазухай... Век электрычнасці і радыё... Уставіла штэпселя і зацірка гатова... Ды што зацірка, кожнай раніцай будзем есці свежую ўху... слухаць музыку...

Пятрусь (*ставіць на стол чарку*). Што-о? (*Да Ганны*). А як ты?

Ганна (*цягнецца да Пятруся, Марфа прытрымлівае*). Я згодна.

Пятрусь (*да Патоцкага*). А вы?

Патоцкі. То я-ж ужо сказаў, што згодзен...

Пятрусь (*паглядзеў на Марфу*). Ах, так! (*Кідаецца да дзвярэй*).

Ганна (*рашуча*). Пятрусь!

Пятрусь (*ля дзвярэй*). Яшчэ ўчора ты клялася, што акрамя мяне...

Ганна. Павер, нікога...

Пятрусь (*злосна паглядзеў на Шчуцкага*). І хоць бы каго людскага выбрала...

Шчуцкі. Но, но! Ты не вельмі... (*Да Пятруся*). Думаеш, што ў цябе мускулы... Цяпер яны не вельмі што патрэбны... Уставіў сабе штэпселя...

Ганна (*цягнецца да Пятруся, Марфа трымае*). Павер, цябе... аднаго цябе... (*Вырываецца*).

Пятрусь (*узрадавана*). Кахаеш?

Ганна. І болей нікога... (*Цалуюцца*).

Шчуцкі (*ускаквае з-за стала*). Што-о? (*Бяжыць да дзвярэй*). Не паспела выйсці, як другога завяла...

Патоцкі (*рашуча*). Юрка! (*да Шпакоўскага, развёўшы рукамі*). Нічога не разумею...

Шпакоўскі. Я таксама... (*Паўза*). Разумееш, праўленцы нашыя вырашылі паслаць нас да цябе, паколькі ты ёсць апошні аднаасобнік у ваколіцы—у чырвоныя сваты...

Патоцкі (*пачынае разумець*). Пачакай, пачакай... Выходзіць, што вы прыйшлі ў сваты не да дачкі, а да бацькі?

Шпакоўскі. Ну так.

Патоцкі. Э-э, тады другі вінтэрас... (*Ідзе да шафы, дастае другую паўлітроўку*). Ды яно-ж так, куды ёй спяшацца, а нам з табой, старая, як той казаў, крута прыйшлося... А пайсці і папрасіцца неяк ні тое, ні сёе... (*Да ўсіх*). Прызнацца па праўдзе, думалася, што без мяне савецкая ўлада загіне... Адно-ж не,—трымаецца, ды мацнее... То што мне застаецца рабіць, прыходзіцца яе падперці...

каб яшчэ была мацнейшай... (*Падняўшы чарку*). Няхай сабе красуе на здароўе! (*Выпіўшы*). Як людзі бяруць...

Марфа (*здзіўлена*). Што-о? Цябе сватаюць і ты пойдзеш?

Патоцкі. Пайду.

Марфа (*абурана*). Ах вось яно, якія сваты... Дзе мая чапяла? Я табе пайду! Бачылі вы яго!

Патоцкі (*цвёрда*). Не, такі пайду! Бабу слухай, ды свой розум май.

Ганна (*праз слёзы*). Як? (*Да Шчуцкага*). Дык вы не да мяне?

Шчуцкі (*панура*). Выходзіць, што так... мне думалася, што яны аба мне паклапаціліся, адно-ж аб аднаасобніку... (*Праз слёзы*). Колькі гадкоў тому, як ні на адну кабеціну... (*Заспяваў*: *„Когда-б имел златыя горы“*).

Пятрусь. Ганулся!

Ганна (*насупіўшыся*). А я думала...

Пятрусь (*падміргнуўшы*). А згодна?

Ганна. Згодна!

Пятрусь (*да Патоцкага*). А вы, татуся?

Патоцкі. Мне што? (*да Ганны*). Ну як, донька, замуж хочаш?

Ганна. А татачка, не пытайцеся...

Патоцкі (*да Пятруся*). Ну, а ты як, ад шчырага сэрца таго-гэтага...

Пятрусь. Жыць без яе не магу...

Шчуцкі (*да Шпакоўскага*). Ён не можа, а як мне цярпець... І гэтак было блізка шчасце... Ганулся! (*Спявае. „Когда-б имел златыя горы“...*)

Шпакоўскі (*усміхаючыся*). Не журыся, стары, і цябе ажэнім...

Марфа (*да Ганны*). Дурніца! І гэтак было блізка шчасце...

Ганна. Маманька, я так шчаслівa... (*Некалькі разоў цалуе Пятруся*).

(Усе садзяцца за стол. Пятрусь заспяваў: „По долинам и по взгорьям“—усе падхапілі).

Шчуцкі (*стукнуўшы кулаком па сталу*). Заўсёды гэтыя маладыя напоперак дарогі! (*Падкручвае левы вус*). А чаму? (*Падкручвае правы вус*) А таму! (*Дэманстрацыйна выходзіць*).

*Заслона.*

Снежань 1934 г. Менск.

Васіль Каваль

## МАЦНЕЙ ЗА СМЕРЦЬ

Сярод асляпляюча белых сцен, у бальніцы, ляжаў, прыкаваны да ложка, чалавек, які пражыў кіпучае, слаўнае жыццё. Яго, некалі магутныя грудзі, душыў кашаль. Ліпучымі згусткамі, павольна, ён выплёўваў кроў і здавалася, што ён выплёўвае кавалкі свайго сэрца, некалі пранізанага агнявымі вятрамі чатырох старон Рэспублікі.

За акном у горадзе наступала пышная, радасная, надзвычайная вясна. Яго цягнула да вакна, да сонца, але ў апошнія дні ён ужо не мог уставаць.

Па некалькі разоў у дзень да ложка хворага падыходзіў стары лысы, вопытны доктар. Праціраючы акуляры і жмурачы блізарукія вочы, пытаў:

— Ну, Мартын Андрэевіч, як мы папраўляемся?

— Папраўляемся, доктар! Без гэтага не можна. Самі ведаеце—вясна! Чуеце, як на дрэвах покаюць пупышкі... —Трымаючыся за сэрца, прабаваў жартаваць Мартын Андрэевіч.

— М-да... Гм-м... Вясна... Пупышкі, кажаце... —гледзячы на тэрмометр, расцягваў доктар.—Вы, Мартын Анрэевіч, гэтае, папраўляецеся, як на дражджах.

— Інакш, доктар, не магу—у мяне старая закваска...

Доктар павольна ківаў лысай пукатай галавою, даваў парады і, мякка шлёпаючы падэшвамі, адыходзіў у габінет.

Дні для Мартына Андрэевіча цягнуліся марудна: яны былі напоўнены цішынёю і найтанчэйшым пахам лекаў. Тое, чаго ён ніколі не адчуваў на працы—адзінокасці—цяпер з неймавернай сілай гняло яго ў цяжкія хвіліны.

„Страшна паміраць, не дакончыўшы такое жыццё",—часамі ўначы думалася Мартыну Андрэвічу.—Калісьці смерць глядзела на нас тысячамі вачэй. Мы пайшлі праз агні і—перамаглі. І вось зараз наступае фізічнае разбурэнне тых каморак, у якіх гураганам бушавала кроў".

І Мартыну Андрэевічу думалася аб пройдзеных гадах, аб сваёй маладосці, якую ён усю аддаў барацьбе, аб няскончанай рабоце...

Досыць часта прыходзілі ў бальніцу хто-небудзь з рабочых сталеліцейнага завода наведаць свайго майстра. Яму расказвалі пра завод, пра навіны, і тады ў Мартына Андрэевіча разгладжваліся каля вачэй маршчынкі і ў пасівелых вусах блукала цёплая ўсмешка. Побач былі блізкія таварышы, з якімі плячо ў плячо праходзіў фронт, не было ні адзінокасці, ні адчування асуджанасці...

Аднойчы дзяўчата-комсамолкі прынеслі яму першых вясновых кветак, белых, як снег і сініх, як неба. Маладосць прынесла ў палату вясну. Кветкі напомнілі яму зялёны шум леса і птушыны шчэбет. Яму здалося нават, што ён адужаў...

Пасля гэтага, бадай, што кожны дзень яму стала прыносіць свежыя кветкі сястра-практыкантка Таня. Была яна вельмі маладая, невысокая, з светлымі вачыма і чорнымі кудзеркамі. Бадай, што кожны дзень яна ставіла на столік пучок кветак у шклянцы вады і ветліва гаварыла:

— Мартын Андрэевіч, а я вам кветак прынесла...

— Дзякую, дзякую, даражэнькая!—адказваў Мартын Андрэевіч і цёплыя іскры загараліся ў яго вачах пры поглядзе на гэтую дзяўчыну. Як нейкі даўно забыты вобраз, які пакутна цяжка ўспомніць, як напамінак, стаяла перад ім гэтая дзяўчына.

І калі Мартын Андрэевіч, пакутна наморшчыўшы лоб, асабліва пільна прыглядаўся да яе, Таня ўзрушана закрывала вочы густымі чорнымі расніцамі.

— Хочаце, Мартын Андрэевіч, я вам пачытаю...—гаварыла яна, сядала на крэсла побач і разгортвала недачытаную кніжку.

Таня чытала звонкім прыемным рэчытатывам і зрэдку пазірала на Мартына Аднрэевіча, каб пазнаць, ці не надакучыла яму.

Мартын Андрэевіч уважліва слухаў, але думаў аб сваім.

Таня не магла разгадаць гэтага яшчэ не старога чалавека, у якога ў чорных валасах быў іней суровай зімы. Яна адчувала, што ён многа перажыў. Яна вельмі ўважліва прыглядалася да яго і чамусьці ніяк не магла загаварыць з ім аб яго жыцці.

Аднойчы Таня спытала ў доктара:

— Скажыце, доктар, хто ён такі?

— М-да... гэтае...—сказаў доктар, выпісваючы нейкі рэцэпт.—Чалавек—гэта гучыць горда! Але прыходзіць амартызацыя сэрца—і чалавек, гэтае, у „зямлю атыдзешы"... Гэты чалавек, дарагая мая, перанёс горы пакут—катаргу, грамадзянскую вайну, за геройства мае ордэн—і вось прышла амартызацыя...

— Скажыце,—перабіла яго Таня,—ён будзе жыў?

Доктар, углыбіўшыся ў мудрасць лацінскіх закаручак, відаць, не дачуў і нічога не адказаў. Таня асцярожна вышла з габінета.

Увечары Мартын Андрэевіч першы загаварыў з Таняй: ён стаў распытваць пра жыццё, пра яе, пра бацькоў. Лёгкая чырвань пакрыла шчокі ў Тані. Перабіраючы ў руках рог беласнежнага халата, закрыўшы вочы расніцамі, яна разгаварылася:

— Вы пытаеце пра маіх бацькоў?.. Ні маці, ні бацькі я не памятаю. Мне гаварылі, што бацька забіты на грамадзянскай вайне, каля Нёмана. Белыя расстралялі яго. Маці служыла з ім у адным палку—яна была сястрою ў лазарэце... Хутка пасля таго, як не стала бацькі, маці пераехала ў Сібір. Там і я нарадзілася ў адным маленькім гарадку. Мне яшчэ і года не было, як памерла маці ад тыфусу...

Мартын Андрэевіч моўчкі слухаў, не зводзячы вачэй з дзяўчыны. А яна была задаволена тым, што гэты чалавек так уважна слухае яе.

— Мяне аддалі ў дзіцячы дом,—гаварыла яна. Там я і вырасла. Там я скончыла медыцынскі тэхнікум. Я зусім нядаўна прыехала сюды. Мне вельмі захацелася пажыць тут на радзіме маіх бацькоў. Можа я знайду знаёмых, пачую што-небудзь пра іх. Вось і ўсё... Ад мамы засталася мне адна фатаграфічная картка... Што вы так пазіраеце на мяне?

Таня падняла вочы на Мартына Андрэевіча. Яго маршчыны каля брывей былі зведзены, нібы ён сіліўся нешта ўспомніць.

Ні то здзіўленне, ні то трывога былі на твары Мартына Андрэевіча. Ён глуха закашляўся і паваліўся на падушку. З незвычайнай шпаркасцю закружыліся ў галаве мыслі і гады—да болю шпарка, аж пацямнела ў вачах. Нешта даўняе-даўняе, знаёмае было ў гэтай дзяўчыне. Яе рысы напаміналі ўсё тое, што было дзевятнаццаць год назад. Яго мучыла раз-

гадка. Халодны пот выступіў на ілбу. У непрытомнасці ён шаптаў імя жанчыны.

Але гэтага ніхто не мог разабраць.

Калі ён супакоіўся, Таня асцярожна, на цыпачках адыйшла ад ложка...

Усю ноч ён трызніў. Перад ім кружылі віхры грамадзянскай вайны, пераліваласяя сіняя рака Нёман... Ён—малады камандзір эскадрона... Сястра Ульяна Бельская! Ён у белым палоне, яго вядуць расстрэльваць. Вось ён, ранены ўцякае. Бяжыць лесам, пераплывае Нёман... Дзе ты, Ульяна Бельская? Няма на старым месцы лазарэта. Кругом эшалоны смерці. У прасторах краіны загубілася імя жонкі Ульяны Бельскай. Доўгія гады пошукаў па розных кутках краіны—і нідзе не чутна імя Ульяны Бельскай—баявога таварыша. Няўжо гэта была яна? І вось праходзяць доўгія гады—ух якія бурныя гады!

Наступнай раніцой Мартыну Андрэевічу стала лягчэй. Усё што яму трызнілася, ён дрэнна памятаў...

Прышла Таня і прынесла кветкі, белыя, як снег, і сінія, як неба. Мартын Андрэевіч прыветна кіўнуў ёй галавой. Яна села на крэсла побач і, як заўсёды, прапанавала:

— Хочаце, я вам пачытаю вершы.

Яна раскрыла томік і пачала чытаць. І пасля слоў:

„Нас водила молодость
В сабельный поход.
Нас бросала молодость
На Кронштадтский лёд.
Боевые лошади
Уносили нас,
На широкой площади
Убивали нас...

— Досыць!—сказаў Мартын Андрэевіч. (Яго хваляванне заўважыла Таня).

— Што з вамі, Мартын Андрэевіч?—занепакоена спытала яна.— Вам нельга хвалявацца. Вы менш думайце пра свой завод. Вы, напэўна, многа думаеце аб сваёй сям'і—таксама пакіньце...

Смутная, ледзьве ўлоўная ўсмешка прапаўзла па яго вуснах.

— Калісьці даўно... дзевятнаццаць год таму назад у мяне была сям'я—жонка, дзіця павінна было нарадзіцца... Мая сям'я згубілася... Я многа гадоў шукаў —і не знайшоў. Напэўна, няма ў жывых...

— Значыць, вы зусім адзінокі?

— Як сказаць? У нашай краіне няма адзінокіх... У мяне ёсць завод, таварышы... Многа старых баявых таварышоў...

— Пасля нашай учарайшай гутаркі,—сказала Таня,—я ўсю ноч думала аб сваіх бацьках. Я глядзела на маміну фатаграфію і думала: якой яна была мужнай і ласкавай!

— На грамадзянскай вайне многа было мужных жанчын. Твая маці, напэўна, была слаўнай жанчынай. Як яе звалі?

— Ульяна Бельская.

— Што?—горача прашаптаў Мартын Андрэевіч, раптам узняўшыся на локаць.

— Яе звалі Ульянай Бельскай,—паўтарыла Таня...

— Што? Ульяна Бельская? Твая маці?—нібы ў кашмарным сне шаптаў Мартын Андрэевіч...

— Але,—пацвердзіла Таня.—Вось яе фатаграфія...—сказала яна, вымаючы фатаграфію.

Мартын Андрэевіч выхапіў з рук у Тані старэнькі партрэт жанчыны імя якой некалі было так знаёма.

Ён уважліва, вельмі ўважліва глядзеў. На здымку была стройная чорнавалосая жанчына ў белай касынцы...

Таня моўчкі наглядала за выразам твару Мартына Андрэевіча. Нешта невыказанае тварылася з ім. У яго, як у ліхаманцы, закалаціліся рукі і па жорсткай упалай шчацэ павольна пацякла сляза. І дзіўна было бачыць яе на гэтым суровым твары. Нешта яркае, агністае засвяцілася ў яго вачах.

Раптам ён узняўся і сеў на ложку, схапіў Таніны рукі і загаварыў, нібы заікаючыся:

— Мая... Ты—мая дачка... Мая слаўная Таня!

У першы момант Таня ад нечаканасці не ведала, што рабіць. Потым абняла за шыю і сваімі маладымі гарачымі вуснамі пацалавала яго ў скроні, кранутыя інеем суровай зімы:

— Ты—мой бацька! Ты жыў... жыў...—шаптала яна ў невыказанай радасці.—Мой даражэнькі тата. Колькі мы думалі адзін пра аднаго. Цяпер мы будзем заўсёды разам... Ты будзеш здаровым... Мы паедзем лячыць цябе на поўдзень... Там многа сонца... Там сіняе мора... У нас будзе многа-многа радасці...

Таня абгарнула бацькавы плечы халатам. Мартын Андрэевіч раптам устаў на ногі.

— Мне добра!—гучна сказаў ён.—Мне да вакна! Да сонца!

Абапіраючыся на плячо Тані, ён падышоў да шырокага, светлага вакна. Ён стаяў узрушаны, шчаслівы і глядзеў на многалюдную сонечную вуліцу. Свет быў такі цудоўны! Любоў, кіпучае жаданне жыць былі мацней за смерць.

За вакном ужо была сапраўдная дружная вясна. Па празрыстым, вымытым пасля навальніцы небе плылі сінія-сінія воблачкі. Цвілі сады ў белых пялёстках. Густа раслі травы і шчабяталі птушкі.

Жыццю былі адчынены насцеж дзверы. Яно бушавала ў жылах, яно біла жыватворчай крыніцай, яно ірвалася ў свет.

13/III 1935 г.

М. Тэйф

## НАВЕЛА ПРА ДВАЦЦАЦЬ ПЯЦЬ

Апошняя ноч адступае назад...
Увага, таварышы!
Слухай загад:
У бой у рашучы выходзіць атрад.

Агледзець папоны,
клінкі натачыць,
замораных коней
аўсом накарміць.

Хто хворы?
Два крокі наперад... стой!
Брава, таварышы, выйграем бой...
(не зварухнуўся напружаны строй).

Калі ў гарадах адзінаццаць прабіла—
заснуў эскадрон на палях урадлівых,
пасля, калі выбіў гадзіннік чатыры—
закрылася вока адно ў камандзіра...

Па голых палетках,
па спаленых трактах
гарачая скрозь
пачалася атака.

У небе аблокі,
як лёгкія крозы...
Чырвоныя часці
мінулі Бярозу.

А з Дону,
з Кубаншчыны
шырыцца крок...
Чырвоныя часці
мінаюць Дняпро.

Правей—
дваццаць пяць чалавек
з эскадрона
кальцом абняў вораг,
закованы ў броню.

І дваццаць пяць шабель
звіняць і грымяць:
ірвуцца бутэлькі
варожых гранат.

Таварышы,
там на гары кулямёт,
хто пойдзе адважны
заткнуць яму рот?

Сказаў камандзір:
— Хай адзін альбо двое...
І вецер махнуў
яго хворай рукою.

У рукі—гранату
і шаблю скарэй,
адзіная дзеўчына
вышла з карэ.

Конь скочыў,
пачуўшы дарогу да смерці,
але не замерла
дзяўчыніна сэрца.

І скора
прышла цішыня за пагоняй
і пот астываў
на замораных конях.

З варожых абойм—
на чале з камандзірам
на волю прарвалася...
**дваццаць чатыры.**

Па голых палетках
па спаленых трактах
гарачая зноўку
вядзецца атака.

У небе аблокі,
як лёгкія крозы...
Чырвоныя часці
мінулі Бярозу.

А з Дону
З Кубаншчыны...

. . . . . . . . .

Гэта не крык,
не рвуцца гранаты
Ї стэп не гарыць.

Ї шаблі не свішчуць,
не цокаюць коні...
Дзе? Дзе я стаю?
Ї каго я прыпомніў?

О, песня!
Ты ўрэзала ў памяць глыбока
імёны сяброў
дарагіх і далёкіх.

Чытач мой, паслухай
і словам „рамантык"
Ніколі мяне не заві
і не гань ты:

На „Лейсе",
дзе дружна маторы шумяць,
Я зноў іх успомніў
усіх дваццаць пяць.

Стаіць ля машын
дваццаць пяць комсамолак,
і тут узяла мая песня
свой голас.

Ї тут перад зрокам
выразна паўсталі
і стэпы,
і вораг у медзі і сталі.

Здаецца,
дзяўчына выходзіць з карэ,
схапіўшы гранату
і шаблю скарэй.

Ї голас грамовы чуваць камандзіра:
— Увага, таварышы!
Хутка чатыры,
паслухай загад баявы брыгадзіра.

У бой за апошнія восем працэнтаў
выходзім мы сёння, ўзнімаючы тэмпы.

Уважна-ж праверце
маторы, станкі,
пульсацыю сэрца
і ўзмахі рукі!

Хто хворы?
Хай руку падыме сваю!
Брава!
Мы станем, я слова даю,
лепшай брыгадай на цэлы Саюз.

Калі ў гарадах адзінаццаць прабіла—
заснула брыгада ў пакоях маўклівых,
пасля, калі выбіў гадзіннік чатыры—
закрылася вока адно ў брыгадзіра.

*З яўр. мовы пераклаў*
*ПЯТРО ГЛЕБКА*

Эдуард Самуйлёнак

# ПАГІБЕЛЬ ВОЎКА

(Раман *)

## ЧАСТКА II

У гэты ціхі ўрачысты час заходзіла сонца. Агромны дыск стаў цёмна-чырвоным і на фоне яго вырысоўваліся вершаліны дрэў далёкага лесу на гарызонце. Сонца знікала за лесам. Ясная зара ахапіла палову неба і згасала паволі, асвятляючы валавяна-шэрыянаграмаджэнні хмар. І адразу ўсё зменьвалася на зямлі.

Хмурнелі лясы, чарнелі дарогі, змрок заліваў палі і пазіралі ўжо з усходу першыя нясмелыя зоры. Яны глядзелі на адыход сонца. Ціш апаноўвала зямлю. Можна было чуць брэх сабак з самых дальніх вёсак. Можна было чуць заглушанае крактанне качак з глухіх лясных балот. Можна было чуць усе гукі і шолахі, што напаўняюць вясенні вечар.

Нарэшце, зара стала цмянай істужкай пагрознага, пурпуровага колеру. Яна выдавалася, як адценне далёкага гіганцкага пажару. Над палямі паплылі туманы... Прыйшла ноч і яна абяцала быць цёмнай.

— Ёрш тваю палку!—сказаў Васіль,—можна сказаць, уклеіліся.

Астатнія хлапцы прамаўчалі. Міхал папраўляў на конях хамуты, разблытваў скамлычаныя грывы. Мікола стаяў побач і ў яго быў выгляд чалавека, якому страшэнна баляць зубы.

Да дому было яшчэ шэсць з лішкам вёрст. Дарога была падобна да глыбокай канавы, запоўненай дрыгвой. Наперадзе, як чорная хмара, разлёгся лес,—Залугоўе. Воз, гружаны двума вялізнымі бярвеннямі, патрэбна было даставіць у калгас праз гэты лес, за шэсць кілометраў лясной каляіністай дарогі, якая ні чым не адрознівалася ад звычайнага балота.

— Трэба пакінуць бярвенні,—сказаў Мікола.—Пакінуць бярвенні пры дарозе, а самім падацца да дому. А заўтра, ці пасля заўтра прыехаць па іх. Бярвенні чорт не возьме, а тым часам падсохне дарога.

— А тым часам, відаць, мазгі ў цябе падсохнуць,—сказаў Міхал, аглядаючы пастромкі,—што, мы будзем два разы адну і тую работу рабіць? І тым часам, як ты кажаш, бярвенні могуць узяць не чэрці, а аднаасобнікі з таго аплеценага багна.

Так Міхал назваў вуліцу апошняй вёскі, з якой яны нядаўна выбраліся. Гэта была сапраўдная багна з плятнямі па бакох.

— Мы павінны давезці воз на месца,—закончыў Міхал і адышоў ад коняй.

---

*) Глядзі пачатак у 1 і 3 №№ „ПР“.

Мікола вылаяўся апошнімі словамі. Васіль, сагнуўшыся ў крук, вытрасаў на далонь рэшткі тытуню з вывернутай кішэні. Гэта патрабавала пільнасці, тытунь мог высыпацца не ў далонь, а ў гразь. Васіль заклапочана соп носам і не звярнуў на сутычку ніякай увагі. Ён прытым быў згодны з Міхалам.

Цямнела.

* * *

Харкевіч стаяў на прыступках ганка, чухаў густа абросшыя свае грудзі, стрымана пазяхаў і гаварыў такім голасам, як, у сне:

— У хаце маёй, добры чалавеча, так сказаць, поўна дзетак і ўсе хворанькія. І, гэтае...

Харкевіч жаласна ўздыхнуў, разявіў рот у нечалавечай спазме пазяхання і так стаяў з цэлую хвіліну. Калі ўсё скончылася, ён пачухаў яшчэ ў розных мясцох.

— ... і гэтае, чалавеча, жанчына мая застудзілася... Так сказаць, не хата ў мяне цяпер, а як-бы шпіталь... і пры тым ноч...

Харкевіч змоўк і прыглядаўся да таго, хто стаяў перад ганкам. Ён не разабраў ні рысаў твару чалавека, ні, як належыць, яго постаці: было надта цёмна. Усяго толькі мог даведацца Харкевіч, што чалавек росту даволі значнага. Гэта яшчэ з грэхам папалам можна было ўбачыць.

— Ліха яго ведае, хто такі,—падумаў Харкевіч, і, гулка пазяхнуўшы зноў, дакончыў:

— Не выпадае, мой пане... Там за лесам, калі па бальшаку ісці, вёсачка ёсць. Двароў гэтак сто дваццаць. От туды няхай, васпан, і скочыць. Дзве вярсты...

— Чатыры,—стлумленым голасам адказаў чалавек.—І я хворы. Я не дайду нават. Хаця-б на сене дзе ў вас адпачыў...

— Не выпадае, кажу (Харкевіч закашляўся), сена ні каліва. Прытым ведаеце, васпан, хутарскае жыццё—адны жывем...

Харкевіч уздыхнуў, паправіў кажух, які спаўзаў з пляча.

— Што нельга, то нельга. Дык вы, чалавеча, сцежачкай вось проста на бальшак. І гэтае... дай вам бог шчасліва... Толькі там каля плоту асцярожна. Сабака там!

Чалавек моўчкі адышоў ад ганку. Харкевіч стаяў і слухаў, як хліпае гразь пад нагамі чалавека. Сабака, які быў крыху суняўся, захліпнуўся цяпер хрыплым брэхам, забегаў, бразгаючы ланцугом.

Крокі аддаляліся, сціхалі. Чалавек ішоў сцяжынкай, цераз гарод да лесу.

Харкевіч зышоў з ганку, падышоў да сабачай будкі. Сабака ўчуў гаспадара. Ён круціўся пад нагамі, лашчыўся, скакаў на грудзі, памыкаўся лізнуць у твар. Гэта яму адзін раз удалося. Харкевіч схапіў яго за нашыйнік.

— Ваўкалак!—сказаў ён,—псінка ты!.. Добра пільнуй гаспадара.

Ён абмацаў справжку нашыйніка ў густой і жорсткай поўсці і адшпіліў яе.

— Кусі, Ваўкалак!—ціха сказаў Харкевіч.

Сабака раўнуў і адным скокам вылецеў з двара. Ён не брахаў. Ён моўчкі ляцеў па следу. Дрэнна таму, каго дагоніць зараз Ваўкалак!

Харкевіч слухаў. Ён учуў хрыплы брэх у лесе і здаволена ўсміхнуўся.

— Будзеш ведаць, як уначы цягацца па хутары!

Брэх паўтарыўся яшчэ і яшчэ. Разлёгся глухі ўскрык чалавека.

— Распяразвае!—падумаў Харкевіч.

Ён пастаяў яшчэ. Ваўкалак брахнуў са два разы. Потым сціхла.

Харкевіч узышоў на ганак.

Цяпер Ваўкалак будзе праз усю ноч бегаць навакол сядзібы. Цяпер ніхто не зверне з бальшака на сцежку і не падбярэцца пад хутар. Так заўсёды рабіў Харкевіч і аб тым, што пасля поўначы і да світання вакол яго ляснога хутара бродзіць Ваўкалак, вялікі і дзікі сабака,— ведалі ў ваколіцы ўсе.

Харкевіч прыслухаўся стоячы на ганку. Нічога не было чуваць. Ноч была ціхай і нават лес не шумеў.

„Мусіць пару разоў ён яго скубянуў"—пераканана падумаў Харкевіч і ўвайшоў у хату.

Ён запаліў сярнічку яшчэ ў сенях, адшукаў на стале газоўку і, засцерагаючы далоняй зыбкі, маленькі яе агеньчык, увайшоў у пакой, які называўся святліцай. У святліцы было чыста, стол быў засланы белым абрусам, на сценах, аздобленых шпалерамі, было шмат фотаздымкаў у рамках і без іх; вісела некалькі малюнкаў з відамі палявання, акрамя таго сцены былі ўпрыгожаны гірляндамі з папяровых featnakolernых кветак. Гэта была даўнейшая работа дачкі, Соні. Яе-ж клопатамі былі ўзрошчаны фікусы, герань і іншая зяляніна, што развешана па вокнах і паўз сцены.

Адным словам, было чыста і ўтульна ў святліцы Харкевіча.

Ён пастаяў крыху пры парозе, прыслухаўся да соннага дыхання жонкі, якая спала ў бакоўцы, паглядзеў у чысты кут, дзе раней віселі абразы, а цяпер знаходзіліся партрэты бальшэвіцкіх правадыроў, і ўздыхнуў. Соня была комсамолкай, а ён быў совецкім служачым. І ў першым было больш бяды, чым у другім. Ён—ляснік. Ён ахоўвае лес, атрымлівае грошы, апрацоўвае зямлю свайго хутара, займаецца хатнімі і іншымі справамі, а Соня не хацела слухаць бацькавых парад, яна паехала ў горад, пакінула бацькоў, яна хоча падавацца ў настаўніцы. Яно то можна было-б навесці і свае парадкі, але Адольф Харкевіч у даных умовах прывык цярпець. Ён дваццаць гадоў верай і праўдай служыў пану генералу графу Міхорскаму, а такіх людзей настолькі цяпер не паважаюць, што Харкевіч трапіў на пасаду лясніка толькі дзякуючы выключна спрыяючым абставінам. Але тут усё такі Харкевіч паспрабуе зрабіць па свойму.

Ён вышаў з святліцы, ступаючы ціха, каб не чулі жонка з дачкой. Ён зноў прайшоў з газнічкай праз сені і адкрыў дзверы ў каморку. У гэтай цеснай каморцы на дзяжы, пастаўленай дагары дном, стаяла гэткая-ж газоўка, якую трымаў у руках Харкевіч. Побач з газоўкай на дзежцы стаяла бутэлька з светлай вадкасцю, побач на паперы ляжалі кавалкі хлеба і сала.

Над дзяжой, нахілены ў задуме, сядзеў чалавек. Ён хутка ўстаў, як толькі ў каморку ўвайшоў Харкевіч.

— Вы надта доўга!—сказаў ён нецярпліва.—Вы павінны ведаць, што...

— Тут нейкага прынесла,—вінавата адказаў Харкевіч,—ледзве адбіўся.

Чалавек з вялікім неспакоем глядзеў на яго.

— У маім доме, пане,—заспакойваючы сказаў Харкевіч,—і паставіў газоўку на дзяжу.—У маім доме вы можаце пакуль што не баяцца нічога.

Ён пасунуў да дзяжы скрынку і сеў на яе. Чалавек зрабіў тое самае. Яны выпілі па шклянцы гарэлкі і, некаторы час, моўчкі елі.

Потым пачалася гутарка. Яна выражалася ў тым, што чалавек нешта горача даводзіў, а Харкевіч маўклівым рухам галавы адмаўляў ледзь не кожнае яго слова.

Размова цягнулася доўга і, відаць, надакучыла гасцю. Ён устаў і выпрастаўся на ўвесь свой рост. Гэта быў зграбны мужчына гадоў пад трыццаць пяць. Ён меў вайсковую выпраўку.

— Я прашу памятаць, пане Харкевіч,—сказаў ён з выразным адценнем гневу ў голасе,—тое прашу вас памятаць, што ад нас вы, бадай, у большай ступені залежыце, чым ад іх. Але калі вы ставіце пытанне пакуль што яшчэ не так, як бы нам таго хацелася, то заўважце, што прымушаць вас да змены вашага рашэння мы не будзем. Мы проста пачакаем. Зразумелі?

Ён глядзеў на Харкевіча ва ўпор, чакаючы адказу. Харкевіч пацісnuў плячыма і адвёў вочы ў бок.

Чалавек выняў з кішэні старой, палатанай світкі, бліскучы, дарагі гадзіннік, глянуў на яго і сказаў:

— Мне час ісці.

Ён вышаў выпрастаны, не асабліва асцярожна ступаючы. Харкевіч вельмі непакоіўся аж да самай тэй пары, пакуль не вывеў яго на лясную дарожку за балота. Чалавек не падаў яму рукі і хутка знік у цемры. Але на Харкевіча гэта дрэнна не ўздзейнічала. Ён быў рады, што збавіўся ад гасця.

І толькі, калі выбраўся да хутара, ён зноў адчуў неспакой і трывогу. Колькі ён не клікаў і не свістаў, Ваўкалак не адзываўся.

Гэтага ніколі яшчэ не здаралася.

* *
*

У насцярожанай цішы лесу разлёгся шум. Хліпала гразь у каляінах дарогі. Хвоі стаялі шчыльна, панурыя і маўклівыя, з-пад іх плыў чорны змрок, пакрываў дарогу, перапаўзаў цераз яе і ішоў нізінай далей у рэдкі бярэзнік. На дарозе было зусім цёмна, больш цёмна чым высока над лесам, нават больш чым па другі бок дарогі, дзе ціхім натоўпам стаялі рослыя кляны, разветлыя бярозы, трапяткі асіннік. Таму так было, што па адзін бок дарогі быў хваёвы лес, па другі змешаны.

І прытым, хвоі блізка прысунуліся да дарогі. У цішы і цемры дрымотай ахутанага лесу ішло рэха:

— Н-но-о! Давай-дава-а-й! Яшчэ раз! Н-но-о-о... малыя!

Плёск гразі ў каляінах, грукат калёс па карэннях, задыханыя галасы людзей і стомленае сапенне коняй, набліжаліся. Рэха падхоплівала шум, перарабляла яго па свойму сціраючы зыкі чалавечай мовы, яно ішло, каціліся гулам у змрочных нетрах лесу таемнае і дзікае.

І раптам усё сціхла.

Яшчэ больш, здавалася, сталі насцярожанымі хвоі і сціхлі шолахі ў шчыльнай сям'і клёнаў і бяроз. І тады ў тры галасы, як па камандзе, разлегліся па лесе вельмі моцныя словы.

— Дышла напалам!—сказаў Міхал.

— Лопнула?

— Калі напалам, то зразумелая рэч, што лопнула!

— Ці лопнула, ці трэснула, адна радасць, ехаць далей няма як...

Мікола ўзняў галаву і паглядзеў угору ў чорнае неба.

Нейкая буйная, халодная кропля шчоўкнула Міколу па носе.

— Сволачы вы!—зазлавана сказаў Мікола,—не паслухалі мяне, от цяпер тут паплёскаешся... дурні! Не свішчы ты, Васька! Дасвісталіся ўжо...

— А ты не плач,—сказаў Міхал.—Зараз ссячэм клянінку падыходзячую і будзе дышла. Давай, Васіль, сякеру.

— Сякеру? Яна ў Міколы была. Ён яе нёс.

— Мікола! Дзе сякера дзелася?

— Сякера?
— Ты што, глухі?
Мікола глухім не быў. Ён толькі зараз успомніў пра сякеру і ведаў, дзе яна. Сякера засталася пад плотам у тэй вёсцы, дзе яны былі ўвязлі. Мікола выцягнуў яе з-за пояса, каб ямчэй працаваць калом і паставіў яе каля плятня, а ўзяць забыўся. Там яна і засталася. І аб гэтым гаварыць было нельга.
— Н-на возе сякера...—няўпэўнена сказаў Мікола.
— Ну, то давай, калі на ваве.
Мікола нерашуча накіраваўся да воза. Ён добра ведаў, што ніякай сякеры там няма і быць не можа, але невядома для чаго тыцкаў пальцамі пад вяроўкі, шукаў.
— Ты хутка там?
— Нешта... як бы няма...
— Васіль, ідзі ты пашукай!
Васіль падышоў да воза.
— Куды ты яе паклаў?
— От тут?
— І няма?
— І няма.
Васіль хутка абышоў увесь воз, абмацаў вяроўкі, пашукаў у шчылінах паміж бярвеннямі.
— Гэтае боўдзіла згубіў сякеру,—пераканана сказаў ён.—Яе тут няма.
— Сам ты боўдзіла! Я паклаў яе на воз, а яна, мабыць, звалілася. Што я ў зубах павінен быў яе несці?
— Не ў зубах, а за поясам.
Міхал, які распрагаў коняй, спакойна сказаў:
— Ты хлусіш, Мікола. Сякера засталася пад плотам у Барсучыне. Ты яе забыўся ўзяць.
— То чаму ты не ўзяў, калі я забыўся?
— Я забыўся таксама і прыпомніў толькі цяпер. Але ты вінаваты больш, бо табе яна была даручана.
— Чорт вас усіх бяры і з сякерай.
— Васіль,—сказаў Міхал,—хадзі трымай коняй.
Васіль адвёў коняй у бок, Міхал адкінуў прэч абломак дышла.
— Мы недалёка ад Харкевічавага хутара. Я пайду туды па сякеру, а вы чакайце. Голымі рукамі нічога не зробіш!
І ён адразу-ж знік, як-бы раствранеў у змроку.
Стала ціха. Васіль стаяў паміж двумя коньмі. Стомленыя, яны ўздыхалі глыбока, час ад часу то адзін, то другі ацірайся мордай аб Васілёву вопратку. Васіль пяшчотна гладзіў іх. Ён шкадаваў і любіў гэтых цярплівых і дужых работнікаў. І адзін з іх, што стаяў з правага боку, як-бы разумеў гэта. Конь шумна і цёпла дыхнуў у твар Васілю і паклаў морду на яго плячо. Васіль абняў другога за шыю. І, стоячы так, ён зразумеў, як чула рэагуе гэтая спакойная жывёла на кожны заглушаны гук, на кожны шолах у лесе. Коні настаўлялі вушы калі даносіўся слабы трэск якога нібы дробнага, сухога сучка, што падаў з дрэва скінуты лёгкім подыхам ветру. Васіль адчуў, як уздрыгнулі пад скурай гэтых дужых істот тонкія ніці нерваў, калі недзе ў глыбіні леса разлёгся непрыемны і тужлівы крык, падобны да візгучага рогату. І адзін раз, калі Васіль наогул нічога не чуў, абодвы кані, разам, як адзін глыбока ўцягнулі ў сябе паветра і затаілі дыханне. Так яны стаялі доўга і потым разам-жа аблегчана ўздыхнулі. Трывога была знята. Можа недзе за балотам па ўзгор'і перайшоў воўк. Аб гэтым ведалі толькі

яны—двое коняй. Яны стаялі абапал чалавека і пільна слухалі і насцярожана глядзелі ў змрок начы. Яны чулі і бачылі тое, чаго не мог чуць і бачыць чалавек.

— Дзе ты, Мікола?—спытаў Васіль.

— Тут!—адказаў Мікола.—На бервяне сяджу, каб яно згарэла.

— Хадзі да мяне і паслухай што коні вырабляюць.

— А што яны такое вырабляюць?

— А вось убачыш.

— Каб яны паздыхалі, падлы,—адказаў Мікола.—Торбы гэтыя пузатыя.

— Завошта ты на іх гэтак узлаваўся? Добрыя коні.

— Карысць мне з чужых коняй цешыцца.

— Як гэта з чужых? Чаму яны чужыя?!

— Таму што не мае. Гэта калгасныя коні.

— Ты звар'яцеў? Што ты гаворыш?

— Затое-ж ты вельмі набраўся розуму!

Васіль не адказаў. Ён моцна абняў коняй за шыі, як-бы жадаючы абараніць іх ад нейкай крыўды, хаця гэтую крыўду адчуваў сам.

— Слухай, Мікола!—пачакаўшы, сказаў Васіль.—Мне даўно твае такія жарты не падабаюцца. Я гэтыя штучкі не ўпяршыню ад цябе чую. Я пастаўлю пытанне на бюро ячэйкі. Ты-ж комсамолец!.. Сорам!..

— Лепш не буду ў комсамоле. Але-ж за тое не буду і па лесе па начы круціцца, ды на другіх рабіць. Сам для сябе жыць хочу...

— Як гэта на другіх рабіць?

— А от так, як сёння. Калі гэтак будзе і далей, то чорт яго бяры таго і калгасу.

— А куды-ж ты дзенешся гэткі разумны?

— Не твая справа. Можа ў горад паеду.

— А навошта ты гэткі ў горадзе? Каму такія дурні там патрэбны?

— А гэта мы пабачым ужо.

— Пабачым! Выганім з комсамолу і з калгасу, то адразу ўсім будзе відаць, што ты за птушка.

— Нічога не ўбачым. Мой бацька калгаснік, а брат партызан, расстраляны палякамі. Мне ўсюды будзе дарога.

— Вось што, Мікола,—сказаў Васіль, як мага больш спакойна.— Не трывож ты братніх касцей! Калі мы цябе прымалі ў комсамол, гаварылі нам, што ты займаўся конакрадствам, але мы веры гэтаму не далі. Як відаць цяпер, праўда гэта. За такія справы твой родны брат застрэліў бы цябе, як сабаку. І ты брата свайго не чапай, таму што...

І раптам Васіль змоўк. Ён адчуў, што Мікола знаходзіцца зусім блізка ад яго, што ён злез з воза і стаіць тут побач з ім. Васіль стараўся ўбачыць яго постаць у гэтай густой цемры і не бачыў нічога.

Стала ціха.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На сцежцы, недалёка ад Харкевічавага хутара Міхал спыніўся. Наперадзе нехта ішоў. Крокі набліжаліся. Трышчала галлё, значыць, чалавек ішоў насустрэч. Міхал хутка, нячутна адступіў ад сцежкі ў бок. Трэба быць асцярожным пры сустрэчы з чалавекам у лесе, праз які праходзіць дзяржаўная мяжа.

Міхась стаяў ціха. Чалавек набліжаўся і хутка параўняўся з ім.

Разлёгся глухі надрыўны кашаль. Чалавек, стоячы на месцы, кашляў доўга, напружана і Міхал здагадаўся, што гэта стары. Ён сказаў, як мага, больш спакойным голасам:

— Хто тут?

Кашаль спыніўся. Чалавек цяжка дыхаў. Потым стлумлены голас адказаў:

— Людзі...

Міхал запаліў сярнічку. Дрыготлівы агеньчык асвятліў высокую постаць старога ў світцы, у кучомцы, з торбай за плячыма. Чалавек стаяў, абапёршыся плячыма аб дрэва. У яго быў абраслы сівыміваласамі змучаны твар. Агеньчык сярнічкі згас, але Міхал паспеў згледзіць у руках старога сякеру. І ён адразу адскочыў у бок, як толькі абтухла сярнічка.

— Навошта вам сякера?

— Хлеб здабываць...—адказаў чалавек,—і для абароны. Я стары і хворы, а ўсякіх гадаў поўна на свеце. Дык я ім не падамся... чорта іх матары...

— Вар'ят!—жахнуўся Міхал і хутка адступіў яшчэ далей.

— Вам няма чаго, хлапчына, мяне баяцца,—гаварыў далей стары, як-бы ўгадаўшы думкі Міхала.—Я цесляр, зваць мяне Мірон Бокуць, іду я са свету на сваю старану. Застудзіўся, мусіць, ці што, зайшоў на гэты хутар, а тут мяне не толькі што не пусцілі, а, па звычаю, і пакпіць з мяне гаспадарам захацелася... Вось як...

Міхалу стала крыху сорамна. З другога боку ён падумаў аб тым, што можна выкарыстаць сякеру старога і не патрэбна будзе ісці да Харкевіча, што само па сабе няпрыемна.

— У нас там на дарозе выпадак здарыўся,—сказаў Міхал,—зламалася дышла, а сякеры ў нас няма. Можа-б вы, дзядзька, пазычылі нам сякеры? А мы вас давязем да начлегу.

— Сякеры? Не шкода...

— Дык можа пойдзем, дзядзька... Мірон. Там хлапцы чакаюць.

— Трэба-ж неяк ісці. Хаця і цяжка. І я не ведаю куды.

— Трымайцеся каля мяне.

Міхал запаліў сярнічку. Мірон зрабіў да яго крок і пахіснуўся так, што Міхал ледзь паспеў яго падтрымаць. Стары застагнаў. Ён задыхаўся.

— Паволі трэба,—сказаў Міхал, трымаючы яго пад локаць.

Яны стаялі на тым-жа месцы. Навокал была цемра і цішыня начнога леса. У гэтай цішыні нечакана гучным здаўся крык пеўня на Харкевічавым хутары.

— Бок страшэнна баліць...—прахрыпеў Мірон,—і галава. Раптам як сцісне... проста смерць прыходзіць.

Яны маўчалі значна часу. Потым Мірон сказаў больш моцным голасам:

— То, мусіць, пойдзем, хлапчына... Дзякаваць табе. Каб не ты— лёг-бы я тут...

Міхал, трымаючы Мірона пад локаць, павёў яго, вобмацкам угадваючы дарожку.

Часта яны натыкаліся на дрэвы і пні. Тады Мірон чакаў, а Міхал хадзіў навокал, адшукваючы сцежку. За ўсё сваё жыццё Міхал не памятае гэткай цёмнай ночы. Мірону-ж здавалася, што яны ніколі не дабяруцца да бальшака. На самой-жа справе было недалёка. Праз некалькі часу недзе разлегліся галасы людзей. Бальшак быў блізка. Прайшоўшы некалькі крокаў, можна было адрозніць словы і зразумець тое, што гаварылі там наперадзе, на дарозе.

Міхал спыніўся і стрымаў Мірона за рукаў.

— Чакайце,—сказаў ён,— мае хлапцы, здаецца, спрачаюцца.

Яны прыслухаліся.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Калі ты яшчэ адно слова скажаш, я сам цябе, як сабаку заб'ю!— сказаў задыхаючыся Мікола.

У адказ узняўся ўсхваляваны звонкі голас Васіля.

— Я цябе не баюся! Я толькі тое хачу яшчэ сказаць, што ты гэта пісаў заявы тым, якія з калгасу выходзілі!

— Пляваць я на цябе хацеў! І на ўсіх вас!

— Не крычы! Мы цябе выкінем з комсамолу, як карослівае шчанё.

— Выкідайце. Шчасце мне вялікае на другіх працаваць! Знойдуцца дурні, якія на мяне самога папрацуюць.

— Што гэта ты гаворыш?—разгублена спытаў яго Васіль.—Што гэта ты гаворыш, падумай, Мікола?

Мікола адчуў і зразумеў разгубленасць Васіля. Ён адказаў спакойна, з выразным здзекам:

— Тое гавару, што напрыкрылі мне вашы гэтыя сходы і розныя там суботнікі і ўдарнікі. Я хачу жыць сам па сабе, каб вас усіх халера перадушыла! Я сам знайду сваю дарогу! Чуў? Брат мой дурнем быў і ляжыць за тое ў зямлі, а бацька, падла старое, яшчэ гэтым цешыцца...

— Ты звер!—крыкнуў Васіль на ўвесь голас.—Зваруга ты!

— Васька!—з глухой пагрозай сказаў Мікола.—Васька, маўчы! Кол у мяне ў руках і я табе...

І змоўк.

— Паспрабуй толькі—разлёгся Міхалаў моцны голас.—Ах, ты, гад!

Мікола вылаяўся. Васіль чуў, як пабрыў ён па гразі некуды ў бок.

— Дзе ты, Васіль?—усхвалявана спытаў Міхал.

— Тут, з коньмі.

— Што ў вас вышла?

— Вышла, брат!

Міхал падышоў бліжэй. Ен намацаў рукой шыю каня і дабраўся да Васіля.

— Потым пагаворым,—ціха сказаў ён.—Сякеру я здабыў, тут чалавека сустрэў пад хутарам. Ён чакае нас за канавай. Прывяжы коняй да воза, а сам хадзі за мной. Трэба распаліць агонь.

Хутка ў лесе ўзбоч дарогі ўспыхнуў агонь. Ён вырастаў паступова і паступова адыходзіла цемень. На дарозе ўжо можна было бачыць панурыя сілуэты коняй, што нярухома стаялі каля бярвенняў. Воз правым бокам глыбока ўгруз у каляіну.

Каля агня завіхаліся хлапцы. Мірон сядзеў на пні побач, грэў рукі, яго твар выдаваўся зусім белым у трапяткім святле ад вогнішча. Ён паглядаў час-ад-часу на хлопцаў. Міхал быў сярэдняга росту, надзвычайна шырокаплечы, спрытны. Рухі яго былі спакойнымі, упэўненымі, крыху маруднымі. Васіль быў таксама сярэдняга росту, але больш рухавы. Вось і ўсё, што заўважыў Мірон. Ён заўсёды звяртаў увагу толькі на тыя якасці чалавека, якія сведчаць аб яго працаздольнасці і вынослівасці. Розум, па поглядах Мірона, можна было выявіць толькі праз значны час. Не ўсякі чалавек адразу пакажа наколькі ў яго стае розуму.

Размовы хлапцоў ён не слухаў. Ён грэўся каля агня і яму здавалася, што да сэрца прылівае цяпло, сціхае боль у грудзях і галаве і адыходзіць прэч туга адзіноцтва. Ён толькі раз загаварыў да хлапцоў: спытаў дзе дзеўся іх таварыш.

— Не ведаем,—адказаў Міхал.

— Гад гэта, не таварыш,—сказаў другі.

Мірон здаволіўся гэтым адказам. Нічога дзіўнога, калі маладыя паспрачаюцца паміж сабой. І ён не слухаў іх ажыўленай і ўсхваляванай гутаркі.

Хлапцы ўвесь час насілі галлё. Агонь стаў вялікім.

— Ну, цяпер, трэба пашукаць клянінку,—сказаў Міхал, і выбраў з вогнішча буйнейшую галавешку.—Бяры, Васіль, сякеру. Там пад пнём!

Васіль падышоў да пня, на якім сядзеў стары. Мірон не варухнуўся. Васіль узяў сякеру, аглядзеў яе і раптам, амаль бегам, накіраваўся ўслед Міхалу, які пайшоў ужо ў лес. Васіль адразу наскочыў на дрэва, потым спатыкнуўся аб пень. Пасля вогнішча зусім нічога нельга было ўбачыць, хаця ў лесе святлела. Перайшло за поўнач.

— Міхал!—устрывожана выгукнуў Васіль.

Агоньчык, што мільгаў уперадзе, спыніўся, потым пачаў набліжацца. Міхал, размахваючы галавешкай, ішоў насустрач Васілю.

— Што там?!—спытаў ён.—Знайшоў клянінку.

— Міхал!—са страхам у голасе сказаў Васіль.—Паглядзі, Міхал... уся... як ёсць сякера ў крыві.

Міхал узяў сякеру, паднёс да галавешкі, аглядзеў яе. Абух быў аблеплены нечым клейкім, густым, цёмна-чырвонага колеру.

— Ну, і справы,—сказаў Міхал.—Ну, і ночка-ж вышла нам з табой! Ён памахаў галавешкай, каб не гасла, потым падаў яе Васілю.

— Хадзем хутчэй, можа ён ужо сеў на каторага каня.

Яны хутка пайшлі да агня і здалёк яшчэ ўбачылі, што старога на пні няма. Адзінокае вогнішча асвятляла маленькую прыдарожную паляну, чырвоныя водбліскі агня дрыжэлі ў чорным начным паветры.

Хлапцы кінуліся бегчы. Васіль спатыкнуўся, выпусціў з рук галавешку, няўдала схапіў яе з зямлі і апёк рукі. Калі выбраўся на паляну, Міхал быў ужо там. Ён стаяў каля пня і разглядаў нешта на зямлі.

— Тут ён ляжыць!—сказаў Міхал.—Зусім, відаць, хворы... з пня зваліўся.

Васіль убачыў: стары ляжаў на баку тварам уніз. Адна рука была падкурчана пад тулава, другая, выцягнутая на зямлі, трымала завязкі скуранай торбы, што знаходзілася побач. Шапкі не было, яна адкацілася прэч, калі чалавек упаў з пня. Міхал нахіліўся над ляжачым і зазірнуў яму ў твар.

— Зусім хворы,—шэптам паўтарыў ён,—зусім. Насячы хутчэй хваёвых лапак, пакладзем яго пры агні. Тфу, паскудства! Мурашкі!

І ён сваей шапкай змёў з сіня-бледнага твару хворага цэлую чародку дробных мурашак.

На ворах пахучых хваёвых лапак, пры самым вогнішчы хлапцы паклалі хворага і накрылі яго сваімі світкамі.

— Лёгкі ён,—сказаў Васіль.—Такога вялікага росту, здаваўся грузным, а лёгкі, як дзіцянё.

— Старыя людзі заўсёды лёгкія,—ціха адказаў Міхал.—Сокі з іх павысыхалі. Спрацуецца чалавек праз сваё жыццё.

Мірон ляжаў ціха, дыхаў амаль нячутна. Хлапцы ўсё яшчэ стаялі над ім. Было няпрыемна адразу ісці ў чорны лес за мяжу святла. Ад гэтай цішы і цемры наўкол і ад гэтага распрасцёртага на зямлі нярухомага цела веяла страхам.

— Калі я сустрэў яго там у лесе,—шэптам сказаў Міхал,—то ён гаварыў, што сякера яму для абароны патрэбна.—Гадаў, кажа, поўна па свеце ходзіць... Я думаю—гэта вар'ят. Чаму сякера ў крыві? Забіў каго?

Васіль уздыхнуў, аглянуўся на дарогу і нічога не сказаў.

Міхал узяў сякеру, аглядзеў яе яшчэ, потым нахіліўся, выскубнуў жменю моху і пачаў старанна аціраць кроў. Васіль адвярнуўся. Было страшна ісці ў лес.

— Мы яго завязем у калгас,—сказаў Міхал. І там аб усім даведаемся. Пойдзем па кляніну.

І першым адышоў ад агню.

Кляніну яны знайшлі зусім недалёка, на самай ускраіне паляны. Міхал абсек навокал дробны хмызняк, каб не перашкаджаў рабоце. Потым сказаў ціхенька Васілю, увесь час аглядаючы сякеру, хаця плямы крыві сцёр начыста яшчэ пры агні:

— Як выпрагалі коняй, чуў я сабачы брэх на Харкевічавым хутары. І сустрэў я гэтага чалавека на сцяжыне ад хутара. Значыць, ён там быў. Можа нарабіў чаго? Глядзі галавешка твая загасла.

Васіль махаў галавешкай, яна стварала вогненнае кола, сыпаліся іскры. Міхал падумаў яшчэ і скончыў.

— Заўтра выявіцца, што сталася з Харкевічам.

Міхал спрытна размахнуўся важкай сякерай і лязо глыбока ўпілася ў ствол маладой кляніны. Удар быў глухі і моцны. І адразу выявілася, што з Харкевічам нічога асаблівага не здарылася. Ён вынырнуў з-пад хвойкі перш, чым Міхал паспеў секануць яшчэ раз і, атрасаючы з калматага каўняра, хваёвыя іголкі і іншае смецце, адразу загаварыў:

— Непарадкі, непарадкі, хлапцы! Іш вы, якія шустрыя! Уначы пад лясніковым хутарам шпэціць?! Не, мае шаноўныя, Харкевіч не праспіць! Бо лясок—гэта савецкі лясок, пільнаваць яго трэба! Хе, хе!

Ён выцягнуў з-за пазухі кніжку ў цыратовай вокладцы і пляснуў ёй па далоні.

— Пратакольчык злепім.

І дробны твар Харкевіча, і яго клінаватая бародка ўздрыгнулі ўсмешкай. Ён стаяў супроць хлапцоў у чырвоным асвятленні вогнішча. Усміхаючыся, ён глянуў на паляну, убачыў нярухомую постаць чалавека, што ляжаў пры агні і раптам усмешка збегла з яго твару.

Васілёва галавешка згасла і курылася з'едліва дымам. Васіль кінуў яе прэч. Яна праляцела, атрасаючы іскры, ударылася аб дрэва і зашыпела на зямлі. Міхал стаяў моўчкі і глядзеў на Харкевіча. Ён бачыў, што ляснік надзвычайна занепакоены. Харкевіч падаўся ўсім тулавам наперад і яго востры нос, як-бы нюхаў паветра. Ён зірнуў на Міхала, заўважыў яго насцярожаны погляд і ціха сказаў:

— І агеньчык... агеньчык распалілі ў лесе пры самай дарозе, чэрці вы! А хто там ляжыць пры агні?

— Чалавек,—суха адказаў Міхал.—Чалавек там ляжыць. Хворы.

— А чым ён, так сказаць, хворы?

— Я-ж, хіба не доктар.

Міхал адступіў на крок і намерыўся сякерай. Але Харкевіч зноў пляснуў кніжкай па далоні.

— Нельга! Не дам лес пустошыць!

Міхал глянуў на яго.

— Мы з калгасу імя Сталіна,—не зменьваючы позы, адказаў ён.— Вязем бярвенне на будаўніцтва. У нас зламалася дышла, трэба зрабіць новае. Воз мы ў лесе не пакінем .Мы возьмем гэтую клянінку, а вы сабе можаце ляпіць пратакольчык.

І ён узяўся за работу ўсім сваім выглядам паказваючы, што ён не хоча далей ні слухаць Харкевіча, ні гаварыць з ім. Харкевіч паклаў кніжку за пазуху.

— Калі адмаўляецеся, то і гэта ў пратакол упішам,—сказаў ён.

Потым паправіў пояс і дадаў, як-бы пра сябе:

— Пайсці пры агні пасядзець, ці што?

Ён агледнуўся на хлапцоў, як-бы чакаючы дазволу, потым нерашуча ступіў наперад і вышаў на паляну.

— Ідзі з ім,—шэптам сказаў Міхал,—і пра сякеру ні слова. Цяпер я здаецца разумею...

Васіль пашоў на паляну.

Харкевіч ужо нахіліўся над Міронам і разглядаў яго твар.

— А ран няма на ім ніякіх?—спытаў ён у Васіля?—Можа, чаго сцеражы бог, звер яго сустрэў, ды абгрыз? У няпрытомнасці ён.

Васіль нічога не адказаў, папраўляючы галавешкі на вогнішчы.

Харкевіч уздыхнуў, адышоў ад Мірона, прысеў пры агні і, грэючы рукі, час-ад-часу кідаў хуткія позіркі на нярухомае цела хворага.

Васіль маўчаў.

Падалі гулкія ўдары сякеры. Па лесе ішло рэха. Потым разлёгся трэск, зашалясцела галлё.

Міхал ссек кляніну.

* * *

Такім чынам у гэтую ноч не давялося спаць Харкевічу. Ён правёў свайго гасця і вярнуўся на хутар. Хадзіў навокал сядзібы і з непакоем клікаў Воўкалака. Але вялізны калматы звер на гэты раз дрэнна вартаваў гаспадара. Мабыць, ён збег куды-небудзь у вёску, ці блукае па лесе. Харкевіч стаміўся ад непакою і прыйшоў у хату. Але ў той самы момант, калі адступілі ад яго ўсе страхі і няпрыемнасці і сон авалодаў ім, некалькі ціхіх udараў у шыбу скалыхнулі млявую імглу нейкіх вобразаў, што заснаваліся ў соннай галаве Адольфа Харкевіча.

Ён ускочыў і сеў на ложку. Стук паўтарыўся глухі, трывожны. Тры разы адзін за другім. Харкевічу не хапіла паветра. Ён паспрабаваў уздыхнуць і не здолеў. Нейкі камяк у горле перашкаджаў. Тады ён паспрабаваў гэты камяк глынуць і зноў нічога не вышла.

Цмяныя плямы вокнаў глядзелі, як вочы сляпога.

І зноў:

Тук-тук-тук...

Харкевіч устаў і асцярожна прысунуўся да вакна. Цяпер дыхаў ён аж занадта і стараўся спыніць дыханне. Ён асцярожна пазіраў у акно і баяўся ўбачыць тое, што магло там быць.

Тук-тук-тук...

Харкевіч зразумеў: стукаюць у сенях у акенца, якое ад ганку. Ён ціха падыйшоў да дзвярэй. Калі адчыняў іх, яны рыпнулі. Па скуры Харкевіча сыпанулі халодныя дрыжыкі.

— Божа мой, божа... што можа здарыцца!

Ён адразу ўбачыў, што на ганку каля акна нехта стаіць. За мутным шклом варушылася нейкая неакрэсленая пляма, засланяючы сабой усё акно. Нельга было пазнаць: адзін чалавек стаіць на ганку ці іх там некалькі. Гэта было яшчэ горш.

І зноў стук. На гэты раз гулкі, выразны, нецярплівы...

Харкевіч яшчэ раз паспрабаваў праглынуць камяк і хрыпла спытаў:

— Хто там?

На ганку нешта сказалі. Што,—нельга было разабраць.

— Хто?—спытаў Харкевіч зноў.

Зноў нейкае незразумелае бурчанне.

Тады Харкевіч успомніў, што ў вакне ёсць маленькая фортка. І як толькі адчыніў яе, разам з прытокам свежага паветра, у душныя сені ўплыў ціхі голас:

— Дзядзька Адольф, адчыні!

Харкевіч падышоў да дзвярэй, адсунуў абедзве засаўкі, адчыніў дзверы і тады ўжо здолеў праглынуць пракляты камяк.

У сені ўвайшоў чалавек і ціха сказаў:

— Калгасныя хлапцы пры бальшаку хочуць кляніну ссекчы, дзядзька Адольф...

Гэта быў Мікола.

Так і не давялося Харкевічу спаць у гэтую ноч.

Цяпер, пакуль ён сядзеў пры агні на паляне, Мікола стаяў каля акна ў Харкевічавай святліцы.

Ён знашоў на камодзе скрынку з тытунём-самасейкай і курыў. Кожны раз, калі ён зацягваўся,—бачыў свой уласны твар на цёмнай шыбе. Ён з'яўляўся на адзін момант, шырокалобы, і знікаў з чорнага шкла. Чырвоны агеньчык цыгаркі свяціўся як вугалёк, згасаў і цмяна маячыў на чорным фоне шкла і Міколу здавалася, што ён глядзіць на далёкае, далёкае вогнішча, якое згасае пакрыху недзе на полі і слаба ўспыхвае ад парываў ветру. Мікола думаў аб усім, што адбылося да сёнешняга дня і, нарэшце, прывяло яго на хутар Харкевіча ў гэтую ноч.

У глухой цішы мерна пастукваў і паскрыпваў старэнькі гадзіннік. Мікола глыбока зацягваўся дымам цыгаркі і яму хацелася даўжэй затрымаць свой вобраз на чорным шкле. Але ён з'яўляўся неясны, невыразны і хутка знікаў. Нарэшце Мікола апаліў пальцы і кінуў акурак у вазон на падваконніку.

За акном была ноч, у начы быў лес і там, пры дарозе, хлапцы-комсамольцы Міхал і Васіль, там быў ляснік Харкевіч і яшчэ нейкі незнаёмы чалавек з сякерай, якога прывёў Міхал. Тут быў спакой, цемра, санлівая цішыня.

— Выкінуць мяне цяпер,—думаў Мікола,—збяруць бюро і выкінуць. Потым—сход. Бацька будзе ў хаце назаляць. А мне што? Абы толькі дзядзька Адольф як след усё зрабіў. Тут, у лесе добра будзе жыць... Ціха... ні ты да каго, ні да цябе хто.

Мікола скручваў новую цыгарку і зноў мільгаў чырвоны агеньчык на чорным шкле.

— Не пайду на бюро і на сход не пайду. Патрэплюць языкамі, выключаць і забудуцца. Я сам сабе буду гаспадар!

Пакрыху пачало світаць. Ноч адступала паволі. Ужо можна было адрозніць цёмныя сцены леса навокал хутара, але па нізу слаўся яшчэ начны туман. І Мікола не заўважыў, як міма вокан прайшоў Харкевіч. Ён уздрыгнуў, калі ціха застукалі ў шыбу ў сенях.

Харкевіч быў раззлаваны. Ён запаліў газоўку, паставіў яе на стол і пацёр чырвоныя здубянелыя пальцы рук. Выцягнуўшы з-за пазухі кніжку ў цыратовай вокладцы, ён кінуў яе на стол.

— Сабачае жыццё... Цягаешся по начы!.. Не пашоў бы з-за гэтай паганай кляніны, але-ж трэба паказаць, што ляснік не спіць, на службу не забываецца. Паехалі, паганцы... Ты не ведаеш, часам, што там за чалавек з імі пры агні быў?

— Не бачыў. Ён прышоў разам з Міхалам адгэтуль, з хутара.

— То мне вядома. Ты як ішоў, сабаку майго не сустрэў?

— Не.

— Ліха ведае, дзе падзеўся!

Харкевіч пастаяў, падумаў. Сіні аганёк газнічкі ўздрыгваў гатовы сарвацца з кноту і знікнуць.

Поўзалі цёмныя цені па сценах і абкуранай столі.

За вузкім акенцам святлела.

— Давядзецца пашукаць сабаку,—сказаў Харкевіч,—мусіць, на вяселле збег, па сваіх сабачых справах. А пакуль што мы пойдзем у каморку, ды пагутарым. Хутка бабы ўстануць, возьмуцца за работу, дык нам з табой, мой пане, ходу тут не будзе.

Ён узяў газоўку са стала, Мікола паслухмяна пайшоў за ім. Яны ўвайшлі ў тую самую каморку, у якой Харкевіч нядаўна частаваў начнога гасця. Мікола прысеў на скрынку каля дзверцаў, аглядзеў літровую, напалову пустую бутэльку, кавалкі сала і хлебныя скарынкі і здзіўлена зірнуў на Харкевіча.

— Гэта мы ўвечары з суседам адным...—сказаў Харкевіч,—бабы мае піць гарэлку мне не даюць, доктар прызнаў, што ў мяне чарвяк нейкі ўнутры ёсць, гарэлкі не любіць, дык цяпер калі выпіць захочацца, нейначай, як у каморы трэба гэтым займацца... Ох-хо-хо-о, мой пане! Справы...

Харкевіч сеў, яшчэ нешта хацеў сказаць і застаўся так з разяўленым ротам. Яго твар густа пачырванеў, рэдкія рудыя бровы палезлі ўгору, увесь твар скрывіла грымаса здзіўлення і трывогі.

Мікола зацікаўлена аглядаў доўгі бліскучы нож з прыгожай касцяной асадкай, якая мела выгляд невялікага крыжа. Нож бліскаў, як люстэрка і сталь яго туманілася ад дотыку Міколавых пальцаў.

Харкевіч выразна ўспомніў: госць рэзаў сала кінжалам, потым уткнуў яго тарчмя ў дно дзяжы і забыўся на яго, адыходзячы не заўважыў.

— Нябожчык пан падараваў гэтую штучку,—абыякава сказаў Харкевіч,—за службу. Кінджал называецца. Для палявання на мядзведзяў і для вайны служыць. А як мы палюем на зайцаў, ды на качак, а ваяваць справа зусім не наша, то ўжываем кінджаліну гэтую для хатніх патрэб. Свіней добра калоць, а часам возьмеш і скарынку хлеба адрэжаш... Хэ-хэ...

— Шкада!—сказаў Мікола.

— Навошта нам? Панская рэч не для мужыцкіх рук. Пакладзі яе, Мікола, ды бяры чарку. Тут ёсць яшчэ з пару кропляў...

Ён наліў Міколу амаль поўную шклянку і калі той выпіў, Харкевіч спрытна схапіў кінжал і паклаў на паліцу.

— Похва яшчэ была, ды згубілася недзе,—сказаў ён.—Ну, дык як там выйшла?

Мікола пачаў гаварыць. Хмель моцна браў яго, бо Мікола не еў нічога ад самай раніцы і стаміўся на рабоце. Ён гаварыў многа, старанна прыпамінаючы ўсе дэталі сваркі з Васілём на бальшаку, а Харкевіч перапытваў час-ад-часу.

— Кажа, кантрабандай ты займаўся? Хэ-хэ! Адкуль яму ведаць!

— ... і за гэта, кажа, родны брат цябе застрэліў бы, як сабаку?

— Родны брат, кажа?.. як сабаку?

— ... і нехацімцам заявы пісаў. А я кажу...

— І ты кажаш?!

— Кажу, што абрыдлі мне суботнікі і ўдарнікі і можна мне пражыць на свеце і так. Не дурань я, кажу, на другіх працаваць... а... а ў крайнім выпадку, кажу я яму, калі занадта назаляць мне зараз будзеш, то...

— То што?

— То, кажу я, у мяне ў руках кол! Як лясну па чэрапе...

— Хэ-хэ-хэ...

Мікола цяжка нахіліўся над сталом, глядзеў у адну кропку і гаварыў, часта паўтараючы ўжо сказанае. І не ўбачыў, як Харкевіч узяў з паліцы кінжал. Пакончыўшы з апісаннем падзей у лесе, Мікола сказаў, што ён прышоў на хутар паводле таго ўгавору, які ў іх быў раней.

Тады Харкевіч устаў і перабіў гутарку Міколы. Пацягваючыся і пазяхаючы, ён абыякава сказаў:

— Вось што, галубок мой, пане Мікола. Такія справы трэба з розумам рабіць, а для гэтага паспаць належыць. Лезь на печ, а я тым ча-

сам пагляджу, дзе сабака падзеўся і таксама, прышоўшы, завалюся на хвілінку. А потым з цвярозай галавой і ў поўным розуме аб усім і пагаворым.

І ён узяў газоўку з дзяжы.

Калі яны вышлі з каморкі, у сенях было зусім светла.

Стомлены Мікола без далейшых запрашэнняў палез на печ. Харкевіч, прыжмурыўшы апухлыя ад бяссонніцы павекі, доўга прылажваў цыгарку ў мундштук, потым зняў са сцяны стрэльбу і агледзеў пістоны.

— Можа дзе селязень трапіцца...

Ён кінуў касы позірк на печ, дзе ляжаў Мікола, і вышаў на ганак.

Так і не давялося Харкевічу спаць у гэтую ноч.

Прыходзіў дзень.

* * *

Калі Міхал з Васілём выбраліся з лесу, ноч скончылася. Неба на ўсходзе святлела прыгожа і ясна. Недзе далёка ішло сонца і ясная зара была прадвесніцай яго прыходу.

Па зямлі плылі туманы, змрок хаваўся па лагчынах, гублялі пагрозны свой колер чорныя хмары лясоў і пералескаў. Рудыя вершаліны бяроз, што набраклі завяззю свежага лісця, чырвонае золата асін, цёмная зяляніна хвоек, мядовы жоўты пух лазняка на балотах, кволая зяляніна першых траў на лугах і палях,—усё гэта набывала свае жыццёвыя фарбы ў святле яснай зары.

З узгорку, якім канчаўся лес, далёка было відаць. І Міхал з Васілём доўга глядзелі на рэдкія ранішнія дымкі вёсак, што ляжалі тут і там на вялікай раўніне. Міхал зняў шапку і абцёр потны лоб.

— Прыехалі,—сказаў ён. —Ад зары да зары ў лесе пракруціліся.

Унізе, там, куды ішла дарога, пад самым узгоркам ляжала вялікае сяло. У канцы яго паблісквала істужка ракі.

— Ліпцы...—сказаў глухі, хрыпаваты голас.

Міхал і Васіль азірнуліся.

Мірон, які ляжаў на возе на пахучым грудзе хвойніку, абаперся на локаць і глядзеў на ўзгорак, куды ішла сухая пясчаная дарога.

— Ачунялі крыху, дзядуля?—лагодна спытаў Васіль.

— Ліпцы...—паўтарыў Мірон.

Вочы яго хваравіта блішчэлі з-пад сівых брывей. Ён быў без шапкі, увесь у сівізне. І твар яго быў белым і празрыстым, як срэбра яго валасоў.

— Цяпер гэта не Ліпцы,—сказаў Васіль.—Цяпер, дзядуля, гэта калгас імя Сталіна, наш калгас.

Мірон цяжка перавёў на яго стомленыя вочы.

— Нарадзіўся я тут,—ціха сказаў ён.—Вы не памятаеце мяне... Нарадзіўся тут і паміраць тут буду... па чалавечаму...

Ён зноў лёг на хвойнік і цяпер яго шырока адкрытыя вочы глядзелі ўгару, туды, дзе прашыты святлом зары знікаў змрок і на дымным фоне ранішняга неба павольна плылі рэдкія воблакі.

Міхал глянуў на ўсхваляваны Васілёў твар, потым на нерухомага Мірона.

— Паедзем,—шапнуў Міхал,—каб яшчэ не здарылася чаго!

У гэты час з-пад мяжы недзе на полі ўспырхнула маленькая шэрая птушына. Яна трапятала крыллямі, узнімаючыся ўсё вышэй і вышэй, прабіваючыся праз напластаванні туманаў. Маленькі, шэры спявак-жаўранак узнімаўся вітаць сонца. І нарэшце, данеслася з вышыні яго прыгожая, заўсёды радасная песня.

І ён, як бы абудзіў усё, маленькі, крылаты спявак.

Ноч скончылася.

За гэтую ноч, перад новым днём, яшчэ раз прайшоў у думках увесь свой жыццёвы шлях Мацей Вярша. Гэта патрэбна было для арыентыроўкі. Гэта патрэбна для параўнання. Так замацоўваецца чалавек на новых жыццёвых пазіцыях.

У гэтую ноч прышоў паміраць на радзіму цесляр Мірон Бокуць, Мірон Воўк. Скончыліся дарогі, якімі праз гады хадзіў ён, заблыталіся дарогі ў сонечных днях гэтай вясны, шэсцьдзесят пятай вясны Мірона, і ён згубіў свае дарогі і прышоў, каб памерці там, дзе пачаліся дні яго жыцця, адкуль пайшоў ён у свет цяжкімі сцяжынамі гора і пакут. Калі старым стане воўк і бяззубым, калі згубіцца сіла яго мускулаў і бляск злых вачэй і чуе ён смерць, тады першародным інстыктам угадвае тое логава, у якім нарадзіўся, адшуквае яго ў цёмных нетрах лясоў, у глухім гушчары балот і памірае там адзінокі стары звер. Так гавораць людзі.

Скончылася ноч. І ў гэтую ноч пакінуў сяброў і пайшоў адзін у цёмны лес Мікола Зыблюк. У гэтую ноч прывезлі комсамольцы Васіль Жадан і Міхал Паплаўскі першы воз матар'яла для будаўніцтва калгаса імя Сталіна.

Скончылася, адыйшла ноч. Маленькі, шэры спявак трапятаў крыллямі ў першых праменнях сонца, услаўляючы крышталёва-чыстай і лагоднай песняй веснавы дзень, вечную радасць жыцця.

Мікола араў на паляне пад самым лесам. Араць было лёгка. Тлустую, вільготную зямлю лёгка рэзаў плуг і ўкладваў роўныя істужкі скібаў, адну за другой і ўсе яны ільсніліся вільгаццю пругкай шчыльнай масы, як застыглыя хвалі на казачным возеры чорнай вады.

Уся амаль паляна аж пад самы лес была ўзорана Міколам. Тут ён быў гаспадар. І нават сонца, што высока стаяла над лесам, свяціла толькі для яго, бо вакол хутара быў лес і больш нічога.

Раптам Мікола азірнуўся назад, як-бы хто падштурхнуў яго. І сэрца захліпнулася страхам. Ззаду, на баразне, стаяў вялізны звер з крывавымі вачыма з натапыранай поўсцю на карку. Ён выскаляў вялізныя белыя клыкі. Мікола хацеў крыкнуць, і не здолеў, хацеў кінуцца бегчы і не мог крануцца з месца. А вялізнае страшыдла спакойна панюхала след босай Міколавай нагі, што адбіўся на вільготнай зямлі ў баразне, глянула на Міколу і як-бы ўсміхнулася.

— Ваўкалак!—спакойна сказала яно.

І тады нешта штурхнула Міколу пад ногі, як-бы ўздрыганула пад ім зямля, і ён выразна пачуў Харкевічаў голас:

— Прачніся ты, на прамілы бог! Чуеш, Мікола? Уставай, кажу, хутчэй!

Харкевіч гаварыў напоўшэптам, але ў голасе яго былі такія ноткі, што хутка не стала перад Міколам ні паляны, ні коняй, ні чорнай зямлі пад сонцам, ні самога страшыдла, якое нюхала след Міколы і асабіста яму адракамендавалася. Мікола не быў гаспадаром, сядзеў ён на печы ў сенях Харкевічавага дому і трымаўся за галаву. Яна была цяжкой ад гарэлкі, ад таго, што Мікола не даспаў і ад таго яшчэ, што ён моцна ляснуў ілбом аб маціцу, калі ўскочыў са сну.

Мікола з непакоем глядзеў на спалоханы твар Харкевіча, на яго ўздрыгваючыя вусы і бародку.

— Мікола!—сказаў Харкевіч тонам загаду.—Злазь з печы!

Мікола паслухмяна саскочыў на гліняную падлогу сяней, сцягнуў з печы свае боты і пачаў, спяшаючыся, абувацца.

— За поўгадзіны не дабудзіцца, гэтак спіш!—плаксівым голасам сказаў Харкевіч.—Сто разоў гаварыў: Ваўкалака забілі! Няшчасце гэткае прыспела!

Харкевіч сапраўды ўсхліпнуў, абцёр нос рукавом кажуха, паправіў вусы і бародку, засумаваўшыся аб нечым падумаў.

— Сваёй гадоўлі псінка была,—уздыхнуў ён.—Золата! Капаюць пад мяне яму людзі...

Мікола моўчкі сядзеў і трымаў бот у руках, не зводзячы з твару Харкевіча здзіўленага і спуджанага погляду. Харкевіч раззлаваўся:

— Усцягвай ты гэтыя боталы свае! Ну, чаго ты на мяне вочы вылупіў, як на чорта, даруй, божа мне грэшнаму!

Мікола заспяшаўся. Яны, захапіўшы з сабой рыдлёўку, хутка выбраліся з дому і пайшлі да лесу. Харкевіч амаль бег. Ногі неслі яго невялікае цела так спрытна і лёгка, што вялікі, грузнаваты Мікола ледзь паспяшаў за ім. На палове дарогі Харкевіч спыніўся і Мікола наляцеў на яго, моцна штурхнуўшы плячом.

— Лягчэй!— Паморшчыўся Харкевіч. — Дык, кажаш, вы згубілі сякеру?

— Згубілі.

— А ў таго... старога д'ябла, сякера была?

— Была, мусіць, калі яны кляніну ссеклі, адкуль-жа ім было ўзяць яе?

Харкевіч уздыхнуў.

— Цераз самы чарапок майго сабачку і шаснулі. Аж мазгі, не тут кажучы, параскідваліся...

І ён зноў сарваўся з месца.

На ўскраі лесу Харкевіч збочыў са сцежкі, прайшоў некалькі крокаў хмызняком і спыніўся пад старой хвояй.

— От ён, бедненькі...

Мікола выглянуў з-за Харкевічавага пляча.

Вялізны звер ляжаў, уткнуўшы пад куст ядлоўцу сваю лютую галаву, выпруціўшы магутныя пярэднія лапы. Чэрап сабакі быў рашчэплены ўздоўж і цёмная кроў афарбавала шорсткую поўсць на шыі.

Харкевіч і Мікола моўчкі стаялі над ім.

— Панясем,—сказаў Харкевіч праз некаторы час.—Там на ўзгорку ёсць старая яма на ваўкоў. Пясчаная...

У гэты час узыходзіла сонца. Яно фарбавала ў чырвань вершаліны ціхіх дрэў. Неба над лесам было чыстым, глыбокім і сінім. Расталі начныя туманы, сплылі некуды на захад кучаравыя воблакі. У лесе звонка гаманілі птушкі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі вярнуліся ад воўчай ямы, з коміну хаты Харкевіча павольна ўзнімаўся шызы дым. Харкевіч спыніўся на ўскраі лесу, прысеў на пень і пачаў скручваць цыгарку. Потым перадаў кісет Міколу.

— Старая ў печы паліць,—сказаў Харкевіч.—Але на бліны, пане мой Мікола, не запрашаю. Паснедаеш у сябе ў хаце. Інакшай рады няма.

Мікола хацеў нешта адказаць, але Харкевіч гэстам рукі папярэдзіў яго аб непатрэбнасці спрэчак.

— Я гаварыў табе, што такія справы трэба рабіць з розумам. А як дачка мая, Соф'я, гэтага самага розуму мае часам больш за нас з табой за дваіх, то тут, мой пане, трэба перш як панюхаць, добра вычысціць нос. Вось што...

Ён паглядзеў на Міколу хуткім поглядам знізу. Мікола адвёў вочы ў бок.

— Ідзі да хаты. Выспішся, адпачнеш. Я тут што падумаю... А заўтра над вечар падыйдзі, як заўсёды.

Харкевіч нахіліўся наперад і нечакана загаварыў шэптам:

— Пра сабаку, браце мой—ні слова. Хто-б яго ні забіў—ці Міхал Паплаўскі, ці той стары валацуга,—усёроўна, мой пане, мы з гэтае справы і струка бабовага не выйграем. Можа тым часам і наадварот выйсці,—нам самім за гэтае нагарэць можа. Бо такую цацку, як нябожчык наш, толькі на ланцугу трымаць трэба было. І калі выйдзе, што ён яшчэ абгрыз каторага, бо стары амаль без душы пры агні ляжаў, то могуць нам так, пане браце, уліць, што і лысай кароўкай не адплацішся...

Харкевіч уздыхнуў.

— Насядаюць, каб на іх маравая скула ўссела! Гэткі быў сабака! Трох коняй быў ён варты, каб іх чорная халера парэзала!

Мікола не гаварыў нічога. Ён глядзеў увесь час у адну кропку на абламаны сук старой бярозы. Сук быў вельмі таўсты і знаходзіўся высока над зямлёй. Яго, відаць, абламала дрэва, якое падала некалі побач з бярозай, Мікола пашукаў вачыма пня таго дрэва. Выходзіла, што на ім цяпер сядзіць Харкевіч. Гэтая тоўстая бяроза, ад якой зараз застаўся толькі пень, некалі грымнула на сваю суседку ўсім цяжарам і пакінула памяць аб сабе ў выглядзе гіганцкага крывога сука, які, падобны да працягнутай скалечанай рукі, будзе тырчэць аж да апошняга дня магутнага беластволага дрэва, што засталося ў жывых. Так заўсёды бывае ў лесе...

— Можна падумаць, што ты на гэтым суку павесіцца хочаш,—разз лавана сказаў Харкевіч.—Ты чуў, што я гаварыў?

— Чуў,—вяла адказаў Мікола.

— Ну то і памятай,—не зменьваючы тону закончыў Харкевіч і ўстаў.— То, браце мой, і памятай! Проста ідзі праз лес, сцежкай не ідзі. Якраз на бальшак выскачыш от там. Ну, то дай божа!

Ён махнуў рукою, паказваючы напрамак, і хутка пайшоў прэч. Мікола панура глядзеў яму ўслед, потым завярнуўся і, не спяшаючыся, падаўся ў лес.

* * *

Паўтара гады таму назад Мікола паказаў характар.

Па мястэчку гуляла мяцеліца. Яна гнала цэлыя хмары снегу з палёў і ссыпала яго ў гурбы на вузкіх вуліцах. Нардом ясна свяціў агнямі і вабіў да сябе людзей. У перапоўненай душнай зале стаяла ўважлівая цішыня. Людзі глядзелі на сцэну і забываліся, што на двары зімняя ноч, завіруха, што позны час ужо, што прыдзе бледны заснежаны марозны дзень і з ім справы; кожнаму сваё. Мастацтва актораў, камсамольцаў і вучняў сямігодкі—было не асабліва высокае, але жыццё на сцэне так не падобна на будні ціхага мястэчка, гэтае кіпучае, поўнае барацьбы і геройства жыццё! І сотні вачэй сочаць за ім з захапленнем і адна за другой разгортваюцца падзеі не так даўно мінулай грамадзянскай вайны.

І на адным з асабліва моцных момантаў, калі ўсе затаілі дыханне, шырока адчыніліся дзверы і разам з зімнай парай у залу ўварваўся грубы голас:

— Ну, ну! Не брыкайся, зануда-а! Дам па самавару.

На задніх лаўках разлёгся нездаволены шум. Патрабавалі зачыніць дзверы.

— А вось гэтую білеціну бачыў?—раўнуў той-жа голас. І, адштурхнуўшы кантралёра ў пажарнай касцы, з вялікім шумам з'явіліся ў залу ліпцоўскія хлапцы. Першы з іх прад'явіў кантралёру фігу, і стаў на лаўку каля сцяны, каб лепш было відаць. На пратэсты суседзяў ён не звярнуў увагі.

Загадчык нардома напружана думаў: мер ніякіх прыняць ён не мог, хаця ў зале і прысутнічалі чырвонаармейцы—пагранічнікі. Па-першае ішоў спекталь, па-другое нельга было згадзіцца на скандал у клубе, хаця-б спектакль ужо і скончыўся. А бойка магла вынікнуць з самай дробнай прычыны, бо як ужо ведаў загадчык, ліпцоўскім хлапцам далі па карку на вечарынцы ў суседняй вёсцы. Яны толькі што прыехалі адтуль і чапаць іх было нельга.

Мікола стаў на лаўцы ў шыкарнай позе. Ён шырока расставіў ногі, а рукі ўсадзіў у кішэню саматканага галіфе, ледзь не па самыя локці. Ад гэтага паўшубак узняўся на хрыбце камком, каўнер падпёр шапку і яна насунулася на самы нос. Ад Міколы і яго зграі несла гарэлкай на ўвесь нардом.

Мікола глядзеў на сцэну. Там завіхалася над параненым чырвоным камандзірам зграбная, светла-косая санітарка.

— Нішто сабе бабец!—аўтарытэтна сказаў Мікола на ўвесь голас.

— Ш-ш-ш-ш!—адказаў яму адзін з гледачоў побач.

Мікола паказаў яму кулак.

— Во! Пшык знайшоўся! Ты ў мяне з другога канца пшыкнеш!

Гледачы запратэставалі ў голас. Загадчык схапіўся за галаву. Скандалу не мінуць!

Мікола саскочыў з лаўкі і прайшоў да сваіх. Цяпер перад ім расступаліся.

— Гарэлка ёсць?—спытаў Мікола.

— У Пецькі,—адказаў плюгавы хлапчына і шмыгануў носам.

— Самагону поўпляшкі. Першак. А файная баба, Міколка?

Мікола падышоў да Пецькі.

— Давай самапёр!

Абодвы ўсталі і накіраваліся ў сені. Кантралёра ў пажарнай касцы, як ветрам, здзьмухнула з парогу. У сенях Мікола даведаўся, што светлакосая санітарка,—гэта дачка лясніка Харкевіча, Соня, што яна канчае сямігодку, на вясну паедзе ў горад.

— Так!—сказаў Мікола. І, абціраючы губы, увайшоў у залу.

Якраз у гэты момант на сцэну ўварваліся два белагвардзейцы, прыстрэлілі раненага камандзіра і схапілі санітарку.

— Гэй!—гаўкнуў Мікола.—Не чапаць! Рублеўскі! На шпікталях дзевак цiскаць, туды твою!..

Загадчык выскачыў на сярэдзіну залы ў праход паміж лаўкамі. Супроць яго стаяў Мікола, а за ім шчыльным гуртам ліпцоўскія хлапцы, адчайныя, чубатыя галавы.

У зале стала ціха. Белагвардзейцы разгублена тапталіся па сцэне, санітарка падыйшла да суфлёрскай будкі і глядзела на Міколу. Ён стаяў недалёка ад яе, вялікі, грудасты, нахіліўшы галаву па быччаму пагрозна. І Соні стала надзвычайна крыўдна за сваю папсаваную ролю, за сарваны хуліганамі спектакль. Яна тупнула нагою.

— Пайшоў вон адгэтуль!—зазвінеў тонкі гнеўны галасок.

— Ты! Бандыт няшчасны!

Дружны гул усёй залы пакрыў асобныя выкрыкі пратэсту. Мікола збянтэжана аглянуўся і ўбачыў спуджаныя ўхмылкі сваіх сяброў. Трэба было адступаць.

— Пайшлі вон! Крапіўнікі!—захрыпеў Мікола.—Чаго вас тут у чорта... Ну? Раззявіліся!..

І ён сунуў кулак пад нос першаму, што стаяў за ім. Ліпцоўскія адчайныя галавы падаліся назад і, папраўляючы свае чубы, даволі паспешна выбраліся з нардома. Мікола затрымаўся ў сенях і сказаў кантралёру:

— Я вярнуся назад, а маіх больш ніводнага не прапушчай, проста паленам па галаве і лупі!

Калі Мікола вярнуўся ў залу, на сцэне адбываўся допыт чырвонай санітаркі. Мікола ціхенька стаў у кут.

Спектакль працягваўся.

Мікола глядзеў на сцэну і думаў. Ён прыходзіў да вываду, што яму шмат чаго не хапае. Ён не зайздросціў людзям, якія ўмеюць выраблаць на сцэне ўсялякія штукі, бо лічыў усё гэта справай непатрэбнай. Ён ні на хвіліну не забываўся, што белагвардзейскі афіцэр,—рахункавод кааперацыі Рублеўскі, якому можна даць у скуру на першай-жа вечарынцы. Ён не забываўся і на тое, што санітарка,—гэта дачка лясніка, па сутнасці простая дзяўчына, якую пры ўменні можна аблапаць у цёмным кутку. Ён не зайздросціў ім.

Сцэна ўздзейнічала на Міколу інакш. Яму было крыўдна ад таго, што Рублеўскі, авечая сапля, карыстаецца такой пашанай, і што людзі слухаюць кожнае яго слова, затаіўшы дыханне. І яшчэ больш крыўдна было Міколу ад таго, што малая шалахвостка адным толькі гэстам выставіла з залы ўсю ліпцоўскую зграю ў той час, як для гэтага ў кожным іншым выпадку патрэбна шмат тузаніны і добрай работы добрых кулакоў. Як толькі які-небудзь смаркач вылезе на сцэну, ён ужо мае нешта такое асаблівае, нейкую сілу, нейкую незразумелую ўладу над людзьмі, у той час, як сам нічога з сябе не прадстаўляе і не мае дзесятае долі тэй сілы і адвагі, якая ўласціва Міколу і яго некаторым таварышам.

Міколу было крыўдна за тое, што ён не мае магчымасцей і не ведае, як набыць такую ўладу. Сіла яго рук,—справа надзейная.

Што-ж умее Мікола? Умее працаваць як вол, на полі, піць гарэлку шклянкамі, дубіць польку да сёмага поту, грукаючы конскімі падковамі сваіх ботаў так, што шыбы звіняць у хаце, умее верхаводзіць бойкамі на вечарынках, ад чаго ідзе па ваколіцы такая слава, што другі чалавек за мора збег-бы ад яе. І ўсё. Мала пашаны ад такога ўмельства.

Патрэбна справіць далікатныя хромавыя боты, сіні гарнітур і каб галіфе не цялёпаліся па нагах, як свінячыя вушы, а стаялі, як-бы зробленыя з бляхі. Пры гэтым патрэбна завесці знаёмства ў мястэчку, з такімі вось, як хаця-б Рублеўскі. Тады, калі-небудзь сустрэнецца ён з гэтай светлавалосай лялькай, з-за якой зараз уся бяда выйшла! Хай паскача!

Заслона апала. Мікола падаўся ў сені перш, чым сціхлі воплескі. Ён прымеціў раней яшчэ, што загадчык нардома нешта гаварыў чырвонаармейцам, якія сядзелі ў пярэдніх радах. Сваіх хлапцоў няма, трэба выбірацца загадзя, могуць вельмі лёгка пасадзіць.

І Мікола выйшаў з нардому.

Недалёка адгэтуль у доме гандляра бондара сядзелі яго хлапцы. Мікола доўга стукаў у дзверы. Бондар употайкі гандляваў гарэлкай і таму перш, чым адчыніць, прыглядаўся да Міколы праз цёмнае акно ў сенях.

— Адчыняй! Свае!—скрозь зубы сказаў Мікола.

У хаце было цёмна ад тытунёвага дыму. Бразгалі бутэлькі. У гэтым дыме і чадзе сядзелі потныя пачырванелыя ліпцоўскія малайцы.

— Вымятайцеся!—сказаў Мікола.—Едзем дадому. Набраліся, торбахваты, матары вашай чорт!..

Хутка дзве падводы, гружаныя ліпцоўскімі гулякамі, з гоманам і свістам, са спевамі і лаянкай, праімчалі праз мястэчка і зніклі ў полі

ў снежных воблаках завірухі. Толькі далёкім рухам даносіла яшчэ некаторы час водгулле ўдалай песні.

Такімі былі нядаўна яшчэ шмат якія ліпцоўскія хлапцы, сёнешнія калгаснікі-комсамольцы. Толькі Міхал Паплаўскі і Васіль Жадан былі выключэннем.

На заўтра раніцой у час снедання Мікола сказаў бацьку, што яму патрэбны добры гарнітур і хромавыя боты. Бацька паклаў лыжку і доўга глядзеў на Міколу. У слабых, ужо выцвілых вачах яго, было нешта такое, чаго Мікола не мог зразумець: нейкі хваравіты смутак, нейкі жаль і прытым бацька нечага, як-бы спужаўся.

Маці, што несла ад печы ежу, спынілася на палове дарогі. Двое меншых прыціхлі. Мікола сядзеў упарты, з нахіленай галавой і скоса пазіраў на бацьку.

— Не выпадае, сынок,—ціха сказаў бацька адводзячы вочы.—Сам-жа ведаеш, няма з чаго... Хіба цялушку прадаць? То яно на такое адзенне і не хопіць, а пры тым, на другі год без малака застанемся, бо карова-ж наша зусім старая...

І ён адмоўна пакруціў галавой засмучаны і прыціхшы.

— Можа-б, ты, сынок, сам-бы быў больш ашчадны,—уступіла ў размову маці.—Каня па заработках заганяў, а грошы ў хаце няма ні капейкі. Што на кані заробіш, тое на ім-жа на вечарынку і адвязеш. А каб гэтак памяркоўна, то да вясны як раз на добры гарнітур і сабралася-б.

— Ну!—сказаў Мікола.—Абыйдуся і без вас. Гаспадары!

Ён абвёў вачыма па стале, з крывой усмешкай глянуў на бацьку, устаў і пашоў да дзвярэй, на хаду схапіўшы са сцяны кажушок і шапку.

— Ты-б хаця паснедаў,—сказала яму маці ўслед.

Мікола моцна грукнуў дзвярыма.

Ён ведаў куды ісці. І ён знайшоў такіх людзей, ад якіх можна было лёгка зарабіць гарнітур і хромавыя боты. Мікола быў смелым. Ён не баяўся цёмнай начы і адчайных спраў. Людзі, якім быў ён падпарадкаваны, умелі цаніць хлапцоў, падобных да Міколы.

Мікола атрымоўваў грошы і заводзіў патаемныя начныя знаёмствы. І здаралася, што ён сустракаўся з чалавекам, якога даўно ведае. Прыблізна такое-ж знаёмства адбылося на лясным хутары, калі Мікола прывёў туды ўначы маладога каня.

Харкевіч спрытна ўхапіўся за павады і заціснуў рукой ноздры каню, каб не заірзаў.

— Зараз на хутар нельга, мой пане,—сказаў ён да Міколы.—Дачка ў горад ад'язджае, яе трэба на станцыю везці. У нядзелю калі ласка прыходзь... буду чакаць!

Гэта было ўвясну, роўна год таму назад пад тэй самай хвойкай, дзе сёння ляжаў забіты Воўкалак.

У Міколы з'явіліся боты і сіні гарнітур і ўсялякія іншыя рэчы. І усе ў Ліпцах здзівіліся нямала, бо Мікола працаваў на полі і ездзіў па заробках не больш за другіх. І такія дастаткі ад гэтага выйсці не маглі.

І калі здзівіліся ў Ліпцах, у Харкевіча з Міколам адбылася такая размова:

— Крыху прыспяшаўся ты, мой пане, Мікола,—сказаў Харкевіч, торгаючы бародку.—Іш ты, як гарлач паліваны, блішчыць!.. Усякую справу трэба рабіць з розумам і нічога ты не страціў-бы, каб пахадзіў яшчэ з год, як і ўсе людзі. Таму не заходзь ты да мяне, пане-браце, зусім, аж да тэй пары, пакуль я цябе не паклічу. Усякую справу трэба

рабіць з розумам. А ты можаш па сваёй маладосці бяды нарабіць. Возьмуць цябе за карак і мне тое самае будзе, бо надта ўжо часта ў мяне бываеш. Для людскога вока прыметна. Так што ідзі, браце, як бы ты мяне і не ведаў, пакуль я цябе не паклічу. Ідзі і не крыўдзіся, бо я аб тым клапачуся, каб з цябе людзі выйшлі. І глядзі воч не паказвай да тае пары, пакуль сам не паклічу. Усякую справу, як кажуць, трэба з розумам рабіць.

І ён, схіліўшы галаву на бок, па звычаю, зірнуў на Міколу адным вокам.

Мікола ніколі не пярэчыў Харкевічу. Ён падпарадкоўваўся халоднай і хітрай сіле, якою ўладаў гэты чалавек. Парады Харкевіча заўсёды служылі на карысць абодвым.

Выйшла так і на гэты раз. Не далей, як праз месяц, была арыштавана група канакрадаў і сярод яе тыя людзі, ад якіх зарабіў Мікола гарнітур і хромавыя боты. Усе яны жылі далёка ад Ліпцоў і іх ніхто не ведаў, як ніхто не ведаў аб начных справах Міколы і Харкевіча. Што-ж датычыцца гарнітура і ботаў, то ў Міколы з бацькам наконт гэтага яшчэ раней была размова і бацька ад тэй пары пачынаў сваю гутарку з аднаго:

— Бачылі, суседзе, якім панічом стаў мой Мікола? Цяжка цяпер, я вам скажу, з гэтымі кавалерамі... Нам дык раней і чортавая скура і корт добрымі былі, а ім не ўсякім і сукном дагодзіш. Ледзве сабраў сілы апрануць паніча.

Так гаварыў Цімох Зыблюк да тае пары, пакуль суседзям надакучыла слухаць. Адкуль гарнітур, ён не ведаў. Так параіў гаварыць яму Мікола. І, нарэшце, суседзі паверылі ў тое, што сам Цімох справіў сыну гарнітур, бо вельмі-ж ён, чалавек, стогне. Гутаркі аб тым, што Мікола некага абрабаваў і супярэчлівыя ім, але больш праўдзівыя чуткі, што Мікола вадзіўся з канакрадамі,—заціхлі. След, які вёў на хутар Харкевіча, быў замецены і дапамог гэта зрабіць вясковы актывіст, член сельсовета Цімох Зыблюк, бацька расстралянага партызана, бацька, які баяўся за свайго апошняга, занадта ўдалага сына.

Разлік Харкевіча аказаўся правільным.

Мікола праз цэлае лета пеўнем хадзіў па мястэчку, акружаны чубатымі ліпцоўскімі забіякамі і яшчэ больш ганарыўся і задзіраўся на вечарынках, не даваў праходу ні старым, ні малым, і праз пэўны час са здзіўленнем і крыўдай убачыў, што пашану яму аказваюць якраз такую самую, як і раней. Нават вясковыя дзяўчаты, не гледзячы на тое, што Мікола быў хлапцом прыгажэйшым ад іншых, а цяпер яшчэ стаў і франтам,—стараліся ўнікаць яго. Акрамя ўсяго, пачала распадацца ліпцоўская кампанія. А Міхал Паплаўскі і Васіль Жадан яшчэ ўвясну падалі заявы ў комсамол.

Калі Мікола спытаў, навошта яны гэта робяць, Міхал адказаў яму:

— Можа больш выйдзе карысці, чым жлукціць гарэлку, ды на смех людзям хадзіць з бітаю мордай!

— Вучыцца я хачу,—сказаў Васіль і ўсміхнуўся задуменнымі блакітнымі вачыма.

Мікола пагардліва павёў плячом.

— Дык ці прынялі-ж вас, хаця?

— Не прынялі яшчэ,—адказаў Міхал.—У нядзелю будзе сход.

Прайшло некалькі месяцаў, надыйша зіма. І Мікола ўбачыў, што ён застаецца адзін са сваёй грымучай славай першага хулігана на ўсю ваколіцу. Яго трымаліся толькі два апошніх: Пецька-гарманіст і плюгавы хлапчук Саўка. Астатняя ліпцоўская моладзь гуртавалася каля Міхала з Васілём. Яны вадзілі хлапцоў і дзяўчат на комсамольскія сходы, спек-

таклі і вечары самадзейнасці. Яны паступова забіралі пад свой уплыў моладзь.

Рашаючым быў вечар самадзейнасці, арганізаваны ў Ліпцах местачковай комсамольскай ячэйкай. Памяшканне школы і знадворку, і ўнутры было прыбрана зелянінай. Міхал з Васілём некалькі вечароў малявалі з вучнямі плакаты і школа набыла такі выгляд, што ўсім адразу стала цікава заглянуць туды. Таму набілася поўна народу. Ліпцоўскія старыкі сядзелі на першых лаўках, акружаныя вялікай увагай і пашанай комсамольцаў. Было вельмі чыста, трымаўся добры парадак і таму гаспадары не адважваліся нават дастаць з кішэні люлькі, альбо скруціць цыгарку.

За маленькай сцяной настройваўся самадзейны аркестр.

У гэты-ж час у хаце Саўкі Мардамая настройвалася тройка: Мікола, Пецька-гарманіст і Саўка.

— Не будуць чапаць,—самі зачэпімся!—гаварыў Мікола.—Яны будуць граць адно, а ты чуеш, Пецька, грай другое. Мы цябе абаронім ды прытым нас і свае падтрымаюць. Не ўсе-ж гэтаму Міхалу скуру прадалі. Шчасце ім вялікае слухаць, што там плявузгаюць! Забярэм хлапцоў—і ў Малавіды на вечарынку. Трэба малавідскім будзе ўткнуць за тое, што ў нядзелю на кірмашы чапляліся. Ну, пайшлі!..

Мікола выпіў астатняе проста з бутэлькі.

Яны з'явіліся ў школу як раз перад тым, як Міхал—малады комсамолец і арганізатар вечара павінен быў пачаць сваё ўступнае слова. Мікола прабіваўся праз карыдор, локцямі і ўдарамі нагі расштурхоўваючы цесную масу людзей, выклікаючы нараканні і лаянку. За ім следам ішоў Пецька, высока ўзняўшы над галавою гармонік, за ім прабіраўся маленькі Саўка. У самых дзвярах невялікай школьнай залы здарылася нечаканае. Нехта спрытна і з сілай вырваў з узнятых рук Пецькі гармонік і калі той азірнуўся, то ўбачыў толькі, як бліснулі нікелевыя вуглы мяхоў і гармонік знік, праваліўся некуды.

— Мікола!—выгукнуў Пецька.

Але Міколы не было. У той самы момант, як ад Пецькі адабрал гармонік, Міколу штурхнулі ў плечы і ён мімаволі ўскочыў у залу. Яго сціснулі з усіх бакоў, загарадзілі выхад і ён нават не ўбачыў Пецькі.

— Мікола!—беспарадна і разгублена выкрыкнуў Пецька яшчэ раз.

— Ціха!—сказаў высокі хлапец, што стаяў перад ім, загаражваючы дарогу ў залу. Ціха, бо на горкае яблыка цябе зробім!

— Пецька!—данеслася з сяней.—Гэта крычаў ужо Саўка, якога цягнулі за каўнер.

— Ідзі вон!—ціха сказаў хлапец да Пецькі.—Ідзі, гармонік заўтра аддамо! Ідзі, кажу табе, бо дрэнна будзе!

І ён ткнуў Пецьку кулаком пад бок.

— Чаго ты мяне штырхаеш,—заенчыў Пецька.—Чаму мне вон? Што я горшы за людзей?! Аддай, браток, мой гармонік, я пайду!

Пецька ведаў, што з Косцікам Саладухіным да сваркі даходзіць нельга. Ён прасіў.

Але і гэта не дапамагло.

Пецьку падхапілі пад рукі двое хлапцоў, Косцік добра падштурхнуў яго ў карак і Пецьку пацягнулі на карыдоры.

— Браткі!—стагнаў Пецька.—Хлапцы! за вошта мяне... я-ж свой! Аддайце хаця гармонік. Брат...

Пецька трапіў у гурбу снегу на дварэ якраз у той момант, калі з яе, плачучы і аціраючы пабіты нос, выбіраўся Саўка.

А Мікола ў гэты час стаяў пры парозе, прыціснуты да сцяны. Калі ён аглядаўся, шукаючы Пецьку, яго сустракаў погляд Косціка і гэты погляд азначаў:

— Паспрабуй толькі!

Мікола скрыпеў зубамі, штырхаў людзей, памыкаючыся да парогу, і кожны раз усёткі заставаўся на месцы. Магло скончыцца дрэнна. Ён быў адзін.

Калі на маленькую сцэну ўзняўся Міхал, Мікола заўважыў, што яны з Кастусём пераглянуліся. На ўстрывожаны, чакальны погляд Міхала, Косцік адказаў лёгкім, заспакойваючым нахілам галавы. Пасля гэтага Міхал кінуў кароткі погляд на Міколу і прайшоў на сярэдзіну сцэны.

— Таварышы!—сказаў ён і запнуўся. Ён ніколі да гэтага з прамовамі не выступаў і цяпер думкі яго разбегліся.

— Таварышы!—падумаўшы, паўтарыў Мікола.—Комсамольская ячэйка пастанавіла, каб правесці ў нашай вёсцы Ліпцах самадзейны вечар. Таварыш настаўніца Ліда Верас зробіць даклад аб калектывізацыі. Хутка вы пачуеце яго. А культурны вечар мы арганізавалі для таго, каб з коранем выкараніць маючае ў нас хуліганства і п'янку і каб надалей мы займаліся не толькі танцамі, а чыталі кніжкі і газеты і каб усе мы ведалі чаму нас навучае партыя, таварыш Сталін і куды нас вядзе наша совецкая ўлада... А хуліганству, якое ў нашай вёсцы яшчэ, безумоўна, маецца...

Міхал коратка глянуў у бок Міколы.

— ... мы павінны культурнымі самадзейнымі вечарамі пакласці канец. А зараз, таварышы, пакуль што аркестра зайграе...

Мікола, які адчуваў на сабе погляды амаль усіх прысутных, з сілай павёў шырокімі плячыма і, адштурхоўваючы народ ад сцяны, пачаў прабівацца да парогу.

— Пусці, Косцік!—ціха сказаў ён.

— Назад не прыдзеш?

— Не прыду...

Косцік думаў, недаверліва паглядаючы на Міколу. Навакол шапталіся і пасмейваліся. Ад гэтага Мікола ўвабраў галаву ў плечы і ашчэрыўся.

— Пусці, Косцік!—гэтак-жа ціха, але з выразнай пагрозай сказаў ён і паклаў руку ў кішэню.—Пусці! Бяды нараблю!

Косцік адступіў ад парогу. Міколу прапусцілі ў сені. Ён моўчкі выбраўся з нардому і тут сустрэў каля самага парогу Пецьку і Саўку, якія чакалі яго, будучы ўпэўненымі, што Міколу такім-жа парадкам выставяць са школы. Але ён з'явіўся на парозе адзін, павольна сыйшоў з ганку, знарок зачапіўшы плячом Пецьку, і толькі тады павярнуўся да іх.

— Н-ну?!

— У Пецькі гармонік адабралі,—спяшаючыся сказаў Саўка.— А ў мяне—во! (Саўка паказаў на нос, які пературарыўся ў сінюю шышку). Сымон замаляваў! Можа да нас паляцім? Там яшчэ ёсць!

Мікола паглядзеў на сіні нос Саўкі, завярнуўся і пайшоў па вуліцы. Саўка хацеў ісці за ім, але Пецька стрымаў яго за рукаў.

— Ашалеў? Хочаш, каб цяпер ён табе нос паправіў? Стой тут. Можа гармонік аддадуць.

Гэты дзень быў апошнім днём кампаніі адчайных ліпцоўскіх чубоў. У гэты дзень Мікола не толькі страціў уладу верхавода, але і славу самай адважнай галавы ў Ліпцах. Комсамол вырваў ад яго ўладу над моладдзю і даказаў, што забіяцкая галава Міколы мае вартасць не большую, як звычайны гліняны гаршчок. Да сілы, аказваецца, патрабаваўся яшчэ розум, які павінен быў гэтай сілай кіраваць. І толькі праз пэўны час даведаўся Мікола пра тое, як прадумана арганізоўвалі комсамольцы сустрэчу яму на першым вечары самадзейнасці.

Потым жыццё пайшло такой дарогай, што Мікола, сам таго не прымячаючы, пакрыху забыўся на сваю крыўду, што яму не ўдаецца быць наперадзе другіх. Наадварот: жыццё само нечакана паставіла яго наперад. І ад Міколы патрабавалася толькі тое, каб ён сам не ішоў назад.

Тры з лішкам месяцы ўзапар Мікола працаваў на лесазагатоўках. У Ліпцах за гэты час ён быў не больш двух разоў. Жыў у лесе, у бараку лесарубаў і карыстаўся там вялікаю пашанай з-за сваёй вялікай сілы, якая дазваляла працаваць так, што ні адзін з лесарубаў не мог спаборнічаць з ім па нормах выпрацоўкі. Ён заўсёды быў спрытным да работы, а высокія яго нормы тлумачыліся тым, што Мікола хацеў зарабіць, як мага больш. І калі яго абвясцілі лепшым ударнікам усяго ўчастка, гэта яго прыемна здзівіла і ён дабіўся таго, што дзённая норма амаль падвоілася. І таму, аднойчы яго выклікалі ў кантору ўчастка і загадчык абвясціў яму, што прыехаў карэспандэнт цэнтральнай газеты і хоча не толькі напісаць артыкул аб рабоце Міколы, а нават надрукаваць яго партрэт.

Пасля гутаркі з карэспандэнтам, Міколу сфатаграфавалі пад дрэвам з сякерай на плячы. Праз некалькі дзён на ўчастак прышоў нумар газеты з фатаграфіяй Міколы і артыкулам пра яго. Артыкул называўся: „Вопыт лепшага лесаруба“, а пад фота было надрукавана чоткімі літарамі: „Таварыш Мікола Зыблюк“.

Мікола схапіў газету і сэрца яго моцна забілася. Зусім нечакана ён аказаўся наперадзе! Хай паспрабуюць ліпцоўскія комсамольцы насміхацца над ім цяпер, як гэта было некалі ў школе! Мікола цэлы дзень збіраў па брыгадах асобныя экземпляры гэтага нумара і беражна складаў іх у свой куфэрак.

На наступны дзень ён быў прызначаны брыгадзірам самай лепшай брыгады і павёў справу так, што яго брыгада на працягу трох дэкад амаль у тры разы перавыконвала дзённае заданне. У брыгадзе былі самыя здаровыя і спрытныя лесарубы і Мікола не даваў нікому адпачынку ні ўдзень, ні ўначы. Працу пачыналі досвіткамі, канчалі цёмным вечарам, уначы правілі інструмант.

Брыгаду прэміравалі. Мікола, як брыгадзір, атрымаў гарнітур і боты. Гэта прымусіла падумаць шмат аб чым.

Напрадвесні, далёка яшчэ да таго часу, як павінны былі скончыцца лесазагатоўкі, з Міколам здарыўся выпадак: моцна параніў нагу. Работу давялося кінуць. Калі прыехаў у Ліпцы, там былі навіны, аб якіх да гэтага ён не ведаў. У Ліпцах арганізоўваўся калгас і была ўжо свая комсамольская ячэйка. Сакратаром яе быў Міхал.

Ён з'явіўся да Міколы на наступны дзень разам з настаўніцай Лідай. Мікола ляжаў на ложку, моцна балела нага, ён паглядзеў на Міколу і Ліду і не сказаў ні слова ў адказ на прывітанне. Міхал гаварыў аб тым, што ён вельмі рады поспехам Міколы і што ўсе комсамольцы, як мястэчковай, так і ліпцоўскай ячэйкі, лічаць, што лепшаму ўдарніку лесазагатовак неабходна быць членам комсамола. Мікола панура маўчаў і за ўвесь час сказаў толькі адно слова.

— Падумаю.

Калі прыходзілі Пецька з Саўкам, Мікола прыкінуўся сонным. Яны патапталіся каля парогу і пайшлі з хаты. Бацька і маці не ведалі, чым Міколу дагадзіць. Яны былі рады новай і добрай славе сына, якая пайшла далёка па свеце. Бацька аднойчы прынёс нумар раённай газеты, дзе было напісана: „Брыгада Зыблюка не здае тэмпаў“. Мікола быў задаволены тым, што брыгада называецца яго імем. У гэты-ж вечар бацька сказаў яму, што ўступае ў калгас і спытаўся аб поглядах Міколы наконт гэтага.

Мікола адказаў:

— Гаспадарка-ж твая. Чаго ты ў мяне пытаеш? Падавайся ў калгас. А я ў комсамол буду падавацца. А далей—пагляджу.

На тым і скончылася. Мікола паправіўся хутка і сапраўды падаў заяву ў комсамол. Да заявы ён далучыў партрэт і выразку артыкула.

На сходзе доўга гаварылі аб мінулым Міколы, нехта нават успамінаў, што ён як-бы трымаў сувязь з „цёмным элементам", але давесці гэтага не здолеў. Міколу прынялі. Так Мікола стаў комсамольцам.

Набліжалася вясна. У Ліпцах арганізаваўся калгас. Ён аб'яднаў больш паловы ліпцоўскіх гаспадарак. Комсамольцы павінны былі змагацца за далейшы прыліў і ў першых радах барацьбы за калгас павінен быў быць і Мікола, брат партызана, комсамолец, лепшы ўдарнік лесазагатовак. І ён асвоіўся ўжо з новым сваім становішчам і людзі пастунова забываліся аб тым, што комсамолец Мікола Зыблюк—былы хуліган і ледзь не тое, што бандыт.

Мікола не ўспамінаў пра Харкевіча, пра цёмныя ночы, пра заглушанае іржанне каня на хутары. Ён не ўспамінаў і пра яго дачку Соню, якую бачыў толькі раз на сцэне нардома, і якая, сама аб гэтым не ведаючы, падштурхнула яго на шлях небяспечных шуканняў. Цяпер ён быў комсамольцам і мінулае адышло ад яго. Перад ім былі другія дарогі.

Ён не мог справіцца з такімі заданнямі, як правядзенне сходаў, але затое мог без змены круціць ручку сартыроўкі на працягу цэлых гадзін і мог перанесці з гумна ў калгасную клець такі мех збожжа, які пад сілу толькі двум дужым мужчынам. Яго хвалілі за сілу і спрытнасць, і ён у гэтыя першыя дні існавання калгаса быў адным з лепшых яго работнікаў.

Лёс калгасу доўга быў няпэўным. Людзі падавалі заявы і бралі іх назад. На сходзе спрачаліся і лаяліся спатнелыя, ахрыплыя калгаснікі і аднаасобнікі. Прыпаміналіся крыўды шматгадовай даўнасці, сыны ўпікалі адзін аднаго ўчынкамі бацькоў, бацькі ганьбілі сыноў, паўзлі пачварныя чуткі, сфабрыкаваныя людзьмі, якія бачылі сваю пагібель у сонечнай далечы надыходзячай вясны. Праўда выдавалася людзям хлуснёю, хлусня—праўдай. У гэтым кіпенні чалавечых дум і пачуццяў фармавалася новае жыццё і акрэсліваліся яго шляхі.

Яшчэ нядаўныя, буйныя гарластыя ліпцоўскія хлапцы, цяпер амаль усе—комсамольцы, дружна стаялі за калгас, абараняючы яго ад варожых нападак сцяной маладых грудзей. За гэты час далёка выйшлі наперад Міхал Паплаўскі і Васіль Жадан. А Мікола маўкліва і многа працаваў. Ён ведаў, што на рабоце яго ніхто не абгоніць, што яго работа лепшая за другіх і ведаў, што гэта высока ацэньваецца.

І тут на яго звярнуў увагу Харкевіч.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Мікола сядзеў на пні, задуманы глядзеў, як растае ў празрыстым і ясным паветры дымок яго цыгаркі. Сонца ішло вышэй і добра грэла. У лесе было цёпла, стаяў моцны пах хвоі і маладога бярозавага лісця. Дрэвы стаялі нярухома, аблітыя сонечным бляскам і маладая зеляніна завязі іскрылася на іх. Высока ўгары над лесам, быў непарушнай чыстаты блакіт, унізе на зямлі, у лесе,—шчодрыя фарбы вясны.

Навокал пня, на якім сядзеў Мікола, густа раслі сінія кусцікі кволых, недаўгавечных фіялак. Над імі завіхаліся пчолы. Калматыя, працавітыя мушкі заклапочана пераляталі з адной кветкі на другую, і гойдаючыся на пахучых пялёстках, выбіралі з іх драбнюткія кроплі салодкіх сокаў. Гэта быў першы мёд ранняй вясны.

Пад бярозай насупраць, сярод рэдкай зеляніны маладых траў, сядзела цэлая сям'я важных рудых смарчкоў.

Нечакана з'явіўся заяц. Ён выслізгнуў на палянку з-пад рудога куста ядлоўцаў, што густа разросся каля бярозы. Заяц пакінуў на калючых сучках каўлак шыза-белага пуху. Ён не звярнуў ніякай увагі на чалавека, прышкалдыбаў да смарчковай сям'і, і дбайна абнюхаў самы большы грыб. Потым ён сеў слупком і развесіў доўгія вушы. Магчыма ён думаў: паспрабаваць гэтай зморшчанай стравы, ці не. Ён нават паскроб за вухам кароткай і пушыстай пярэдняй лапкай. І мусіць вырашыў, што можна знайсці ў гэтую багатую пару больш смачныя рэчы. Пры тым на паляне былі нейкія падазроныя пахі. Вушы звярка ўзняліся старчмя, ён некалькі часу нюхаў паветра і варушыў даўгімі вусамі.

Потым лёгка і спрытна скочыў наперад і знік за бярозай.

Мікола не варушыўся.

... Тады, напрадвесні, калі арганізоўваўся калгас і Мікола сартыраваў абагуленае насенне, у тыя дні Харкевіч падаў першую вестку аб сабе. Ён сустрэў Міколу на дарозе з мястэчка і сказаў яму:

— Ну, цяпер, браце мой, можаш да мяне і ў госці зайсці. Пільна патрэбна пагаварыць нам з табой пра тое-гэтае... заходзь у нядзелю пад вечар. Буду чакаць.

І больш нічога не сказаў. Яны размінуліся на саннай дарозе, што ўзнімалася грэбляй сярод шэрага адталага поля. Зімовыя дарогі заўсёды знікаюць пазней.

Мікола доўга вырашаў: ісці, альбо не. І вырашыў быў не ісці, але ў нядзелю падумаў, што калі Харкевіч хоча каб ён прышоў, то значыць гэта патрэбна. Хто ведае, што там здарылася? Харкевіч нічога не робіць упустую.

І Мікола прышоў на хутар.

— Пакуль старая вячэру нам прыладзіць,—сказаў Харкевіч,—пройдземся мы з табой, браце, аб справах пагаворым.

Ён узяў Міколу пад локаць і вывеў на ганак. Яны прайшлі проста да лесу, потым Харкевіч павёў Міколу навакол хутарскай паляны, прымежкам, паўз лес. Ніякай размовы Харкевіч на вёў. Ён аглядаў калючы дрот, якім была агароджана ўся пахаць і сенажаць хутара ад лесу, спыніўся там, дзе дрот аб'ехаў, і лаяў вясковых пастухоў, якія пасуць па лесе і не пільнуюць ад шкоды.

Яны ішлі павольна, часта спыняліся, і Мікола са здзіўленнем убачыў, што Харкевічаў хутар не такі малы, якім выдае з самай сядзібы. Ад круглай узгоркавай паляны, якая спадала ўніз да балота пераходзячы ў луг,—ішлі далёка ў лес дзве шырокіх затокі, з якіх адна, больш доўгая, была добрым лугам. Тут улетку, мусіць, вырастаюць высокія травы. Другая затока чарнела тлустай скібай пахаці, узнятай яшчэ ўвосень на зябліва. Навокал маўкліва стаяў высокі магутны лес і на фоне яго белы тынкаваны дом у садзе і надворныя пабудовы хутара здаваліся прыгожа зробленым малюнкам.

Быў цёплы хмурны вечар. На захадзе, там, дзе лес ніжэйшы,—відаць было: збіраюцца слаба асветленыя, грузныя, цяжкія воблакі. Першы веснавы дождж абмые зямлю і растане апошні снег.

Мікола пакорна ішоў за Харкевічам. Яны зайшлі ў лугавую затоку і Харкевіч паказаў Міколу на вялікі камень пад самым лесам.

— Пойдзем туды, там і пагутарым.

Камень аказаўся вялізным. Ён аброс даўгім калматым мохам. Немаведама колькі там у зямлі гэтага каменя. Яго некалі, відаць, спрабавалі рашчэпліваць. Побач ляжалі цяжкія, адколатыя пліты, і адзін бок

вялізнага каменя быў гладка абцёсаны. Пліты глыбока ўгрузлі ў мяккую лугавую глебу і на іх з зямлі ўспаўзаў ужо мох.

Харкевіч сеў на адну з пліт, побач з ім прыстроіўся Мікола.

Ён разглядаў абцёсаны край пліты і дзівіўся: гэтак добра можна апрацаваць камень! Які для гэтага патрэбны інструмент і з якога жалеза ён павінен быць зроблены?

— Тры млынавых жорны з гэтага каменя вышчапілі,—сказаў Харкевіч,—гэтыя вось пліты то для магільных помнікаў матар'ял. І яшчэ тут можа на дзесяць жорнаў і помнікаў хопіць. У рост чалавека яму пад каменем з таго боку выкапалі і канца гэтаму каменю, мой ты браце, не было відаць!

Харкевіч паглядзеў на высокую, суровую сцяну лесу па той бок паляны, на вячэрняе воблачнае неба і ўздыхнуў.

— Даўно то было... дваццаць гадоў таму назад! Жыў такі немец Мунка, трымаў Пагулянскі млын. Вось для яго млына з гэтага каменя тры жорны і вышчапілі. А нішто сабе хутарок, Мікола? А?

— Добры хутар.

— Дык ты думаеш, пане мой, так сабе я пра камень гутарку завёў? Не-н-е, суседзе...

Харкевіч памаўчаў, як звычайна, паторгаў клінаватую бародку, у якой зрэдку прабіваліся сіваватыя валаскі, і паглядзеў на Міколу скоса, адным вокам. Мікола адвёў вочы. Ён ніколі доўга не вытрымоўваў Харкевічавага позірку.

— Некалі я гаварыў табе,—раздзельна сказаў Харкевіч,—што клапачуся аб тым, каб з цябе людзі вышлі. То і слухай...

Ён павёў рукой навакол сябе.

— Калі я ажаніўся і прышоў сюды лясніком, з двара светлай памяці пана генерала і графа Міхорскага, то мне браце мой Мікола, і было якраз дваццаць тры гады, а зараз мне,—пяцьдзесят тры. І не было на гэтым хутары, пане-браце, ні чым нічога. Лес быў навокал і тут, і там, і толькі на тым гладкім узгорку, дзе зараз сядзіба,—як на бубне хаціна стаяла. Жыць-жа трэба? Трэба. І ўзяўся я гаспадарыць. Першым чынам, думаю сабе, трэба добра служыць, правіць, трэба пану дагадзіць. Пану не дагодзіш, то, браце мой, выганіць ён цябе на чатыры вятры ў аднэй кашулі. А пану дагодзіш,—мужыку не дагодзіш. А мужыку не дагодзіш, то, браце мой, выйсці можа яшчэ горш, як з панам. Падыйдуць уночы пад хутар, дзверы калом падапруць і спаляць цябе, як мыш у карабе. Альбо, скажам, дзе-небудзь у лесе пярэймуць, ды калом па галаве. Ведаеш-жа адчайны наш народ... Дык як рабіць? У пана тады ласку дабудзеш, як аднаго сучка з лесу ўкрасці не дасі, а ў мужыка тады, калі будзеш хадзіць па лесе вочы заплюшчыўшы. Га? Міколка? Дык што было рабіць?

Харкевіч усміхнуўся і глянуў на Міколу. Той слухаў уважліва.

А я рабіў так: каб ні аднаго, ні другога ў вялікі гнеў не ўводзіць. Сярэднім парадкам. Вось, бывала, чую,—ляснуў мужычок драўніну ў лесе. І бягу на цянькі. Прыдзеш і глядзіш што за мужычок. Калі мужычок нішто сабе, гладкі, з работнікам прыехаў, то я прыйшоўшы і кажу: ай-я-яй—кажу,—што-ж ты гэта, браце мілы, у панскім лесе вырабляеш? Што-ж,—кажу я,—мне цяпер рабіць, гэткае дрэва прыметнае гакнуў, гэтулькі галасу на ўвесь лес нарабіў, пень гэткі высокі пакінуў! І як-жа мне цябе,—кажу,—мілы браце, такога шаноўнага чалавека, да пана аканома прадстаўляць?.. Адным словам пра тое гаворку вяду, што пень трэба падрэзаць, галлё ў балота сцягнуць і спаліць, а самое дрэўца можна і да хаты везці, калі чалавек не забудзецца, што гэта з лясніковай ласкі выйшла. І акрамя таго, наводжу я чалавека на тую

думку, што калі ў гаспадарцы драўніна якая патрэбна, то лепш за ўсё да лясніка спачатку ў хату прысці...Хэ-хэ...

Харкевіч забаўна падміргнуў і Мікола ўсміхнуўся.

— А калі якога беспарткоўца ў лесе прыцісну, то гляджу перш таго: заядлы ці не заядлы гэты мужычок. А сказаць патрэбна, што драбната гэтая заядлай бывае, выбачайце на дрэнным слове, як свінячая вош. І кумпаніі сваёй не горш за яе трымаецца. То тут, трэба пачухаць патыліцу! Калі заядлы мужычок, то пагрыміш на яго як мае быць,—у лесе то ён цябе, як чорта баіцца!—і адпусціш, і пра падзяку не дапамінаешся. Хай гаворыць са сваімі там, што ляснік Харкевіч добры чалавек. Ну, а калі там які-небудзь слімак трапіцца, такога адразу ў двор з усімі трыбухамі, і з клячай, і з сякерай, і з пілой. Тое-ж самае, калі і ў вёску па сляду прыдзеш: з адным такая гутарка, з другім—іншая. І выходзіла, што Харкевіч добра лесу пільнуе, у панскім двары за год па сто піл ды сякер, ды пратаколаў збіраецца, а з другога боку, гладзейшы мужычок калі-некалі адно другое бервянцо падхопіць. Затое-ж, як паедзе ляснік Харкевіч па калядзе, то, брат, дзве дзяжы кілбас да вялікага паста набярэцца і шынкі, і здораў, і ўсякага чорта на круглы год хапае. Ніколі свінні на хутары ў мяне не вадзіліся. А ў двор на новы год пад'едзеш, нябожчыка пана-генерала віншаваць, калі яны часам не ў Варшаве, то факт, што сторублёвую Кацю схопіш і ад аканома яшчэ дзесятку. І даходзіла нават да таго, што калі яны, пан генерал і граф, вечнае і святое памяці Эдмунд Міхорскі, куды ад'яжджаюць надоўга, то загад аканому пішуць: лясніку Харкевічу за добрую службу на новы божы рок, ад мае міласці,—сто рублёў...

Голас Харкевіча асекся. Ён змоўк, уздыхнуў, і доўга глядзеў у зямлю. Мікола са здзіўленнем убачыў, што Харкевіч плача. Слёзы цяклі па твары, пранікалі праз рэдкія вусы і губляліся ў вострай бародцы.

Мікола адвёў вочы.

Цямнела. Хмурным і строгім быў ціхі лес і як-бы ўздыхала нешта ў глыбі яго, у гушчары, у патаемных маўклівых нетрах, дзе нараджаўся лясны змрок. Міколу стала жудка. Ён няёмка паварушыўся на месцы, не ведаючы што сказаць Харкевічу, і раптам сухая і дужая маленькая рука моцна схапіла яго за плячо.

— Ты думаеш лёгка мне? Лёгка?!..—амаль выкрыкнуў Харкевіч, задыхаючыся.—Лёгка гэта жыць, калі ворагі мае над светам запанавалі, а сябры ў магілу палеглі?! Мне пан Міхорскі, дай божа спакой яго душы, генерал і граф, як родным бацькам былі... а дзе яны цяпер? У магіле, Міколка, у магіле! Расстралялі іх большэвікі! У балоце пад маёнткам разам з вайсковымі панамі вечным сном адпачываюць...

Ён вызваліў плячо Міколы і зноў апусціў галаву.

— Спрадвечныя мы слугі графоў Міхорскіх,—ціха сказаў ён,—ад дзядоў, ад бацькоў... Палова жыцця прахам цяпер пайшла.

І ён доўга яшчэ сядзеў моўчкі, пакуль авалодаў сабой. Мікола заўважаў, як сціскаюцца і расціскаюцца яго кулакі. Нарэшце, Харкевіч узняў галаву.

— Ну, от, браце, адтуль адгэтуль і збіралася. Пану аканому падарунак зробіш, аб'езчыку паўсотні да смерці пазычыш, так яно і было. І бачыш вось? Затокі на хутары парабіліся, дзесяцін блізка з шэсць з абодвых, домік новы пабудаваўся, хляўкі, тое-гэтае, конікі-кароўкі... А куды ты думаеш лес з гэтых заток падзеўся? Думаеш пан спатрэбіў?

Харкевіч усміхнуўся і нечакана весела сказаў, пляснуўшы далоняй па кішэні:

— От куды гэта ўсё нырнула! Шэсць дзесяцінак ляснула, год па

гадку! Пану аканому падарунак, аб'езчыку падарунак, і расце сабе хутарок. А пан граф тут і зроду не бывалі. Лес-жа плыў такім парадкам: прыедзе мужычок, дрэўца просіць. Дрэўца,—кажу,—суседзе? От там, за гародам дрэўца. Чыкні яго ўначы, зрабі чысценька і на лясніка потым не забывайся. Такім парадкам і плыло дрэўца за дрэўцам. Так і вырастаў сабе хутарок.

Харкевіч скруціў цыгарку, падаў кісет Міколу.

— А з каменем так выйшла... І з каменя, брат, я грошы выціснуў! Купіў немец Мунка Пагулянскі млын. Два паставы было, трэці ён хацеў ставіць. Бага-а-ты быў немец! І чую я ад людзей, што немец Мунка ніякім парадкам не можа каменя для жорнаў знайсці. Няма ў нашай ваколіцы такіх камняў і дагэтуль, сам ведаеш. А два жорны ў яго, у немца, знасіліся, як падэшвы. І трэці ставіць хоча. Немец туды, немец сюды,—няма каменя. Паехаў ён ад гэтуль вёрст за дваццаць, там і камяні і майстры ёсць. То што ты думаеш? Шэсцьсот рублёў з яго заламалі з прыстаўкай на млын. А шэсцьсот рублёў гэта ого-го-о! Ну, я ўсё падлічыў і да немца паехаў. Так і так,—кажу,—пане Мунка, ёсць камень, ляжыць у панскім лесе, пры маім хутары. Тут яшчэ лес тады быў. З гэтага—кажу,—каменя, не тры, дзесяць жорнаў выйдзе. Ён прыехаў, аглядзеў камень, узрадваўся. Чатырыста рублёў,—кажу,—пане Мунка, з прыстаўкай на млын. Бяру,—кажу,—пане Мунка, ад цябе падрад. Не дае згоды. Дорага,—кажа. А я кажу: не хоча лічыць,—кажу,—пан Мунка, што камень на графскай зямлі ў лесе? Не лічыць пан Мунка колькі мы графскага лесу паломім, пакуль мы гэтыя жорны здабудзем? А колькі трэба, каб аканому, ды аб'езчыку горла запхнуць? Няхай тады,—кажу,—пан Мунка сам з імі дагаварваецца, а я і за дзвесце рублёў падрад вазьму. Хітры быў немец. Здагадаўся, што я і з аканомам і з аб'езчыкам лепш згаварыцца патраплю, што яны ад яго столькі заломяць, аж у два разы за чатырыста, жорны гэтыя абыйдуцца! Згадзіўся. Ударылі па руках. Я паехаў у павет, а там быў такі майстра, Старкоўскі, работы не меў ніколі, амаль з голаду не паміраў. Сто пяцьдзесят рублёў,—кажу,—за тры жорны і грошы адразу плачу. Хочаш? Аж на шыю мне чалавек кінуўся!

Харкевіч змоўк і ўсміхнуўся, прыпамінаючы.

Вось, дзвесці пяцьдзесят даўгіх рублікаў з гэтага каменя я і выціснуў. З таго-ж году і пачаў пакрыху ад каменя пясок падбіраць, і выйшаў, браце мой, нядрэнны лужок... Сенца слаўнае родзіцца. Усё трэба, як гэта кажуць, з розумам!

Мікола здзіўлена глядзеў на Харкевіча. Хто-б мог падумаць, што такую галаву мае гэты маленькі чалавек!

— Усё, брат, з розумам,—гаварыў далей Харкевіч.—Усё з розумам. А табе, брат Мікола, гэтага самага розуму і не хапае.

— А што?

— А тое...

Харкевіч запаліў недакурак і, памаўчаўшы, сказаў:

— Аб сваім жыцці я табе гаварыў чыстую праўду, як роднаму сыну. Для таго гэта, мой пане, я табе гэта гаварыў, што ты малады яшчэ, каб вучыўся. І для таго яшчэ, што хачу, каб з цябе людзі выйшлі.

Ён паказаў рукой на паляну.

А людзі з цябе павінны быць такія...

Ён рэзка павярнуўся да Міколы.

— ... павінен ты, браце мой, быць на гэтым хутары гаспадаром!

І шырокім гэстам паказаў на хутарскую паляну.

Мікола застыў у здзіўленні. Вочы яго ўперліся ў твар Харкевіча і не мігалі. Мікола сядзеў ледзь не так, што адкрыўшы рот.

Харкевіч паблажліва засмяяўся.

— Гаспадаром, браце, гаспадаром, Міколка! Ну, чаго ты разявіўся? На, от, закуры!

І пакуль Мікола скручваў цыгарку дрыжачымі пальцамі, Харкевічназіраў за ім, па звычаю, скоса, адным вокам.

— Ты мне тагды яшчэ спадабаўся, Мікола,—нарэшце сказаў ён,—калі ты ў мястэчку з-за маёй Соні галасу нарабіў. Хвацкі, я думаю сабе,—кавалер... А потым мы з табой уначы па сваіх справах сустрэліся...

Харкевіч пахлопаў Міколу па плячу.

— Як гэта людзі кажуць, на добрае вока ты мне трапіў. Прыглядаўся я да цябе доўга. І што раз, то ўсё больш падабаўся ты мне. Хлапец ты гладкі, дужы, работнік добры, характар маеш востры... Чым, я думаю сабе, мне Мікола ў зяці не падыходзіць?

Харкевіч зноў паглядзеў на Міколу адным вокам:

— А чаму я так думаў? А вось чаму. Усё жыццё я гэты хутар будаваў, карпеў, горб мазоліў і ўсякім парадкам здабытку дамагаўся. І што-ж выйшла? Дачка падрасла, ды паехала ў горад вучыцца на настаўніцу, кінула бацькоў на божую ласку пры старасці год... Сынам бог мяне не парадаваў, каб перадаць яму ўсё, што набыў, ды пажыць сабе перад смерцю спакойна... Дык для каго-ж Харкевіч усё жыццё сваё сцёр? А Харкевічу, браце Мікола,—хочацца і ўнука на каленях патрымаць у сваёй уласнай хаце. Старым будзеш,—сам даведаешся!..

Харкевіч скалупнуў з каменя шматок моху, аддзіраў ад яго зялёныя цвілыя валаконцы і гаварыў далей, паўтараючы сказанае.

— Прывёў нам бог сустрэцца, Міколка, па нашых патаемных справах. І раней я чуў аб табе, бо вельмі-ж ты ўдалы хлапчуга! І гэта мне падабаецца. Сам такім некалі быў. І тое падабаецца, што набыць сам для сябе любіш, карысці для сябе не праспіш.

І гады твае падыходзяць, з прызыву сыйшоў нядаўна... Дарэчы, за вошта цябе, дуба гэткага, не ўзялі?

— Ступня ў мяне плоская,—адказаў Мікола.

— Хэ-хэ-хэ... Праз гэтае жаніцца можна! Дык чуеш, Мікола, палюбіў я цябе, спадабаў! Вось, думаю, табе зяць, пане Харкевіч! І вырашыў я, браце, выпісаць дзеўку з гораду, хай не ацірае спадніцу па чужых кутах, ды і вырашыў ажаніць вас. І пасадзіць вас думаю на хутары, калі ты дзеўку маю спадабаеш.

— Чаму-ж не?.. Спадабаю!—Няёмка сказаў Мікола і пачырванеў.— Толькі як гэта... ці спадабае мяне яна?..

— Спадабае! Улада бацькоўская на гэта ёсць, а яна ў мяне выхавана добра! Іш ты, пане браце, як пачырванеў! Хэ-хэ-хэ...

Мікола апусціў вочы.

— То вы будзеце на хутары гаспадарыць, а я пры старасці па лесе буду бадзяцца, па сваіх ляснікоўскіх справах... І добра нам будзе... Ну, а ты за маё дабро хэ-хэ-хэ... праз які там час пра ўнука для мяне пастараешся! Хэ-хэ-хэ.

І Харкевіч моцна ўдарыў па плячы збянтэжанага Міколу. І пасля гэтага ён стаў сур'ёзным, думаў аб нечым доўга і старанна скручваў доўгую цыгарку. Мікола глядзеў на хутарскую паляну. Адгэтуль з тсокі ён бачыў спадзістыя шэры ўзгорак. Усё больш цямнела. Мікола ўяўляў сабе, як у такую пару будзе звяртацца з плугам на хутар і сустрэне яго на двары, стомленага працай, светлакосая, вясёлая жонка Соня. І ўсміхаўся сваім думкам...

Харкевіч прысунуўся да яго.

— Толькі адна ў нас зачэпка ёсць,—шэптам пачаў ён гаварыць.—

Можа гэта і не так ужо страшна, але тым часам, не трэба і забывацца, бо можа потым бяда выйсці.

Харкевіч адвярнуўся і паказаў рукой назад у лес.

— Вось гэтая палова лесу, аж па самае балота, адводзіцца вашаму калгасу. Называецца,—мясцовае значэнне. Дык я думаю...

Ён нахіліўся да самага вуха Міколы і загаварыў шэптам:

— ...дык я пра тое думаю, што калі гэты чортаў калгас праз гады ўмацуецца, ён вельмі проста можа пад сябе наш хутар заграбсці і пакінуць нам зямлі якраз столькі, колькі гэта лясніку належыць. І будзем мы тагды што карасі ў перасохлай сажалцы. А зямлі, браце мой, на хутары не чатыры гектары, як гэта ў падатку пішуць, а...

Харкевіч змоўк і перадыхнуў:

— ... а, браце мой, у дзесяць не ўгнеш! І трэба нам на гэтую зямлю добрая сям'я. Дык ты, чуеш, Мікола, рабі так...

Харкевіч памаўчаў, пацягваючы цыгарку. Аганёк асвятляў яго рудыя вусы. Было ўжо амаль цёмна.

Дык ты рабі так: комсамол гэты пакінь. На чорта комсамол табе, гаспадару хутарскаму. Слухай далей... У калгасе вашым усё яшчэ ніяк гарнізавацца не могуць. Ты хлапец нішто сабе, пісьменны. І галаву маеш... Падмуці там вадзіцы!.. Як гэта рабіць,—скажу табе потым. Ліха гэтае можа і развеяцца. А комсамол адразу пакінь, загадзя, каб гутарак ужо ніякіх не было пасля таго, як да мяне на хутар прыдзеш. Ніякі ты ў іх ні суботнік, ні ўдарнік. Проста ты ў іх за батрака. А тут гаспадаром будзеш, пра гэта памятай. Падбяры такі час, пасварыся з кім-нібудзь там, і пакінь. На чорта гэта гаспадару?! А я дзяўчыну сваю хутка з горада дастану і давяду да розуму.

— Але, калі яна...

— Нічога яна! Дзеўка ў самай сіле! І супроць такога, як ты, хлапчыны, яна хэ-хэ-хэ.., не вытрымае! Ну, дык як? Бярэш падрад? Па руках?

— Па руках!—упэўнена адказаў Мікола.

І яны сапраўды ўдарылі па руках.

Потым, калі ўсталі з каменя, Харкевіч сказаў:

— Толькі глядзі! Ні аб якіх нашых справах, бабам ні слова! Ні матцы, ні Соні, як прыедзе... І ніколі, глядзі! Да сканчэння веку! Нічога яны не ведаюць аб тым, што ды як, ды якім парадкам бацька хлеб здабывае. Адно—спажываюць гэты хлеб. Бабская галава, старыкі кажуць,—дурная галава, бабскі язык,—даўгі язык, і больш за пажар ад яго бяды можа быць. Чуеш?

— Чую,—адказаў Мікола.

І яны пайшлі на хутар.

Пасля гэтага дня Мікола пачаў усё рабіць так, як яму загадваў Харкевіч. З кожным днём яго ўсё больш захоплівала думка, што ён будзе гаспадаром на хутары Харкевіча. І ён пакрыху паводле ўказанняў Харкевіча, наколькі ставала ўмення, муціў вадзіцу ў калгасе, пакрыху пачынаў сварыцца то з адным, то з другім комсамольцам і паступова і непрыметна адыходзіў ад іх.

Харкевіч-жа зрабіў так, як гаварыў. Ён выклікаў дачку тэлеграмай, у якой паведаміў аб сваёй небяспечнай хваробе. Соня прыехала адразу і Харкевіч дні тры, прыкідваючыся хворым, пластом ляжаў на печы, потым пачаў хадзіць, і тады з'явіўся Мікола. Ён прышоў у лепшым сваім гарнітуры, як бы па справах да Харкевіча. Ён сядзеў за сталом скромны і прыстойны, вёў размову наколькі мог і ўмеў, і не зводзіў вачэй з Соні. І ў гэтых чорных вачах Соня бачыла адкрытае захапленне і лёгкая нясмелая чырвань залівала яе твар. Харкевіч, здаволена ўсміхаючыся, паскубваў сваю бародку. Ён бачыў: Мікола падабаецца Соні.

І праз два тыдні сёння ўначы, Мікола палаяўся з Васілём, нагаварыў яму што прышло ў галаву і, пакінуўшы комсамольцаў у лесе, пайшоў на хутар. І тады нечакана Харкевіч адаслаў яго дадому. І выйшла цяпер так, што Мікола адарваўся ад зямлі і не трапіў на неба. Ён сядзіць на пні...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Заяц мільгануў у кустах сваёй светла-шэрай скуркай і знік, смешна падкідваючы азадкам.

— Да вечара не пайду ў сяло...—панура думаў Мікола.

— Заўтра не пайду на работу, скажу што хворы... А там ужо ўсё і выявіцца, заўтра ўвечары... Дзядзька Адольф не падвядзе...

У лесе было ціха. Лагодна грэла сонца. Звінеў рознагалосы птушыны хор.

Пануры Мікола нярухома сядзеў на пні.

Думаў.

*(Працяг будзе)*

Пятрусь Броўка

## АТАКА 327 СІМБІРСКАГА ПАЛКА

(Урывак з паэмы „1914")

Глянь наперад—смерць!
Абярніся—краты...
А сапраўднай волі
Ніяк не прычакаць.
Ноч.
Снягі, як горы,
на снягах салдаты
327 Сімбірскага палка.

Моляцца Ісусу,
Моляцца Мессію,
А на небе ціха,
Ціха, ані-ні...
Свет залёг у траншэях,
Выцягнуўшы шыю,
І ў вачах зялёныя
Калышуцца агні.

Міліярд асколкаў
Свеціць ў небе сінім...
Дзівяцца салдаты—
з вечара спакой...
Першы раз
такая выпала часіна,
Што прыходзяць думкі
разам,
        чарадой.
Што балюча вельмі
яны сэрца кратаюць,
На затвор не ложыцца
гаротная рука.
І пашла гаворка
такая між салдатамі
327 Сімбірскага палка:

— Я не маю звычкі
мушкаю каб меціць,

Пальну так з акопаў
і ляці,
гудзі...
Недзе на Украіне,
клічуць мяне дзеці,
Хочацца дадому...
праказаў адзін.

— Мне-ж дык усёроўна
дзе ад сцюжы корчыцца,
Зоры ўсюды злосныя
па начах гарадь...
У матушку Расію
няма чаго варочацца,
Толькі не жадаю
рана паміраць.

— Што мне за патрэба
быць тут рызыкоўнікам,
Я жыцця хвалёнага,
добрага не знаў...
Вось каб мне палацы
Такія што ў палкоўніка,
Ах-ба пазмагаўся!..
Ах-ба, пастраляў!

Паглядзі,
як ходзяць афіцэры зверам,
Толькі знай страляй тут,
ды на іх рабі.
Я-б чужых, уласных,
розных афіцэраў—
лентай кулямётнай
да зямлі прыбіў...

Так прамовіў трэці,
і чацверты, й пяты,
Кожны крыкнуў з роспачы:
— болей не магу!..
— Што, цару нямецкаму
ліжаце вы пяты?!
закрычаў сурова
унцер Перагуд.

Ён наліўся злосцю
хуценькі як пстрычка...
— Хто цару наважыў
сёння здрадзіць, як?..
На пагонах
свежыя, два, гарэлі лычкі,
Срэбра зіхацела
на яго грудзях.

— Мы адвагу мусім
несці ў сваім сэрцы.
А вайну прыкончым—
нам усё дадуць...
І ў мяне
таксама жонка ёсць і дзеці,
З перамогай толькі
я да іх прыду.

Вось тады спакойна
будзем разжывацца,
Там мы знойдзем долю
шчасную сваю—
Кожнаму герою
пры уласнай хаце
Дзесяцін на дваццаць
хутар адаб'юць.

Будзе наша поле
добра каласіцца,
Мы-ж яго здабыткі
толькі ведай браць—
Да вакон засеем
жытам і пшаніцай,
Дык паслужым, братцы,
за белага цара!..

Ур-ра!..
закрычаў фельдфебель,
Падышоўшы пабліз,
пачакаў падтрымкі,
І зусім прыціх...
Толькі завярнулі братцы
ўсе аглоблі,
ў рукавы захікалі,
ціснуўшы ад іх...

І канец размовам.
Без разбора чына
Пляснуліся вобзем
пяхотныя рады...
Прыляцеў здалёку
свежанькі гасцінец—
Гахнуў па акопах,
толькі пыл ды дым.

Толькі сэрца сціснулася
быццам абцугамі,
Толькі свет заняўся
полымем гарэць...
І зямля здавалася,
чэзла пад грудзямі
І такой звычайнай
прылятала смерць.

І калі ўжо
Золак на усходзе плакаў
І крыві на снезе
пеніла рака...
— Ў атаку!
гойнулі дружна афіцэры
327 Сімбірскага палка.

Усё закалацілася
ў гаме апантаным,
Толькі здані шэрыя—
усё бягуць,
бягуць...
І за ўсіх наперадзе
патрыот адданы,
Штык узняўшы горда
унцер Перагуд.

Толькі здані шэрыя
шэпчуць
божа... божа...
дай сябе, нам, божа,
дзецям зберагчы...
А па ўсёй імперыі
скрыгаюць абозы,
І равуць каровы,
гуртам ідучы.

Толькі некаторыя
цешацца утроя
Бавяцца распустай,
смачнаю ядой...
А па ўсёй імперыі
хутары герояў
Да вакон зачахлі
горкай лебядой.

І пакуль ў атаках
шчыра на ўсе грудзі
Наш герой змагаецца
як сапраўдны барс...
Над нішчымным варывам
жонка Перагуда
З дзецьмі камянее
ўжо каторы час.

А на фронце
самая, крывавая пагода
Не земля пад сонцам,
а адны равы...
Вось ужо
на трэцім радзе загароды
Б'ецца з лютым ворагам
унцер баявы.

Каб паддацца немцам...
Не, ніколі!..
Трасцу!..
Ах, як дзіўна коліць
спрытная рука.
І канае вораг
у сталёвай касцы
Гамбургскі рабочы
ад яго штыка.

І калі ваякаў
засталося мала,
Толькі чад трупярны
па зямлі ішоў—
Заіграць адбой,
сказалі генералы
З-пад дваццатай схованы
тайных бліндажоў.

Поле ўздымалася
з чалавечым хлудам,
Колькі з іх хацела
яшчэ доўга жыць!..
Першага з пазіцыі
неслі Перагуда
Ах, як зіхацелі
на грудзях крыжы.

Як блішчэлі гузікі
на мундзіры гладкім,
Унцер быў спакойны,
як трываць ён мог...
Усё было, як трэба.
Ўсё было ў парадку,
Не хапала малага—
толькі рук
ды ног.

І сказаў палкоўнік:
Можна і без гэтага
ў свеце жыць багатым.
Дасць узнагароду
царская рука...
— Вось табе і хутар!
падумалі салдаты
327 Сімбірскага палка.

**Сяргей Знаёмы**

# ЭСТАКАДА

**(Нарыс)**

## I

Калісьці Кузьмінскаму проста сказалі:

— Кінь, хлопец, бо нічога з гэтага не атрымаецца. Ат, што тая бурболка на вадзе, пакуль з прадонняў узнімецца, зірнеш і няма.

Кузьмінскі зірнуў на майстра. Ён не то, каб крыўдзіўся на старога. Не. Яму проста было незручна і за сваю неўпэўненасць і за недаверлівасць Карлавіча. І ён пачынаў думаць, ужо каторы раз абмяркоўваць планы, што колькі часу склаліся ў яго галаве.

Адзін час ён зрабіў выгляд, што нават з галавы выкінуў думкі пра гэтыя планы. Менавіта так здалося Карлавічу. Карлавіч—стары і недаверлівы, крыху падслепаваты, згледзеўшы знадворны спакой Кузьмінскага—паверыў, што гэты хлопец выкінуў дурасць з галавы і цяпер зноў з упэўненасцю яго можна пасланць на самыя адказныя вучасткі работы.

А раней Карлавіч баяўся гэта рабіць. Чаго добрага, заняўшыся сваімі думкамі, хлопец не дагледзіць работы, не так зробіць патрэбную дэталь. І што тады з ім? Ты яму і брак, ты яму і вымову, але-ж сапсутага назад не звернеш. Не. Лепш ужо адразу не пакладацца на чалавека, калі ў ім якое-небудзь сумненне маеш. Так разважаючы стары пасылаў Кузьмінскага на тую працу, дзе можна было пакласціся, дзе была не такая адказная работа, дзе было прасцей.

А вось, калі пабачыў, што хлопец выкінуў тлум з галавы, дык адразу накіраваў яго ўстанаўляць новы матор. І сам быў рады, што так здарылася, бо ведаў: гэтая праца будзе выканана і выканана не абы як, а добра, па-майстэрску.

Яно так і было. Але вось, праз тры дні пасля ўстаноўкі матора, здарылася тое, чаго Карлавіч не чакаў. Прышоўшы ў майстэрню, ён убачыў, як Кузьмінскі зноў корпаўся каля сваёй мадэлі, прыганяў шасцерні, нацягваў рамянькі, і ўсё імкнуўся прывесці гэтую нязграбна зробленую мадэль у рух. Крыўдна тут зрабілася старому майстру і злосць хлынула на гэтае зялёнае, але-ж упартае і непаслухмянае хлапчанё.

— Ты зноў тут корпаешся. Усё распінаеш пелькі? Эх, хлопец, хлопец. Добраахвоч на ражон б'ешся. Лупцаваць няма каму... Кінь, не трацць дарэмна часу. Лепш падгані шкіў у кузні. Ад гэтага карысці больш будзе.

І Карлавіч крута выйшаў з майстэрні, відаць было, што ён надзвычай незадаволены, нават абураны, Кузьмінскі спакойна, ні слова не сказаўшы, зірнуў яму ўслед, паставіў у куточак мадэль і ўжо больш не браўся за яе ў майстэрні. Ён перанёс мадэль дахаты і там вечарамі і ўначы ўдасканальваў свае думкі.

II

Кузьмінскі зусім просты слёсар. І толькі дзве асаблівасці розняць яго ад шэрагу іншых слёсараў станцыі. Адна—гэта тая, якую ведае Карл Карлавіч, за што ён надзвычай паважае маладога слёсара—гэта дабрасумленнасць у працы.

— То ўжо чалавек, калі ўзяўся за працу, то зробіць. І зробіць так, што паглядзець люба—кажа Карл Карлавіч. А другая асаблівасць—дык гэта неахайнасць Кузьмінскага, от-жа-ж гора для жонкі. Ён табе адзежыну тую аж пакуль з плеч не спаўзе насіць будзе.

А вось пра трэцюю асаблівасць Кузьмінскага, пра яго вынаходніцкія імкненні покуль ведаў толькі Карлавіч. Ды і той веры не даваў, каб з гэтага што-небудзь выйшла.

А між тым Кузьмінскі дома ноч-у-ноч працаваў над мадэллю. Яму ніколі ў жыцці не даводзілася чэрціць. Нават самыя складаныя дэталі ён рабіў „на-вока", а зараз вось трэба вымераць, вылічаць, каб усё было цюцелька ў цюцельку. А то зрабіў мадэль без чарцяжоў і вылічэнняў—і няўдала атрымалася. Карлавіч паглядзеў на мадэль, пасмяяўся, тэхніку паказаў, дык той і рукамі замахаў. Нават самога Кузьмінскага пасля гэтага сумнення агарнула і тая ранейшая ўпэўненасць з месца кранулася.

„Сапраўды, можа гэта ўсё ўпустую, мо' гэта ўсё лухта. Падумаць-жа толькі. Будавалі станцыі людзі не з такім розумам, як мой і калі-б што было магчыма зрабіць, няўжо яны не зрабілі-б?"—думаў Кузьмінскі.

Але раптоўна наплыўшыя думкі і сумненні хутка зніклі і моцная кемлівасць пачала зноў натхняць імкненнем дасягнуць свайго, пачала натхняць жаданнем паказаць, што ён, малады слёсар БелДРЭС імя Сталіна—Кузьмінскі мае рацыю.

Пад напорам жадання паказаць, што думка не пустая, не нікчэмная, а правільная і каштоўная, ён колькі ночаў прасядзеў над чарцяжом. І вось пры вялікіх цяжкасцях так-гэтак быў зроблены чарцёж. Радасна было, мацней білася ад радасці сэрца Кузьмінскага. Яму нават здалося, што вось ён ішоў па нейкай дрыгве, з асцярогай ступаў з купіны на купіну, каб не праваліцца. Ішоў доўга часта спыняўся, але набліжаецца бераг, цвярдзее пад нагамі грунт, хутка абмежак, а там і дарога—аб'еджаная і выхаджаная якім ужо часам і людскою хадою.

Нешта грукнула. Кузьмінскі расчыніў вочы. На дварэ займаўся золак, а на падлозе кухні, пазяхаючы, пацягвалася кошка. Тады ён зразумеў, што задрамаў, успомніў, што нешта сніў, але адначасова адчуў моцную стому ў целе і, распрануўшыся, рынуўся на ложак. На дварэ віднелася, наступаў выходны дзень са сваімі звычайнымі абавязкамі.

III

Толькі сон быў кароткім. Бо для таго, каб спаць удзень, патрэбна звычка, а яе то ў Кузьмінскага і не было, даўно не даводзілася яму спаць удзень. І таму як толькі добра развіднелася, ён падхапіўся, каб тым-сім у хаце дапамагчы, а потым зноў узяцца за сваё. Бо сёння-ж цэлы дзень вольны.

Ён прысеў за чарцёж. Пачаў звяраць з дэталямі і на вялікі жаль сам убачыў, што чарцёж далёка не такі, які быў-бы патрэбен. То хутчэй быў нязграбны малюнак з крывымі нязграбна выведзенымі лініямі. Нядобра зрабілася Кузьмінскаму, балюча зашчымела ў грудзях і крыўда ўзнялася. Была крыўда і на сябе—за сваё няўмельства і на іншых за іх нячуласць. Зноў узнікла думка кінуць усё і спакойна ўзяцца за звы-

чайную работу. Але гняло і іншае—жаданне дасягнуць свайго, упэўненасць у тым, што гэта магчыма.

— Ну-ж—думаў Кузьмінскі,—спрабую яшчэ раз. Няпраўда, калі-ж небудзь ды атрымаецца. І ён, паклаўшы перад сабою чарцёж, назбіраў шпуляк, пашоў купіў нітак. Цвічкамі папрыбіваў шпулькі да дошкі і пачаў снаваць па іх ніткі. Жонка маўчала. Ёй было смешна, што мужык, як малы, дзіцячымі цацкамі займаецца.

А Кузьмінскі на працягу колькіх тыдняў пасля працы усё снаваў „гэтыя кросны" і пад канец павесялеў. Бо калі ён у канцы дошкі прымайстраваў невялічкую перадачу і пачаў надаваць гэтым кроснам рух, то ўсё пашло як мае быць. Рух быў павольным, але бесперабойным.

І тады, тады надышла такая вялікая, блізкая радасць. Лёгка было яе адчуваць, але яшчэ лягчэй было не пабачыць, бо значны спуск назоле і сэрца не паражыло-б гэтага прыўзнятага клёкату.

Калі Кузьмінскі паказаў Карлавічу, той спачатку не верыў, а потым пакруціў галавой і неяк хораша, цёпла ўсміхнуўся. А пасля, калі ўсе разышліся, ён сказаў:

— Добрую ты, сын, работу зрабіў.

— Што-ж гэта за работа?

А то зусім простая звычайная рэч.

Калі замежныя спецыялісты рабілі ўстаноўку эстакады, яны нават іх не падумалі, як-жа лепш і лягчэй падаць тарфушку да бункяроў. І тарфушка, ускарабкаўшыся па эстакадзе, спынілася, потым яе двое рабочых, упёршыся плячыма, пхнулі наперад. Змораныя і спацелыя, яны ціснулі на тарфушку і тая павольна рухалася па рэйках, высыпаючы праз бакавыя шчыліны ў бункяры тарфяныя цэглы. Такая праца затрымлівала справу, а ў выніку нізкая вытворчасць—шэсцьдзесят тарфушак у змену, шматлікія перапынкі і аграмаднейшыя перавыдаткі па ўсёй станцыі.

Вось тут і прышоў на дапамогу „безнадзейны" Кузьмінскі. Выклаўшы свае думкі на чарцёж і праверыўшы іх на сваёй адменнай „механіцы", пабудаванай на шпульках, ён законна патрабаваў ажыццяўлення сваёй прапановы. І калі ў пачатку ў некаторых былі сумненні, дык пры першай пробе яны зніклі.

Механічная падача Кузьмінскага вытрымала свой іспыт. Яна добра працуе і зараз. Яна значна павялічыла вытворчасць і дала вялікую эканомію. Цяпер у змену можна падаваць не шэсцьдзесят тарфушак, а сто пяцьдзесят—сто шэсцьдзесят. А гэта дае звыш пятнаццаці тысяч рублёў эканоміі.

## IV

Хто быў на Асінстане, той бачыў яскравы прыклад дзіўнага ўзлёту чалавечай думкі. Зірнеш на эстакаду і радасць агорне. Стаіць яна пукатая абеража і пры кіраванні адным чалавекам робіць працу цяжкую, напружаную за колькі дзесяткаў рабочых рук.

І тут-жа поплеч замызганая кабыліна пнецца, цягнучы адну тарфушку. Кабыліна старая, закормленая, яна павольна нацягвае збрую, павольна рушыць тарфушкі і калі падыйдзе бліжэй да эстакады, ніжэй звесіць галаву і, нібыта адчуваючы сваю нікчэмнасць, заплюшчвае вочы. А на эстакадзе адна за адной карабкаюцца ўгору тарфушкі.

Кузьмінскі кажа, што яму балюча глядзець на гэты малюнак. І ён зусім слушна абураецца на тых спецаў, што не дагледзілі, не скончылі пачатае працы.

Кузьмінскі абураўся, але гэтае абурэнне было не проста так, каб унутраную злосць выліць, ён абураўся і разам з тым думаў, каб палепшыць. І вось колькі бяссонных начэй і вытворчая нарада абгаварвае новую прапанову Кузьмінскага. Ён і тут на тых-жа самых шпульках даказаў выгоднасць і неабходнасць правядзення механічнай падкаткі і адкаткі шляхам пракладкі троса на роліках і ўстаўлення лябедкі. Зрабілі і вачавідкі ўбачылі выгаду прапановы. Яна прынесла больш, чым дваццаць тысяч рублёў эканоміі.

Вось тады стары майстар цэха Карл Карлавіч, асцярожны і недаверлівы, падышоў да Кузьмінскага, узяў за гузік зашмальцаванай спецоўкі і спакойна, але даверліва, без пагарды, і як да роўнага—сказаў:

— Ты-б паглядзеў там у кацельнай, нешта з каласнікамі нядобрае дзеецца. Можа-б ты што-небудзь зрабіў.

І ўсміхнуўся такой цёплай бацькаўскай усмешкай.

БелДРЭС, Арэхі.

В. Сташэўскі

# ГІСТОРЫЯ АДНАЕ ЛАЗНІ

У глухім кутку Палесся, у балотным закутку, але на пескавым узгорку—вёска Баравінка. Адзіны праезд, адзіны шлях, што злучае гэтую вёску з іншымі—грэбля. Кажуць, што толькі баравінчанін мог сядзець на каламажцы і трэсціся па гэтай 2-х вёрстнай грэблі. Чалавек-жа з другой вёскі, паляскаўшы крыху зубамі, абавязкова злазіў з возу, ды пехатою дабіраўся ў вёску. Калі ў першыя гады совецкай улады ўсюды ўзяліся за адбудову гаспадаркі, а значыцца, і дарог—баравінчане спакойна трэсліся на каламажках і яшчэ больш спакойна адказвалі на запытанне—чаму не правіце грэблі: „Эт, таварыш яна нас не трасе, прывычныя мы, гэтага...“

Чалавек, які не ведае баравінчаніна, можа чакаць, што пасля слоў „прывычныя мы, гэтага...“—ён скажа яшчэ нешта, бо тон зусім не сцвярджальны і выраз твару такі нібы ён падбірае словы, каб далей выказваць сваю думку. Ну, а так—народ працавіты, упарты, але павольны. Чамусьці ў суседніх вёсках, калі ў якога селяніна ў хаце брудна, сам ён павольна рухаецца, павольна гаворыць—тады яму часамі казалі: „ты, шляхціц з Баравінкі“. Можа тут быў перагіб, а мо' гэта якраз адпавядала сапраўднасці. Адно было бясспрэчна: баравінчан расшавяліць не так лёгка. Яны, напрыклад, не вельмі спяшаліся з калгасам, гадоў два „асазнавалі“, калі часамі пытаўся хто: „Чаму не арганізоўваеце калгаса“,—яны адказвалі: „братка дарагі, калгасы добрая справа, гэтага... мы не супраць, але-ж трэба чалавеку асазнаць, гэтага“... Цяпер у іх ніштаваты калгас, ну і вядома змянілася грэбля. Яна добра высыпана, утрамбавана, абапал—канавы, а праз рэчку мост з дубовымі парэнчамі—любата. А нядаўна закончана пабудова планавай школы. Змянілася вёска Баравінка. Але ўсё гэта ідзе звычайным парадкам і пабудова ў Баравінцы такой прыгожай школы не зрабіла на іх асаблівага ўражання, бо совецкая ўлада і ў суседніх вёсках таксама панастаўляла, ды нават раней, чым у іх. А вось будынак, што над рэчкаю, каля маста—гэта памятка навекі, бо ў ім спалучылася і гордасць і крышку сораму баравінчан. А гэта-ж звычайная лазня, а толькі гісторыя яе незвычайная.

Лазня. У кожнай вёсцы павінна быць лазня—лозунг старшыні РВК таварыша Круглікава. А быў гэта 1928 год. Многа думак у Круглікава: школы, лазні, асоавіяхім, заём індустрыялізацыі, правыя, левыя загібы, патрошку калектывізацыя. Апартунізм!

Поўны камплект твораў Леніна вось тут ён, на этажэрцы. „Капітал“ косіцца на Круглікава. А калі чытаць? „Адзін настаўнік папраўку дае мне ў часе дакладу. Ды я цябе практыкаю ра-азаб'ю ў дошку. Рэво-

люцыю я рабіў. Вось мая школа і тэорыя. Лазня—другая рэволюцыя ў гэтым брудным Палессі і я выйду пераможцам".

А тут у райкоме партыі кажуць Круглікаву: „трэба падвышаць сваю граматнасць, мацней узбройвацца Маркса-Ленінскай тэорыяй: „не супярэчу,—кажа Круглікаў,—трэба". А за дзвярыма: „тэорыя не карова, малака не надоіш". Але пасля адных палітзаняткаў задумаўся Круглікаў. Пачаў крыху заглядаць на палічкі сваёй этажэркі. Углядаецца аднаго разу на многатомнікі Леніна: „што гэта тэорыя ці практыка? Падрыхтоўваць рэволюцыю, ствараць партыю, Акцябр? Уся ўлада Советам! Разбіць інтэрвенцыю! Стварыць новую рэспубліку і кіраваць гаспадаркай... і напісаць столькі кніг!.. Даруй, дарагі Ільіч і ты, дружок Маркс. Я гэтага зрабіць не магу. Галава мая... ды я і пісаць, каб надта граматна, не вельмі што. І рукі мае не да пяра, а да вінтоўкі, нагана больш прывычныя, і яшчэ да сякеры, да струга. Чым магу, тым справе памагу. Будую ў сваім раёне лазні, школы, млыны, пільні, ваюю з кулакамі, нэпманамі. Закладаю арцелі. Вось яна мая тэорыя і практыка. Мне толькі правільную дырэктыву, а мой выканком выканае на ўсе сто. Кажуць што лазні—мая фантазія. Няхай сабе і так. Няхай палаюць, а пасля будуць дзякаваць. Вось каб знайсці ў Леніна хоць тры радкі пра лазні, я тады ўцёр-бы нос сваім супраціўнікам. Закажу мастацкія плакаты і расклею па ўсім раёне".

Круглікаў пачаў па парадку разглядаць томы і шукаць на старонках змест адпавядаючага артыкула. Не знайшоў. „Быць не можа, каб Ленін не закрануў і гэтага пытання. Можа загаловак не такі. Каму-б дадручыць пашукаць? Можа нават беспартыйнаму, але такому каб не вельмі ляпаў языком пра гэта".

І спыніў сваю ўвагу Круглікаў на настаўніку Мазарыку. „Гэты пастараецца". Выклікаў Мазарыка да сябе.

— Вось што, таварыш Мазарык, ты хоць пакуль што і беспартыйны, але чалавек блізкі нам, актыўны. Я раю табе больш сур'ёзна займацца тэорыяй: чытаць Леніна, Маркса, Сталіна і наогул філасофію. Сядай.

— А я, таварыш Круглікаў, чытаю. Я лічу, што без гэтага настаўнік не настаўнік,—адказвае Мазарык.

— Чытаеце? Добра. А скажыце, што казаў Ленін пра лазні?

Мазарык пачаў шавяліцца.

— Я, уласна, дакладна не памятаю, але ведаю, што аб культуры, аб быце, перабудове яго шмат сказана.

— А як вы лічыце, у брудных вёсках, мястэчках, у якіх людзі ніколі не мыюцца ў лазнях, бо і лазняў няма, хварэюць на розныя скулы—пабудаваць лазні—гэта гаспадарчае ці культурнае пытанне?

— Я лічу, што гэта важнейшае культурнае мерапрыемства.

— Значыць, вы падзяляеце маю лінію гэтых культурных мерапрыемстваў?

— Цалкам, таварыш Круглікаў, гэта надзвычайна вялікая справа, за якую масы будуць вам толькі ўдзячны.

— Вазьміце Леніна, прачытайце што небудзь... Вы час маеце?

— З прыемнасцю,—адказаў Мазарык і пачаў перабіраць томы.

— Вазьміце дваццаць пяты том, колькі мне помніцца, там ёсць надзвычайная прамова на аднэй беспартыйнай рабочай канферэнцыі.

Мазарык пачаў пераглядаць.

— Ды вось, на канферэнцыі прэсненскага раёна.

Пачаў чытаць. Круглікаў курыць люльку. Спачатку ўважліва слухаў але хутка думкі яго пераскочылі ў эпоху 20-га года. Схамянуўся ён толькі тады, калі Мазарык прачытаў: „мы начали великую войну, като-

рую мы не скоро окончим: это—бескровная борьба трудовых армий против голода, холода і сыпняка,—за просвещенную, светлую, сытую и здоровую Россию".

— Памятаю гэтыя словы,—сказаў Круглікаў, моцна трымаючы ў руцэ англійскую люльку.

„...но мы кончим эту войну,—чытае далей Мазарык,—такой-же решительной победой, какой окончили и борьбу против белогвардейцев..."

— А што хіба не так?—спытаў Круглікаў.

— Безумоўна так, таварыш Круглікаў.

— Ну, давайце далей, давайце сёння перабярэм гэты том.

Мазарык надзвычайна старанна чытаў, дайшлі да рэзалюцыі IX З'езда РКП(б), і вось тут у адным з раздзелаў, дзе пералічваюцца галоўныя віды партыйнай работы, названа і работа „па рэмонту і правільнаму функцыяніраванню лазняў".

— Ну, вось—кажа Круглікаў,—а думаеце на сёняшні дзень гэта не мае сілы? Вядома, многа ўжо зроблена, ой, многа, але яшчэ не ўсё. У раёне нашым яшчэ многа работы і як раз іменна ў гэтай галіне— з лазнямі. Тут няма чаго рэмантаваць, бо іх тут не было спрадвеку. Тут новенькія трэба майстраваць усюды, ды яшчэ ў некаторых пунктах трэба правесці агітацыю за тое, каб першы раз зацягнуць памыцца. А пасля першага разу пойдуць у лазню, як некалі на вадохрышча, ха-ха!

Гэтым вечарам былі задаволены і Мазарык і Круглікаў. Мазарык дома сказаў жонцы: „Сёняшні вечар я лічу першым пэўным крокам у комуністычную партыю".

Назаўтра Круглікаў з'явіўся ў райком да сакратара:

— Чытаў дваццаць пяты том твораў Леніна?

— Чытаў. А што?

— Значыцца, павінен ведаць, што Ленін сказаў пра лазні?

— Хм,—усміхнуўся сакратар.—Я хацеў-бы, каб заўтра былі лазні ў кожным насельным пункце, таварыш Круглікаў.

— Ну і будуць.

— Пачакай. Ёсць план гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ўсяго раёна. Ёсць цэлы рад задач, якія патрабуюць гармонійнага вырашэння. А ты—захапіўся адной справай і ўпускаеш другую. Партызаншчына, таварыш Круглікаў. А партыя нас вучыць і ўказвае—умець своечасова з усіх задач вылучыць важнейшую, знайці галоўнае звяно. Не лазня вузлавое пытанне на сёнешні дзень.

— Я вузлавых пытанняў не пакідаю, а лазні будую ў парадку мясцовай ініцыятывы. А партызаншчынай упікаць мяне няма чаго.

— Добра, зайдзі вечарком на кватэру, за шклянкаю чаю ці піва раскажаш мне, як у 19—20 годзе чысціў белых, а я табе раскажу пра партызаншчыну сёняшняга дня. Добра?

— Ладна. Зайду.

Выйшаў Круглікаў. Ідзе, думае. Ён-жа сёння меўся быць у Баравінцы. Там прызначан сход пра пабудову лазні! Дрэва вывезена. Гніе. Не хочуць баравінчане будаваць. Рашаючы сход.

Увайшоў у РВК. А тут у карыдоры Мазарык насустрач. Ён часта наведвае кіруючыя ўстановы.

— Зайдзі,—кажа яму Круглікаў. Мазарык за ім увайшоў у габінет.

— Сёння ў Баравінцы рашаючы сход: быць лазні ці не быць. Я меўся паехаць, але як раз сёння не выпадае, ды няма каго паслаць, народ мой у раз'ездзе. Можа з'ездзіш, правядзеш сход? На маім кані, туды і назад.

— Раз трэба, не маю права адмовіцца,—адказаў Мазарык.

— А калі зрыў,—перапішы зрыўшчыкаў і запісачку мне. Дагаварыліся?

— Калі ласка. З Совецкай уладай я не спрачаўся ніколі, калі ласка.

Выехаў Мазарык у Баравінку, сход адбыўся і ўхваліў лазню будаваць. Баравінчане не надта горача выказваліся за пабудову і не надта горача супярэчылі, хоць гадзіны дзве парыліся ў кажухах. Як не намагаўся Мазарык, каб вызначыць тэрмін пабудовы—нічога не вышла. „Калі дазволіць час, гэтага...“ А гэта значыць—калі ім захочацца.

Дзевяць чалавек трапіла на запіску Мазарыка, з гэтым ён і вярнуўся назад.

Пачытаў Круглікаў, падзякаваў Мазарыку і выклікаў да сябе стоража.

— З Баравінкі сёння ёсць хто небудзь, не заўважыў?

— Аднаго бачыў,—адказвае стораж.

— Пакліч да мяне.

Праз некаторы час з'явіўся баравінчанін да Круглікава.

— Вось вам запіска,—кажа Круглікаў,—абвясціце гэтым грамадзянам, што тут запісаны, каб заўтра ўсе былі тут, скажы, каб кожны ўзяў па пары бялізны, ну і вядома, кавалак хлеба і сала ў торбачку.

На другі дзень восем баравінчан з'явіліся ў РВК. Адзін не прышоў, бо скулы так панасядалі, што не толькі ісці, альбо ехаць цяжка, а нават сесці чалавеку нельга.

Здарылася так, што гэта быў выходны дзень. Але Круглікаў не забыўся пра баравінчан. Ён не пайшоў у РВК, але перадаў сторажу, каб а 2-ой гадзіне прывёў баравінчан у лазню.

Са старое мураванае сынагогі, што стаяла над рэчкай, добрая выйшла лазня. Прасторная, чыстая. Па заказу Круглікава напалена яна сёння. Увайшоў Круглікаў з Мазарыкам—душа радуецца. Успомніў Круглікаў словы сакратара райкома: „партызаншчына“ і заспяваў родную партызанскую. Рэха ломіцца ў вокны. Звініць лазня. І Круглікаў адчуў такую сілу голаса, якая была тады, калі спяваў конна, едучы з атрадам чырвонаармейцаў пасля разгрому, адной бела-бандыцкай шайкі. Шабулдыхнуў шайку з вадою на галаву. Тады не было калі мыцца, а ў гэтай мясцовасці і не было дзе. Далоняй зграбалі з падранай кашулі тыфозную заразу.

— Я іх памыю касалапых,—кажа Круглікаў Мазарыку.

— Гэта надзвычайна, таварыш Круглікаў.

Адзін за адным уваходзяць баравінчане. Чатыры чалавекі ўвайшлі. Круглікаў вылівае на сябе шайку за шайкаю і няпрыметна для іх паглядае. А яны голыя, нібы саромеюцца адзін аднаго.

— Вы што?—пытае Круглікаў.

— Памыцца перад смерцю, таварыш старшыня,—адказвае адзін. Другія натапырыліся: „Няўжо і старшыня тут?“

— Навошта перад смерцю мыцца?..

— Закон такі, гэтага...

— Немытага і ў рай не пускаюць,—дадаў другі.

Увайшлі яшчэ два чалавекі.

— А гэтыя таксама вашы?

— Нашы. Там яшчэ два раздзяваюцца. Восем чалавек затрэбавалі.

— Хто?

— Казалі, што вы, гэтага...

— Першы раз чую.

— Тады трэба разабрацца, таварыш старшыня, гэтага...

— Я тут не старшыня, а такі самы голы чалавек, як і вы. Але

трэба высветліць,—сказаў Круглікаў і выйшаў у раздзявальню. Баравінчане за ім. Падняліся апошнія два баравінчане.

— А вы таксама мыцца?—звярнуўся Круглікаў да гэтых двух.

— Таксама,—целяпнуў барадою адзін з іх.

— А чаму ў кашулю ўглядаешся, поўзае што?

— А калі поўзае, дык гэта навіна. Свая поўзае, а не твая.

Баравінчане міргаюць старому, каб так не адказваў.

У гэты момант у лазню увайшоў міліцыянер:

— Тэрміновая тэлеграма, таварыш старшыня.

Круглікаў паглядзеў тэлеграму, пачухаў левы бок, падміргнуў міліцыянеру, кіўнуў у бок баравінчан.

— Слухайце, гэта вашы людзі мыюцца тут? Вашы канечна.

— Гэтыя? Нашы, таварыш старшыня,—адказаў міліцыянер.

Круглікаў яшчэ раз паглядзеў на баравінчан.

— Ну дык заходзьце ў лазню і мыйцеся, а я тут сам высветлю. Баравінчане адзін за адным пайшлі ў лазню. Круглікаў яшчэ раз глянуў на тэлеграму. Звычайная службовая тэлеграма; толькі пазнавата падышла. Сёння 11, а „Менску дванаццатага нарада старшынь жывёлагадоўчых раёнаў".

— Поезд калі? У гадзіну ночы?

— У гадзіну ночы.

Аддаў Круглікаў міліцыянеру тэлеграму.

— Вось што, браток, ты праз паўгадзіны падыйдзі сюды, возьмеш гэтых дзядзькоў, а я гэтым часам памыю іх.

— Слухаю, таварыш старшыня,—адказаў міліцыянер і з усмешкаю і выйшаў. Круглікаў увайшоў у лазню. Баравінчане з венікамі, мылам збіліся ў гурт, раяцца.

— Ну грамадзяне,—звярнуўся да іх Круглікаў,—раз прышлі ў лазню, дык давайце мыцца. Сюды!—сказаў Круглікаў, прачыніўшы дзверы ў парнае аддзяленне.

Ткнуліся баравінчане, а тут парнасць дух займае. Той што з барадою назад.

— Стой, стары!—гукае Круглікаў,—табе якраз тут і трэба.

— Не вытрымаю, галубок, пусці, няхай маладзейшыя. А Мазарык на верхняй паліцы хвошча сябе і запрашае:

— Сюды, сюды, грамадзяне!

Адзін з іх адважыўся, ускочыў, лыпае, трымаецца і кажа: „усё-ж роўна трэба адпакутаваць".

— Кладзіся,—кажа яму Круглікаў,—і летняю вадзіцаю пакрапляй сабе галаву. Давай свой венік.

Пакараецца чалавек. Узмахнуў Круглікаў венікам, патрос яго ў гары лёганька прайшоў ім, зашуршэў гарачым лістам ад пятак да галавы і назад, ударыў па найбольш пукатым месцы. „Ах-х"... „Што?"... „Нішто". Зноў патрос Круглікаў венікам у гары: і з поўным усведамленнем свае віртуознасці іграе ім па заскарузлым целе.

— Пераварачвайся дагары.

— Братка, можа хопіць?!

— Ого, трэба паважаць кожную частку цела. „Ах-х"... „Што?". „Ні што".

— Злазь. Наступны.

Баравінчане пачалі высоўваць кандыдата.

— Нічыпар!

— А чаму не Рыгор?—бароніцца Нічыпар.

— Ну, дык Мікіта.

— Што вы, я хіба апошні, можа пара крыху сыйдзе, а то я і тут ледзьве дыхаю.

А Круглікаў грозна: „Наступны“.

Палез Нічыпар.

Круглікаў падняў венік.

— Таварыш старшыня,—просіцца Нічыпар.—Я хацеў-бы паліцаю ніжэй. Я вось тут лягу.

— Хочаш тут? Ладна. Пачакай крыху, падбавім градус.

У гэты момант Мазарык лінуў у печ вады на гарачыя камені. Прыгнуліся баравінчане. Мікіта шмыгнуў за дзверы і там да таго што выпарыўся:

— Памойму, дык мы трапілі ў пекла. А выпараны ляжыць, пакручвае вусы:

— Канешне, парнасць з пачатку расслабляе чалавека, але касцей не ломіць, так што ідзі назад, прасі, значыць, знісхаджэння на ніжэйшую паліцу, але папарыцца трэба.

— Нічыпар папрасіў знісхаджэння, дык Мазарык паддаў пары.

— Нічога, яна касцей не ломіць. Я вось крыху адпачну, ды мо' яшчэ папа руся.

Круглікаў папарыў Нічыпара, а гэтым часам Мазарык намыліў двух кандыдатаў і узяўся за барадатага.

— Наступны!—гукнуў Круглікаў.

— Мыла ў вочы ўядаецца,—адазваўся адзін з кандыдатаў. І другі нешта мнецца.

Круглікаў ступіў паліцаю ніжэй:

— Ды што-ж гэта такое? Га? Для каго пабудавана гэта лазня, для каго напалена яна сёння? Вы думаеце, што поўшуркі дроў дарма прападзе? Не грамадзяне баравінчане, калі ласка, мыцца. Мыла, кажаце шчыпле? Правільна. Гразь не любіць мыла, а таму і шчыплецца. Таварышы! (Стаў на паліцу вышэй). Мы павінны паставіць сваей задачай змыць векавую гразь, што ад царызма трымаецца на вас. А там дзе гразь—там хвароба, там зараза. Таварышы, баравінчане! Вы сталі на шлях новага, соцыялістычнага жыцця. Не забывайцеся, што лазня гэта не раскоша, лазня, чыстая бялізна—ёсць першая неабходнасць для аздараўлення чалавецтва ва ўсім свеце. Няхай жыве лазня ў Баравінцы і няхай жывуць чыстыя, здаровыя баравінчане! Хто наступны на паліцу?

Павольна пачаў узлазіць адзін з кандыдатаў.

Гэтым часам увайшоў сюды той, што першым парыўся.

— Тады дайце і мне пару слоў, гэтага... Мужчыны! Я згодны на тое, канешне, што сказаў старшыня, бо я там ляжаў і ўсё чуў, гэтага... Парыцца чалавеку трэба. Толькі я хачу сказаць таварышу старшыні, што за адзін раз у год толькі скуру раздражніш, а кожны месяц не пойдзеш.

— А ў царкву хадзілі?—запытаў Круглікаў.

— Даўней, канешне, гэтага...—замяўся прамоўца. Круглікаў парыў.

Апошнім выпарыўся барадаты дзядзька.

Скончыўшы гэтую работу, Круглікаў і Мазарык вышлі ў вялікі пакой.

— Цела, тады яно чыстае, калі рыпіць,—сказаў Круглікаў і паказаў, правёў далонню па сваіх грудзях. Вышаў ён з Мазарыкам адзявацца і баравінчане пачынаюць вылазіць.

— Можа-б вы крыху пачакалі, ды лепей апаласкаліся-б, кажа ім Круглікаў.

Баравінчане падаліся назад. А прамоўца затупаў на месцы і пачаў:

— Мы, канешне сагласны, а толькі не павінны, канешне, заставацца свіннёю і канешне падзякваць таварыша старшыню, а таксама і вас (да

Мазарыка), бо хоць-жа мы і не ведаем куды нас адправяць, ну, так што не супроць савецкай улады і канечне, гэтага...

— Вы што, на сход прышлі?—запытаў Круглікаў.

— Яно, канешне, не на сход, але тым часам, гэтага... кашлянуў прамоўца і падаўся назад.

Увайшоў міліцыянер.

Выходзячы з лазні Круглікаў сказаў яму:

— Пабудзь тут пакуль адзенуцца. Паказвай від строгасці. А як адзенуцца—вядзі у сталоўку. А далей—скажа загадчык.

Вось пачалі ўжо адзявацца і баравінчане. Пачалі жартаваць адзін з аднаго.

А міліцыянер ім:

— Грамадзяне, прашу не перагаварвацца.

Сцішыліся. Надзяваюць чыстую бялізну, разгладжваюць вусы. Ва ўсіх такі настрой, што хочацца выказацца, а тут міліцыянер не дае. Звычайна яны маглі-б і не паслухаць, бо яны-ж нічога дрэннага не хочуць сказаць, але ўсвядоміўшы сваё ўмыванне як выключнае, нават, цікавае—падначальваюцца і стараюцца быць паслухмянымі дзецьмі. Толькі між волі прарываюцца словы: „рыпіць", „дык вось яна лазня", „сем пудоў скінуў", „я за лазню, любата". А той дзядзька, з вялікаю барадою, скамячыў сваю брудную бялізну і суне яе ў торбу з хлебам. Міліцыянер заўважыў:

— Хто гэта дзядзька так робіць?

— І я скажу,—адазваўся Нічыпар.

Стары моўчкі заціснуў бялізну ў кішэню свайго палітона.

Праз невялікі час міліцыянер прывёў баравінчан у сталоўку. Асобны стол у кутку. Паселі. Міліцыянер пагаварыў з загадчыкам, а гэтым часам баравінчане пачалі развязваць торбы.

— Прэкраціць развязванне торбаў,—загадвае міліцыянер.

Пераглянуліся баравінчане, пазавязвалі.

Дзве дзяўчыны прыносяць і ставяць на стол талеркі, раскладваюць лыжкі. З вялікае пасудзіны наліваюць буракі.

— Наядайцеся,—кажа міліцыянер,—бо дарога вам вялікая прадстаіць.

Сёрбаюць баравінчане. У кожнага белая талерка, алюмініевая лыжка. Не паспелі яны ўвабраць буракі—падносяць дзяўчаты на талерках тушаную бульбу і там мяса па кавалку пакладзена. Паглядзелі адзін на аднаго, на міліцыянера. Стаіць ён, успёршыся на падваконнік, службу нясе. Нічыпар не вытрымаў:

— Каб сюды хаця на двух, паўлітра, гэтага...

А Мікіта адказвае:

— А мне здаецца, што я сплю. Бо яно так у сапраўднасці не бывае.

Толькі сказаў ён гэта—падносяць дзяўчата і ставяць на стол куфлі з півам.

— Ну вось, бачыш,—кажа зноў Мікіта,—ёй-жа богу я сплю.

А той прамоўца, што першым парыўся, пагладзіў вусы, узяў куфель.

— Ну, што-ж, па рублёў пяць прыдзецца заплаціць.

Барадаты стары адсунуў ад сябе куфель.

— Я піва не ўважаю, і плаціць за яго не буду.

Нічыпар падсунуў гэты куфель да сябе і адказвае:

— Усё роўна: піў, не піў, у кампаніі быў, значыцца і заплаціш.

— Прашу не перагаварвацца,—голас міліцыянера,—канчайце.

— А ці няможна, каб яшчэ бакал заказаць, пасля лазні яно добра ідзе?—пытае Нічыпар міліцыянера.

— Не палагаецца.

— Ну, то пакольні з нас?

— Нінакольки. Папалуднавалі? Выходзьце на вуліцу.

Павылазілі баравінчане з-за стала. Добры настрой некаторых пачынае патрошку адыходзіць. Вышлі на вуліцу.

— За мною,—сказаў міліцыянер і шпарка пайшоў у РВК. Баравінчане ледзьве паспяшаюць за ім. Увайшлі ў РВК. Міліцыянер адчыніў дзверы ў габінет старшыні.

— Заходзьце сюды.

Увайшлі. Сядзіць старшыня Круглікаў, чытае нейкую паперу, не глядзіць на іх. Каля стала нейкі таварыш разглядае газету. Нарэшце Круглікаў падняў галаву.

— Што скажаце баравінчане?

Закалыхаліся яны.

— Не ведаем, што скажаце вы, гэтага...—адказвае прамоўца.

— Я? Я чуў, што вы ў лазні былі.

Засмяяліся ўсе. Не ўстрымаўся і суровы дзядзька з барадою:

— Былі.

— Рыпіць?

— Любата!

— Здароўе.

А Круглікаў:

— Пасля лазні вельмі добра сёрбнуць талерку баршча.

— Было і гэта.

— Ды нават з півам.

— Чакайце,—перабіў баравінчан прамоўца.—Тут больш сораму, канешне, чым смеху. Гэта-ж нам брыдка паказвацца ў вёску.

— Можа яно і так,—кажа старшыня,—а я думаю, што вам сорамна ад таго, што лес гніе на выгане ля рэчкі, што ўсюды будуюцца лазні, а ў вас няма...

— Будзе і ў нас.

— Будзе.

— Будзе, кажаце?—пытае Круглікаў.

— Заўтра пачынаем.

— Ну, тады з лёгкаю параю вас,—кажа падняўшыся з крэсла Круглікаў і падае кожнаму руку.—Ідзіце дадому, пачынайце. Як будзе гатова—прыеду памыцца, папарыцца.

— Гэта ўжо нейначай,—адказвае прамоўца,—і фурманку прышлем.

— Буду вельмі рад,—кажа Круглікаў на развітанне,—не злуйцеся толькі. Да пабачэння ў вашай новай, прыгожай лазні.

Выходзяць баравінчане з РВК, хацелася яшчэ пагаварыць з Круглікавым. Затупалі на ганку.

— А як-жа за полудзень, за піва?—спыніў іх прамоўца,—выйсці, канешне, свіннёю не штука, а падзякаваць, канешне, і не здагадаліся.

— Мікіта, прачніся,—штурхае ў спіну Нічыпар,—куды ты павалачэш торбу хлеба?

Вышаў на ганак міліцыянер. Мікіта да яго:

— Таварыш дарагі, вазьмі баханку хлеба, цяжка будзе валачы.

— Нічога завалачэш,—адказаў міліцыянер і шпарка пайшоў.

Пашлі баравінчане дадому. Круглікаў стаяў каля акна, глядзеў на малады, пасаджаны пры яго старшынстве садзік перад будынкам РВК, прыемнаю ўсмешкаю, ласкавым поглядам праводзіў ідучых цэнтральнай алеяй баравінчан. Раптам званок тэлефона.

— Слухаю. Хто? А каго вам трэба? Круглікава? Я сам і ёсць. Зайці да цябе? А што такое? Ёсць справа? Зараз зайсці? Ладна. Іду.

Паклаў Круглікаў трубку, пачухаў вуха і пайшоў. Праз некалькі хвілін ён увайшоў у кватэру сакратара райкома партыі.

— Што будзе?—сустрэў сакратар запытаннем Круглікава.
— А ты пра што?—у сваю чаргу пытае Круглікаў.
— Усё пра лазні, таварыш Круглікаў.
— Ага, захапіўся і ты,—адказвае Круглікаў.
— Ну так, я страшэнна захоплены. За такі метад „Кракадзіл“ не адмовіцца цябе прэміраваць. Ніколі. Гэта-ж нешта выключнае.
— Іменна выключнае,—адказвае Круглікаў.
— Ну, а як будзе далей? Заўтра каго збіраешся парыць?
— Заўтра нікога, я-ж не баншчык.
— Ну, скажы, ты думаеш што небудзь ці не?
— Думаю, браток,—адказвае мякка, задушэўна Круглікаў,—думаю: якая слаўная будзе лазня ў Баравінцы! Думаю яшчэ—абедаць пара. Валодзька званіў: „Папа, скарэй, а то мама злуецца“.
Сакратар хвілінку памаўчаў, затушыў у пепельніцы недакурак і сказаў:
— На цябе трудна злавацца, ты сам гэта ведаеш... Але вось за сёнешняе твае „выключнае“, як ты кажаш, заўтра-ж будзем парыць на бюро райкома. Здорава адхвошчам.
У пакой паспешна ўвайшоў Валодзька. Круглікаў развітаўся. На ганку Валодзька асядлаў бацькаву шыю—паехалі.
Ішлі баравінчане лесам, пералескамі. Пятнаццаць кілометраў трэба прайсці. Ішлі, жартавалі, спрачаліся, разважалі пра сваё жыццё, самі сябе крытыкавалі. Нічыпар, уваходзячы ў вёску, сказаў:
— Хоць і сорамна прызнацца, што нас вымылі, як малых дзяцей, але лазню пабудуем, так што факт.

Успамінаюць сёння калгаснікі вёскі Баравінка былога старшыню, РВК таварыша Круглікава.
— Важны быў чалавек, практык вялікі, галава. Слых маецца, што нейдзе ў Маскве ён абучаецца. Каб адрас, дык усім калгасам напісалі-б, каб пад‘ехаў. Калі-б згадзіўся, дык і за старшыню выбралі-б за дзесяць мінут. А то няхай-бы пагасціў які з месяц, хваліць бо... гэтага... ёсць чым прыняць.

Барыс Мікуліч

# ТРОЕ

Лютавала мора, ішлі нізка над вадой цяжкія, наканаваныя пярунамі, хмары, карабель гойдаўся, нахіляючыся ўсёй сваёй грамадай то ўлева, то ўправа, цяжка дыхалі машыны,—і здавалася, што няма паратунку, што пагібель немінуча, што раптам знікла зямля і хаос марскі пакрыў сусвет.

Пасажыры сціхлі, забіліся ў цесныя каюты: неадольны страх і такая-ж цемра пасялілася ў іхныя душы, бунтоўныя і палахлівыя.

Ён быў малады. Ён ведаў мора. Хлопчыкам яго адвялі ў порт, і дзесяць гадоў яго насіла па марах і акіянах, і гарачы пояс і змрочная веліч поўначы былі яго школай.

Ён нічога не страчваў, гэты шырокаплечы салёны хлапец: радзіма выкінула яго за борт, адабраўшы кавалак хлеба, радзіма разбіла ў ім веру ў сябе. Спачатку ён пратэставаў: дзверы наймальных кантор, тых кантор, дзе не было лаканічнага надпісу: „Набору няма“, безапеляцыйна зачыняліся перад ім.

„Малады чалавек,—сказалі яму аднаго разу,—у нас няма грошай дабудаваць гіганцкае гандлёвае судна, якое ў лепшыя часы зрабіла-б гонар Велікабрытаніі, а вы пра кавалак хлеба думаеце“.

І яшчэ сказалі яму:

„Хлопец, ваенны флот можа даць куды больш, чым кавалак хлеба, але там не любяць непакорных“.

Ён згадзіўся і яго паслалі ў ліку іншых задушыць паўстанне ў адной з экзатычных краін з паэтычнай імпартнай назвай. Яму загадалі: знішчаць насельнікаў гэтай краіны за тое, што яны заявілі аб сваёй любові да чорствага хлеба, і ён запратэставаў. Ён паўстаў супроць таго, хто даў загад, яго збілі і выкінулі з ваеннага флота.—Гэта было сонечнай раніцай, ленаватыя хвалі ціха пеніліся ля берага, гарызонт быў шырокі і найчысцейшае неба зычыла спакой. Ён пастаяў ля берага і хвалі абмылі яго ногі. Так скончылася яго кар'ера марскога ваўка: цела было прасолена,—сэрца жорсткае, кішэня—парожняя.

Наперадзе быў толькі адзін надзейны ветразь...

Ён нічога не страчваў, гэты шырокаплечы салёны хлапец, і мора, завываючы, як звер на лясным пажары, шалеючы як тысяча д'яблаў, кідала ў твар яго злосныя пырскі. Англічанін ведаў багата харошых песень, ён спяваў і мора выла ў адказ.

...быў толькі адзін надзейны ветразь...

Потым усё сціхла. Раніцай карабель прышоў у ленінградскі порт, а праз два дні ён быў накіраваны на работу ў Адэсу. Перасякаючы дзіўную для яго краіну, ён спыніўся ў Маскве.

За дзень да гэтага з усходу прыбыў у Маскву чорнаскуры юнак, з якім я пазнаёміўся ў гасцініцы. Ён ведаў колькі рускіх слоў, зусім мала, але гэтых слоў хапіла для апавядання, сэнс якога ў наступным:

Сын эксплаатуемага, ён паўстаў супроць эксплаататараў. Гэта былі англічане. Яны ганарыліся сваёй магутнай краінай і білі туземцаў проста ў твар надзвычайна дасціпным ударам, ад якога ламаліся скі-віцы і рот набракаў крывёю. Негр ненавідзеў іх. Негр зразумеў, што трэба змагацца. Яму скруцілі рукі, збілі тройчы, кінулі ў астрог за тое, што ён вёў прапаганду сярод рабочых-гарнякоў, за тое, што да слоў яго прыслухоўваліся не толькі чорнаскурыя, але і рабочыя, вывезеныя з метраполіі. Юнака чакаў страшэнны лёс: паспытаць на сабе вялікае вынаходніцтва заваявальнікаў, яго чакаў суд Лінча. І тут паўстаў свет. Свет пролетарыяў, свет моцнай салідарнасці,—мой знаёмы быў вы-рваны з рук цывілізаваных джэнтльменаў.

„Вучыцца любіць і ненавідзець, змагацца і перамагаць",—адказаў ён мне на пытанне, што ён будзе рабіць у Маскве.

І вось—трое сустрэліся.

Над намі палыхаў штандар, што рваўся наперад. Палотнішча штан-дару было асабліва яркае на фоне празрыстага неба. Палотнішта, туга нацягнутае ветрам, прасвечвалася і праз яго было відаць, як плывуць воблакі. Воблакі плылі над сталіцай, над Чырвоным пляцам, над светам.

За намі ўзнімалася грамада Гістарычнага музея, за намі стаялі маўклівыя і суровыя стагоддзі.

Мы прайшлі ў маўзалей. Строгая ўрачыстасць была на абліччах. Нахілены ў маркоце сцяг напоўніў хваляваннем нашы душы. Сціснуліся кулакі і скулы на тварах скамянелі. Было ціха, але чуваць было, як імкліва б'ецца нацягнуты ветрам чырвоны ветразь на Крэмлеўскай сцяне. Было ціха, але, здавалася, было чуваць як дыхае ў сне правадыр. Палыхае палотнішча...

„Багата харошых песень ведаў англійскі хлопец,—так сказаў нам англічанін,—але адну песню ён пачуў толькі цяпер. Гэтая песня—„Масква".

Мы зноў былі на Чырвоным пляцу. Бралася на вечар. Палотнішча, здавалася, налілося крывёй. Вецер узмацняўся. Ветразь выгінаўся пад ім, але гэта быў надзейны ветразь. Імчаліся аўтамабілі. Імчаліся ліхтары. Імчалася жыццё. Імчаліся стагоддзі.

„Добра—сказаў чорнаскуры юнак, і раптам над намі паплылі гукі гадзінніка на вежы: гэта была харошая песня Масквы—першыя такты „Інтэрнацыянала".

Англічанін абняў мяне, потым працягнуў руку негру і абодвы яны прыветна ўсміхнуліся.

Трое пасябравалі.

Масква, 1935.

**Влад. Глазырын**

## СКРЫПКА

**(Навела)**

*Барысу Мікулічу*

І ўчынак майго сябра Васіля Васільевіча палічылі ў тэатры за хуліганства. І сапраўды яна была падобна на хуліганства. На новы прыём хуліганствуючага мешчаніна. І аудыторыя пачала голасна абурацца. Пачалі крычаць. Засвістаў міліцыянер, які раптам невядома адкуль з'явіўся. Скрыпач на сцэне кінуў іграць. Акампаніятар адбегся ад раяля. Я аглядаўся разгублена. Суседзі зласліва моцна загаварылі:

— Назюзюкаўся...

— П'яных у тэатр пушчаюць...

— Сорам перад замежным скрыпачом.

— Ці мала яшчэ свалаты за адменных сябе выдае.

Але Васіль Васільевіч быў цвярозы. Ён нават і не піў ніколі, хіба піва, калі, бутэльку. І я хацеў заступіцца за свайго сябра, але дзе-там, мне не далі адкрыць рот.

— У міліцыі, таварыш, разбярэцеся, у міліцыі! Аднаго поля ягады...

І я вымушан быў змоўчаць, падпарадкаваўшыся разгортванню падзей у перапоўненым тэатры. Я не верыў сваім вачам, не верыў таму, што здарылася. Не верыў таму, што ведаў Васіля Васільевіча Конюхава, ведаў як сваёго друга, як чалавека простага, скромнага і часамі, сарамлівага.

Васіль Васільевіч працаваў архітэктарам. Але гэта быў не звычайны архітэктар, а мастак-архітэктар. Як чалавек, ён быў крыху дзіўны. Удумлівы, з вачмі, у якіх лятуценні былі затуманены лёгкім сумам. Вочы заўсёды неяк адкрыта, па-дзіцячаму глядзелі на людзей і рэчы. І яшчэ Васіль Васільевіч быў не асабліва гаваркі, але любіў слухаць, як гавораць іншыя, і калі было смешна, першым пачынаў смяяцца, у смеху, здавалася, патрэсквалі электрычныя іскры. Сваім адкрытым і задушэўным смехам Васіль Васільевіч заўсёды заражаў другіх. Не гледзячы на трыццаць пяць год, ён яшчэ не жаніўся. І я лічыў, што залішняя, проста такі прыродная скромнасць перашкаджала яму выбраць сабе дастойную сяброўку жыцця. Не гледзячы на ўсе свае станоўчыя і адмоўныя якасці (баюся кваліфікаваць іх і станоўча і адмоўна) гэта быў бліскучы таленавіты мастак-стыліст, архітэктар-мастак. Яго кватэра была загурашчана шматлікімі эскізамі—праектамі будынкаў. Тут быў і праект Маскоўскага тэлеграфа, Дома абароны СССР, раду наркаматаў, рабочых дамоў, тэатраў. Частка гэтых праектаў была прынята і ў некаторых пабудовах ў Маскве. Васіль Васільевіч быў сааўтарам праектаў

ле частка будынкаў была пабудавана да часу, як Васіль Васільевіч накідаў эскізы. Я часта пытаў: „Васіль Васільевіч, навошта ты накідваў эскіз вось гэтага будынку, ён-жа даўно пабудаваны і зусім не падобен на твой рысунак?“ Васіль Васільевіч адказваў—„Я нарысаваў такім, які-б я хацеў бачыць гэты будынак“.

Эскізы архітэктара Конюхава вызначаліся надзвычайнай смеласцю. Ён не прытрымліваўся кананізаваных прыёмаў пабудовы будынка. Гэта было спалучэнне выгінастых плашчакоў, лёгкіх пераплётаў, смелых арак, шырокіх ніш. Гэта быў горды выклік сонцу і паветру. Гэта была мелодыя ліній, выгінаў, спадаючых плоскасцяй і ўзнёслых пляцовак, перасечаных арнаментам аддзелкі, што слізгаліся па фасаду, які быў такім выразным па свайму рысунку, што здаваўся жывым, і вось, здавалася, заварушыцца і... заспявае. Гэта была музычная гамма: шкла, яснага як дзень метала, упартага, як чалавечая воля, каменных грамад, магутных як усесакрушальная сіла, і цярплівага шэрага бетона, які злучаў гэтую архітэктурную гармонію.

гэта быў не проста архітэктар. Гэта быў музыка-архітэктар, смелы ў сваіх замыслах і скромны, як чалавек. І калі паглядзіш на рысункі, на эскізы архітэктурнай музыкі Васіля Васільевіча, мімаволі пачнеш шукаць у яго кватэры музычных струмантаў і здзівішся, што іх няма...

І трэба-ж было, што здарыўся ў тэатры такі скандал?

І я ўспомніў... успомніў дваццаты год. Польскі фронт. Мы служылі з Конюхавым у адным палку. Гэта быў час наступлення і ўпартых баёў. Год гераізма і смерці, год перамогі і цяжкіх пераходаў. Я быў камандзірам камендантскага ўзвода. Васіль Васільевіч—нешта сярэдняе паміж бібліятэкарам і палкавым паштовым экспедытарам. Калі полк стаяў на адпачынку, Васіль Конюхаў ператвараўся ў імпрэсарыо палкавога клуба, арганізуючы канцэрты, мабілізуючы ў невялічкіх гарадах і мястэчках мясцовыя сілы правінцыяльнай музы. Калі полк знаходзіўся на пазіцыі альбо ў зоне сутычак з праціўнікам, ён часта быў сярод байцоў, раздаючы лісты, надпісваючы на лістах да родных чытэльныя, хімічным алоўкам, адрасы. Конюхава ведаў увесь полк, ведалі ўсе байцы. Калі Конюхаў з'яўляўся сярод байцоў, байцы яго абступалі і тут-жа, адразу як ён казаў, „па просьбе публікі“ пачынаўся канцэрт на скрыпцы.

Мой сябра меў скрыпку. Скрыпка, у дадатак да невялікага салдацкага грузу, складала ўвесь несамавіты багаж Конюхава. Але мяшок для рэчаў валяўся заўсёды дзе-небудзь у двуколцы, а скрыпку ён насіў у аблезлым абшарпаным футляры заўсёды з сабой.

Не трэба было асабліва ўпрошваць, каб Вася пайграў (байцы празывалі яго—Вася)—досыць было каму-небудзь сказаць: „А ну Вася, дастань сваю італьянскую“—і пачынаўся канцэрт.

Байцы садзіліся хто дзе на чым, і над усімі ўзвышаўся Вася са скрыпкай у руцэ, згорблены, худы, высокі, сціскаючы даўгімі пальцамі грыф жоўтай несамавітай скрыпкі, і ўсё змаўкала.

Канцэрты палкавога скрыпача былі вядомымі ўсяму палку—ад кашавараў у абозе другога разраду да камісара палка. Усе ведалі Васю і яго скрыпку і пра яго, і пра яго скрыпку гаварылі заўсёды з вялікай пашанай. Скрыпку называлі італьянскай. Гэта быў сапраўдны струмант вядомага майстра семнаццатага стагоддзя Махне. Так казаў Вася. Я яму верыў таму, што ў антыкварных дастоінствах скрыпкі разбіраўся не лепш, чым у кітайскіх іерогліфах. І не верыць не было падстаў. Скрыпка дасталася Васю ад бацькі. У бацькі яна праляжала амаль усё яго жыццё і да яе ніхто не датыкаўся, пакуль Васю не споўнілася дванаццаць год. Дзед Васі быў прыгонны музыка ў памешчыкаў Уваравых. Якім чынам скрыпка

засталася ў Конюхавых, як рэліквія ўспаміну пра дзеда-музыку, да Васі не дайшло. Але было вядома, што адзін з Уваравых купіў яе недзе ў Германіі пасля вайны дваццатага года.

* * *

Байцы слухалі, а Вася іграў. Не памятаю, што ён іграў, але іграў неяк асабліва хораша.

... І лілася цудоўная, чаруючая мелодыя. Мелодыя бясконцай тугі. Гэта была даўгая і шырокая дарога, а з абодвух бакоў стэп і над стэпам, над пылам дарожным плывуць воблакі. Плывуць яны з усходу на захад па аксамітаваму небу. А людзі ідуць насустрач воблакам з захаду на ўсход. Дзень ясны, сонца радаснае, веснавое, а на сэрцы ў людзей сум цяжкім камянем ляжыць. Якое харошае жыццё, а людзі ідуць паміраць. Павольна паміраюць. Ціха звіняць ланцугі на руках і нагах... Моўчкі ідуць людзі. Бязвыходны іх лёс. І сонца свеціць, але людзі яго не заўважаюць. Скрыпка плача ў высокім міноры. Скрыпка ўсхліпвае. Скрыпач нічога перад сабою не бачыць. Перад ім стэп і людзі...

— Эх,—вырвалася ў барадатага чырвонаармейца, абутага ў лапці і, не гледзячы на лета, у шэрай вязанкавай шапцы на галаве. А малады конны разведчык, стоячы на каленях і абапёршыся на шашку, крадкам ад суседа выцер слязу...

Але вось мелодыя тугі змянілася. Смычок хутчэй захадзіў у руках скрыпача. Вочы скрыпача заблішчэлі. Людзі як быццам страпянуліся, з грудзей пачуўся адзіны подых, падобны на шолах ветра па высокай густой траве...

... „Дарога трудная, цяжкая. Крамністая. Уздым на гару, стромкі і крывы. Людзі павінны дайсці перавала. Людзі прысталі фізічна, але яны бадзёрыя духам. Яны спаяны адзіным жаданнем—узяць пад‘ём. Трудны пад‘ём. Але за пад‘ёмам жыццё. І чым бліжэй мэта, тым пад‘ём робіцца цяжэйшым і цяжэйшым... Мэта блізка. Сілы падзесяцяраюцца. І людзі, забыўшыся на зморанасць, магутнай хваляй авалодваюць вяршынай. Калектыў людзей перамог стыхію. Чырвоны сцяг узвіваецца на вышыні. Радасць перамогі ахапляе людзей. Радасць шырыцца, хвалю, п‘яніць. Усіх ахапляе бурнае ўзрушэнне...“

У вачах слухачоў гарэў агонь. Гэта быў магутны незгасаемы агонь смагі перамог. Людзі, зачараваныя музыкаю, глядзелі на скрыпача, баючыся шалахнуцца.

Але вось скрыпач зайграў яшчэ хутчэй. Сухія пальцы заскакалі хутка-хутка, жывей захадзіў па струнах смычок.

... Гэта была мелодыя нестрыманай весялосці...

— І э-эх!..

— Вось гэта та-ак...

— Даёш...

— Хо-о-о... наярывай...

... бязногі і то не змог бы ўседзець на месцы. Гэта была альбо полька, альбо нешта падобнае на мазурку, альбо руская плясавая, альбо барыня. Людзі, забыўшыся на ўсё, кружыліся ў танцы. Скокі цягнуліся доўга. І людзі, стомленыя скокамі, валіліся на траву. Потым людзі доўга гаварылі пра музыку, усхваляючы вельмі, па свойму, па-чырвонаармейску, таленг палкавога бібліятэкара Васіля Конюхава. І пасля чаю, выпітага з кацялкоў, полк выступаў на пазіцыю і разыходзячыся на заставы і ў палявыя каравулы, людзі ўсё гаварылі пра мастацтва палкавога музыканта. І так між канцэртамі і баямі цякло цяжкое баявое жыццё. І пра жыццё нельга было думаць без скрыпкі.

* * *

Аднойчы пад восень наш полк стаяў на адпачынку ў невялічкай вёсцы за дзве, за тры вярсты ад станцыі Зацішша.

У цяжкіх баях полк страціў многа байцоў і вёскі хапіла, каб раскватаравацъ усіх людзей. Адпачывалі, абмываліся, чысціліся і чакалі папаўнення. Восень толькі пачыналася і была на дзіва харошая і ясным надвор'ем і антонаўкамі ў садах. Вася даваў свае цудоўныя канцэрты. Кватаравалі ў сялянскіх хатах. Па вечарах хадзілі байцы ў карагодзе з дзяўчатамі. Прыходзіў Вася са крыпкай і да мяне ў хату. Я жыў у заможнага шляхціца. Адносіны гаспадара да мяне былі захавана-непрыязныя, але цярплівыя.

І калі Вася іграў, крэтына-падобны сын гаспадара Антэк краткам, стаіўшыся ў куце, слухаў скрыпку. Ён сам быў скрыпач, меў скрыпку, і здаецца іграў нядрэнна, але да сапраўднай ігры, да Васінай, яму было далёка. І ён прагна, аж дрыжэлі сківіцы, пазіраў на скрыпку ў часе ігры і, калі Вася скончыў, Антэк падайшоў да Васі і хацеў пагладзіць, абмацаць рукамі скрыпку. Але Вася не даў яму нават і дакрануцца, інстынктыўна рвануўшы да сябе скрыпку і схаваўшы яе за спіну. Бліснулі злымі іскрамі Антэкавы вочы, і як кошка, у якой адабралі з-пад носа кавалак сала, ён аблізаў тонкія губы і, хмыкнуўшы прыплюшчаным і крывым носам, выскачыў з хаты. Увайшоўшы праз некалькі мінут у хату і спыніўшыся каля парога, Антэк загаварыў:

— Салдат, прадай скрыпку...

— Ідзі ты к... чорту...—выпаліў, ледзь стрымліваючы сябе Вася і пачырванеў.

— Прадай салдат. Сала дам...—ныў Антэк.—Прадай, салдат, прадай. Навошта табе скрыпка. Заб'юць, а скрыпка застанецца...

Ныццё Антэка было агідным, вочы яго пазіралі на скрыпку са звярынай прагнасцю і Вася не вытрымаў. Хутка схаваў скрыпку ў чахол, зацiснуў яе пад паху, як-бы апасаючыся, што скрыпку адбяруць, і выбег на вуліцу. Антэк выскачыў следам і доўга глядзеў, мармычучы нешта, пакуль Вася не знік у канцы вясковай вуліцы.

Аднойчы раніцой прыходзіць да мяне Вася са скрыпкай пад пахай і з мяшком за плячыма, быццам у паход сабраўшыся.

— Ты гэта што?

— У камандыроўку, у Смаленск, у штаб фронта. Камісар пасылае.

— Ну?..

— Скрыпачку, Владзімір, вось захавай. Калі ласка, ужо. Прашу вельмі. Будзь другам...

— Ды што ты, Вася. Давай, давай. Упрошваць не трэба.

Вася дастаў з футляра скрыпку. Прыставіў яе да пляча. Смычок прайшоўся па струнах.

Гэта была ціхая элегія. Яна была падобна на развітванне з любімай жанчынай. Гэта было апошняе бывай блізкаму і роднаму.

— Так, Вася, дык што-ж ты...

Скрыпка ляжала на стале. Васі не было. Вася ішоў вуліцай да станцыі. Сачыўся дробны, як пыл, асенні дождж. Ад парога пазіралі на скрыпку зеленаватыя, пабліскаючыя вочы Антэка.

* * *

Уначы паступіў загад: „Неадкладна выступаць“. Полк, выстраіўшыся ў калонну, з абознымі хвастамі следваў на станцыю для пагрузкі.

Ззаду чуўся глухі гул гармат. Даносіліся ледзь чутныя стрэлы, падобныя на выхлопванне пыльных мяшкоў. Небачны ў цемры туман

асядаў на твары. Гаварылі, што польская кавалерыя зайшла ў тыл. Калі абоз выступіў з вёскі, пачало развіднівацъ. Стаяў густы туман. Потым пачаў цярушыць дождж. На вясковай вуліцы ні душы. Жыхары глядзелі чакальна:—„нехта-ж прыдзе"?

Калі дайшлі да станцыі, развіднела зусім—пачалася пагрузка. У паветры, зусім нізка, зароў, самалёт. Але туман перашкаджаў самалёту зрабіць разведку і, скінуўшы некалькі бомб у процілеглым ад месца пагрузкі баку, самалёт знік.

І вось у галаве, як маланка, успыхнула думка:—а скрыпка? Скрыпка... а?— перад вачыма з немым дакорам паўстаў твар Васі.

— Што-ж рабіць? Скрыпку забыўся. Забыўся скрыпку.

Шліганууў каня бізуном. Галопам ірвануўся на колькі крокаў ад станцыі.

— Не, стой!... Куды-ж я?. Дык як-жа быць? Скрыпка... Адпраўленне праз гадзіну, не раней... Да вёскі тры вярсты... Паспею...— і зноў галопам колькі крокаў...

— Не, стой!.. Як-жа так... А калі адстану. З'ехаць без дазволу, пакінуць часць?..

Да станцыі пад'яжджаў верхам камісар палка з ардынарцамі. Хутка далажыў камісару. Камісар задумаўся. Было над чым задумацца. Палкавая скрыпка. Скрыпка, якая дзесяткі разоў натхняла і весяліла байцоў. Раптам полк ды астанецца без скрыпкі...

І камісар, падумаўшы, загадаў:

— Шпар галопам, за сорак мінут паспееш звярнуцца. Адпраўленне праз паўтары гадзіны.

Галопам паімчаўся да вёскі. Вось ужо з-за пасмаў туману паказалася першая хата. Вуліца гняла сваёй пустэчай. Вось я і каля былой маёй кватэры. Хацеў ужо і з каня злазіць. З хаты Антэк з футлярам:

— Салдаты скрыпкі забыліся... А я ўжо на станцыю бегчы хацеў, скрыпку несці...

Антэк ухмыльнуўся і ўхмылка была нейкая дзіўная, саладкаваехідная.

— Дык усё ў парадку. Скрыпка ў мяне. Цэлая. Вось яна! Ура! А ну, панёс, гняды!—з-пад капытоў гнядога разляталіся пырскі гразі. Гняды рваўся да станцыі, да сваіх сяброў.

І я схаваў скрыпку сярод звычайнай гаспадарчай маёмасці камендантскай каманды.

Эшалон крануўся. Гул кананады заставаўся ззаду ў халоднай мокрай раніцы, глушэў і раставаў у тумане. Полк перакідаўся на другі ўчастак. Скрыпка са мной. А ледзь было... Ура! Вася!

* * *

Скандалу ў зале як і не было. Скрыпка была ў Васіных руках і ён іграў. Іграў без акампанімента. Амерыканскі скрыпач стаяў у баку. Усхваляваныя незвычайным скандалам слухачы змоўклі, як толькі Конюхаў пачаў іграць. Скрыпач Трылісер збянтэжана глядзеў на віртуоза з публікі...

Гэта была нейкая імправізацыя. Ад скрыпкі лёгка адскаквалі гукі і плылі нізка па залу. І гукі быццам пранікалі ў чалавечае нутро, ператвараючыся ў тонкія ледзяныя іголкі, і, да болю пракалваючы цела, выходзілі зноў, у залу, а людзі баяліся шавельнуцца. І зноў гукі пранікалі ў чалавечае нутро, але гэта ўжо былі цёплыя гукі, залечваючыя раны ад гукаў-іголак. Мелодыя ў момант змянілася і паліліся другія, больш бадзёрыя гукі, прыгожыя і ясныя. І яны бясконца доўга варушыліся ў жывым гучэнні, не паміралі і адначасова з імі наплывалі другія,

больш нізкага тону, гукі, пасцілаючыся над першымі бархатнай канвой. І першыя гукі не раставалі, яны падалі на канву, на бархат другіх гукаў і трапяталі на канве жывымі. На іх гурасціліся трэція гукі... І ўсё гэта жыло, жыло гучаннем, рушыла стройнай калонай, шырачыся ў тэмпе руху...

Гэта быў марш вечна жывой і жывучай ідэі.

Зал поўніўся гукамі.

* * *

І зноў мімаволі несвядома разгарнуліся карціны перажытага ў мінулым, у грамадзянскай вайне.

... Станцыя Орша. Падпісан мір з Польшай. Чакаем адпраўлення ў глыб Расіі. Стаім у эшалонах. З вагонаў разносяцца песні. Ідзе дождж. Неба нізка павісла хмарамі над станцыяй. Па зямлі сцелецца дым паравозаў.

— Конюхаў прыехаў,—праляцела па эшалону. Сумавалі па Васю і яго скрыпцы. Праз поўгадзіны ўвальваецца ў вагон Вася, а за ім натоўп байцоў. Я хутка дастаў з барахла скрыпку і замест прывітання падаю яе Васю. Вася шчачліва ўсміхаецца. Усміхаюцца і байцы. Зараз пачнецца канцэрт,—думае кожны. Вася таропка, але асцярожна адкрывае футляр...

Я не буду апісваць, што здарылася далей...

Скрыпкі ў футляры не было...

І пасля ўсяго гэтага, праз некалькі год, Васіль Васільевіч Конюхаў стаў архітэктарам і ўжо ніколі не іграў на скрыпцы.

* * *

... а гукаў усё большала і большала. Зал перапаўняўся гукамі і не было чым дыхнуць. У горле накочваліся клубкі, якія душылі, горла сціскалася спазмамі. Вочы ўзмакрэлі ад слёз...

Скрыпач ужо скончыў іграць... Скрыпач глядзеў на скрыпку і ў вачах яго блішчэлі слёзы. Але гукі яшчэ жылі... Зал маўчаў... і раптам загрымеў бурнымі авацыямі. Вася паклаў на раяль скрыпку, паціснуў скрыпачу з Амерыкі руку і хутка праз зал, у воклічах радасна ўзрушаных скрыпачоў, бег да выхаду.

Калі выйшлі на свежасць зімовага марознага вечара, Вася, моцна сціснуўшы мне рукі, толькі і змог праказаць:

— Гэта яна, мая скрыпка...

У той-жа вечар я выехаў з Масквы.

* * *

Гэтымі днямі я атрымаў ад Васі ліст. У канверт была пакладзена даведка.

ВОКС

*Гр-ну Конюхаву В. В.*

*8-я праектная кантора Мосбуда. Вокс паведамляе Вас, што па атрыманых даведках, згодна вашага запытання ад (дата) скрыпка італьянскага майстра Махне куплена скрыпачом САСШ панам Трылісерам у варшаўскага антыквара Бунімовіча. Антыквар-жа Бунімовіч набыў скрыпку ў 1922 г. у нейкага Антона Ясніцкага.*

*(Подпіс)*

Ī перада мной паўстаў твар крэтынападобнага Антэка з вёскі, што каля станцыі Зацішша. Твар расплыўся ў саладкавую ухмылку, вочы ехідна вузелі.

У канцы ліста была прыпіска:

*„Владзімір. Мой праект „Тэатра оперы і балета“ прынят. Гэта не будынак, а суцэльная музыка. Мне не выпала зрабіцца музыкантам, але я не шкадую, што стаў архітэктарам. Нехта з філосафаў сказаў: „архітэктура—скамянелая музыка“. Няпраўда! Архітэктура жывая музыка, ствараемая пераможным соцыялізмам на застылым мастацтве паміраючых класаў. А ўсётакі скрыпкі шкада.*

*Твой* ВАСІЛЬ КОНЮХАЎ“.

**Сымон Баранавых**

# ПРЫСАДЫ

Міхалка не мог дачакацца Андрэя. Тупаў каля маладога сада, рукі цёр ад сіверу, а таго Андрэя не было.

— Чалавек...—бурчэў сабе пад нос Міхалка Белячок.—От-жа мешкаваты чалавек. Можна было справіцца, за гэты час, дзесяць разоў...

Вецер, здаецца, наўмысля злаваў Міхалку:—быў вельмі-ж золкі, халодны, як тое жалеза. І бадай таму быў золкі сівер, што ішоў ён з рэчкі Галай, з поўначы.

Малады калгасны сад—вось-жа ён—над крутым берагам рэчкі. Можа трыццаць якіх крокаў ад сада да рэчкі. Некалі быў тут гарод фальфаркоўца Пліса. Агарод быў абсаджан ад рэчкі ліпамі, між ліп сустракалася, часамі, і бяроза.

І ўсё гэта было ў Плісавых руках аж да самай рэвалюцыі. А прыйшла рэвалюцыя—адабрала ад Пліса ўсю зямлю з прысадамі, з хараством, ды аддала ўсё гэта карзюкоўцам у рукі. (Пліс недзе скруціўся). Толькі карзюкоўцы,—яны і самі не ведаюць, куды дзеліся, куды зніклі прысады. Зямля, вось, засталася, агарод застаўся; і на гародзе гэтаю вясною пасадзілі малады сад; а прысады—нібы іх у адну навальнічную ноч некуды знесла бураю. Бо гэта-ж так даўно было... Нават калі сказаў, гэтымі днямі, Міхалку, брыгадзір Банэдзік, што трэба засадзіць ад рэчкі прысадамі, той ажно лыпнуў вачыма.

— Як-жа гэта... Навошта тыя прысады!

Чамусьці здалося Міхалку, што прысады растуць там праз увесь час. Але ён не дагаварыў, быў, сваей думкі.

— Дапраўды,—успомніў ён,—не відаць нешта такі тых даўнейшых прысад.

Ён паправіў тады на поўслове сваю разгубленасць і дагаварыў:

— Але-ж... гэта-ж вецер дзьме цэлы год з гэтай Галай. А наш малады сад, канешне, можа вымярзнуць.

І вось яны ўдвох з Андрэем Верамейчыкам былі вызначаны на пасадку дрэў. Учора і пазаўчора яны ўдвох капалі ямкі і клялі тых людзей, што пазразалі такія-та ліпы.

Прыселі, былі—Андрэй на старым ліповым пні, а Міхалка каля Андрэя на куркішках—круцілі папяросы ды:

— Я памятаю,—казаў Міхалка, закручваючы канец папяросы,—тут вось такая, такая была ліпа! Гладкая і тоўстая. Адзін не абдымеш. Мусіць нехта зрэзаў яе на начоўкі.

— Ёсць што гаварыць,—даючы Міхалку прыкурыць, казаў Андрэй,—усе яны былі адна ў адну. З іх і начовак нехта нарабіў і дыляў *) навыразаў.

— Дзіва што навыразаў!—выпускаючы праз нос збэрсаныя пасмы дыму, сплёўваючы асеўшыя на губе карашкі, праказаў Міхалка.—Дылі...

---

*) Дылі—двух-вяршковыя дошкі.

ого! З ліповых дыль які можна зрабіць тапчан. Унь у Ахрэмчыка ліповы тапчан, жоўты, як жаўток. І ніколі не пацямнее.

— Каб ён жытла не ведаў, хто гэта пазразаў!

— Дай-жа ты рады... Каб яго рэзала рэзь!

— Пакуль-жа яны, цяпер, вырастуць!

— Вырасці то вырастуць. І яшчэ, ведаеш, лепшыя як былі. Мы іх пасадзім—будуць адна ў адну! Толькі вось адразу не будзе заціішна саду нашаму...

— От, ёсцяка-ж на свеце ўсякія злыдні!

— Уга! Яшчэ-ж і якія!

Памаўчалі. Сівер дзьмуў з рэчкі. Восень ужо зусім смела хадзіла каля рэчкі Галай. Галлё пад нагамі, лісты—усё было мокрае. Гэта-ж цэлую ноч быў надакучлівы золкі дождж-імжак.

Першым узняўся на ногі Міхалка. Ён тужэй зацягнуў па сваёй салдацкай ватоўцы папругу, незручна неяк крутнуў рукой у паветры, праказаў:

— Каб застаў такога чалавека... я-б такога гада на дзесяць год!

Узняўся з пня таксама і Андрэй. Кінуў акурак на мокрае лісце, скрозь зубы сплюнуў ды:

— На дзесяць, не на-дзесяць, а на пяць год упёк-бы.

Акінуў цэлы шар выкапаных ямак—нібы зважыў сваю сілу, што аддаў на гэтыя ямкі, дагаварыў:

— Такога чалавека, лепш за ўсё—самасудам. Прыпільнаваў злавіў. адняў глузды і няхай, тады, сохне, як гэты пень! І больш нічога!

Прайшло ўжо бадай, больш гадзіны, а Верамейчыка Андрэя ўсё-ж не было. Міхалка, чакаючы яго каля ямак, зусім змерз. То сюды, то туды тупаў каля ўчарашняга пяску, рукамі разводзіў—зводзіў, як малады фізкультурнік і—не мог сагрэцца. Ён агонь расклаў-бы, дык было тры запалкі—галоўкі пазлятвалі. Мусіць адсырэлі.

Ужо плюнуў на ўсё, Міхалка, халодную злосцю—ісці хацеў дадому, у калгас: «хай, тады адзін садзіць!»

І нават ступіў, азіраючыся, некалькі крокаў, аж—едзе Андрэй. Вунь паказаўся ён з-за ўзгорку з маладымі прысадамі.

Маладняк на прысады капаў Кандрацюк з Рыгоравым Лявонам у Грабеншчыне і Андрэй паехаў па яго. Тут-жа поўгадзіны язды, а ён, немаведама дзе прападаў. Як паехаў Андрэй па прысады, Міхалка яшчэ унь колькі быў на калгасным двары. Конюх Лаўрык чысціў каля канюшні жарабца Ляха, а Міхалка да яго зайшоў, закурыў. Гаварылі тое-сёе... Пра кабыліцу Муху, што добрае будзе племя ад Ляха, пра грузавік, што прыбыў для калгаса на шаснаццаты раз'езд. Потым пайшоў Міхалка павольна да гэтых ямак і вось...

— Дзе цябе трымала тое, нядорбае?—яшчэ здалёку, калі пад'язджаў Андрэй, накінуўся Міхалка.—Гэта-ж можна было за гэты час з'ездзіць аж у Анупрова і назад прыехаць! От жа чалавек!

Андрэй пад'ехаў да самых ямак, злосна смаргануў каня, застанавіўся.

— То трэба было самому ехаць, калі такі спрытны. Стой!—крыкнуў ён на каня ды больш заспакоеным голасам:—Прыехаў, а яны-ж не накапалі. Яшчэ трэ' было выкапаць тры штукі. А потым усклалі, выехаў з лесу, гляджу—рэхва... Скінулася з кола рэхва. Добра што агледзеўся. Дык пакуль узагнаў яе з большага, камянем...

Міхалка кінуў беглы позірк на кола, ступіў двумя крокамі да Андрэя:

— А табе трэ' было запрэгчы ў новую драбінку, а не ў гэта стар'ё.

Пераступіў з нагі на нагу і з большым задорам:

— Ты тут яго чакай, а ён майструе старое кола! А што-ж тады будуць рабіць нашы кавалі?

Падбіраючы лейцы, завязваючы іх за поўшары, Андрэй не сцярпеў:

— Няхай сабе і старое, але гэта-ж мае калёса. А я не хачу, каб мая снасць была без дагляду?

— Што твая, то твая,—з усмешкай праказаў Міхалка.—Я добра памятаю, як ты, будучы аднаасобнікам, фарсіў на ёй. Бывала—дзве лёсткі з аднаго боку, поўтары лёсткі—з другога... без перадка, без задка—пыл ажно курыць! Але якая-ж яна цяпер твая. Тым больш, што калгас паўстаўляў ёй новыя лёсткі. Хіба ты не абагульваў яе, ці што?

Андрэй разгубіўся:

— Пры чым тут «абагульваў», не «абагульваў»!

Ён раскілзваў Беляка, не ўзнімаў на Міхалку вачэй, гаварыў:

— Няма табе чаго, вельмі, выскаляцца як і на чым ездзіў я. Не вельмі ўжо і ты ездзіў... Ды і не думай сабе, што такая работа аднаго толькі каваля. Таксама—гаспадар!

Міхалка не адказаў. І ў гэтай маўклівасці Андрэю здалося, што ўзяў ён над ім верх. Тады яшчэ, нібы сам сабе, мармытаў пад нос:

— Гаворак тых колькі хочаш! Абы сход—кожны і гаворыць: трэба глядзець у калгасе, трэба даглядаць за ўсім-усякім. Адзін аднаму гаворыць. Лепш чым гаварыць, глядзеў-бы...

Апошніх Андрэевых слоў Міхалка не чуў. Ён ізноў падышоў цяпер да кола. Нібы хацеў ён зрабіць праверку:—ці сапраўды скідвалася рэхва, і чаму яна скідаецца?

А рэхва была ўздзета на калодку кола касяком. Ведама, камянем узганяў яе Андрэй—незручна было. Яна толькі для прыкляпу трымалася на коле. Ад яе колу не было ніякай карысці. Рэхва гэта і скінулася мусіць не з тэй прычыны, што рассохлася кола. Вось-жа яна—ніт... Некалі была відаць знітавана не ў каваля, не агнём, а дрылем—самадзельна, самім гаспадаром.

— Гэта-ж мая рэхва!—нечакана ні для сябе, ні для Андрэя, вырвалася з Міхалкавых вуснаў.—Дзе ты яе ўзяў?

Адзін аднаму, момант, пазіралі ў вочы. Андрэй першым зрушыўся з месца. Як быў на тым баку драбінкі, перайшоў на гэты бок. Яго апанавала раптоўная злосць.

— Твая?! Як-жа гэта «твая»? Гэта-ж былі некалі мае калёсы і яна мая, а не «твая»!

Стаялі каля кола хвіліну, не зводзілі вачэй з рэхвы. Потым Міхалка не сцярпеў:

Ён будзе мне яшчэ гаварыць! От-жа—ніт. Я сам дрыляваў! Нават памятаю—не было падхадзячага цвіка для ніту, дык свайго хлапца пасылаў к Юзіку...

І раптам, як узняў, так і абарваў свой голас. Нібы яму стала няёмка, што з-за гэтай рэхвы такая спрэчка, нібы нешта прышло на розум, успомнілася. Ён нават на цэлы крок адступіўся ад Андрэя.

— Твая, дык, няхай сабе, твая,—сказаў заспакоеным голасам.—Я-ж яе ад цябе не адбіраю.

Такі раптоўны пераход Міхалкавай гаворкі не задаволіў Андрэя. Андрэй хацеў давесці, што няхай не думае Міхалка, нібы ён украў у яго гэтую рэхву.

— Што ты мяне, вельмі, робіш тым злодзеем ці што?—сказаў Андрэй,—на якое ліха мне твая рэхва. Я яе калі на тое пайшло, знайшоў. І тут, вось... яшчэ калі былі прысады, пасвіў каня і знайшоў.

Па Міхалкавых вуснах прабег штучны смех. Ён адвярнуўся, ступіў да перадка драбінкі і пазіраючы на маладыя ліповыя дрэўцы:

— Ніхто цябе тым злодзеем не робіць. Чаго ты крычыш? Усё адно яна цяпер твая і мая. Падумаеш—ёсць аб чым гаварыць! Бяры, вось, давай будзем садзіць!

... Цэлы дзень садзілі маладыя ліпы і больш пра рэхву не гаварылі. Гаварылі пра Пліса... якія некалі тут, у Пліса, раслі агуркі. Гаварылі пра рыбу... невядома, ці будзе ў гэтым годзе чысты лёд, ці будуць глушыць рыбу. І кожную гаворку пачынаў Міхалка. Пачынаў і на тым канчаў. Неяк не клеілася гаворка. Не было спрэчак, альбо каб з пачатай гаворкі нарадзіліся новыя ўспаміны ці свежыя думкі.

А самым змерканнем перад канцом работы закурваючы Андрэй сказаў, што гэты год у яго будзе ўмалотным:

— На сто сорак працадзён больш як у мінулым годзе. От калі яшчэ з месяц працягнецца да гадавога падліку—наскрабу каля васьмісот.

— Каб я, гэтак як і ты,—утраіх ішлі штодня,—Міхалка ўставіў спачуваючае слова,—і ў мяне не менш было-б...

І як і пра што яны не гаварылі, Андрэю ўсё-ж рупіла рэхва. Яму хацелася ўвесь час проста і адкрыта сказаць Міхалку: «Што ты мне загаварываеш зубы. Ты, чалавеча, быў з канём, зразаў ліпу і згубіў тут рэхву. Ты думаеш, што ты разумны, а я дурачок і нічога не разумею». Толькі ніяк ён не мог гэтага выказаць. Можа таму не мог, што ён таксама быў вінават. І нават невядома хто з іх двох больш вінаваты. Хоць Андрэй і не лічыў сваёй віны за віну, але ўсё-ж яна непакоіла яго. Андрэева віна цяпер загарэлася тарфяною іскраю—(не відаць, а пякучая)—і тлела недзе глыбока ў яго нутры.

---

Было гэта, бадай, калі адлістаць гадоў з восем назад. Неяк пасля захаду сонца Андрэй навастрыў нож і вышаў з хаты.

Па зямлі ўжо разаслаўся вячэрні змрок, а на траву пала раса. Густымі пластамі ўздымаўся ад рэчкі туман. Недзе ў чаротах рэчкі, а мо' ў аеры—трашчэў драч.

Андрэй ішоў паўз рэчку, поплавам, а як параўнаўся з ліповымі прысадамі—спыніўся. На адным месцы прастаяў хвіліну,—нібы лавіў невядомы, схованы шорах чаротаў—глядзеў у адзін бок, у другі—слухаў. І калі пераканаўся, што ніхто яго не бачыць,—хутка закрочыў напрамкі, па густой траве, да ліповых прысад. Ён нават і не заўважыў, што ішоў па высокай траве, што абрасіў калошы сваіх зрэбных штаноў да самых кален. Ён спяшаўся:—«хацяб хто не падгледзеў». А калі падышоў да першай ліпы, забыўся на ўсё. Андрэй любаваўся ліпаю. Яна была ў самым цвеце. Над ёю гулі вячэрныя хрушчы...

Андрэй яшчэ раз і яшчэ—уважліва агледзеў дрэва. Потым нож заткнуў за папругу, якой падпераваны былі яго штаны, сплюнуў на даланю, пацёр сліну і палез па гладкім камлі дрэва аж у гушчар лісцяў, цвету.

— Ах, якія хвацкія сукі!—рукамі мацаючы ліповую кару цешыўся Андрэй,—не сукаватыя, маладыя... З аднаго, такога сука—пара лапцей!

Зручна ўсеўся на суку ды ў сваіх думках:

— Ні стуку, ні груку... Ніхто нават і не падумае на мяне. Усё адно нейкі лысы чорт будзе спажываць гэтыя лыкі. А чаму не я?

За якую гадзіну Андрэй абадраў усе лепшыя сукі, і калі злез з ліпы, не паверыў сам сабе. Вельмі-ж кідалася ў вочы ліповая бель у вячэрнім змроку! Здавалася, нібы нехта ўсцягнуў на зялёную, цвітучую ліпу шкілет нейкага вялікага звера. Нават на момант зрабілася жудасна.

Тады хутка пакруціў ліповыя луты ў вярчы. Цэлае вышла вясло. Нераўнуючы як вясло тых кірмашовых абаранкаў.

Дадому ідучы разважаў:

— З такога вясла... з такога вясла выйдзе дзесяць пар лапцей. А мо' нават і больш!

Вось чаму не важыўся Андрэй і выказаць Міхалку сваёй думкі. А віна Андрэява была большая за Міхалкаву і вось у чым:

Карзюкоўцы, тады, абадраную ліпу заўважылі толькі праз два дні. Не было мусіць нікому патрэбы хадзіць у рабочы час каля прысад.

Перш-на-перш убачыў белыя сукі Лявон Кірэйчык і сказаў Захару, а Захар Міхалку. Міхалка вельмі-ж здзівіўся такой рабоце: «Як не кажы—прысады ўсіх карзюкоўцаў». Плісава зямля, канешне, падзелена, а прысады—агульная маёмасць вёскі.

— Каб застаў такога чалавека,—казаў Міхалка,—скуру злупіць з такога чалавека і то мала.

Гаворак было на некалькі дзён. Потым усе гэтыя гаворкі ўлягліся. Ліповыя прысады хутка адцвілі і лыка на іх не адставала. Падыйшла восень з сваімі замаразкамі, і рэчка Галая замерзла. Цэлымі днямі карзюкоўцы хадзілі па чыстым лёдзе ды глушылі даўбешкамі рыбу. І неяк у адну такую марозную раніцу Міхалка быў на рэчцы з даўбешкаю і здалёк заўважыў абадраныя сукі ліпы.

— Яна напэўна сохне,—падумаў Міхалка і сышоў з рэчкі. Ён перайшоў мёрзлы поплаў і падышоў да самага дрэва. Нібы першы раз ён ўбачыў яго.

— От-жа нехта абчысціў,—пазіраў, галаву задраўшы, на аголеныя сукі.—Ну і людзі-ы...

Думаючы так, Міхалка нібы збіраўся выратаваць ліпу—загаіць яе балючыя раны. (Памазаць сукі тарпатынаю, абвязаць сукі рагожаю, замазаць глінаю сукі). Бо вось-жа надыходзіць зіма і мароз без літасці будзе смактаць мядовы сок з голага яе цела.

Але ў Міхалкі былі другія меркаванні. Калі гаварыў думкамі сам з сабою, што сохне ліпа, і кляў чалавека, які абадраў яе сукі,—такімі думкамі цешыў сябе. Ён сціраў перад ліпаю сваю віну, якую меўся зрабіць.

Яшчэ з лета, калі першы раз убачыў яе абадраную, паспела думка: «З такой ліпы, ах—начоўкі!»

Стоячы цяпер каля дрэва, Міхалка яшчэ раз і яшчэ акінуў сціплым позіркам ліповы камель. Ліпа была ў камлі вельмі-ж гладкая. Камель быў такі, што аднаму не абняць.

— Каб толькі, хаця, не было дупла,—меркаваў Міхалка, не зводзячы з яе сваіх вачэй. Яшчэ зірнуў і яшчэ:—не павінна! Ліпа маладая! Я-ж памятаю, калі яна была яшчэ падліпкам. Тут зямля тарфяністая, яе і выгнала.

Тады абышоў наукол, зірнуў на самы яе верх, потым адвёў вочы на дарогу, што ідзе за былым Плісавым агародам, і ў сваіх думках:

— І надвор'е як наўмысля! Зямля мёрзлая і ніякага следу. Та-а-ак... З яе можа быць... адзін рэз, два, тры... З яе можа быць чатыры кавалкі па дзве плашкі з кавалка,—васьмёра начовак. Ды не тое, што асінавых начовак, а ліповых!

У тую ноч, як наўмысля і вецер быў вялікі. Гуло ў камінох, а зямля яшчэ больш мерзла. І з той ночы першую ліпу прысад нібы знесла паўночным ветрам. Больш ніколі не палохала яна ўначы сваімі абадранымі сукамі.

Міхалка, цяпер, добра ведаў: канечне, ён згубіў рэхву як рэзаў тую ліпу.

Колы Міхалкавай драбінкі тады патрэбна было перацягваць. І шына на яго колах чапалася. І рэхвы на калодках ледзь ліпелі. Калі не было

маразоў—гразь была—замочацца колы і нічога. А прыўдарылі, былі, марозы,—зямля стала грудаю, рагляком. Дык недзе едучы раздрогалася, а тут зачапілася ў кустах і згубілася.

Праз увесь дзень Міхалка думаў і не выпускаў з галавы:

— Пацягнула мяне нядобрая за язык! Нібы ў мяне хто пытаў—мая гэта рэхва, ці не мая! На якое ліха яна мне, як калгаснаму чалавеку, патрэбна, хоць сабе і мая?

Міхалка не ведаў, што Андрэй абадраў ліпу. Каб ведаў ён—малы клопат быў-бы. Ды які клопат?—Уся віна была-б Андрэева: «Патрэбна было не драць, а ён бы яе і не рэзаў»! Міхалку проста рупіла: цэлы дзень Андрэй такім насупістым. Буркне слова, другое, ды маўчыць. Міхалку ўвесь час думалася, што Андрэй напэўна мяркуе: «Міхалка рабіў бандарку і ён пазразаў усе прысады на клёпкі».

Нават аж крыўда агарнула. Ён добра памятае: на другую ноч, як зрэзаў тую абадраную ліпу, нехта зрэзаў аж дзве ліпы. Тады была заварушылася ўся вёска. Гаварылі: «Трэба прыпільнаваць»! І Міхалка канечна не палез больш у гэту бяду. Бо і сапраўды хадзілі пільнаваць. Макась, што жыве каля Гіляра, дык хадзіў каб ніхто і не ведаў. Яго цікавіла не толькі тое, каб злавіць чалавека, а каб і ведаць, хто мае такі спрыт. Потым Макась выехаў на настаўніцкія курсы, прайшоў тыдзень, другі— і зноў нехта зрэзаў дрэва. Пачалі менш гаварыць, нібы ў закон увайшло сяды-тады рэзаць па аднаму, па два дрэвы. А пакуль ішла маруднаю хадою зіма, ад рэчкі ачысцілі ўвесь бераг.

І нават зусім пакінулі дзівіцца.

Так і зніклі, невядома дзе дзеліся, ліповыя прысады.

... Калі збіраліся сёння садзіць прысады, і ў думках не было, што скончаць яны такі доўгі шар. Брыгадзір Банэдзік так і размеркаваў—«на два дні». Ім і самім не верылася, як гэта яно здарылася.

А яны садзілі прысады з нейкім невыказаным імпэтам. Міхалка сваім спрытам хацеў сказаць Андрэю: «Ты думаеш, што калі я зрэзаў тую прысаду, дык я вораг для савецкай уласці? Яшчэ, мы, гэтага паглядзім!» Андрэя, дык яго толькі крыху скрэбла сумленне: «Драў я некалі лыкі, а цяпер давялося садзіць. І пасаджу!»

Андрэй вельмі быў рад, што ні адной не зрэзаў прысады. Ад гэтага куды больш шчымела-б, цяпер сэрца. Не без таго:—калі з'явіліся пні на прысадах—Андрэй у адзін вечар таксама хацеў паехаць. Ён думаў тады цэлы дзень. Але пад вечар пашоў снег і Андрэй вырашыў: «Паеду, нараблю слядоў. Нехта цэлую восень рэжа, а я за ўсё буду адказваць».

І не паехаў. Цяпер, Андрэй, проста, дзякаваў першаму снегу, што ён затрымаў яго. Нечага, на сэрцы чыстае сумленне. «Толькі-ж вось, гэтыя лыкі... Можна-ж было лазы надраць, дык не!»

Зусім змерклася, калі Міхалка з Андрэем ехалі дадому. Конь ішоў павольным крокам. Лейцы аслаблі ў Андрэевых руках. Міхалка сядзеў на біле калёс. Абапёрся аб біла абедзьвума рукамі, нагой упёрся ў лёсткі драбінкі, другую—падагнуў пад сябе. «Каб не выкінуцца, калі дзе падскочыць кола на каляіне».

Зморк вечара згусцеў, як тое цеста. І скрозь асеннюю густату вечара, блішчэлі толькі адны аганькі. Здавалася, здалёк, што гэтыя аганькі— шматлікія ліхтары на нейкай вялікай чыгуначнай станцыі.

Яны пад'язджалі да свайго калгаса і маўчалі.

Конь спускаўся з гары ў лагчыну і хацеў бегчы. Андрэй напяў лейцы і нібы з кпінкаю, з дакорам, на каня:

— Ціш! Цішай! А то зноў пагубляеш Міхалкавы рэхвы!

Міхалка як сядзеў на біле калёс, аж прыўзняўся.

— Няма табе, чаго выскаляцца!—праказаў голасам вялікай крыўды,— я табе, можа, не Лявонаў Стасік!

Андрэй, такі не даў каню разгону. Хамут налез на конскія вушы, а конь перабіраў дробным крокам, як на парадзе.

— Я і не выскаляюся...—праказаў бязуважна.—Я-ж кажу, што рэхвы слаба трымаюцца на колах.

Міхалка сеў на памост драбінкі. Яму хацелася заплакаць ад крыўды, як таму маломму дзіцяці. Ён сцяў зубы і прамаўчаў цэлую хвіліну. Потым узняўся—стаяў каленкамі на голым памосце ды абуджаным голасам:

— Андрэй! Ведаеш што, Андрэй... Ну, я зрэзаў. Я, можа і дарогу ўсім паказаў. Бо я перш-на-перш зрэзаў. Я зрабіў пачатак. Тую зрэзаў, што нехта драў з яе лыкі. Нейкі недавярак абадраў яе, а я думаў, што яна ўсё адно ссохне...

Па Андрэевымм целе прабеглі халодныя дрыжыкі. Як трымаў лейцы,— смаргануў каня, нават крыкнуў на Міхалку:

— А хто ў цябе пытае?!

Конь ірвануўся, а Міхалка абхапіў рукамі білы калёс і нейкім надламаным голасам:

— Як—гэта хто пытае? Я можа сам у сябе пытаю? Я яе зрэзаў і яна збуцвела лежачы ў таку. Шашаль з'еў яе. А я сёння садзіў гэтыя дубчыкі. Я ў цябе пытаю: калі гэтыя дубчыкі вырастуць?

Андрэй здзіўлена азірнуўся на Міхалку. Ён, проста не хацеў чуць, слухаць таго, пра што думаў сам. Ён абярнуўся тварам да Міхалкі, сустрэў яго твар ды:

— Ці не звар'яцеў ты? Я-ж кажу:—хто ў цябе пытае? Навошта табе леташні снег?

— Не, брат, не леташні снег! Я не хачу, каб мяне мучыла сумленне. Не адзін я рэзаў прысады, а я сёння бачыў, што ты злуеш на мяне аднаго. Ты думаеш—я не чалавек, а той гад, якога мы ўчора клялі? А я нават скажу перад усімі калгаснікамі. Пабажуся табе, што скажу! Паглядзіш!

І ён змоўк.

Яны пад'язджалі да самага калгаса. Міхалкавы словы нават расчулілі Андрэя. Ён хацеў цяпер сказаць яму: «Не ты першы вінават, а я. Мая была першая віна. Давай не будзем успамінаць старых прысад, а будзем даглядаць за новымі».

Але ён не сказаў. І можа таму не сказаў, што конь рыссю ўбег у вішнёвыя прысады калгаснай вуліцы. А можа таму, што выказаў Андрэй сваю думку і за сябе і за Міхалку. Гэта, бадай, праўда! Бо цяпер зусім лёгка стала на сэрцы, весела... Уз'едуць яны зараз на калгасны двор, а Міхалка каго спаткае першаму і скажа:

«Пасадзілі маладыя прысады, і няхай паспрабуе хто-небудзь крануць хаця пальцам! Хай паспрабуе...»

Яны абодва цяпер маўчалі і здаецца бачылі:

Вось ужо і выраслі маладыя ліпы і як прыемна маладому калгаснаму саду! У сад не залятае нават шолах ветра.

Летні, сонцам заліты дзень. Цвітуць ліпы... Колькі, колькі вунь, на ліповым цвеце пчол! Ліпы спяваюць тонкаструннай музыкай. Кожны ліповы цвецік прымае дарагіх гасцей, частуе іх, усміхаецца сонцу! З маладых ліп, з сочных, капае пераспелае, асыпанае сонцам жыццё.

Сярод ліп—цвіце вясна!

А цень ліповы—мяккі, ціхі... Гэта цень з-пад дзявочых расніц! А потым вечар... Над маладымі ліпамі кружацца, наўзахапкі снуюць кросны майскія хрушчы. І зноў не змаўкае музыка ліп. Толькі яна цяпер бы. з музыкай б. сэтлі, мяккай як плюш...

Сакавік, 1935 г.

**В. Краўчанка**

# ПРЫКРАЕ ЗДАРЭННЕ.

## 1

Раніцаю ў нядзелю ў хаце Тамаша чакалі гасцей з суседняй вёскі Замасточча. Павінен быў прыехаць Тамашоў брат Цімох з жонкаю і маленькім Пятруськом. Тамаш запрасіў іх у госці. Ён доўга не хацеў рабіць гэтага і агрызаўся на жонку Насту, але тая ўсё-ж дамагалася свайго і Цімох быў запрошан.

Тамаш з даўных пор быў з братам не ў ладах. Яшчэ даўно, пры дзяльбе, калі памёр бацька, яны толькі-толькі не пазасякаліся. У часы калектывізацыі іх шляхі яшчэ больш разышліся: Цімох крута рвануўся ў бок ад калгаса, на хутар у прымы да заможніцы Юстыны, тады як стары разважлівы Тамаш быў адным з першых, якія падышлі да стала, каб дзесяткамі каравых літар свайго подпісу перанесці сябе ў новае жыццё. Памятае стары Тамаш, як тады брат Цімох, з'едліва ўсміхнуўшыся, сказаў:—Ну, глядзі-ж, прыцісне мор, не прасі ні ў кога ратунку. Гінь сам.

.... Але Тамаш ад Цімохавага наракання не загінуў. У калгасе раней, калі пачалі з'арганізоўвацца, было крыху нязвычна, але калі да калектыўнай працы прывыклі, стала добра і лёгка. Тамаш-бы, вядома, не згадзіўся паклікаць у госці Цімоха, калі-б яму самому не хацелася пахваліцца перад братам. У калгасе нядаўна было размеркаванне ўраджаю на працадні і ў каморы Тамаша стаялі бочкі са збожжам, якіх ніколі не насыпаў ён, жывучы аднаасобна... Ён быў ужо стары і непрыгодны да цяжкай работы, а тымчасам у калгасе яму знайшлася праца лёгкая і важная—вартаваць гумно. І на гэтай рабоце ён з дачкою Маняй, якая працавала на полі, выпрацаваў больш чатырохсот працадзён, якімі забяспечыў сабе жыццё на год, убранне Мані і абутак і адзежу жонцы Насце. Манін чалавек працаваў на шашы, вылучаны туды калгасам.

У Тамаша цяпер стала шмат часу для адпачынку. Ён знаходзіў хвіліну, каб пагутарыць пра тое-сёе з люлькай у зубах на прызбе з суседзямі. Падмецены двор, прыбраны, чысты хлеў для каровы, добра падсыпаная прызба не пераставалі лашчыць Тамашовага вока. Заўсёды свежанькія прыгожыя кветкі не злазілі са стала ў чыстай, пасвятлеўшай хаце. Стала хапаць часу Тамашу на тое, чаго ён век не думаў рабіць у сябе.

І звыш усяго—радыё... Яго падарыў Тамашу сын. Тыя радасныя дні Тамашу ўспамінаюцца так. Аднойчы сярод нядзелі нечакана, як навальніца сярод белага дня, запылены з дарогі, потны прыехаў сын Хведзька, што служыць у Чырвонай арміі.

На тыдзень усяго. Па-зачарговая пабыўка, як лепшаму ўдарніку—адказаў ён, калі старыя, не ведаючы ад радасці, куды пасадзіць яго, пыталіся. Адказаў і незнарок вызваніў шпорамі нешта новае, нечутнае дагэтуль

у хаце ні суханькай маткай Настай, ні старым Тамашом. Гэты звон не быў падобны ні на звон скаварады аб прыпечак, ні на дзынканне конскіх цугляў. Рашчыніў куфэрак, што прынёс за плячыма, і пачаў вымаць падарункі. Матцы паднёс вялікую хустку, чорненькія валёнкі («от, тупаць, значыцца, будзеш па гаспадарцы»,—рашыў Тамаш) і паркалёвае плацце, а старому Тамашу апрача пяці пачак тытуню і жоўтага поўкажушка выцягнуў незразумелую, пафарбаваную ў жоўтае, скрынку. За ёю пачаў вымаць розныя бліскучыя цацкі.

— А табе, тата, я прывёз у падарунак радыё-апарат. Будзеш слухаць з старой маткай увечары розную музыку.

— Гэта што-ж такое, уродзе грамафона, ці што?—спытаўся насцярожаны Тамаш.

— Э, не, зусім не тое,—адказаў, смяючыся, Хведар.

... А праз дзень, калі сын устанавіў на хляве і хаце нейкія жэрдкі, працёг драты і надзеў бацьку на галаву пару «вушэй» у яго ад здзіўлення палезлі на лоб вочы. Ён, бы ўпершыню бачучы такое, глянуў сыну ў твар, увесь пачырванеў ад здавальнення і анямеў. Адразу не паверыў. Вышаў усхваляваны на двор, пахадзіў ля хаты, ля акна, каб упэўніцца, што за ім нікога няма, паглядзеў уверх на напяты, як струна, дрот і вярнуўся збянтэжаны ў хату.

— І як гэта ты?—асцярожна, баючыся перашкодзіць сыну, пытаўся Тамаш. Сын зняў навушнікі, выключыў рупар і звярнуўся да Тамаша:

— Падабаецца, тата, падарунак?

— Навошта пытаешся?

Свабодны час тых пяці дзён адпачынку, якія засталіся ў Хведзькі, ён патраціў на то, каб навучыць бацьку кіраваць прыёмнікам. На трэці дзень вучобы Тамаш самастойна злавіў Маскву.

Тыдзень праляцеў хутка і стары Тамаш, пацалаваўшы сына на дарогу, астаўся сам-на-сам з сынавым падарункам. Пра Тамашова радыё ведала ўся вёска і вечарамі моладзь збіраліся паслухаць музыку да Тамаша пад акно. І кожны дзень Тамаш надвячорак зачыняўся ў чысценькай бакоўцы, адшукаўшы вольную хвіліну, апраўляў старанна вусы, бараду, нібы збіраючыся ў сваты, сядаў за столік ля акна, на якім стаяў прыёмнік і, надзеўшы на галаву навушнікі, увесь забываўся.

Тамаш быў у захапленні апаратам. Кожнага, хто прыходзіў да яго ў хату, ён заводзіў у бакоўку, паказваў радыё-прыемнік, даваў паслухаць і радаваўся, змеціўшы ў вачах прыйшоўшага здзіўленне. Ён быў горды і тым, які ў яго слаўны сын і сваім умельствам кіраваць незразумелым і складаным апаратам. Бывае ці трэба ці не, стары Тамаш заклапочана, не зварачаючы ўвагі на наведвальніка, многазначна падкручваў якуюнебудзь шрубку ў кантактах, правяраў злучэнне. Потым з важным таемным выразам твару прыслухоўваўся да працы прыёмніка і быццам тое, што перашкаджала, ужо выпраўлена, сам сабе задаволена пасміхваўся.

... І калі сказаць праўду, перспектыва зрабіць немым ад здзіўлення Цімаха, толькі і прымусіла Тамаша згадзіцца з жонкай. Толькі цераз гэта ён і запрасіў у госці брата. Тамаш успомніў той апошні момант, калі яны развіталіся з братам, выказваючы ў досыць несяброўскіх сказах жаданне нікол і больш не сустракацца, і здрыгануўся. Чамусьці цяпер злосці на брата не было, а тады, памятаецца, поўніла грудзі ад яе. І не таму, што Цімох быў супроць калгаса, за які цягнуў Тамаш, а таму, што Тамаш баяўся, каб не спраўдзіліся братавы словы. Злосць брала, што ён можа быць правы. А вось цяпер злосць знікла, бо правы застаўся не Цімох. І Тамашу хацелася паказаць брату сябе, шчаслівага цяперашнім жыццём.

Новы чырвоненькі пеўнік на каньку хаты вось-вось збіраўся кукарэк-

нуць на ўвесь голас. Вакол хаты прыгожая агарожа, пад акном градка кветак. На вуліцы, каля плота, лаўка, на якой вечарамі збіраецца ўся канцавая моладзь. На хляве і на хаце,—па мачце. Вокны завешаны паркалёвымі фіранкамі. У хаце чыста, светла, свежа. Усё здавалася новым, калі зірнуць вачыма мінулага на хату Тамаша. І сам Тамаш, што хадзіў па двары, тупаў, апрануты ў чыстую белую кашулю, падпяразаную стракатым саматканым поясам або адзеты ў сынаў чорны пінжак, новыя боты, з акуратна расчэснаю напалам сівою барадою, здаваўся новым, свежым.

З двара ён зайшоў у хату, паглядзеў як дачка спрытна ўвіхаецца з бляхамі, пякучы рознастайныя пшанічныя мармонікі, і падаўся ў бакоўку. А там не ўцярпеў, каб не глянуць на прыёмнік. Ён стаяў вычышчаны да бляску, старанна правераны Тамашом, у найлепшым парадку. Тамаш думаў, як з найбольшым эфектам прадэманстраваць брату сынаў падарунак. То хацелася прыкрыць хусцінкай апарат, злавіўшы раней музыку, прывесці ў бакоўку Цімаха і раптам уключыць рупар, то проста сустрэць Цімаха музыкай, то не заводзячы яго ў бакоўку, ашаламіць яго нечуванымі гукамі адтуль. Ні адзін план не задавальняў Тамаша. Хацелася, каб на твары ў Цімаха адбілася здзіўленне, і ён сапраўды пабачыў новае ў жыцці Тамаша.

На вуліцы затарабанілі і спыніліся ля варот Тамаша калёсы. У Тамаша ёкнула сэрца: «Цімох мусіць». Ён прыкрыў вялікаю хусткаю прыёмнік і пайшоў да дзвярэй. Не паспеў выйсці з бакоўкі, як на двары забрахаў прывязаны Лыска і рыпнулі вароты. Хутка ідучы Тамаш кінуў, Насце і Мані:

— Цімох, здаецца.

Тыя адразу пакінулі ўсю работу і рынуліся з хаты. З радасным крыкам пабегла насустрач гасцям і чатырохгадовая Волька. Тамаш выйшаў апошнім. Вароты ў двор ужо былі насцеж адчынены. Ля іх стаяў Цімох. Канём кіравала, узяўшы ў рукі лейцы, Юстына.

— Ну, Тамаш, прымай гасцей,—сказаў грубым, крыху хрыпаватым голасам Цімох, нацягваючы ўсмешку на скуласты, неголены твар. Цімох стаяў, трымаючы ў руцэ пугу, шырокаплечы, каржакаваты, з доўгімі моцнымі рукамі, кароткай шыяй і вялікай узлахмачанай галавой. На твары пад густой страхой лахматых брывей хаваліся хітрыя вочы. Яны быстра бегалі па двару, па тварах сустракаючых, забеглі ў гародчык, каўзануліся па жэрдках-мачтах на хляве і на хаце, ускінуліся на пеўніка на каньку хаты і спыніліся на Тамашы. Той ішоў насустрач, крыху усхваляваны, але вонкава зусім спакойны.

— Заязджайце, заязджайце ў двор.

Конь, накіраваны рукою Юстыны, прайшоў углыб двара. Юстына сядзела на возе, прыбраная па святочнаму ў шырокую з фальбонамі спадніцу, вышываную блузку з вялікай стракатай у кветкі хусткай на галаве, трымаючы адной рукой лейцы, а другой абнімала Пятруська. Цімох зачыніў вароты і паволі падышоў да Тамаша. Тамаш працяг яму руку. Браты стрэліся поглядамі. І адзін і другі вельмі змяніліся за гэтыя некалькі год, як не бачыліся. Цімох асунуўся, пачарнеў, толькі скулы ад сківаў, рабілі шырокім твар. У Тамаша каля вачэй годы зморшчынілі скуру і ўплялі ў бараду безліч сівых валасоў. Але за тое вочы Тамаша былі светлыя, глядзелі шчыра, чуць пасміхваючыся. У іх свяцілася радасць. Цімох пацiснуў працягнутую руку і першым прывітаўся:

— Здароў, брат.

— Здароў...—адказаў Тамаш. Крышачку збянтэжаныя ад недахопу слоў яны хвілінку памаўчалі, прымерваючыся адзін да аднаго. Цімох, жонка і маленькі Пятрусёк пачалі вітацца з Настай, пляменніцай Маняй, унучкай Воляй, а Тамаш завёў пад павець каня, выпраг яго, паклаў сена

і пайшоў за ўсімі ў хату. Там ішла несмелая, лёгка разрываемая, гутарка. Як увайшоў Тамаш, Цімох пасунуўся і сказаў:

— Ну, дык, сядай-жа, брат, раскажы, як жывеш, як маешся?

Тамаш падышоў і сеў за сталом насупроць брата. Па хаце гуляючы бегалі Волька з Пятруськом. З смехам яны перабягалі з большай хаты ў бакоўку, адтуль назад, хаваліся адзін ад аднаго, жартавалі. Дарослыя не зварачалі на іх увагі.

— Не загінуў, як бачыш,—успамянуў Тамаш братава папярэджанне і глянуў на Цімаха. У таго вочы пераскаквалі з рэчы на рэч у хаце хутка, як у зайца.

— Жыву...—ізноў працёг Тамаш.

— Хлеб да стала маеш?—спытаўся Цімох.

Тамаш усміхнуўся і адказаў на пытанне пытаннем:

— Мераеш на свой аршын?.. Маю, і да хлеба маю. Сёлета мы на працадні атрымалі столькі збожжа, што насыпалі даверху тыя бочкі, якія яшчэ да смерці бацькі ўсёй гаспадаркай не засыпалі,—падлічыў брату Тамаш.

Цімох упёр у Тамаша хітры позірк:

— Тыя старыя, бацькаўскія, што ў каморы?..

— Тыя самыя,—спакойна адказаў Тамаш.

— Няпраўда,—рэзка выгаварыў Цімох і адкінуўся тулавам да сцяны. Тамаш моўчкі ўстаў і кіўнуў Цімаху на камору:

— Хадзі.

У яго радасна тахкала сэрца. Цімох не ленаваўся, паднімаўся на цыпачках і зазіраў у кожную бочку. І з кожным разам у яго ўсё болей і болей хмурнеў твар. Таго, што яму гэта непрыемна, ён не мог захаваць, хаця і спрабаваў зрабіць гэта. У вачах заіграла гама злосных агеньчыкаў. Скіўцы варушылі шчаку. Вярнуўся ў хату Цімох маўклівым, сур'ёзным, сеў за стол і толькі слухаў, што гаварыў яму Тамаш. Жанкі, азнаёміўшыся, шчабяталі аб нечым. Маня, накрыўшы стол чыстай, як першы снег скацеркай, пачала падаваць на стол.

— Чым багаты, тым і рады,—сказаў звычайную прыказку Тамаш, калі Маня паставіла на стол ежу, і пачаў запрашаць гасцей за стол. Сам сеў насупроць Цімаха і пачаў гаварыць яму аб сваім новым жыцці.

Цімох прыкідваўся быццам рад таму, што Тамаш жыве добра і што не спраўдзілася яго калішнее прадраканне. Але па ім відаць было адваротнае. Ён сядзеў насуплены, маўклівы, час ад часу роблена ўсміхаўся, піў як ваду гарэлку і не глядзеў Тамашу ў вочы.

2

Пасля снедання, калі Маня прыбрала са стала, Тамаш усміхнуўся, глянуў на каржакаватага Цімаха і сказаў:

— Ну, а цяпер хадзем у бакоўку, пакажу табе сынаў падарунак. Хведзька ў арміі служыць—камандзірам. Прывёз мне.

— Што-ж такое?—спытаўся зацікаўлены Цімох.

— Бачыў на хаце і на хляве жэрдкі? Паміж імі нацягнен, як струна, дрот. А ў бакоўцы радыёпрыёмнік. Музыку з Масквы пачуем,—сказаў Тамаш і запрасіў:—Зойдзем у бакоўку, хадзем і ты, Юстына, паслухаеш, падзівішся. Хадзем усе.

Цімох устаў, шырокі, прысадзісты і пайшоў следам за жонкай і Тамашом. Тамаш падсунуў лаўку да століка:

— Сядайце!

Калі Цімох з Юстынаю селі, Тамаш лоўка скінуў з прыёмніка хустку і пачаў глядзець, якое ўражанне зрабіў на гасцей прыёмнік. Цімох крыху

прыўзняўся і зацікаўлена глядзеў на яго, а Юстына спляснула рукамі:— во-ой, і што-ж гэта за цацка такая?..

— А вось учуеш зараз,—сказаў Тамаш, адвярнуўшыся да прыёмніка.

— З Масквы, кажаш, музыку пачуем?—недаверліва ўсміхнуўся Цімох.—Глупства, гаворыш, мусіць.

«Чакай, чакай, як зайграе, паверыш»,—падумаў сам сабе Тамаш і сеў ля стала. Успяў на галаву навушнікі, уключыў іх, уключыў батарэю і пачаў плаўна круціць варыометры. У напружанні на яго глядзелі Цімох з Юстынаю...

Раптам па твару ў Тамаша прабегла маленькая хваля разгубленасці: у навушніках нічога не было чуваць... Нават не трашчэла суха, як заўсёды. Тамаш глядзеў на лямпы. Валаскі былі распалены як след, да жоўтага колера, але апарат чамусьці маўчаў. У Тамаша ад хвалявання мацней пачало тахкаць сэрца і ўзмакрэў лоб. Рукі пачалі таропка бегаць па прыёмніку, ашчупваючы кантакты. Усё было ў парадку. Тамаш пераключыў прыёмнік на другую станцыю і зноў нервова пакруціў варыометр. Навушнікі маўчалі. Тамаш у напружанні спыніўся: «няўжо сапсаваўся»,—з адразу пахаладзеўшым сэрцам падумаў ён.

Цімаху прышлося напружваючы ўвагу сачыць за Тамашом і ён абыякава кінуў:

— Што, маўчыць?

Тамаша балюча кальнула:—Цімох заўважыў яго разгубленасць.

— Маня!—крыкнуў ён, стараючыся стаіць хваляванне,—прынясі кубак вады.

Калі ён падліваў у батарэю ваду, у яго ад хвалявання дрыжэлі рукі. Ён ведаў, што батарэі вада непатрэбна, бо лямпы гарэлі, як трэба, але ліў яе, адцягваючы гэтым час. Па твары, сарваўшыся з ілба, прабегла першая кропелька поту.

— Напаіць трэба,—усміхнуўся Цімох, падміргнуўшы Юстыне хітрым вокам з-пад лахматых брывей.

— Так, напоім,—паспрабаваў пажартаваць і Тамаш. Але голас выдаваў яго—ён быў слабы і няўпэўнены. Калі ён зноў сеў да апарата, то адразу адчуў, што знямогся ад хвалявання. Навушнікі маўчалі, як і ў першы раз. Зрабілася горача і Тамаш прагна выпіў астаткі вады ў кубку. Несвядома, па прывычцы, бескарысна круціў варыометр. Сэрцам адчуваў: тое, аб чым ён нават баяўся думаць, чакаючы Цімаха, непазбежна з кожнай секундай набліжаецца. У галаве снавалі спалоханыя думкі. Адзін раз, ледзь скасіўшыся, Тамаш зірнуў на брата. Той сядзеў насцярожны, іранічна ўсміхаўся, паказваючы жоўтыя, з'едзеныя зубы і глядзеў на Тамаша. Погляд, асцярожны кінуты Тамашом, злавіў і са смехам кінуў:

— Не грае?.. Эт, кінь, Тамаш мучыцца. Звесныя гэтыя цяперашнія штучкі—глупства.

Тамаша нервова скаланула. Вось пачалося. Цімох затопча ў гразь сынаў падарунак, а ён нічога не можа даказаць. Ад крыўды балела ўнутры Тамаша. Значыць не збудзецца тое, чаго так чакаў Тамаш. Цімох не адкрые ад здзіўлення рот. Не закалышыцца ад музыкі пакой і не стане цёпла ад радасці ў нутры Тамаша. А гэты Цімох... Цяпер ён мае права пасмяяцца з Тамаша, пакпіць над яго пахвальбою, вышчэрыўшы жоўтыя зубы, пасмяяцца: «Ха-ха-ха, пахваліўся, значыць, пад чаркай, ах, чорт! І выдумае-ж, з Масквы... Ха-ха».

Нешта мулкае падкацілася пад горла Тамашу і ад крыўды ён ледзь не заплакаў. Ён глядзеў на лямпы прыёмніка, а бачыў скуласты Цімохаў твар, расцягнуты ўсмешкай, і неразумелая злосць горача пякла яму грудзі.

— Вось, табе, і музыка...—працёг Цімох пасміхваючыся і нецярпліва сказаў:

— Кінь, Тамаш, глупства гэта...

Значыць, канец? Значыць, трэба прызнаць, што сынаў падарунак «глупства»? І сцярпець, сашчапіўшы зубы ўсе кпіны Цімоха.

Усхваляваны Тамаш зноў хутка перагледзеў прыёмнік... і зноў навушнікі маўчалі, бы немыя. Уся надзея на тое, што апарат урэшце ажыве, прапала. Тамаш адчыніў крышку прыёмніка, паглядзеў у сярэдзіну на безліч розных дроцікаў, шпулек і замёр. Яму хацелася шапнуць, схіліўшыся, прыёмніку, бы жывому: «Ну-ж, мілы, харошы, зайграй. Дакажы гэтаму чорнаму д'яблу, што ты можаш. Хутчэй-жа...»

Але Ташам не шаптаў, баючыся паказацца вар'ятам. Зачыніў крышку і адвярнуўся да Цімаха, ціхі, сумны.

— Не грае... Сапсаваўся нешта. Учора граў...

Сказаў і замоўк, зноў уставіўшы погляд у анямеўшы прыёмнік.

Цімох пасміхваўся:

— Ну, што-ж бывае...

Вышлі ў другую хату. Гутарка больш не клеілася. Тамаш адказваў на звароты да яго злосна, адным-двума словамі. Праз поўгадзіны Цімох парашыў ехаць. Тамаш не пярэчыў. Ён развітваўся суха з незахаванай злосцю. Цімох усміхаўся і нешта гаварыў слізкае, халоднае. Тамаш непрыметна ад усіх скрыгаў зубамі.

### 3

Злосны, абражаны ў сваіх лепшых пачуццях, падведзены сынавым падарункам, Тамаш стаяў і глядзеў, як выязджалі за вароты госці. Яму хацелася крычаць ад злосці, вылаяць нізавошта Цімаха і ён ледзь стрымліваў сябе. Здавалася, што Цімох, прыўзняўшы калматыя бровы і цяпер яшчэ смяецца з яго доўга і зларадасна...

... Раптам да Тамаша падбегла вясёленькая Волька, якая трымала нешта за спіною ў маленькім кулачку. Яна спынілася ля Тамаша і, хітра ўсміхаючыся, весела прагаварыла:

— Ага, дзедуска, а я не сказу табе, што мы з Пятруськом адк'юціі гаяцку... Ага.

Тамаш крута павярнуўся да яе:-

— Якую гаячку? Пакажы!

Валька, трымаючы за спіною рукі, адступала ад дзеда і смяялася, падскокваючы на адной назе:

— Не сказу, не сказу...

— Пакажы, Волечка,—наступаў дзед.

Вольцы надакучыла аднекваща. Яна раскрыла маленькі кулачок і пакорна палажыла на руку Тамашу бліскучую гайку. Тамаш, схапіўшы на рукі Вольку, кінуўся ў бакоўку.

— Дзе-ж вы, Волік, адкруцілі яе?

— Вось тут,—наіўна ткнула ружовым пальчыкам Волька на вушак акна, на якім былі дзве клемы. Каля надпіса «антэна» свабодна матляўся непрымацаваны гайкаю провад. Тамаш ліхаманкава хутка схапіў яго, прыкруціў на пустую клему і ўсхвалёвана надзеў навушнікі...

... На вуліцы паўз вакно праехаў, махаючы пугай, Цімох. Яго сківіцы, здавалася Тамашу, трэсліся ад унутранага стрыманага смеху...

... Знаёма пакруціў варыометр і... У вушы адразу пырснула спевам, вясёлым і моцным. Уключыўшы рупар, Тамаш спыніўся, захапіўшыся цікавымі спевамі. У нутро хлынула нешта радаснае, бадзёрае, хацелася—дзікае

жаданне—абняць увесь апарат, сціснуць яго старымі, мазолістымі рукамі і пацалаваць у беленькія пасярэбраныя лямпачкі...

Тамаш устаў з зэдліка і зарагатаў. Волька ў захапленні прагаварыла:

— Як хояса...

«Вярну Цімаха, хай паслухае»,—успомніў раптам Тамаш і кініўся за дзверы да варот. Глянуў усцяж па вуліцы і спыніўся:—далёкі цімохаў воз павярнуў у вулічку, на палявую дарогу. Спачатку Тамаш хацеў дагнаць, крыкнуць Цімоху, але раптам раздумаў, плюнуў у пясок на вуліцы і вярнуўся ў хату...

**Е. Садоўскі**

# КРАВЕЦ ІСАК

— Што ты пыліш, Ісак?

Бернштэйн на хвіліну разагнуў спіну, застыглым позіркам паглядзеў на жонку і потым, нібы страхваны ў раздум'і адказаў:

— Чалавек спіць на падлозе, а на гары валяецца добры ложак.

— Цудоўны ложак! Не, далібог, гэты кравец з кожным днём губляе апошнія рэшткі розуму. Ён мне прынясе ў дом пакрытую пылам кушэтку. Ці-ж мала без яе лахманоў для талкучкі?

«Вось і пагавары з Дорай,—падумаў кравац,—чалавек адляжаў усе бакі, а ёй пыльна».

Ён зноў нагнуўся і пачаў выбіваць воблакі густога пылу. Старая кушэтка з спружынамі, якія прарываліся праз парваную матэрыю, нібы стагнала пад гэтымі ўдарамі, але кравец быў бязлітасным...

За гэтыя гады ён прывык да кватарантаў. Аднойчы, калі Бернштэйн прачнуўся па звычайнаму рана і вышаў на свежае паветра—выкурыць папяросу, яго ўвагу прыцягнуў нейкі кружок, нарысаваны крэйдай на варотах.

— Ах, гэтыя хуліганы. Мала яшчэ ім было шыльды. Маляр Давідзюк (светлая радасць яму на тым свеце) столькі мастацтва ўклаў у яе. Столькі прыгожасці было ў элегантным маладым чалавеку, якога ён нарысаваў. З такой цяжкасцю выбралі гэтую карціну з самага моднага часопіса. Не, яна ім не давала спакою. Нехта намазаў вусы, потым дарысаваў хвост. Можна падумаць, што Бернштэйн абшывае не людзей, а малпаў. Потым узяліся за надпісы... «Венскі кравец» перарабілі на «Свінскі кравец». Шыльду давялося зняць. Але што гэта за таямнічы кружок на варотах? У Сапуна, насупраць, якраз такі самы. Сцерці ці пакінуць?

Днём значанне таямнічнага кружка высветлілася. Спачатку па крывых вуліцах мястэчка, узнімаючы слупы пылу, праімчалі тры коннікі. У руках яны сціскалі пікі, на завостраных канцах якіх ігралі сонечныя праменні.

— Пікі!

Хто не ведаў, чый гэта грозны від зброі! Казакі—прамільгнула думка ў Берштэйна. Ён хутка заскочыў у двор і пачаў падпіраць фортку бярвеннямі.

— Але чаму кружок, а не крыж, і няўжо яны Грыцко Сапуна таксама прынялі за яўрэя?—дзівіўся кравец.

Праз гадзіну, калі з левага боку мястэчка паказалася войска і наперадзе на тачанцы зачырванеў аксамітны сцяг, трывога адыйшла і Берштэйну зрабілася лёгка, нібы ў яго ад сэрца адваліўся цяжкі груз...

Недзе за мястэчкам ішла вайна. Часамі, асабліва ў ціхі дзень, зата-

іўшы дыханне, можна было пачуць глухія раскаты... Цяжкі, грузны ўдар, нібы зваліўся цяжкі камень, і зараз-жа водгук...

Бывалыя людзі тлумачылі:

— Стрэл... Разрыў...

Але гэта было далёка, магчыма за дзесяткі вёрст. Мястэчка знаходзілася далёка ад галоўнай дарогі і яго спакою амаль ніхто не парушаў. Аднойчы забрылі два высокіх салдаты, з каляровымі нашыўкамі на плячах і руках...

Царкоўны стараста Казяўка, шумны і задзірысты мужык—напаіў іх. П'яныя салдаты гарланілі з усёй сілы пахабныя песні, кляліся, што ў Піцеры ўжо белыя, што не сёння, дык заўтра будзе ўзята Масква, а асабіста яны—гэта выведка і за імі ідзе безліч адборных сыноў матухны Расіі.

У двары мястэчковага шаўца Хацкеля Левіна ўдалыя выведчыкі пачалі страляць і хто яго ведае, чым бы скончылася гэтая перапалка, калі-б моцная самагонка канчаткова не вывела ўдалое войска са строю. Раніцою выведчыкі зніклі, а ў мястэчку не далічылі двух коняй, а ў падслепаватага каваля Давіда Валошкіна знік цудоўны гусак, з такой клапатлівасцю выгадаваны дачкой Рохкай.

І ўсё... І зноў, да пары, да часу, зрабілася ціха ў мястэчку.

* * *

Вецер бярэ аксамітны сцяг у свае ласкавыя абдымкі. Ён то гладзіць, то квола калыша яго, ці раптам, нібы раззлаваўшыся, раздзімае сцяг шырокім ветразем.

На царкоўнай плошчы мястэчка тачанка са сцягам спынілася і тады пачулася агульная каманда:

— Зла-а-а-зь з коняй!

Коннікі дружна выканалі гэты загад і, саскочыўшы на зямлю, пачалі тупаць нагамі, каб размяць іх...

Праз вакно Бернштэйн заўважыў, як адлучыліся два салдаты і, пераходзячы вуліцу, накіраваліся да яго дома. Каля варотаў яны спыніліся, зрабілі нейкую адзнаку пад кружком і ўвайшлі ў двор...

Бернштэйну зрабілася горка ў роце і ён адчуў, як часта ў яго закалацілася сэрца.

Трывожныя думкі, абганяючы адна адну, выразна нарысавалі яму карціну рабунку, які безумоўна здарыцца праз некалькі хвілін... Прыйшлі з чырвонымі сцягамі, але ідзі павер сцягу... Кружок на варотах, гэта напэўна да каго зайсці ў першую чаргу.

— Дора, Дора, выйдзі ў той пакой, я сам сустрэну іх...

— Добры дзень, пане салдаты, чаго-б хацелі госці ад Ісака-Лейбе Бернштэйна...

— Што-ж гэта ты, Бернштэйн, так збляднеў? Глядзі,—кроў з твару сышла,—сказаў адзін з байцоў. Ён быў высокі, левая шчака яго, як відаць, нечым апечаная, была пакрыта чырвонай плямай. Другі быў ніжэй ростам, без шапкі, з кучаравымі валасамі. Тое, што яны заўважылі спалоханасць і неяк па-простаму падыйшлі да яе,—нечым, пакуль што яшчэ невыразным, хіліла Бернштэйна да нечаканых гасцей.

— А чаго ўсё-ж такі жадаюць пане салдаты?

— Няўжо ніхто дагэтуль не заходзіў да цябе? Вось служакі, нарабілі розных адзнак на варотах, а хоць-бы слова кінулі ў чым справа? Будзем мы, паважаны, у цябе жыць.

— Жыць,—спытаў кравец,—значыць выходзіць, што мне трэба дом пакідаць?

— А навошта гэта?.. Ї мы будзем жыць, і ты будзеш жыць...

— Але на чым спаць, дзе я вам ложак вазьму?..

— Аб дробязях, брацішка, пасля.

Калі яны ўвайшлі ў пакой, Дора істэрычна закрычала, затупаўшы нагамі:

— Ідзіце, ідзіце, нічога ў нас няма. Слёзы і боль я вам аддам...

Высокі спыніўся ад здзіўлення, а меншы, прытуліўшыся да дзвярэй, гучна смяяўся:

— Ой, не вытрымаю, ой, трымай, Ігнат, ды за каго яны нас прымаюць?

Пачуўшы смех, Дора паказалася з суседняга пакою. Бернштэйн, заўважыўшы яе, са здзіўленнем развінуў рукамі.

— Усе жанчыны, як і ты, і ты, як усе жанчыны. Людзі яшчэ не паспелі ўвайсці ў хату, а ты паспяшалася аддаць ім і свае слёзы і свой боль. Добрая жонка, скажы лепш, дзе і на чым хлопцам спаць.

Разгубленасць высокага ад першага крыку Доры і неўпэўненасць, з якой ён стаяў каля дзвярэй, яшчэ больш наблізіла Бернштэйна да пастаяльцаў.

— Заходзьце бліжэй, хлопцы. Смялей, смялей. Дора, а ну, лезь у печ! Дзесяць хвілін я ўжо гавару з салдатамі і ў мяне яшчэ засталася барада. Салдаты, а дзе вашыя пікі? Я ў Бердзічаве адчуў іх горкі смак. Светлая памяць на тым свеце ўсім казакам.

Дора выцерла слёзы і вышла ў агульны пакой.

Байцы прыселі і, спытаўшы дазволу, закурылі...

Аглядаючы пакой, яны заўважылі на сцяне вялікую фатаграфічную картку вайсковага, з твару падобнага на Бернштэйна.

— Што гэта, ты служыў?—спытаў меншы, паказваючы на картачку...

— Сын мой Борух. Абараняў цара Нікалая ад кайзера Вільгельма. Нічога не піша. Дзесяць месяцаў ніводнага радка. Я нават не ведаю, хто ён цяпер—чырвоны ці белы? Вельмі спакойны сын. Усё дакараў мяне, чаму я не вучу яго. «Сынок, адказаў я яму—бачыш іголку. Гэта мая адукацыя. Ї ты яе атрымаеш. Іншага няма нічога, сынок. Ты—сын краўца». Не піша ніводнага радка. Не ўспамінайце, добрыя людзі, пры жонцы, яна і так заліла вочы слязмі.

Ігнат, атрасаючы попел з папяросы, спачувальна паглядзеў на краўца.

— Так, відаць цяжка. Маўму два гады. Уначы, калі спіш прытуліўшыся галавой да спінкі тачанкі, мне сніцца Косцік. Абдыме рукамі калені і нібы хоча ўзлезці на плечы.

— Не пушчаеш, сынку, трымаеш...

— Што-ж зробіш, я пайшоў, каб і табе здабыць радасць... Не піша, кажаш... Чырвоны ці белы—не ведаеш... Так, часамі і дзеці да чужых адыходзяць. Апошнія два словы Ігнат расцягнуў і погляд яго спыніўся на адным пункце.

Бернштэйн шмат чаго не зразумеў са слоў салдата, але бадзёрая цяплыня гутаркі дайшла да яго і яму хутчэй хацелася чым-небудзь падзякаваць за спачуванне...

— Ну, хлопцы, чым багаты, тым і рады...

Спытаўшы вады, яны доўга ўмываліся.

Дора падала абед. Потым Бернштэйн прынёс дзве поўныя ношкі сена і яны, не распранаючыся, ляглі спаць...

— Тс... Дора. Можна, здаецца, і не так грукаць талеркамі.

Жонка на секунду спыняе ўборку пасуды і тым-жа тонам гаворыць:

— Тс... Можна падумаць, што прыехаў Борух з нявесткай, а не нейкія два чужыя хлапцы.

* * *

Каваль Валошкін жыве на самым канцы мястэчка. З левага боку вуліцы—нізкі будынак кузні, з правага—дом з шырокімі вокнамі. Мястэчкоўцы сядзяць у сталовай, якая асветлена лямпай, і абменьваюцца думкамі.

Ісак Бернштэйн пытае Давіда Валошкіна, Давід Валошкін—Хацкеля Левіна... Гутарка ідзе паўкруга.

— Ну, як?

— Нічога...

І ў гэтым простым слове закладзена багатая мудрасць. Каваль, кравец, шавец не спяшаюцца рабіць агульны вывад, але пакуль—нічога... І ў іх разуменні гэта ўжо шмат што азначае.

— У вас, што-небудзь прапала, пане Бернштэйн?

— Не, дзякуй богу!

— А ў вас, пане Валошкін?

— Ну, вы ведаеце, гусак...

— Не, не цяпер... Пасля прыхода гэтых...

— Цяпер нічога. Наадварот, я ўчора падкаваў некалькі коняй, дык мяне вечарам выклікалі да камісара... Паслухайце, ён не яўрэй? У яго нешта такое прозвішча...

— Яго прозвішча—Рабчыкаў і гэта, пане Валошкін, зусім не мяняе справы.

— Вы так лічыце, пане Левін... Ды вы маеце рацыю. Так... Дык мяне выклікалі да камісара і пыталіся, ці не трэба мне жалеза... Падумайце, сам камісар ці камандзір, я ў іх чынах не разбіраюся, але ў тых... з нашыўкамі... гэта па меншай меры палкоўнік. Разумееце, палкоўнік пытаецца, ці не трэба мне жалеза і гэта замест таго, каб ачысціць маю кузню і забраць апошняе вугалле з горна.

— Так, пане Валошкін, умешваецца маўклівы да гэтага часу Бернштэйн—на мяне з дзяцінства наводзяць жах пікі. Мне здаецца, што гэта самая страшная і небяспечная зброя. Але ў іх руках, я кажу па меншай меры для насельніцтва, гэта не пікі, а ну, што-б вам сказаць такое,—тое-ж самае, што качарэжка маёй Доры. Шкада, што няма Боруха і я не ведаю, з кім ён. Як мы з Дорай не сумуем па роднаму сыну, але калі-б ён пайшоў з імі, паверце, я нават не меў-бы нічога супроць...

На секунду наступае цішыня...

Часты стук у вакно парушае цішыню.

— Хто да вас так нервова стукае. пане Валошкін?

— Рохеле, Рохеле, выйдзі, паглядзі, каго бог прыслаў у госці да сумленных людзей.

Дачка адкрывае дзверы і ў пакой, спалохана аглядаючыся па баках, уваходзіць царкоўны стараста Казяўка...

На момант ён спыняецца ад нерашучасці, потым імкнучыся схаваць яе, здымае шапку і зычыць здароўя добрым людзям.

— Сядайце, пане Казяўка,—гаворыць Валошкін, падаючы яму крэсла.

— Не, не маю часу. Паслухайце, тут усе свае, і я буду з іншдзінцамі адкрытым, гарэлка ў горла. Магчыма, што ўжо сёння ўначы камісараўскага войска не будзе ў нашым мястэчку. Я зараз сюды прыводзіў выведку, але па дарозе з намі здарылася няшчасце... Гарэлка ў горла... Пан палкоўнік даў нам сваю машыну, а мы затрымаліся за Фелісаўскім лесам. У маторы трэснула нейкая часць... гарэлка ў горла... і афіцэры табе, Валошкін, загадалі яе спаяць. Пойдзем да кузні, я прынёс з сабой работу... гарэлка ў горла...

Спачатку яўрэям здаецца, што Казяўка, як і заўсёды, п'яны, і тое,

што ён гаворыць—проста выдумка... Але царкоўны стараста рашуча цягне каваля за руку.

— Няма часу думаць, ад цябе зараз залежыць вялікія справы. Пойдзем, пойдзем хутчэй. Афіцэры, гарэлка у горла, сказалі, што грошай не пашкадуюць. Ды тут справа не толькі ў грошах і Казяўка хітра прыжмурыў вочы:

— Сяброўства з камісараўскім войскам заводзіце, гарэлка ў горла... Пойдзем, Валошкін...

Каваль нерашуча глядзіць на яўрэяў, але яны маўчаць...

— Рохеле, запалі ліхтар,—нарэшце гаворыць ён, са здзіўленнем паціскаючы плячыма.

Увесь сагнуўшыся Валошкін выходзіць следам за царкоўным старастам.

У Бернштэйна на хвіліну трасуцца губы ад хвалявання...

— Дзе я пакінуў сваю шапку? Вы не бачылі, Левін, вы застаецеся? Вось, нарэшце, яна. Я бягу, мне няма часу. Адчыняючы дзверы ён уяўляе, што на вуліцы пануе трывожнае ажыўленне. Ці жарты—вораг пад самым носам! Але навокал—цішыня. Здалёк даносіцца водгалассе песні. Бернштэйн піхнуў нагой санлівага сабаку і ён злосна забурчэў...

Хваляванне душыць Бернштэйна... Як быць, як быць, скажыце— у дзесяты раз кравец пытае самога сябе. Яшчэ здалёк ён заўважае каля калодзежа Дору...

— Скажы, яны ў хаце,—падбягаючы пытаецца Бернштэйн...

Дора ставіць вёдры на зямлю і аглядаецца...

— Ісак. Што здарылася? За табой гоняцца? Чаму ты такі ўсхваляваны.

— Ой, божа ты мой, я ў цябе пытаюся: яны ў хаце?

— Ну, у хаце...

Праз некалькі хвілін Берштэйн і яго пастаяльцы хутка крочаць да камісара:

— Зразумела! А гэты Фелісаўскі лясок, дзе яны спініліся, далёка адсюль?—пытаецца камісар, прышпільваючы кабуру з рэвальверам да раменя.

— Фелісаўскі лясок,—адказвае Бернштэйн,—гэта самае большае шэсць-сем вёрст ад мястэчка

Камісар звоніць камандзіру...

— Камандзір, выходзь нам насустрач,—гаворыць ён закончыўшы гутарку і павесіўшы на месца тоўстую тэлефонную трубку.—Дзейнічаем... Ігнат, вы бярыце групу сваіх і накіроўвайце за лясок, пастаўце вартавых, каб сачыць за кузняй...

— Ёсць,—адказвае Ігнат і, паваеннаму павярнуўшыся, адыходзіць да дзвярэй... Услед за ім ідзе камісар... Ужо каля парога ён абарачваецца і сочыць за Бернштэйнам, усё яшчэ бледным ад хвалявання.

— А вы, сябра, што будзеце рабіць?

— Камісар не даў мне ніякага задання,—адказвае Бернштэйн.

— Ігнат, вазьмі з сабой гаспадара. Ён павядзе нас да лесу.

* * *

Дора не знаходзіць сабе месца. Яна часта выбягае на вуліцу, аглядваецца па баках, потым ледзь стрымліваючы хваляванне, заходзіць назад у хату. Усё падае з яе рук. Не ведаючы, за што ўхапіцца, яна бегае з кута ў кут, пасля кінуўшы ўсё, падбягае да акна, але за вокнамі вечар і сляпыя шыбы толькі ўзнімаюць трывогу і непакой.

— Дзе мой Ісак? Скажыце, дзе Ісак? О, я няшчасная, пакараная богам жанчына.

У мястэчку даўно ўжо ўсё сціхла. Недзе далёка абарвалася і неяк адразу змоўкла песня... Толькі зрэдку злосна забрэшуць сабакі і цішыня зноў-як быццам змоўклі струны—стаіць над мястэчкам...

Дора збегала да каваля Валошкіна, але ён адказвае, што Бернштэйн даўно пайшоў да хаты.

— Пайшоў ваш Ісак, пайшоў і скажыце яму, каб усёт-кі ён памятаў аб сваіх гадах, у такія гады лепш і больш бяспечна стаяць ў баку.

Дора не адказвае:

— Знайшоў час для павучанняў,—думае яна, захутваючыся хусткай і выбягаючы на вуліцу...

— Як на зло, няма і пастаяльцаў, куды дзеўся Ігнат?

Яна бяжыць у штаб, але вартавыя загарадзілі ёй уваход:

— У штабе нікога няма, грамадзянка. Паехалі.

Спадзяючыся, што Ісак ужо дома, яна спяшаецца да хаты, ясна адчуваючы ўсхвалёваныя і частыя ўдары сэрца—зазірае ў вокны, але ў кватэры пуста... Трывога нарастае...

— Дзе мой Ісак? Яна ломіць пальцы.

— О, госпадзі, я губляюся...

Камяком падгортваюцца слёзы і, баючыся нечага жахлівага, яна плача.

* * *

Бернштэйну ўсё што здарылася здаецца сном...

— Ісак, падумай, ці-ж гэта ты?—пытаецца ён самога сябе.

Але побач з ім, паменшыўшы крок і стараючыся трапіць у нагу, ідуць камандзір і камісар, а ззаду іх ледзь не ўзвод салдат-чырвонаармейцаў, на чале з Ігнатам.

Камісар абарачваецца і яшчэ раз папярэджвае:

— Рэбята, глядзіце! Тут адзін неабдуманы рух—і звер уцячэ, а такім паляўнічым, як мы, не да твару не злавіць яго...

Байцы нічога не адказваюць камісару, але па іх сур'ёзным выгляду адчуваецца, што яны разумеюць адказнасць падзей і яшчэ больш асцярожна ступаюць па начной вільготнай траве, нібы збіраюць свае сілы.

Калі-б яшчэ колькі дзён таму назад Ісаку Бернштэйну расказалі, што з нейкім знаёмым адбыўся такі выпадак, ён недаверліва кінуў-бы галавой і перавёў гутарку на іншую тэму...

Але сёння, зараз, у гэтыя маўклівыя, і трывожныя хвіліны, ён толькі адчувае прыліў незвычайнае сілы, яму здаецца, што ён даўно з гэтымі людзьмі, што ён ужо не раз дзяліў з імі разам хваляванне трывогі і радасць перамог.

Камісар ідзе моўчкі і Бернштэйн адчувае, што зараз не трэба ніякіх слоў. Людзі нясуць у агонь небяспекі самае каштоўнае, што ёсць і іх—жыццё і калі-б у кожнага з іх было не адно, а пяць і шэсць жыццяў, яны не задумаліся аддаць усё гэта для шчасця перамогі...

Гэта ясна спазнае кравец і ў кожным кроку, маўкліва зробленым у цемры, ён адчувае вялікую сілу і волю.

— Сюды, таварышы, сюды,—і паварочваючы ўлева, ён вядзе чырвонаармейцаў вузкай палявой сцежкай на ўскраіну леса...

Здалёк чутны галасы. Спачатку, ледзь прыметна, а потым больш выразна можна адрозніць бледныя языкі полымя ад распаленага лаўжа...

— Наўкруг!—аддае загад камандзір і байцы, ціха рассыпаўшыся па полю, прыгнуўшыся, пасоўваюцца далей...

Камісар трымае Бернштэйна каля сябе... Разам з ім ён заходзіць ўлева...

Яшчэ дваццаць напружаных хвілін цягнецца абход, потым па гудку успыхаюць гучныя стрэлы. Бернштэйн упершыню чуе іх у баявых абставінах. Спачатку ён уздрыгвае, пасля, захоплены агульным уздымам, забываецца пра асабістую небяспеку і бяжыць да агню, раскладзенага каля папсаванай машыны.

Напад быў нечаканы і белая выведка здалася без бою.

Палонных абкружылі, абяззброілі і адвялі пешша ў мястэчка, а раніцой камісар падвёз Ісака дамоў на адрамантаванай машыне...

Бедная і змучаная выбегла ім насустрач Дора... Твар яе ўзгарэўся шчасцем, калі яна ўбачыла Ісака.

Камісар доўга і горача паціскаў руку Бернштэйну.

З усіх бакоў мястэчка збегліся паглядзець на даўгую, з падвойным радам сядзенняў машыну, так адважна адбітую ўначы ад белых...

Бернштэйн на некалькі хвілін забягае ў дом, пасля выносіць чырвоны сцяжок, які з вялікай гордасцю насаджвае на жалезны пруток машыны.

В. Вольскі

# М. Ф. РАФАЛЬСКІ

Юбілей таварыша Рафальскага падкрэслівае нам яшчэ раз тыя вялікія магчымасці, якія дае нацыянальная палітыка партыі для росту і красавання прыгнечаных раней нацыянальных культур, для максімальнага ўсебаковага разгортвання ўсіх творчых здольнасцей тых асобных таленавітых адзінак, якія ўзняліся, дзякуючы вялікаму Кастрычніку, з працоўных мас прыгнечаных старым ладам нацыянальнасцей. Гэты юбілей гаворыць нам, нарэшце, і аб тым, як прыцягвае палітыка партыі да справы стварэння соцыялістычнай культуры лепшых прадстаўнікоў дарэволюцыйнай мастацкай інтэлігенцыі, як перавыхоўвае яна іх, уступіўшых на творчы шлях ва ўмовах капіталістычнага ладу, як дапамагае яна ім ператварацца ў свядомых барацьбітоў і будаўнікоў соцыялізма.

Творчы шлях юбіляра з'яўляецца адным з пераканальнейшых доказаў гэтай гістарычнай з'явы.

Імя М. Ф. Рафальскага неадрыўна звязана з Яўрэйскім Дзяржаўным Тэатрам БССР, узнікшым і ўзросшым на глебе Кастрычніка. У гэтым тэатры знайшлі сабе найлепшае прыстасаванне яго буйныя здольнасці выдатнага арганізатара і кіраўніка. У гэтым тэатры разгарнуўся і дасягнуў свайго вышэйшага ўздыму яго творчы шлях рэжысера і пастаноўшчыка, у гэтым тэатры перадаў ён маладым вучням і выхаванцам свае лепшыя якасці мастака і педагога. Вось чаму ўяўленне аб яўрэйскім тэатры шчыльна звязана ў свядомасці шырокіх мас працоўнага гледача з пачэсным імем яго натхненнага арганізатара і нязменнага кіраўніка.

Юбілей М. Ф. Рафальскага—гэта свята не толькі яўрэйскага савецкага тэатра, не толькі яўрэйскай савецкай культуры. Гэта—свята ўсёй пролетарскай грамадскасці, гэта свята нашых фабрык і заводаў, нашых тэатраў і клубаў, нашых школ і ВНУ, нашых вайсковых частак і рабочых арганізацый. Гэта—свята ўсяго фронта культурнага будаўніцтва БССР.

* * *

Таварыш Рафальскі нарадзіўся 15 красавіка 1889 года ў гор. Кіеве. Скончыўшы сярэднюю школу, ён паступіў у тэатр Салаўцова, дзе і атрымаў пасля трохгадовага навучання ў тэатральнай школе сваю сцэнічную адукацыю.

З гэтай падрыхтоўкай тав. Рафальскі распачаў сваю работу актора на рускай правінцыяльнай сцэне. Служыў у тэатры «Мініятур», у драматычным тэатры Кручыніна, у Лук'янаўскім народным Доме. Гэты перыяд у жыцці М. Ф. Рафальскага, які закончыўся ў 1916 годзе, не адыграў амаль вялікага значэння ў яго далейшай тэатральнай дзейнасці і не пакінуў значных слядоў на яго творчым шляху. Таму мы смела можам не спыняцца на ім падрабязна.

Затое выключнае значэнне адыгралі ў жыцці маладога актора рэволюцыйныя падзеі 1917 году. Яшчэ да рэволюцыі М. Ф. Рафальскі не-

аднокраць марыў разам з пісьменнікам Д. Бергельсонам аб стварэнні яўрэйскага мастацкага тэатра. Рэволюцыя надала гэтым марам рэальнасць. Яна вызначыла перад маладым акторам яго далейшыя шляхі. Пад уплывам рэволюцыі выявіліся ўпершыню яго выдатныя арганізацыйныя здольнасці. Рэволюцыя адчыніла перад ім дзверы ў будучыню, пашырыла яго кругагляд, разгарнула новыя перспектывы. У выніку гэтых імкненняў, якія абярнуліся ў рэальнасць, з'явілася стварэнне яўрэйскага тэатра «Унзер Вінкл». Але дзейнасць у гэтым тэатры не надоўга магла задаволіць М. Ф. Рафальскага. Яна не адпавядала яго настроям, яго творчым шуканням. Адна ўжо назва новага тэатра «Унзер Вінкл»—«наш куток»—сведчыць аб камернай замкнутасці, аб інтымнасці, аб пакаёвых, павільонных перажываннях. Гэты тэатр стварыўся ў колах яўрэйскай буржуазна-ліберальнай інтэлігенцыі, стварыўся на сродкі багатых мецэнатаў і гэтыя абставіны абумовілі, зразумела, яго мастацкі напрамак, яго ідэйную накіраванасць.

«У салонах харкаўскіх багацеяў—яўрэяў нарадзілася раптам тэатральнае таварыства: асіміляваныя пані, якія да гэтага чураліся свайго яўрэйскага паходжання, загарэліся раптам каханнем да яўрэйскага тэатра, пасыпаліся ахвяраванні. У гэтых салонах з'явіліся яўрэйскія акторы; там адбываліся ўрачыстыя паседжанні па пытаннях яўрэйскага тэатра, якому лютаўская рэволюцыя дала «справа на жыхарства». Пані і паненкі перакідваліся паміж сабою французскімі фразамі, а акторы гралі ролю вострай экзатычнай стравы. Я з сорамам успамінаю гэтыя паседжанні,—піша ў сваіх успамінах тав. Рафальскі,—з ненавісцю ўспамінаю гэтых новаспечаных мецэнатаў яўрэйскага тэатра. Сама назва тэатра імпанавала грамадству: яны «свой уголок убрали цветами» з сваёй мяшчанскай аранжарэі і хутка ў тэатры з'явіўся такі «шэдэўр», як «Хацкеле-колбойнік». Праўда, з прыходам на Украіну совецкай улады тэатр перабудаваўся на «чыстую драму». Праўда, у перыяд з 1919 году па 1921 год, да пераезду ў Беларусь і свайго распаду, тэатр вёў больш высокую, больш культурную работу, але карэнні засталіся тыя самыя. Ні «Хозяйка гостиницы» Гольдоні, ні «Жан і Мадлена» Октава Мірбо, не змянілі соцыяльнай сутнасці тэатра. Яны толькі ўпрыгожылі яго еўрапейскай вопраткай, якая, да рэчы, дрэнна хавала скрыўлены пазваночнік індышысцкага нацыяналістычнага тэатра. Вось чым быў па сутнасці тэатр «Унзер Вінкл».

Але тым не менш, ён меў і пэўнае станоўчае значэнне. Яго кіраўнікі і арганізатары імкнуліся спачатку супроцьставіць адсталай мяшчанскай бытаўшчыне правінцыяльна-традыцыйнага яўрэйскага тэатра больш высокае мастацтва, звязанае з агульна-еўрапейскай тэатральнай культурай.

У гэтым тэатры М. Ф. Рафальскі аформіўся, як яўрэйскі тэатральны дзеяч. У гэтым тэатры ён упершыню спрабаваў свае сілы ў галіне рэжысуры, паставіўшы на яўрэйскай мове «Дни нашей жизни» Леаніда Андрэева.

Тэатр «Унзер Вінкл» прабыў усяго каля пяці год, скончыўшы свае існаванне ў 1921 годзе ў Менску, дзе ён апошні час працаваў. З гэтага часу М. Ф. Рафальскі абвяшчае сябе паслядоўным ворагам старых традыцый яўрэйскага буржуазна-мяшчанскага тэатра. Для яго робіцца ясным, што на старыя прафесіянальныя акторскія кадры, выхаваныя ў традыцыях і навыках мяшчанскага рэпертуара, на «развлечении» суботнікаў яўрэяў Варшавы і Вільны, надзеі мала, што стварыць новы, рэволюцыйны яўрэйскі тэатр можна толькі пры дапамозе новых маладых кадраў. Толькі ў новых кадрах бачыць ён магчымасць ажыццяўлення сваіх даўнейшых намераў і таму менавіта ў гэты бок накіроўвае ўсю сваю ўвагу. Вытокаў для стварэння рэволюцыйнага, совецкага яўрэй-

скага тэатра М. Ф. Рафальскі шукае сярод яўрэйскай моладзі. Ён уважліва працуе ў Менску з дзецьмі яўрэйскіх рабочых, з дзецьмі працоўнай беднаты. Ён шукае найлепшых, ён адбірае найбольш здольных і таленавітых. Ён выкладае ім дыкцыю, дэкламацыю, вучыць мастацкаму чытанню, знаёміць з асновамі тэатральнай культуры. Стварыўшы невялікую групу ён па заданню Наркамасветы БССР едзе з імі ў Маскву і арганізуе там у 1922 годзе яўрэйскую студыю пры Беларускім Дзяржаўным Інстытуце сцэнічнага мастацтва. З гэтага часу М. Ф. Рафальскі ператвараецца ў арганізатара, настаўніка і кіраўніка новых сцэнічных кадраў, народжаных Кастрычнікам. Імі ён кіруе, іх ён выхоўвае, як аснову для будучага тэатра. З гэтай невялікай студыі, з гэтай групы юных энтузіястаў—рабочых падлеткаў і вырас, нарэшце, выпеставаны штодзённымі клопатамі Міхаіла Фаддзеевіча самастойны і моцны тэатральны арганізм, вядомы нам зараз пад назвай Яўрэйскага Дзяржаўнага Тэатра БССР.

У гэтай справе заслугі М. Ф. Рафальскага сапраўды вельмі вялікія. Ён разумеў, што стварэнне рэвалюцыйнага савецкага тэатра магчыма на базе крытычнага выкарыстоўвання не толькі яўрэйскай літаратурнай класікі, але і ўсёй сусветнай тэатральна-драматургічнай спадчыны, скарыстання ўсіх дасягненняў сучаснага передавога тэатральнага мастацтва. На гэтым прынцыпе і была пабудавана работа студыі.

Гэтая работа складалася ў першую чаргу з вывучэння сістэмы Станіслаўскага, біо-механістычнай школы Мейерхольда, канструкцыйна-эстэтычнай сістэмы тэатра Таірава і шуканняў Вахтангава. Яна складалася з вучобы ў лепшых майстраў тэатральнага мастацтва, з аўладання тымі дасягненнямі, якімі ўзбагаціў передавыя маскоўскія тэатры - Кастрычнік. Яна заключалася, нарэшце, у шуканні ўласнага творчага метада, шляхам лабараторнай і студыйнай прапрацоўкі ўсёй тэатральнай спадчыны, як яўрэйскай, так і сусветнай. «Зусім зразумела,—піша тав. Рафальскі,—што і Маскоўскі Дзяржаўны Яўрэйскі Тэатр, як заснавальнік яўрэйскага савецкага тэатра, паслужыў студыі першакрыніцай, з якой яна чэрпала матэрыялы для сваёй работы».

Неабходна падкрэсліць, што ўся гэта лабараторная работа была прасякнута сапраўды, хай сабе часам і стыхійнай, суб'ектыўнай, можа як след яшчэ і не ўсвядомленай, але шчырай і імпэтнай рэвалюцыйнасцю, наватарствам і творчымі шуканнямі, якія культываваліся ў студыі Рафальскім.

Яму, відавочна, было ясна, што барацьбу супроць старога традыцыйнага яўрэйскага тэатра нельга весці толькі па лініі фармальна-мастацкай, з «чыста» эстэтычных пазіцый, што яе нельга абмяжоўваць адмаўленнем дрэнных, нізкапробных гатункаў сцэнічнага мастацтва, прызначанага для задавальнення прымітыўных густаў яўрэйскага гандляра і крамніка. Ён разумеў, што новы савецкі тэатр можа існаваць толькі як тэатр з выразна-рэвалюцыйнай накіраванасцю. Адсюль яго імкненне накіраваць работу студыі нараўне з вучобай маладых кадраў будучага тэатра ў лепшых майстроў сусветнага мастацтва, па лініі соцыяльна-класавай, па лініі барацьбы супроць яўрэйскай буржуазна-нацыяналістычнай культуры наогул, па лініі стварэння тэатра рэвалюцыйнага не толькі па форме, але і па зместу, па соцыяльна-палітычнай накіраванасці.

Гэтай задачы адпавядаў і той соцыяльны асяродак, з якога падбіраліся кадры новага тэатра, і рознастайнасць драматургічнага матэрыялу, які быў узяты для студыйнай працы, і характар яго сцэнічнай інтэрпрэтацыі і, нарэшце, тая шчыльная сувязь з пролетарскай грамадскасцю, якая ўстанавілася ў студыі з самага пачатку яе існавання.

Для той соцыяльнай накіраванасці, для той сапраўднай творчай пуль-

сацыі, якой была прасякнута ўся праца ў студыі, асабліва характэрна адна з першых невялічкіх пастановак М. Ф. Рафальскага—«Хэйдэр». Аб тым, як узнік гэты спектакль мы чытаем ва ўспамінах тав. Рафальскага наступнае: «Мы пачалі з невялікага эцюда на тэму пра хэйдэр, прычым у дапамогу гэтаму эцюду мы ўзялі эпізод з твораў Лінецкага. Гэты эцюд нас вельмі захапіў. Мы сталі нанізваць на гэты эцюд песні і танцы, мы сталі імправізіраваць асобныя словы і цэлыя сказы, прычым кожны з удзельнікаў атрымоўваў, або вярней браў сабе тыя словы, тыя фразы, тыя становішчы, якія найбольш падыходзілі да яго... Першы кавалак, які мы назвалі «Урок у хэйдэры» ўдаўся і гэта падбадзёрыла нас і штурхала на падшуканне ў яўрэйскіх класікаў матэрыялу для далейшых кавалкаў. Не толькі апавяданні Лінецкага, Дынензона, Мендэле, Шолам-Алейхема, Пераца, але і асабістыя ўспаміны і ўсё, што мы чулі пра хэйдэр, паслужыла нам ўдзячным матэрыялам для нашай работы...

Весткі аб тым, што па ўсяму Саюзу савецкая ўлада абвясціла вайну клерыкальнаму хэдэру, што паўсюды ідуць грамадскія суды над ім, што пролетарская грамадскасць бярэ гэты хэйдэр ў штыкі, што аддзелы народнай асветы арганізуюць савецкія школы для дзяцей яўрэйскіх працоўных і вырываюць іх з сярэдневекавога смуроду, узнімалі і нас да ўдзелу ў гэтай барацьбе».

Гэты невялікі кампілятыўны мантаж—імправізацыя з твораў Шолам-Алейхема, Мендэле Мойхер-Сфорым, Дынензона, Лінецкага і іншых яўрэйскіх пісьменнікаў—меў для далейшага развіцця студыі ва ўмовах тагочаснага стану яўрэйскага тэатра наогул бясспрэчна вялікае значанне. Гэта быў па юнацку бадзёры, вясёлы і жыццярадасны спектакль з выразнымі антыклерыкальнымі тэндэнцыямі, з яскравай арганізацыйна-прапагандысцкай накіраванасцю. Літаратурны матэрыял яўрэйскай класічнай спадчыны быў вельмі ўдала выкарыстаны пастаноўшчыкам у мэтах стварэння сучаснага камсамольскага па настроях спектакля. І не здарма ў класічную тканіну тэкста бурна ўрываюцца ў гэтым спектаклі асобныя моманты з савецкага жыцця і нездарма крычыць пра камсамольцаў Шолам-Алейхемаўскі хлопчык Топеле па празванню Тутарэту.

Пастаноўка «Хэйдэра» мела для студыі і другое не менш важнае значэнне: яна ўпершыню выявіла творчыя здольнасці маладога калектыва, яна дала яму магчымасць праверыць свае сілы, паспрабаваць свой голас, адчуць сваё цела, свой жэст і рух у агульным рытме гэтага спектаклю гульні, не пазбаўленай элементаў своеадменнай, амаль дзіцячай непасрэднасці і абаяльнасці.

«Я лічыў,—піша тав. Рафальскі,—што першы спектакль павінен быць спектаклем маладзёжным, бо кожны студыец павінен навучыцца арганізоўваць свае эмоцыі, свае цела на матэрыяле найбольш яму блізкім...»

«Хэйдэр» якраз і быў такім спектаклем. Студыйцы гралі сваю маладосць, сваю радасць, свой задор, сваю смагу да новага жыцця.

«Гэта мы,—піша далей тав. Рафальскі,—здзекваліся ў «Хэйдэры» з рэбе, гэта мы клікалі міліцыю, гэта мы спявалі «Смело мы в бой пойдем за власть Советов», гэта мы адпраўлялі рэбе праз акіян у Амерыку, гэта мы выкідвалі яго так, як выкінула рэволюцыя клерыкальны, душны, дзікі хэйдэр».

Падобна таму, як дзеці з хэйдэра на сцэне радасна выкідвалі за дзверы агіднага бруднага рэбе з яго кантчыкам, талмудам і кабалістыкай, так малады яўрэйскі тэатр выкідваў з свайго ўжытку і назаўсёды развітаўся з усімі цвілымі традыцыямі, атрыбутамі і асаблівасцямі яэўрэйскай буржуазна-нацыяналістычнай сцэны.

«Гэта быў надзвычайны вечар, вечар юнацкай радасці, якая страсянула і перамагла дарослых гледачоў»—пісала тады газета «Дэр Эмэс».

Гэта быў вечар, які абвясціў нараджэнне новага, маладога рэволюцыйнага тэатра.

З мастацка-творчага боку «Хэйдэр» сведчыў аб тых сцэнічных задачах, якія ставіў М. Ф. Рафальскі перад першымі студыйнымі практыкаваннямі. Гэта: чоткасць і рытмічнасць руху, пачуццё сцэнічнага прастору, музыкальнасці. Гэта: гарманічнае спалучэнне формы і зместа. «Калі на ўроках па сістэме Станіслаўскага,—піша аб гэтым тав. Рафальскі,—выкладчыкі вучылі псіхалагічнаму і эмацыянальнаму апраўданню кожнага кроку, кожнага руху, кожнага жэста, то ў нашай рабоце мы дабіваемся таго, каб гэтая жыццёвая праўда была ўжыта і ператворана ў праўду тэатральную». У гэтай рабоце студыя дамагалася чоткай і выразнай формы, поўна адпавядаючай зместу. «Хэйдэр» быў спектакль палітычны, агітацыйны, паколькі барацьба супроць хэйдэра з'яўляецца тады адной з палітычных задач дня. Але студыя не баялася гэтай тэндэнцыйнасці, імкнучыся ўзняць яе па меры сіл і магчымасцей на адпаведную вышыню мастацкай выразнасці. Гэта дасягалася дэтальнай і ўважлівай прапрацоўкай асобных вобразаў, стройнасцю ансамбля, падпарадкаваннем асобных мастацкіх дэталяй ідэйнай мэтаімкненасці спектакля ў цэлым. Гэтым спектаклем былі пастаўлены і вырашаны дзве задачы». «З аднаго боку—піша тав. Рафальскі,—у ім выкрываецца стары хэйдэр, а з другога боку ён служыў нам хэйдэрам—першапачатковай школай для нашага актора. Такім чынам палітычная ўстаноўка не толькі не перашкодзіла, але садзейнічала мастацкаму выхаванню актора».

Мы знарок спыніліся больш падрабязна на гэтым невялічкім спектаклі менавіта таму, што ён меў прынцыповае значэнне для далейшага развіцця студыі. Соцыяльная накіраванасць «Хэйдэра» сведчыла аб тым, што студыя пад кіраўніцтвам тав. Рафальскага імкнулася стаць тэатрам, які шукае матэрыяла для сваёй творчасці з акружаючай рэчаіснасці.

Лінія смелых соцыяльных абагульненняў і процістаўленняў, звязаная з крытычным выкарыстоўваннем яўрэйскай класікі, намечаная ўпершыню ў агульных рысах у «Хэйдэры», знайшла сабе далейшае развіццё ў наступнай рабоце студыі,—у пастаноўцы Рафальскага «Меншэн».

У гэтым спектаклі, пабудаваным на літаратурных матэрыялах Шолам-Алейхема, яшчэ больш пашыраецца рэжысерскі дыяпазон Рафальскага ў сэнсе настойлівага імкнення зразумець і раскрыць праз сцэну сапраўдны соцыяльны змест класічных вобразаў, у сэнсе падкрэсленага выяўлення соцыяльных узаемаадносін і класавых процілегласцей у яўрэйскім асяроддзі, у сэнсе далейшага набліжэння маладога тэатра да запатрабаванняў працоўнага гледача.

У нескладаным і невялікім змесце класічнага твору тав. Рафальскі здолеў выявіць і раскрыць праз арыгінальную тэатральную форму, шляхам завостранага процістаўлення «вярхоў» і «нізоў» яўрэйскага гарадскога асяроддзя, даволі глыбокі соцыяльны сэнс.

* * *

Наступным этапам з'явілася работа студыі над «Скапэнам» Мольера ў пастаноўцы М. Ф. Рафальскага і Б. Глаголіна. Выбар гэтага матэрыяла быў выклікан бясспрэчна правільнымі меркаваннямі. Зусім зразумела, што студыйная падрыхтоўка маладых актораў не магла-б быць поўнацэннай без працы над творамі сусветнай драматургіі. Студыйцам неабходна было даць магчымасць працы на ўзорах агульна-еўрапейскай спадчыны. Выбар паў на Мольера.

Пастаноўка «Скапэна» афармлялася не без пэўных уплываў з боку вахтангаўскай «Прынцэсы Турандот». Выкарыстоўваючы ў сваёй рабоце

над «Скапэнам» тэатральныя асаблівасці італьянскай Commoedia del'arte, пастаноўшчыкі гэтага спектакля імкнуліся, падобна Вахтангаву ў «Прынцэсе Турандот» (гэты прынцып прымяняўся таксама А. Граноўскім у «Дзесяці запаведзях») устанавіць непасрэдную сувязь з сучаснасцю, перакінуць мосцік са сцэны ў відоўню. Выпадаючы з сваіх вобразаў, акторы перакідваліся фразамі, рэплікамі, жартамі, не маючымі абсалютна нічога супольнага ні з сюжэтам мольераўскага твора, ні з Францыяй той эпохі, але затое добра зразумелымі гледачу яўрэйскага тэатра. У спектакль былі ўведзены дзве самастойныя інтэрмедыі з яўрэйскай тэматыкай. У апошнім акце быў уведзен новы персанаж—«яўрэйка з публікі», якая пад выглядам наіўнай гледачкі, якая нібыта ўсур'ёз паверыла таму, што робіцца перад ёю на падмостках, вылазіць ахопленая спачуваннем да Жэронта і Арганта з залы на сцэну і выкрывае там інтрыгі Скапэна. Нарэшце ў спектакль была ўведзена значная колькасць акрабатычных, цыркавых прыёмаў—шчодрая даніна ўплывам тэатра Мейерхольда.

Неабходна адзначыць, што інтэрмедыі, распрацаваныя М. Ф. Рафальскім, набывалі ў гэтым спектаклі па сутнасці пераважнае значанне: на іх канцэнтравалася, галоўным чынам, увага гледача. Нічым не звязаныя з ходам дзеі п'есы, маючыя зусім самастойны характар, яны прадстаўляюць сабой на фоне мольераўскага тэкста нібыта спектакль у спектаклі. Першая з інтэрмедый з'яўлялася парадам масак старога яўрэйскага тэатра. Перад гледачом, факстратуючы і спяваючы куплеты, праходзіў цэлы рад увасабленняў яўрэйскага халтурна-мяшчанскага рэпертуара. Тут былі і «Хінке-Пінке», і «Рэйзэле дэм Рэбыс», і «Малкале-салдат», і «Дэр Вільнар балабэсл» і «Сёмка Лац». Другая інтэрмедыя «Акейдас Іцхок» (ахвяраванне Ісака) была трапнай пародыяй на старамодную яўрэйскую меладраму з біблейскай тэматыкай.

«Мы,—пісаў тав. Рафальскі,—пераходзілі ў «Скапэне» ад французскіх інтанацый і руху да яўрэйскіх, гэта значыць, выпадаючы з вобраза, раскрывалі сябе як яўрэяў, граючых французскую п'есу... У адпаведнасці з гэтым прыёмам была напісана Коўнарам музыка і пастаўлены танцы, якія пачынаюцца французскім менуэтам і непрыметна пераходзяць ў яўрэйскае «фрэйлахс». Мы змешвалі ўдзельнікаў інтэрмедый, г. зн. яўрэйскі тыпаж, з удзельнікамі самой п'есы, г. зн. з французскім тыпажам».

Нельга сказаць, каб гэтая аперацыя, праведзеная над Мольерам—спалучэнне французскага тэатра XVII стагоддзя з элементамі яўрэйскай буфанады, дасягнула сваёй мэты.

Арганічнага цэлага са спляцення гэтых разнародных элементаў не атрымалася, ды і не магло атрымацца. Пастаноўка засталася ў аснове сваёй фармалістычнай, малазразумелай для масавага гледача, тым больш, што і абстрактнае канструктыйнае афармленне мастака-скульптара Чайкова, пазбаўленае малейшых элементаў канкрэтнасці (зноў некрытычная даніна Мейерхольду), не мела абсалютна ніякага дачынення да Мольера, ні да сучаснасці, ні да яўрэйскага характару інтэрмедый.

Але ўсё-ж такі, не гледзячы на залішнія фармалістычныя захапленні, на некрытычныя перайманні, дапушчаныя ў гэтым спектаклі, «Скапэн» адыграў у той час у парадку сцэнічнага трэнажа пэўнае значанне для росту і развіцця студыйнага маладняка.

* * *

Мы ўжо адзначылі раней, што нараўне з досыць значнымі ўплывамі і школы МХАТ і ў пэўнай ступені тэатра Мейерхольда яўрэйская студыя БССР знаходзілася таксама (і гэта не магло быць інакш) пад вельмі моцным уздзейнічаннем з боку Маскоўскага Дзяржаўнага Яўрэйскага Тэатра. Неабходна заўважыць, што ў той час, які супадае з вучобай

студыі ў Маскве, Маскоўскі Дзяржаўны Яўрэйскі Тэатр не падышоў яшчэ да соцыяльных праблем нашай рэчаіснасці, не працаваў яшчэ над совецкай тэматыкай, не садзейнічаў яшчэ стварэнню яўрэйскай совецкай драматургіі, абмежаваўшы свае творчыя магчымасці выключна яўрэйскім класічным матэрыялам і не спрабуючы нават пераключыцца хаця-б часткова на распрацоўку іншанацыянальнай сусветнай драматургіі.

Усё-ж такі работа Маскоўскага Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра за адзначаны перыяд адыгрывала рашаючую ролю ў сэнсе заваявання высокай культуры і тэхнікі сцэны, у сэнсе перамагання адсталасці і вузкасці дарэволюцыйнага мяшчанскага яўрэйскага тэатра, якому быў нанесен руйнуючы ўдар, якому прышлося ўступіць свае месца новаму тэатру, перадавому тэатру яўрэйскіх працоўных мас.

Але нараўне са станоўчымі асаблівасцямі Маскоўскага Яўрэйскага Тэатра (высокі ўзровень тэатральнай культуры, сцэнічная выразнасць рухаў, пластыкі, музычнасці і г. д.) студыяй былі некрытычна запазычаны таксама і некаторыя адмоўныя бакі, характэрныя ў той час для «ГОСЕТА». Гэта—ухіл да містыкі, да нацыяналістычнай стылізацыі, да фармалізма, да рамантызацыі яўрэйскага мінулага.

Адмоўныя ўплывы Маскоўскага «ГОСЕТА» асабліва даюць сябе адчуваць у першай вялікай і маляўнічай пастаноўцы М. Ф. Рафальскага— у спектаклі «На ланцугу пакуты» паводле драматычнай паэмы Пераца. Гэты спектакль быў створан Рафальскім з вялікай мастацкай экспрэсіяй. У ім асабліва моцна і ярка выявілася яго майстэрства рэжысера і пастаноўшчыка.

Перад гледачом паўставала змрочная бязрадасная карціна старога, зацвіўшага ў сваім духоўным застоі яўрэйскага гетто, з яго застыглымі, аджыўшымі традыцыямі, з яго містычным духам, з бязмежным духоўным аўтарытэтам і фактычнай уладай хасідскага цадыка, які абапіраецца на невялікую кучку багацеяў. Бруд, пыл, убоства. Духоўны застой і фізічная дэградацыя. Могілкі і сінагога пануюць над усім. Паралізуюць жывую думку, жывыя імкненні.

У гэтым спектаклі М. Ф. Рафальскі імкнуўся выкрыць перад гледачом соцыяльныя ўстоі дарэволюцыйнага яўрэйскага клерыкальнага грамадства, паказаць элементы класавай барацьбы ў старадаўнім яўрэйскім кагале. Але пастаноўшчык не здолеў перамагчы матэрыял, не здолеў перамагчы тых змрочных містычных настрояў і тонаў, якія ўласцівы творам Пераца—паэта рэакцыйнай рамантыкі хасідызма. Некрытычнае захапленне Перацам пры наяўнасці фармалістычных уплываў «ГОСЕТА» і часткова магчыма «Габіма» зрабілі тое, што спектакль «На ланцугу пакуты» замест мастацкага выкрыцця яўрэйскай рэакцыйнай архаікі і клерыкалізма сам аказаўся ў палоне містычных настрояў, сам аказаўся абвеяным сумнай, сузіральнай лірыкай распаду і асуджанасці.

Але ўсё-ж такі, не гледзячы на памылковасць тых прыёмаў, якімі вырашыліся ў гэтым спектаклі правільна пастаўленыя пастаноўшчыкам задачы, мы павінны адзначыць, што пры параўнанні «На ланцугу пакуты» з аналагічнай пастаноўкай «ГОСЕТА» «Ноч на старым рынку», зробленай таксама па Перацу, можна заўважыць некаторую станоўчую на карысць Рафальскага розніцу.

Справа ў тым, што мастацкі антураж яўрэйскіх могілак, сінагагальнай цвілі, хваравітай містыкі, дэградацыі і ўпадка зрабіліся ў «Ночы на старым рынку» пераважаючымі, пануючымі над усім. Містыка густой пеляной абвалаквала там усю сцэну. Выклік мерцвякоў, самы факт іх з'яўлення, гутаркі іх і скокі ўздзейнічалі настолькі моцна, што містычныя настроі пакідалі цяжкае, прыгнятаючае ўражанне.

Са сродка соцыяльнага выкрыцця яны зусім свядома ператвараліся тэатрам у сродак хваравітага мастацкага любавання і стылізацыі, у самамэту. У процілегласць гэтаму мы бачым усё-ж такі у спектаклі «На ланцугу пакуты» наяўнасць суб'ектыўна-здаровых тэндэнцый пастаноўшчыка, імкненне яго правесці ў паказе рэзкую соцыяльную дыферэнцыяцыю паміж персанажамі п'есы, паказаць, што пад знадворнай нібыта, непарушнай і застыглай паверхняй яўрэйскага гетто кіпяць соцыяльныя страсці, адбываюцца трагічныя канфлікты, нарастаюць схаваныя, але ўпартыя працэсы класавай барацьбы. Клерыкальнай вярхушцы кагала проціпастаўлялася ў спектаклі нарастаючая маладая сіла працоўнай масы рамеснікаў, якая абуджаецца да адкрытага дзеяння, якая дае аб сабе ведаць бунтарскімі ўспышкамі. На фоне гэтай, зрэдку прарываючайся на паверхню барацьбы ў спектаклі разгортвалася трагедыя адзінкавай асобы ў выніку яе разладу з акружаючым асяроддзем. У ешыботніка Зындыкара пад уплывам суб'ектыўных абставін (каханне да дачкі рэб Брах'е) абуджаецца дух непакорства супроць прыгнятаючай яго ўлады клерыкальнага дэспатызма. Уступіўшы ў канфлікт з акружаючым асяроддзем, але, будучы арганічна звязаным з ім (ён-жа ешыботнік) і не маючы сіл парваць з ім канчаткова, ён гіне ў выніку сваёй непрыстасавальнасці да барацьбы, да адкрытага дзейнічання. Побач з гэтым у спектаклі было паказана бяспраўнае становішча яўрэйскай жанчыны, дана яркае проціпастаўленне натоўпа беднякоў-абарванцаў кучцы багацеяў-клерыкалаў.

Такім чынам суб'ектыўна-правільныя і соцыяльна-здаровыя намеры пастаноўшчыка не былі ў гэтым спектаклі ажыццёўлены і даведзены да канца толькі з прычыны няўдалага выбара сродкаў мастацкага ўздзейнічання, з прычыны фармалістычных захапленняў, з прычыны перагрузкі паказу сімволікай (накшталт скокаў пяці грэшных душаў вакол Зіндыкера альбо дэкаратыўнага паказу, паўстання рамеснікаў) і недастатковага крытычнага падыходу да літаратурнага матэрыяла.

Творчыя памылкі пастаноўшчыка затушавалі і знізілі ў спектаклі тыя патэнцыяльныя моманты здаровай соцыяльна-палітычнай накіраванасці, якія з асаблівай сілай разгарнуліся потым у такіх работах Рафальскага, як, «Ботвін» і «Гірш Лекерт».

На шляху ад «Хэйдэра» да «Ботвіна» і «Лекерта» спектакль «На ланцугу пакуты» трэба, такім чынам, лічыць пэўным зрывам мастака ў бок містыкі, фармалізма і нацыяналістычнай рамантыкі.

Пасля гэтай пастаноўкі, якая сустрэла ў друку адпаведную крытыку, у творчасці М. Ф. Рафальскага адбываецца рэзкі паварот у бок рэволюцыйнай тэматыкі. Ад твораў яўрэйскай класікі ён пераходзіць да працы над творамі сучаснай яўрэйскай совецкай драматургіі. Першай з ліку гэтых яго работ з'явілася пастаноўка «Ботвіна» Вевіорка.

Зразумеўшы, якое вялікае значэнне мае для совецкага тэатра сучасны рэволюцыйны рэпертуар, тав. Рафальскі прыцягвае для работы ў Яўрэйскім Дзяржаўным тэатры БССР выдатных прадстаўнікоў яўрэйскай совецкай літаратуры: Кушнірава, Бергельсона, Годынера, Вевіорко і інш., стымулюючы ўсімі сродкамі развіццё яўрэйскай совецкай драматургіі. Сваёй ініцыятывай у гэтым напрамку і непасрэдным удзелам тав. Рафальскі адыграў бясспрэчную значную ролю ў стварэнні яўрэйскага совецкага рэпертуара і ў далейшым развіцці яўрэйскага тэатра ў Совецкім Саюзе.

У пастаноўцы «Ботвін», распрацаванай ў рэалістычным плане, рамантычныя малюнкі рэволюцыйнай барацьбы рабочага класа Польшчы былі ўзняты на высокі ўзровень мастацкай прынцыповасці. Яны былі паказаны без фармалістычных прэтэнзій, з мастацкай прастатой, тактам і мужнай дасціпнасцю. Сцэнічная трактоўка момантаў рэволюцыйнай самаад-

данасці і самаахвярнасці была ўдала пазбаўлена гуманістычных і меладраматычных элементаў, уласцівых у поўнай ступені гэтай п'есе.

Героіка рэвалюцыйнай барацьбы пролетарыята, паказаная ў жывых, рэалістычных і абаяльных вобразах яго перадавых змагароў—вось аснова гэтай пастаноўкі, набыўшай высокае ідэйна-мастацкае значанне.

Вобразы Ботвіна, маленькага варшаўскага газетчыка—вулічнага хлопчыка, які на вачах у гледача вырастае ў магутную па сваёй маральнай сіле, абвеяную арэолам сапраўднага гераізма і мужнасці фігуру палкага і паслядоўнага рэволюцыянера, вобраз Бальцэра—спакойнага, мудрага і ўраўнаважанага кіраўніка комуністаў, пасівеўшага ў рэволюцыйных баях—гэтыя вобразы, створаныя ў «Ботвіне», надоўга захоўваюцца ў ганаровай галерэі станоўчых вобразаў яўрэйскага тэатра.

«Спектакль агітуе, заражае гледача, паказвае жывыя старонкі барацьбы,—пісала ў свой час адносна гэтай пастаноўкі «Комсомольская правда».—Гэта не камерная пастаноўка, не мастацтва для выбраных, гэта—масавая культурная рэч, даступная шырокай рабочай аўдыторыі, нават без ведання яўрэйскай мовы. Пастаноўшчык Рафальскі паказаў узор таго, як нямногімі сродкамі можна паказаць гледачу кавалкі сапраўднага жыцця».

Сапраўды тэатр агітаваў гэтым спектаклем у самым лепшым сэнсе гэтага слова. Ён хваляваў гледача. Ён захапляў яго рэволюцыйным энтузіязмам.

Прыблізна тое-ж самае можна сказаць і пра пастаноўку п'есы «Гірш Лекерт» Кушнірава. Гэтым фундаментальным, сур'ёзным удумлівым і адначасова высока-паэтычным спектаклем, створаным на бясспрэчна больш моцным і ўдзячным драматургічным матэрыяле, багатым сваімі лексічнымі сродкамі, М. Ф. Рафальскі зрабіў далейшы ўдалы крок па шляху рэалістычнага сцвярджэння на сцэне вобразаў рэволюцыйнай тэматыкі.

Пастаноўкай «Гірша Лекерта» тав. Рафальскі імкнуўся раскрыць перад гледачом адну з цікавейшых старонак гісторыі рабочага руху напярэдадні рэволюцыі 1905 года. На гэтым гістарычным матэрыяле тэатр разгарнуў яскравую і пераканальную карціну палітыкі царскага рэжыма на ўскраінах. У паказе было адведзена значнае месца і палітыцы задушэння «инородцев», і зубатаўшчыне, і адкрытаму падаўленню рэволюцыйнага руху дзяржаўным апаратам царскай Расіі, і здрадніцкай ролі Бунда. Але ў п'есе былі і сур'ёзныя памылкі па лініі ацэнкі гістарычных асаблівасцей. У п'есе не была асветлена гістарычная роля ў рэволюцыйных падзеях пачатку XX стагоддзя ў былым Заходнім Краі і ў прыватнасці ў падрыхтоўцы рэволюцыі 1905 года і ў барацьбе з Бундам тых рэволюцыйных сіл, якія, пасля 2-га з'езду партыі, аформіліся ў большэвіцкія арганізацыі.

Наступнай работай М. Ф. Рафальскага з'явілася пастаноўка п'есы «Глухі» Д. Бергельсона, якая адлюстроўвала водгукі надыходзячых падзей 1905 года сярод адсталых працоўных пластоў яўрэйскага мястэчка. Гэты спектакль быў выкарыстаны пастаноўшчыкам у мэтах мастацкага выкрыцця той залежнасці, якая існуе паміж рэлігійным культам і ўласнікамі-эксплаатататарамі, у даным выпадку—яўрэйскім кулацтвам. Пастаноўка была характэрна частковым адыходам ад рэалістычнай выразнасці «Ботвіна» і «Лекерта» ў бок умоўнага гратэска.

Былі ў гэтым паказе і пэўныя элементы сімвалізма, нават ізноў некаторай рамантызацыі элементаў яўрэйскай рэлігійнай культуры, чаму не мала дапамагалі афармленне мастака Тышлера і музыка кампазітара Крэйна, прасякнутая нацыяналістычнымі і рэлігійнымі матывамі.

Не гледзячы на высокую тэатральную культуру і суб'ектыўна рэволюцыйныя тэндэнцыі гэтай пастаноўкі, элементы нацыянальнай абмежаванасці, пакладзеныя ў самым характары матэрыяла і асабліва ярка выяў-

леныя ў музычным афармленні А. Крэйна, засталіся ў ёй не пераможаны да канца.

Пасля пастаноўкі «Глухога» ў творчай дзейнасці Рафальскага, калі не лічыць дарэмнай працы над «Барацьбой машын», п'есай зусім слабай ва ўсіх адносінах і не пакінуўшай аніякага следу ў развіцці тэатра, пачынаецца некаторы прарыў. Гэта быў перыяд крытычнага перагляду мастаком сваіх папярэдніх шляхоў, перыяд вывучэння абкружаючай рэчаіснасці і шукання патрэбных матэрыялаў. Вялікія соцыяльныя зрухі і змены ў краіне патрабавалі адпаведных змен і ў метадах і формах сцэнічнай працы. Новыя соцыяльныя з'явы патрабавалі новых форм сцэнічнага адлюстравання. Змяніліся формы і метады класавай барацьбы, змянілася тактыка класавага ворага, змяніўся яго твар, знадворны выгляд і паводзіны. У абмалёўцы класавага ворага ўжо нельга было абмяжоўвацца добра знаёмым, звыклым і зразумелым вопытам стварэння такіх вобразаў, як рэб Брах'е, як рэбе з «Хэйдэра», як мадам з «Менш», нават як гаспадар млына Бык з «Глухога». Патрэбны былі новыя формы, новыя рысы, новы вопыт, падхоплены непасрэдна з рэчаіснасці. Перад тэатрам і перад яго кіраўніком паўстала задача стварэння новых вобразаў і ў першую чаргу паказа вобраза новага героя, новага чалавека—будаўніка соцыялізма.

Гэты перыяд характэрны часовым адыходам Рафальскага ад актыўнай работы рэжысера-пастаноўшчыка. Ён застаецца кіраўніком тэатра, ён дапамагае маладым рэжысерам, але сам пастановак не ставіць. Гэты перыяд характэрны і некаторым зніжэннем агульнага мастацкага ўзроўню тэатра ў цэлым. На працягу гэтага часу ў тэатры з'яўляюцца даволі бессістэмна падабраныя і параўнальна слабыя работы маладых рэжысераў. Усе яны не робяць у тэатры пагоды, не даюць нічога новага ў сэнсе далейшых творчых дасягненняў, не адыгрываюць значнай ролі ў яго творчым жыцці. Бясспрэчна, што ў якасці адной з перашкод на шляху далейшай перабудовы М. Ф. Рафальскага стаяла ў той час адсутнасць адпаведнага па якасці арыгінальнага драматургічнага матэрыяла. Ва ўсякім выпадку тав. Рафальскі спасылаецца менавіта на гэтыя абставіны, а пакуль што, чакаючы новых матэрыялаў, ён спрабуе ізноў стварыць некалькі спектакляў у патэтычных тонах, у рэволюцыйна-рамантычных фарбах. Першымі з іх былі «Партызаны» Аронэса. Нельга сказаць, каб выбар быў зроблен вельмі ўдала, бо «Партызаны» не маглі даць вялікіх магчымасцей для стварэння высокаякаснага паказу. Гэта адразу дало сябе адчуць у пастаноўцы. Але нават пры ўсёй слабасці кампілятыўнага тэкста «Партызанаў», складзенага з асобных кавалкаў розных літаратурных і драматургічных твораў, тав. Рафальскаму ўдалося усё-ж такі шляхам паглыбленай рэжысерскай распрацоўкі асобных момантаў стварыць у гэтым паказе, які з'яўляўся першай спробай тэатра адлюстраваць героіку грамадзянскай вайны, некалькі ўдалых вобразаў, выкарыстаць некалькі цікавых тэатральных прыёмаў. Затое ён назаўсёды здолеў пазбегнуць ў спектаклі асобных праяў натуралізма і меладраматычнасці. Слабы драматургічны матэрыял «Партызанаў» не даў тав. Рафальскаму магчымасці шырэй разгарнуць у гэтай пастаноўцы свае творчыя здольнасці выдатнага сцэнічнага інтэрпрэтатара рэволюцыйнай барацьбы.

Затое новым і значным творчым уздымам з'явілася для яго работа над «Рэкрутам» Рэзніка паводле Аксенфельда. Пастаноўка «Рэкрут» характэрна перш за ўсё правільным падыходам да разумення гістарычнага матэрыяла. Тут мы ўжо можам гаварыць аб правільнай інтэрпрэтацыі пастаноўшчыкамі класічнай спадчыны мінулага. Гэтай пастаноўкай тав. Рафальскі развітаўся з тымі ідэйна-творчымі памылкамі, якія былі ім дапушчаны ў «На ланцугу пакуты» і іншых ранніх пастаноўках. Спектаклем

«Рэкрут», які з'явіўся вынікам самакрытычнага перагляду пройдзеных шляхоў, тав. Рафальскі выправіў апошнія хібы свайго творчага светапогляду. Вастрыё гэтага паказу з асаблівай сілай накіравана супроць буржуазна-нацыяналістычных «тэорый» аб нібыта бяскласавасці яўрэйскай нацыі.

З велізарнай мастацкай пераканальнасцю выкрывае гэты спектакль сапраўдную сутнасць не толькі рэакцыйных клерыкалаў, звязаных сваімі эканамічнымі інтарэсамі з феадалізмам, але і так званых «маскілім», асвечаных прадстаўнікоў новай, еўрапеізуючайся буржуазіі.

«Рафальскі паказаў сябе ў даным спектаклі майстрам, стварыўшы выдатны па кампазіцыі твор, які павінен быць аднесены да ліку заваёў совецкага тэатра»,—пісаў адносна «Рэкрута» ленінградскі часопіс «Рабочий и театр».

«Беларускі Дзяржаўны Яўрэйскі Тэатр гэтай сваёй пастаноўкай, работай над класікай, сапраўды нацыянальнай па форме і інтэрнацыянальна-класавай па зместу, работай разумнай і выразнай, можа шмат чаму навучыць нязмерна больш салідныя па ўзросту і стажу «сталічныя тэатры»,—пісала ленінградская «Вечерняя красная газета».

У «Рэкруце» Рафальскі ізноў паказаў сябе як выдатны рэжысер-выхавўца, які шмат чаго можа даць актору.

У «Рэкруце» актор знаходзіцца ў цэнтры паказу. Яму падпарадкаваны ўсе другарадныя кампаненты спектакля. Усё ў гэтай пастаноўцы дапамагае актору як мага шырэй выявіць свае творчыя акторскія магчымасці. І гэта дае свае вынікі: рэалістычныя акторскія вобразы пастаноўкі створаны з класавай выразнасцю і сапраўдным майстэрствам.

Да ліку станоўчых якасцей спектакля трэба аднесці і ўдалае выкарыстоўванне дэмакратычных элементаў фольклора, падпарадкаванае асноўнай ідэйнай задачы спектакля.

У цэлым «Рэкрут» з'яўляецца на сёнешні дзень вышэйшым ідэйна-творчым этапам не толькі ў жыцці тав. Рафальскага, як рэжысера і мастацкага кіраўніка, але і ўсяго тэатра. Не дарма гэты спектакль сустрэў такую адзінадушна-высокую ацэнку ў прэсе Совецкага Саюза.

Значнай перамогай з'яўляецца і апошняя работа М. Ф. Рафальскага—пастаноўка п'есы Зіскінда Лева «Забастоўка жняцоў». У гэтым спектаклі тав. Рафальскі імкнуўся праўдзіва, проста і лаканічна паведаць гледачу пра жыццё і барацьбу прыгнечанага сялянства Заходняй Украіны. Без крыку, без лішніх рухаў і знадворных эфектаў імкнуўся ён паказаць суровыя і глыбокія пакуты простых і сумленных беднякоў-горапашнікаў, разгарнуць трагічныя канфлікты і падзеі, стварыць эпічныя вобразы людзей, па чалавецку простых, стойкіх і гераічных, наіўных і мудрых.

«Я хачу дамагчыся,—пісаў Рафальскі ў сваёй рэжысерскай экспліка-цыі,—каб у спектаклі «Забастоўка жняцоў» не было ніводнага непатрэбнага руху, ніводнага непатрэбнага жэсту. Я хачу дамагчыся, каб пастаноўка была пабудавана на максімальнай лаканічнасці, якая заўсёды больш пераконвае і гучыць выразней, чым награмаджанасць дэталей, як бы гэтыя дэталі не былі цікавы самі па сабе».

Гэта тав. Рафальскаму ў значнай меры ўдалося, не гледзячы на пэўныя драматургічныя недахопы п'есы.

Гэтыя недахопы не перашкодзілі тав. Рафальскаму стварыць напярэдадні свайго юбілея спектакль сапраўды эпічнай, мужнай і лаканічнай формы.

У «Рэкруце» тав. Рафальскі адлюстраваў у мастацкіх вобразах працэсы класавай дыферэнцыяцыі і барацьбы на матэрыяле гістарычнага мінулага. У «Забастоўцы жняцоў» ён здолеў гэта зрабіць на матэрыяле сучаснасці. У гэтым бясспрэчнае прынцыповае значэнне яго апошняй работы.

* * *

Рэжысерская работа тав. Рафальскага развівалася такім чынам па двум лініям: па лініі яўрэйскай класікі («Хэйдэр». «Меншэн», «На ланцугу пакуты», «Глухі», «Рэкрут») і па лініі працы над творамі яўрэйскай сучаснай совецкай драматургіі, адлюстроўваючымі пераважна патэтыку і рамантыку рэволюцыйнай барацьбы ў мінулым і сучасным («Ботвін», «Гірш Лекерт», «Партызаны», «Забастоўка жняцоў»).

Падагульваючы ўсё сказанае вышэй аб пералічаных пастаноўках, мы можам адзначыць наступныя асаблівасці рэжысерскага стылю Рафальскага. Перш за ўсё яго рэволюцыйнасць. Тав. Рафальскі з'яўляецца мастаком рэволюцыйным па пераважнасці. Усе яго работы, пачынаючы ад «Хэйдэра» і да «Рэкрута» і «Забастоўкі жняцоў» нават і тыя, дзе былі сур'ёзныя ідэйныя зрывы і памылкі, заўсёды былі прасякнуты рэволюцыйнымі тэндэнцыямі, заўсёды былі накіраваны на стварэнне ў гледача рэволюцыйных настрояў і імкненняў, заўсёды былі абвеяны духам пратэсту і барацьбы супроць усяго старога, аджыўшага, рэакцыйнага. Усе работы Рафальскага прасякнуты, сагрэты пачуццём братэрскай салідарнасці да працоўных і прыгнечаных і палкай ненавісцю да эксплаататараў-прыгнятальнікаў. Гэту рэволюцыйную накіраванасць сваёй творчасці тав. Рафальскі імкнецца сцвярджаць у сваіх работах пераважна рэалістычнымі сродкамі. Праўда, на гэтым шляху яму даводзілася часам хістацца паміж асобнымі праявамі фармалістычных захапленняў і натуралізма, але асноўнай лініяй яго творчасці заўсёды заставалася здаровае пачуццё мастацкага рэалізма, не пазбаўленага элементаў рэволюцыйнай рамантыкі. Для творчасці тав. Рафальскага, як рэжысера і пастаноўшчыка асабліва характэрна сапраўдная тэатральнасць, некаторая прыўзнятасць афарбаваная рамантычнай тэматыкай, лірыкай і энтузіязмам, варожымі пасіўнай бытаўшчыне.

Да ліку станоўчых якасцей Рафальскага, як рэжысера, трэба таксама аднесці яго ўменне адразу ўвесці гледача ў сярэдзіну сцэнічных падзей і абставін, у самую гушчу здарэнняў; уменне адразу з галавой акунуць гледача ў адпаведную ідэйна-творчую атмасферу, стварыць вакол яго патрэбныя настроі, выклікаць у яго адпаведныя эмоцыі. Я дазволю сабе ў якасці прыклада спаслацца на тое, як пачынаўся паказ «Гіршы Лекерта». Цішыня. Цёмна. Нечаканыя і гэтак незвычайныя гукі даўно забытага гімна царскай Расіі прарэзваюць раптам настарожаны зал, дзе сядзяць гледачы, успыхнуўшыя пражэктары асвятляюць каланаду з пазалочаным двухгаловым арлом. Пад звон калакольнага благавеста рыжы поп жагнае прысутных. Так ярка і арыгінальна пачынаўся ў тэатры паказ «Гіршы Лекерта». Гэткі пачатак адразу ўводзіў гледача ў адпаведную абстаноўку гістарычнай эпохі. Ён адразу выклікаў у гледача ўяўленне аб грамоздкай манументальнасці і знадворнай велічы самаўладства і папоўшчыны. Ля каланады стаяць на выцяжку цяжкія, чырвонамордыя паліцэйскія. На прыём да губернатара фон-Валя спяшаюцца «слі́ўкі» віленскага грамадства. Тут і чыноўнікі, і адстаўныя генералы, і свецкія дамы з манернымі гімназістамі, і прадстаўнікі яўрэйскай буржуазіі на чале з рабінам і са скруткамі торы ў руках. Усёй гэтай пазалочанай і святочнай цвілі, што парадна выступала перад вачыма гледача, процістаўлялася раптам рабочая вуліца з яе палітычным узрушаннем, з яе ўласнымі жывымі інтарэсамі, вуліца рэволюцыйнага пратэсту і дэманстрацый. З гэтага процістаўлення двух соцыяльных полюсаў пачынаўся спектакль і гэтае процістаўленне як адзіны лейт-матыў праходзіла праз усю пастаноўку.

Альбо ўспомнім пачатак спектакля «На ланцугу пакуты». Нервованапружаны рух. Неспакойная, «тоскливая» музыка, ад якой шчыміць

сэрца. Канструкцыя двара сінагогі пакрыта снуючымі па ўсіх напрамках чорнымі, скрыўленымі фігуркамі. Яны кудысці спяшаюцца, мітусяцца ва ўсе бакі, сустракаюцца, размінаюцца, ізноў кудысці бягуць няроўнай, хісткай паходкай па крывых, звілістых сцежках, знікаюць у цёмных шчылінах сутарэнняў з тым, каб зноў з'явіцца праз момант на вузкіх сходах канструкцыі. Гэты нервоны напружаны рух, уверх, уніз па ўсіх напрамках, гэта хісткасць і няўпэўненасць адразу перадаваліся гледачу. Ён адразу ўспрыймаў пануючыя на сцэне настроі распаду і асуджанасці ўжо праз некалькі хвілін пасля таго, як была ўзнята заслона і пачынаўся спектакль.

Тут нам прыходзіцца гаварыць аб той выразнасці, чоткасці, амаль скульптурнай рэльефнасці, якая характэрна для Рафальскага ў распланіроўцы мізансцэн. Акрамя адзначаных паказаў, гэта характэрна і для «Хэдэра» і для «Глухога» і амаль для ўсіх іншых яго пастановак. Рафальскаму наогул уласціва, як мы ўжо адзначалі, уважлівая работа з акторамі. Актор з'яўляецца для яго заўсёды цэнтральнай фігурай паказу. Гэта адзін з асноўных прынцыпаў яго рэжысерскай дзейнасці. Яшчэ ў студыйны перыяд у Маскве тав. Рафальскі ўпершыню сфармуляваў перад студыйцамі свае погляды на ролю і значанне актора ў тэатры. Для вызначэння гэтых поглядаў, якія адрозніваліся ад прынцыпаў, панаваўшых тады ў Маскоўскім Яўрэйскім Тэатры, тав. Рафальскі спаслаўся на гутарку са студыйцамі былога кіраўніка Маскоўскага Яўрэйскага Тэатра А. Грановскага. У часе гэтай гутаркі Грановскі намаляваў крэйдай на дошцы вялізны круг, які заняў усю паверхню дошкі і ўнутры круга, але збоку, паставіў маленькую кропку і сказаў: гэты вялікі круг—я рэжысер, а гэтая кропка—усё астатняе ў тэатры. У процілегласць поглядам Грановскага тав. Рафальскі, карыстаючыся таксама вобразным параўнаннем, наступным чынам сфармуляваў свае разуменне суадносін у тэатры паміж рыжэсерамі і акторамі: «Уявіце сабе казачны лес, у якім растуць арэхавыя дрэвы. Калі ўявіць сабе самае лепшае дрэва ў гэтым лесе, а на гэтым дрэве самы прыгожы арэх у залатой шалупіне, а ўнутры пад шалупінай зерне сакавітае, смачнае, араматнае, то гэта зерне і ёсць актор, а ўсё астатняе спрыяе таму, каб зерне, г. зн. актор стаў яшчэ больш яркім, яшчэ больш моцным, яшчэ больш, пукатым і рэльефным... Тэатр—гэта мастацтва актора...» Гэтаму мастацтву служыць паводле Рафальскага ўсё астатняе ў тэатры, сцэнічны твор складаецца, паводле тав. Рафальскага, з наступных кампанентаў: «п'еса як першакрыніца, ад якой нараджаюцца вобраз усяго спектакля ў цэлым і вобраз кожнай дзейнай асобы, у прыватнасці; рэжысер, арганізатар і педагог, як дырыжэр сімфанічнага аркестра, якім павінен з'явіцца ўвесь ансамбль у цэлым; мастак, які стварае форму знадворнага вобраза спектакля ў поўнай зразумела гармоніі з яго сутнасцю; кампазітар, які садзейнічае рытму і мелодыцы, харэограф, які арганізуе пластыку асобных кавалкаў спектакля: святло, гукавы малюнак—вось той складаны комплекс асобных элементаў, якія ў суме сваёй даюць сцэнічны твор. Неабходная гармонія дасягаецца толькі ў тым выпадку, калі ўсе ўдзельнікі захоплены адной думкай, адным мэтаімкненнем, калі ўсе гавораць за аднаго і кожны гаворыць за ўсіх».

Вось погляды тав. Рафальскага на ролю і значэнне актора ў спектаклі, погляды, якія былі пакладзены ў аснову ўсёй творчай практыкі Яўрэйскага Дзяржаўнага Тэатра БССР.

Гэтых поглядаў тав. Рафальскі трымаўся на працягу ўсёй сваёй работы ў тэатры. У выніку іх канкрэтнага ажыццяўлення, мы маем у асобе акторскага калектыва Яўрэйскага Дзяржаўнага Тэатра БССР моцны,

таленавіты, шчыльна згуртаваны ансамбль, аб'яднаны адзінствам поглядаў, творчых шуканняў і імкненняў.

Сярод гэтага ансамбля вылучаюцца такія выдатныя, выхаваныя тав. Рафальскім акторскія адзінкі, як Арончык, Сокал, Трэпель, Рутштэйн, Моін, Вольпіна, Рывін, Герман і інш., у тым ліку і акторка тэатра Рэвалюцыі Нелісан.

Пад кіраўніцтвам М. Ф. Рафальскага выраслі ў Яўрэйскім Дзяржаўным тэатры БССР і новыя рэжысерскія кадры. З ліку вучняў М. Ф. Рафальскага, выхаваных у Яўрэйскім Дзяржаўным Тэатры БССР, можна назваць мастацкага кіраўніка 1-га Беларускага Дзяржаўнага тэатра, заслужанага артыста Л. М. Літвінава, рэжысера МХАТ-2—Б. Норда, рэжысера Яўрэйскага Дзяржаўнага Тэатра БССР В. Я. Галаўчынера і інш.

У асобе М. Ф. Рафальскага мы маем буйнага рэволюцыйнага мастака і я не памылюся, калі скажу,—выдатнейшага майстра тэатральнага мастацтва ў БССР, аднаго з буйнейшых будаўнікоў соцыялістычнай культуры. Значанне М. Ф. Рафальскага як арганізатара і кіраўніка Яўрэйскага тэатра выходзіць далёка за межы Беларускай Рэспублікі.

Адзначаючы гэтыя становучыя якасці М. Ф. Рафальскага, як рэжысера і пастаноўшчыка, мы выказваем упэўненасць, што таленавіты мастак, узброены багатым вопытам сваёй 25-ці гадовай сцэнічнай дзейнасці, пакажа нам яшчэ шмат сапраўдных узораў працы над сучасным матэрыялам соцыялістычнай рэчаіснасці, над стварэннем сцэнічных вобразаў новага чалавека, створыць яшчэ шмат вялікіх і хвалюючых твораў, у якіх наша гераічная эпоха паўстала-б перад намі ва ўсёй сваёй велічы і сваёй адменнасці, у моцных вобразах, у яркіх фарбах.

**Л. Бэндэ**

# АБ ЛІТАРАТУРЫ XIX ВЕКА*)

Літаратура кожнай эпохі і кожнай краіны непарыўна звязана з эканамічнымі, соцыяльна-палітычнымі адносінамі свайго часу, з класавай барацьбой, якая адбываецца ў даны канкрэтны гістарычны адрэзак часу. Развіццё літаратуры адбываецца ў цеснай сувязі з гэтымі ўмовамі, з класавай барацьбой. Таму прыступаючы да вывучэння літаратуры эпохі распаду феадалізма і пачатка развіцця капіталістычных адносін, перш за ўсё мы павінны ўясніць сабе тыя соцыяльна-эканамічныя ўмовы, у сувязі з якімі развівалася літаратура данай эпохі.

Першая палавіна XIX века ў Расіі і ў Беларусі характарызуецца распадам феадальна-крэспасніцкіх адносін і ростам капіталістычных, абвастрэннем барацьбы класаў. У разглядаемы перыяд развіццё прамысловасці Расіі зрабіла буйныя крокі наперад. Вырастае капіталістычная мануфактура, адбываецца пераход ад мануфактуры, заснаванай на ручной працы да буйнай капіталістычнай прамысловасці—фабрыкі,—заснаванай на машыннай працы. Разгортваецца барацьба капіталістычнай фабрыкі з дробнай рамесленай і саматужнай прамысловасцю. Вырастаюць і пашыраюцца новыя галіны капіталістычнай прамысловасці. Пракладваюцца першыя чыгункі (Пецербург—Масква), будуюцца першыя параходы (на Няве, Волзе, Дняпры). За першую палавіну XIX века колькасць фабрык павялічваецца больш, чым у чатыры разы, колькасць рабочых больш, чым у пяць разоў.

Развіццё капіталістычнай прамысловасці прыводзіць да фармавання новых класаў: прамысловай буржуазіі з аднаго боку і яе магільшчыка—пролетарыята з другога боку.

Прыгонная гаспадарка і існуючыя на яе аснове грамадскія адносіны становяцца перашкодай для развіцця капіталістычнай прамысловасці, капіталістычнага спосабу вытворчасці: тармозяць яго развіццё, яго рост. Капіталістычная фабрыка патрабавала наяўнасці ў дастатковай колькасці таннай вольнанаёмнай рабочай сілы, наяўнасці ёмістага ўнутранага рынку. Але рабочая сіла—сяляне, з якіх галоўным чынам чэрпалася рабочая сіла для капіталістычных фабрык,—была замацавана за прыгоннікамі-памешчыкамі. І ў той-жа час селянін, які абіраўся да ніткі памешчыкам-прыгоннікам, аказваўся няздольным пакупцом узрастаючай колькасці тавараў капіталістычнай прамысловасці.

Прамысловае развіццё заходня-еўрапейскіх краін, а асабліва Англіі, выклікала павялічаны попыт на рускае збожжа і другія сельскагаспадар-

---

*) У наступных нумарах мною будуць уведзены артыкулы аб творчасці Дуніна-Марцынкевіча, Ф. Багушэвіча і Я. Лучыны.

чыя прадукты: лён, пяньку і інш., выклікала рост цэн на хлеб. Значна ўзрастаў попыт на сельска-гаспадарчыя прадукты і з боку ўнутранага рынку ў выніку роста рускай капіталістычнай прамысловасці і роста гарадскога насельніцтва.

Узрастанне попыту на сельска-гаспадарчыя прадукты, як на ўнутраным, так і на знешнім рынку ўзмацняе імкненне памешчыкаў павялічыць тварнасць сваёй гаспадаркі, павялічыць свой даход. Памешчыкі становяцца зацікаўленымі ў вырабе ўсё большай і большай масы хлеба на продаж. Памешчыцкі маёнтак «пачаў ператварацца ў фабрыку вытворства хлеба» (Пакроўскі).

Узрастанне таварнасці сельскай гаспадаркі няўхільна вяло да распаду феадальных адносін. «Вытворчасць хлеба памешчыкамі на продаж, якое асабліва развівалася ў апошні час існавання прыгоннага права, было ўжо прадвеснікам распаду старога рэжыма» (Ленін). Прыгонная праца не магла здавальняць растучых патрэб унутранага і знешняга рынка. Прыгонная праца была менш прадукцыйнай, чым вольнанаёмная. Памешчыкі ў мэтах атрымання большай масы таварнага хлеба яшчэ больш узмацнялі эксплаатацыю крэпастнога сялянства.

З павелічэннем вывазу хлеба памешчыкі, а асабліва сярэдне-паместныя, пераконваліся ў нявыгадзе прыгоннай працы, у большай выгадзе вольнанаёмнай. Рабуемае памешчыкамі сялянства на ўзмацненне прыгоннай эксплаатацыі адказвала рэволюцыйнымі выступленнямі. Нарастала сялянская рэволюцыя. Перад памешчыкамі паўстала пагроза паўтарэння пугачоўшчыны. Баязнь страціць свае маёнткі ў выніку сялянскай рэволюцыі была адной з асноўных прычын, якая штурхала памешчыкаў да адмены прыгоннага права. Неабходнасць адмены прыгоннага права асабліва адчувала сярэдне-паместнае дваранства, гаспадаркі якога найбольш шпарка тварызаваліся. Сярэдне-паместнае дваранства аказалася найбольш перадавым прагрэсіўным слоем дваранства.

Ходам гістарычнага развіцця ў першай палавіне XIX века з ўсёй вострасцю ставіцца пытанне аб знішчэнні прыгоннай гаспадаркі. Пытанне аб знішчэнні феадальна-прыгонных адносін становіць цэнтр грамадскіх рухаў першай палавіны XIX века. Навакол гэтага пытання разгортваецца барацьба грамадскіх сіл. Сілы старога парадку, самадзяржаўе і памешчыкі-прыгоннікі імкнуцца ўсімі сіламі і сродкамі адстаяць існуючае становішча, захаваць, увекавечыць прыгонніцкія адносіны.

У першыя дзесяцігоддзі XIX века вырастае і шырыцца ў асяроддзі перадавой часткі дваранства апазіцыйны рух. Гэтаму спрыяла як усіленне рэакцыі, асабліва пасля 1815 году, так і тое, што ў час вайны з Францыяй рускае афіцэрства пабывала за мяжой, пазнаёмілася з перавагай буржуазна-капіталістычнага ладу на захадзе.

Пад уплывам гэтых абставін, а таксама пад уплывам рэволюцыйных здарэнняў у Еўропе, ў 20-х гадах з'яўляюцца і шырацца па Расіі тайныя таварыствы, палітычныя гурткі, якія выражаюць капіталістычныя тэндэнцыі, афармляюць нездавальненне перадавога дваранства. У 1825 годзе ў Пецербурзе робіцца спроба паўстання, якая завецца ў гісторыі паўстаннем дзекабрыстаў. Дзекабрысты былі разгромлены. Паўстанне не мела поспеха. Дзекабрысты не мелі апоры ў сялянстве, якое адно толькі і было зацікаўлена ў рэволюцыйным знішчэнні прыгона. «Вузкае кола гэтых рэволюцыянераў. Страшна далёкі яны ад народа» (Ленін, т. XII, ч. I, стр. 100). Будучы выразнікамі інтарэсаў прывілеяваных класаў, яны самі баяліся шырокага народнага паўстання.

Пасля разгрому паўстання дзекабрыстаў яшчэ больш усільваецца царская, прыгонніцкая рэакцыя. Самадзяржаўе душыць усякую жывую думку,

не гаворачы ўжо аб рэволюцыйнай. Распальваецца неабузданы зверскі шавінізм, антысемітызм, праследваюцца нават не праваслаўныя рэлігіі. У мэтах узмацнення рэакцыйнага ўплыву на грамадства, і асабліва на сялянства, узнікае і пашыраецца рэакцыйная плынь у публіцыстыцы і літаратуры,—плынь, якая носіць назву «славянофільства». Славянафілы (Аксакаў, Кірэеўскі, Самарын, Хомякоў і інш.) прапаведвалі тэорыю самабытнасці гістарычнага развіцця Расіі. Яны сцвярджалі, што Расія як краіна самабытная, павінна быць заснавана на праваслаўі, самадзяржаўі, прыгонніцкай абшчыне і памесці; яна на гэтай аснове і павінна кіравацца. Славянафілы, абараняючы прыгонніцтва, вялі шалёную барацьбу супроць усякага праяўлення прагрэсіўнай рэволюцыйнай думкі.

Але рэакцыяй, шыбеніцамі царызму і памешчыкам-рэакцыянерам не ўдаецца затрымаць нарастання апазіцыйна-ліберальнага і вызваленчага буржуазна-дэмакратычнага руху. Калі ў першыя дзесяцігоддзі XIX века пратэстуе нязначная меншасць дваран, бяссільных без народа, далёкіх ад народа, то ўжо ў 40-гады апазіцыйны і рэволюцыйны рух значна пашыраецца. «Дзекабрысты разбудзілі Герцэна», які «ў прыгоннай Расіі саракавых гадоў XIX века... здолеў узняцца на такую вышыню, што стаў на ўзровень з найвялікшымі мысліцелямі свайго часу» (Ленін). Герцэн разгарнуў рэволюцыйную агітацыю «яе падхапілі, пашырылі, замацавалі, загартавалі рэволюцыянеры разначынцы, пачынаючы з Чэрнышэўскага і канчаючы героямі «Народнай волі». Шырэйшым стала кола барацьбітоў, бліжэй іх сувязь з народам». (Ленін, т. XI, ч. I, стр. 100).

У 1914 г. Владзімір Ільіч Ленін, гаворачы, што вызваленчы рух у Расіі прайшоў тры галоўныя этапы, адпаведна тром галоўным класам рускага грамадства, якія накладалі свой адбітак на гэты рух (першы—дваранскі, прыкладна з 1825 па 1861 гг, другі—разначынскі, ці буржуазна-дэмакратычны, прыблізна з 1861 па 1895 гг., трэці—пролетарскі з 1895 года па гэты час) пісаў:

«Самымі выдатнымі дзеячамі дваранскага перыяду былі дзекабрысты і Герцэн. У той час—пры прыгонным праве—аб выдзяленні рабочага класа з агульнай масы прыгоннага, бяспраўнага, «нізшага», «чорнага» саслоўя не магло быць і гутаркі».

«Як дзекабрысты разбудзілі Герцэна, так Герцэн і яго «колокол» дапамагалі прабуджэнню разначынцаў, адукаваных прадстаўнікоў ліберальнай і дэмакратычнай буржуазіі, якія належалі не да дваранства, а да чыноўніцтва, мяшчанства, сялянства. Папярэднікам поўнага выцяснення дваран разначынцамі ў нашым вызваленчым руху быў яшчэ пры прыгонным праве В. Г. Белінскі: Яго выдатнейшае «Пісьмо к Гогалю», якое падводзіць вынікі літаратурнай дзейнасці Белінскага, было адным з лепшых твораў бесцэнзурнага дэмакратычнага друку». (Ленін, т. XVII, стр. 341, выд. II).

У першай палавіне XIX века сялянскія паўстанні не толькі не спыніліся, а наадварот яшчэ больш узмацняліся і пашыраліся. Яны нарасталі з дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе. Асабліва шырока пачалі разгортвацца сялянскія паўстанні ў 40-я гады. Пакроўскі ў сваёй «Гісторыі Расіі» сведчыць, што згодна афіцыяльным даным за час царствавання Нікалая I зарэгістравана 556 сялянскіх бунтаў. Пры гэтым за першае чатырохлецце яго царствавання зарэгістравана 41, за чатырохлецце 1845—49 г.—172, а за чатырохлецце 1850—54 г.—137 сялянскіх бунтаў. Трэба думаць, што гэтыя афіцыяльныя даныя царскай статыстыкі не зусім адпавядаюць сапраўднасці. Царскаму ўраду нявыгадна было паказваць праўду і трэба думаць, што лік сялянскіх паўстанняў паказаны ў паменшаным выглядзе. Сяляне не толькі пераставалі слухацца памешчыкаў і іх эканомаў, а па-

чалі ў многіх месцах збіваць памешчыкаў і эканомаў, забіваць іх, падпальваць маёнткі і г. д. Але гэтым справа неканчалася. З больш ці менш выпадковых успышак, якія лёгка задушваліся паліцэйскімі мерамі, сялянскія бунты ператвараліся ў сапраўдныя паўстанні. Асабліва грандыёзным характарам сялянскія паўстанні вызначыліся ў Віцебскай губерніі ў 1847 г. «Мэтаю руху было прамое і непасрэднае вызваленне ад прыгоннай залежнасці. Сярод сялян хадзіла легенда, што ў Вялікарасійскіх губернях воля ўжо дана, яны масамі рухаліся ў суседнія Пскоўскія паветы, каб карыстацца воляю. У руху прымалі ўдзел 10.000 чалавек. Рыхтуючыся да выступлення, сяляне набывалі зброю, куплялі порах, адлівалі кулі, перакоўвалі нарогі на пікі. Паліцыя, якая спрабавала іх спыніць, пацярпела поўнае паражэнне, тое-ж самае было і з невялікім ваеннымі атрадамі. Згодна слоў ачавідцаў сяляне ішлі «захоўваючы ўсе ваенныя перасцярогі: уперадзе абоза ішла партыя чалавек паўтараста, ўзброеных дубінамі, прашчамі, косамі і інш., па баках, у сярэдзіне і з тылу—таксама ўзброеныя людзі». «На пытанні ўлад, якія ўступалі з імі ў перамовы, яны адказвалі, што ідуць к цару паказаць, якім хлебам іх кормяць паны». Для прыдушэння руху прышлося пусціць у дзела цэлы пяхотны полк і некалькі рот ад іншых палкоў» (Пакроўскі).

Ды як-жа было не бунтаваць, не весці барацьбу з панамі тым-жа віцебскім сялянам, калі яны жорстка эксплаатаваліся панамі, прыгняталіся самадзяржаўем і жылі горш за скаціну. Віцебскі губернатар Ігнацьеў пасля ўжо, у 1853 г. у сваім данясенні пісаў: «у Віцебскай губерніі сяляне амаль не ведаюць хлеба, харчуюцца грыбамі і рознымі сырымі вешчаствамі, якія параджаюць хваробы; галеча страшэнная, а побач роскаш памешчыкаў; жыццёвыя сілы края зусім істашчаны ў маральным і фізічным адносінах, расслабленне дасягнула крайніх межаў».

Такое становішча было не толькі ў адной Віцебскай губерніі, яно характэрна і для ўсёй прыгоннай Расіі. «Рэволюцыйныя мыслі не маглі не брадзіць у галовах прыгонных сялян» пісаў Ленін. Але «вякі рабства настолькі забілі і прытупілі сялянскія масы, што яны былі няздольны ў час рэформы ні на што, апрача раздробленых адзінкавых паўстанняў, хутчэй нават «бунтаў», не асветленых ніякім палітычным сазнаннем...» (Ленін). Сялянскія паўстанні не выліліся ў магутную сялянскую рэволюцыю, бо не было яшчэ рабочага класа (ён толькі тады фармаваўся), які аб'яднаў-бы, арганізаваў-бы, раздробленыя сялянскія паўстанні і стаў бы на чале антыпрыгонніцкай рэволюцыі. Тым не менш гэтыя паўстанні былі страшнай пагрозай для прыгоннікаў і царызма, яны паскорылі адмену крэпастнога права. Галоўны прыгоннік цар Александр II, асабліва пасля паражэння Расіі ў крымскай кампаніі, баючыся сялянскай рэволюцыі, якая можа вызваліць «знізу», прыходзіць да пераканання, што трэба «вызваліць зверху».

Праціўнікі прыгонніцтва рэзка падзяляюцца на два лагеры. Ліберальныя памешчыкі і буржуазія стаялі за вызваленне «зверху». «Лібералы хацелі «вызваліць» Расію «зверху», не разбураючы ні манархіі цара, ні землеўладання і ўлады памешчыкаў, пабуджаючы іх толькі к «уступкам» духу часу» (Ленін, т. XI, ч. II, стр. 263). Лібералы як і прыгоннікі асуджалі ўсякія рэволюцыйныя мыслі аб знішчэнні памешчыцкай уласнасці і ўлады, баяліся сялянскай рэволюцыі. Рэволюцыянеры з Герцэнам і Чэрнышэўскім стаялі за «плебейскае», рэволюцыйнае знішчэнне прыгонніцтва. Але група рэволюцыянераў была нешматлікая. Выражаючы інтарэсы сялянства, яны не былі звязаны з сялянскім рухам і сялянскімі паўстаннямі. Рэформу правялі прыгоннікі.

Становішча розных класаў і класавая барацьба таго часу вызначаюць іх ідэалогію. Ідэалогія розных класаў і класавых груп знаходзіць сваё

выражэнне ў барацьбе розных палітычных тэндэнцый, у мастацкай літаратуры і г. д.

Мы ведаем ужо, што пісьменнік у сваёй товрчасці не з'яўляецца старонні́м фатографам грамадскіх з'яў. Адлюстроўваючы рэчаіснасць з пункту гледжання інтарэсаў, светаўспрымання свайго класа, пісьменнік так ці інакш выяўляе свае адносіны да яе: або пратэстуе супроць яе цалкам, ці асобных яе бакоў або адэалізуе яе, усхваляе яе і г. д.; ва ўсякім радзе творчасць пісьменніка, да якога бы ён класа не належаў, з'яўляецца актыўным чыннікам у грамадскім жыцці, у класавай барацьбе. У ёй праяўляюцца тыя ці іншыя адносіны, таго ці іншага класа да рэчаіснасці, яна служыць сродкам барацьбы за дасягненне, ажыццяўленне класавых інтарэсаў таго ці іншага класа.

Абвастрэнне класавай барацьбы ў першай палавіне XIX века ў працэсе ператварэння феадальнай Расіі ў Расію капіталістычную дае моцны штуршок росту і развіццю рускай мастацкай літаратуры розных класавых напрамкаў, апладатварае яе ідэямі, знаходзіць у ёй сваё выразнае выяўленне. Ідэалы рэакцыйных прыгоннікаў-памешчыкаў, якія змагаліся за захаванне прыгонніцтва, за панаванне рэакцыі і вядомых трох прынцыпаў «самадзяржаўе, праваслаўе, народнасць» знаходзіць сваіх выразнікаў, афарміцеляў і песняроў у асобых такіх пісьменнікаў, публіцыстаў і крытыкаў першай палавіны XIX века, як Дзяржавін, Жукоўскі, Кукольнік, Загоскін, Аксакаў, Маркевіч, «славуты» Булгарын, Грэч, Каткоў і інш. Гэтыя пісьменнікі ў сваёй творчасці і публіцыстычных артыкулах і ідэалізуюць маёнтак, прыгонніцкія адносіны паміж памешчыкамі і сялянамі, змагаюцца супроць усякай змены існуючых парадкаў, усхваляюць цара і г. д. Іменна гэтымі рысамі характарызуецца творчасць пералічаных паэтаў і пісьменнікаў, не гледзячы на рознастайнасць жанраў, тэм і матываў. Ідэі рэволюцыйнай барацьбы з самадзяржаўем, ідэі дзекабрызма нараджаюць сваіх песняроў Рылеева, Полежаева і нават у адзін час ідэі дзекабрызма захапляюць Пушкіна.

Прагрэсіўнае дваранства, якое так ці інакш дабівалася рэформы, якое імкнулася быць перадавой часткай рускага грамадства, нарадзіла сваіх песняроў і раманістаў, якія далі сусветнай літаратуры класічныя ўзоры мастацкай творчасці. Грыбаедаў, Пушкін, Лермантаў, Тургенеў, Грыгаровіч вось плеяда вялікіх майстроў мастацкага слова ідэалогаў ліберальных колаў памешчыкаў. У сваіх творах гэтыя пісьменнікі не толькі задумваліся над лёсам свайго класа, але выразілі ідэі і інтарэсы ліберальных колаў памешчыкаў, выразіўшы разам з тым абмежаванасць, нерашучасць і дваістасць памешчыцкага лібералізма, яго баязнь сялянскай рэволюцыі.

Перад рэформай 1861 г. з'яўляецца і літаратура, якая выражае інтарэсы гандлёвай і прамысловай буржуазіі. Для гэтай літаратуры кладуць асновы творы Остроўскага і Ганчарова.

На працягу ўсёй першай палавіны XIX века пануючай літаратурай з'яўляецца дваранская літаратура ў розных яе адценнях. Дваранін пануе ў літаратуры не толькі як творца яе, але і як герой. Але ўжо ў канцы першай палавіны XIX века ў рускую літаратуру настойліва прабіваецца новая соцыяльная фігура—разначынец, ідэолаг, «адукаваны прадстаўнік ліберальнай і дэмакратычнай буржуазіі». Папярэднікам разначынцаў яшчэ ў 40-х гадах быў Віссарыён Белінскі. Непасрэдна перад рэформай 1861 г. з'яўляюцца публіцысты і пісьменнікі ідэолагі сялянскай рэволюцыі, Чэрнышэўскі і Некрасаў. Першы разначынец, другі дваранін, парваўшы з дваранствам. Вось найбольш характэрныя фігуры літаратуры буржуазнай (сялянскай) дэмакратыі, сялянскай рэволюцыі.

Прыгонная царская Расія не з'яўлялася аднароднай дзяржавай, дзяржавай адной велікарускай народнасці, яна па праўдзе была «турмой народаў», скутых жалезнымі абручамі самадзяржаўя і яго ваеннай бюракратыі. «У Расіі ролю аб'яднацеля нацыянальнасцей узялі на сябе велікаросы, маючы на чале гістарычна склаўшуюся моцную і арганізаваную дваранскую ваенную бюракратыю» (Сталін). Рускі царызм на працягу вякоў вёў войны, заваёўваў слабейшыя народы, далучаў іх да сваёй дзяржавы, грабіў і прыгнятаў іх, перашкаджаў нармальнаму іх развіццю. Палітыка каланіяльных захопаў, грабяжа і прыгнёту народнасцей была прамым выражэннем і працягваннем палітыкі прыгнёту працоўных мас унутры Расіі. Але ў адносінах да каланіяльных народаў яна была асабліва дзіка зверскай, варварскай. Асабліва інтэнсіўна рускі царызм вёў захоп новых тэрыторый і прыгнечанне народаў у XVIII і ў першай палавіне XIX века.

Беларусь канчаткова была заваявана і далучана да Расіі ў другой палавіне XVIII века. Да гэтага яна ўжо была ў складзе Польшчы. Прыгоннае права існавала на Беларусі і да яе далучэння да Расіі. Беларускі селянін ужо знаходзіўся пад прыгнётам свайго і польскага пана, але, пасля далучэння да Расіі, рускі царызм накладае рад новых цягат на каланіяльныя масы Беларусі.

«За кошт захопу Беларусі і правабярэжнай Украіны яна (Расійская імперыя. Л. Б.) значна пашырае свае межы, надзяляе расійскае дваранства і вышэйшых саноўнікаў новымі землямі, узмацняе феадальна-прыгонніцкую эксплаатацыю сялянства і прасоўваецца бліжэй на захад. Трэба было цэлым радам мерапрыемстваў замацаваць гэтае новае заваяванне і забяспечыць пануючаму класу неабходныя ўмовы для яго бяспечнага жыцця і эксплаататарскай дзейнасці. Екацерына II, пры якой і адбыўся падзел Рэчы Паспалітай і намячае, адразу-ж пасля першага падзела і далучэння ўсходняй часткі Беларусі рад такіх мерапрыемстваў. Апрача ўвядзення на Беларусі агульна-расійскага кіраўніцтва і адміністрацыйнага падзелу, насаджэння ў ёй сваіх чыноўнікаў, губернатараў, паліцэйскіх і размяшчэння на тэрыторыі яе значных ваенных сіл, яна разам з тым намячае і праводзіць выразны план русіфікатарскай дзейнасці на Беларусі. Не гледзячы на свае афіцыяльныя дэкларацыі аб тым, што яна імкнецца захаваць усе асаблівасці Беларусі, мы бачым, як на справе яна прымае меры да знішчэння мяжы «инородкя» і ператварае Беларусь «у сапраўды рускія» землі. Па ўказанню Екацерыны распаўсюджваюцца рускія законы, будуюцца цэрквы і адкрываюцца манастыры. Ставіцца пытанне аб выхаванні мас у духу адданасці іх расійскай дзяржаве» (акад. В. Шчэрбакоў «Класавая барацьба і гістарычная навука на Беларусі», стр. 18, Менск, БелАН, 1934).

Палітыка феадальна-прыгоннай эксплаатацыі беларускага сялянства, палітыка русіфікацыі ў першай палавіне XIX века праводзіцца рускім царызмам з усёй зверскай жорсткасцю. Расійскае самадзяржаўе імкнецца ператварыць Беларусь у аплот «расійскага ўраду для барацьбы супроць рэволюцыйнага ўплыву захада і сепаратысцкіх, нацыянальна-вызваленчых рухаў у Польшчы» (В. Шчэрбакоў там-жа, стр. 41). Для гэтай мэты рускі царызм пасылае на Беларусь армію рускіх чыноўнікаў, паліцэйскіх, папоў, вучоных і г. д.

Побач з гэтай палітыкай рускіх прыгоннікаў і самадзяржаўя ў канцы XVIII і ў першай палавіне XIX вв. асаблівую ўвагу Беларусі пачынаюць ўдзяляць і польскія дваранска-буржуазныя колы. Польскія гісторыкі, этнографы, археолагі, мовазнаўцы і г. д. інтэнсіўна вывучаюць Беларусь. «Усімі сваімі работамі гэтыя гісторыкі і этнографы стараліся абараняць інтарэсы польскіх паноў і шляхты, апраўдаць іх імкненне да новага захопу імі Беларусі і ўключэнне яе зноў у склад Польшчы» (В. Шчэрбакоў, там-жа,

стар. 53). Гэтыя місіянеры польскіх паноў і шляхты неслі на Беларусь «панска-шляхецкую культуру, каталіцкую рэлігію і паланізацыю беларускага народа» (В. Шчэрбакоў там-жа, стар. 53).

Ад палітыкі каланіяльнага прыгнёта, як і ад місіянерства польскай шляхты беларускаму сялянству не станавілася лягчэй. Беларускае сялянства і пасля далучэння Беларусі да Расіі заставалася прыгонным, прыгнечаным і эксплаатаваным памешчыкамі бяспраўным, «нізшым» і «чорным» саслоўем. Рускія каланізатары прынеслі з сабой яшчэ большае ўсіленне феадальна-прыгонніцкай эксплаатацыі. Пертварэнне Беларусі ў калонію рускіх прыгоннікаў і царызма не магло спыніць распаду прыгоннай гаспадаркі, працэсу нарастання капіталізма. Не гледзячы на тое, што рост капіталізма на Беларусі ўскладняўся і тармазіўся каланіяльнай палітыкай царызма, ён усё-ж, у другой палавіне XIX века рабіў немалыя поспехі. Узрастала таварнасць сельскай гаспадаркі, частка беларускіх памешчыкаў таксама ператваралася ў прадпрыемцаў, нараджаліся, не гледзячы на ўсе тармазы, дробныя і сярэднія прамысловыя прадпрыемствы капіталістычнага тыпу, раслі гарады, нарастала буржуазія; нараджаўся і рос новы клас прыгнечаных і эксплаатаваных—рабочы клас. Рост абмену захопліваў у сваю арбіту і сялянскія прыгонныя гаспадаркі. Па ўсіх галінах на змену феадалізму ішоў капіталізм. Сялянскія хваляванні і паўстанні характэрны для Беларусі, як і для Расіі. Гэтыя хваляванні і паўстанні таксама з кожным дзесяцігоддзем набывалі больш масавы і грозны характар. У Беларусі, як адзначае Пакроўскі, сялянскія паўстанні асабліва насілі грозны характар.

Капіталізм, урываючыся ў жыццё калоніі расійскага самадзяржаўя, абуджае ад векавой спячкі шырокія масы, нараджае нацыянальны рух. Першыя праблескі беларускага нацыянальнага руху праяўляюцца ўжо ў першай палавіне XIX века.

У сувязі з ахарактарызаванымі вышэй соцыяльна-эканамічнымі працэсамі першай палавіны XIX века ў Беларусі, знаходзіцца зараджэнне і развіццё беларускай літаратуры. Іменна гэтыя соцыяльна-эканамічныя працэсы, класавая барацьба ў нетрах феадальнага грамадства ў часе яго распада нарадзілі беларускую літаратуру, абумовілі яе рост і развіццё. Гэта ні ў якай ступені не абвяргае таго факта, што беларуская літаратура нарадзілася, расла і развівалася і пад уплывам літаратур суседніх народаў, у першую чаргу рускай, украінскай і польскай літаратуры.

Мы ўжо характарызавалі вышэй класавыя напрамкі рускай літаратуры першай палавіны XIX века, паўтараць гэтую характарыстку не будзем. Польская літаратура ў першую палавіну XIX века асабліва ў 20—40-я гады дасягае надзвычайнага росквіта.

«30-я і 40-я гг. у гісторыі Польшчы адзначаюцца выдатным росквітам паэзіі. Знамянітае сузор'е Міцкевіча, Красінскага і Славецкага зацямняюць сабою цэлую плеяду менш буйных, аднак вельмі таленавітых паэтаў, і гэтая эпоха палітычнага ўпадка краіны з'яўляецца, як-бы на зло недоброжадацелям, эпохай багацейшага роста культурных сіл» (В. В. Вароўскі, Соч. т. II, стр. 406).

Украінская літаратура к XIX веку не мела такога росквіту, як руская і польская, але тым не менш гісторыя яе ведае ўжо ў канцы XVIII века Івана Катляроўскага дваранскага паэта і анекдатыста, надрукаваўшага ў 1798 г. «Энеіду»; яна ведае Віктара Забілла, пісьменніка дробнага маёнткавага панства; яна ведае, нарэшце, выдатнейшага песняра сялянскай рэволюцыі першай палавіны XIX века Тараса Шэўчэнку.

Беларуская літаратура нараджаецца толькі ў першай палавіне XIX века. Нельга сур'ёзна лічыць літаратурна-мастацкімі творамі прывітальную пра-

мову пасла Літоўска-Беларускай дзяржавы Сапегі, сказаную ім перад Барысам Гадуновым, або прамову Яна Мялешкі, быццам-бы сказаную ім на паседжанні сойма ў Варшаве ў 1584 г. Таксама нельга лічыць з'явамі мастацкай літаратуры розныя сярэдневяковыя апокрыфічныя апавяданні, пабудаваныя на царкоўнай, у пераважнасці на каталіцкай, легендзе. Беларуская літаратура бярэ свой пачатак у першай палове XIX века. Першымі яе творамі трэба лічыць «Энеіду навыварат», напісаную пад непасрэдным уплывам «Энеіды» Катлярэўскага і «Энеіды» Осіпава, паэму «Тарас на Парнасе», частку твораў Баршчэўскага, Чачота, Рыпінскага, творы Дуніна-Марцынкевіча. Мы тут не закранаем народную творчасць—фольклор. Беларускі фольклор, як і фольклор іншых народаў «увогуле, з'яўляецца адлюстраваннем з'яў прыроды, барацьбы з прыродай і адлюстраваннем соцыяльнага жыцця ў шырокіх мастацкіх абагульненнях» (М. Горкі). Беларускі фольклор надзвычай багаты казкамі, легендамі, міфамі, песнямі і г. д. Сэнс яго «зводзіцца к імкненню старажытных рабочых людзей аблягчыць сваю працу, усіліць яе прадукцыйнасць, узброіцца супроць чацвераногіх і двуногіх ворагаў, а так-жа сілаю слова, прыёмаў «замоў», «заклінанняў». уздзейнічаць на стыхійныя варожыя людзям з'явы прыроды» (М. Горкі). У беларускім фольклоры ёсць шмат выдатнейшых твораў з яркімі глыбокімі, мастацка-дасканалымі вобразамі, тыпамі герояў. Мы не можам зараз падрабязна спыніцца на разглядзе фольклора, а абмяжуемся указаннем, што беларуская літаратура з першых яе твораў і на наступных этапах яе развіцця шырока выкарыстоўвае фольклор, розныя яго класавыя элементы ў залежнасці ад класавага напрамку таго ці іншага пісьменніка. Фольклор гэта асобны самастойны раздзел гісторыі беларускай літаратуры.

«Энеіда навыварат» першая дайшоўшая да нас спроба мастацкай творчасці на беларускай мове пасля далучэння Беларусі да расійскай імперыі. Дасканала невядома, кім і калі гэты твор напісаны. Выходзячы з тэкста і параўноўваючы яго з тэкстам «Энеіды» Катлярэўскага, трэба лічыць, што яна напісана пасля «Энеіды» Катляраўскага, прыблізна ў першай палавіне XIX века. Беларуская «Энеіда» нясе на сабе глыбокія сляды ўплыву «Энеіды» Катлярэўскага. Пэўныя раздзелы яе з'яўляюцца простым перакладам з украінскай «Энеіды» на беларускую мову. Беларуская «Энеіда» не была надрукавана пасля яе напісання. Яна распаўсюджвалася ў рукапісу і рознымі часткамі, у розныя часы трапляла ў друк. Цалкам мы яе не ведаем. Да нас дайшла толькі частка яе. Гэтая акалічнасць і перашкаджае правільнаму вызначэнню яе зместа. Тым не менш увогуле можна вызначыць, што ў гэтай часцы «Энеіды» выяўляецца ліберальная крытыка прыгонніцтва, ліберальная нерашучасць і пакорлівасць перад светам дужых. «Тарас на Парнасе» гэта другі беларускі мастацкі твор, напісаны, як трэба думаць, выходзячы з тэкста, ў 40-х гадах XIX века. Гэты твор вышэйшай мастацкай якасці, чымся «Энеіда навыварат». Ён напісаны больш жывой, зусім блізкай да сялянскай, мовай. Аўтар гэтага твору таксама невядомы. Гэта ў значнай ступені перашкаджае ўстанавіць, з асяроддзя якой класавай групы вышаў гэты твор. Аднак змест твору не пакідае сумнення ў тым, што і гэты твор з'яўляецца ліберальнай крытыкай прыгоннага ладу, крытыкай дваранскай знаці, і яе рэакцыйных ідэолагаў. Ідэі лібералізма, якія брадзілі ў галовах передавой часткі беларускіх памешчыкаў, знайшлі сваё выяўленне ў абодвых названых творах. Не гледзячы на ліберальныя ідэі гэтых абодвух твораў, яны ў сутнасці былі накіраваны супроць сялянскай рэволюцыі, унушалі сялянству смірэнне перад панамі.

У першай палавіне XIX века, як гаварылася ўжо, з'яўляецца рад твораў на беларускай мове, напісаных Баршчэўскім, Чачотам, Рыпінскім і Дунінным-Марцынкевічам.

Ян Баршчэўскі выхадзец з асяроддзя шляхты з Віцебшчыны. Пераважную большасць сваіх твораў ён пісаў на беларускай тэматыцы, але на польскай мове. На беларускай мове да нас дайшлі толькі яго тры вершы. Гэтыя вершы ясна паказваюць, што творчасць Баршчэўскага накіравана на тое, каб зганьбіць сялянскія паўстанні, спробы беларускага сялянства рэволюцыйным шляхам вызваліцца з-пад прыгонніцкага прыгнёту. Гэтыя рэволюцыйныя спробы паказваюцца Баршчэўскім як разбой, як рабункі п'янага натоўпу мужыкоў, у якіх не вызваленне галоўнае, а рабункі і п'янства. Нездарма-ж адзін верш Баршчэўскага носіць такі загаловак: «Рабункі мужыкоў». З другога боку Баршчэўскі паказвае ідылічныя адносіны паміж панам і мужыком, дзе мужык выступае пакорлівым да свайго пана, а пан добры, літасцівы і ўважлівы да мужыка. Баршчэўскі паказвае пана, як добрага бацьку сваіх сялян, які даруе ім усе іх «грахі».

„Пан просціць і міласць пакажэць
Яшчэ хлопцу чарку водкі мнe
прынесці прыкажэць".

Мала чым адрозніваецца ад творчасці Баршчэўскага і творчасць Яна Чачота. Ян Чачот—польскі этнограф, які займаўся вывучэннем Беларусі ў мэтах апраўдання імкненняў польскіх паноў і шляхты далучыць Беларусь да Польшчы. Займаючыся зборам беларускага фольклору, ён сам пачынае пісаць па-беларуску. У 1844 г. ён у сваім зборніку надрукаваў 28 вершаў, напісаных па-беларуску. У сваіх вершах Чачот шырока выкарыстоўвае святочныя і рэакцыйныя элементы беларускага фольклора. Ян Чачот, як і Баршчэўскі, выходзіць з таго, што прыгонніцтва ёсць ідэальны лад, які не падлягае ніякім зменам, што прыгоннае становішча сялянства з'яўляецца адзінай і натуральнай асновай яго жыцця. Праўда Чачот бачыў, што селянін жыве дрэнна, «што куска хлеба няма», «што ў латах сярмяжка ўся», што і «воліка няма», але ён прагне паказаць, давесці, што прычынай беднасці мужыка, прычынай яго нядолі з'яўляецца выключна ён сам—мужык. «Каб у карчме не сядзеў», «каб не піў, дык усё-б меў». П'янства—вось што паказвае Чачот за першапрычыну няшчасця прыгонных сялян. Ён сваёй творчасцю навучае сяляніна быць добрым, багатым гаспадаром, трэба быць «як конік вясёл пры трудзе» кінуць піць.

„Доля, шчасце зачне жыць
Дзе цвяроза хата („Да мілых мужычкоў").

Адносіны паміж панам і мужыком малююцца Чачотам у такім-жа выглядзе, як і Баршчэўскім. Мужык і пан,—яны абодвы зацікаўлены ў добрых адносінах паміж сабою, абодвы зацікаўлены ў росце панскага дабрабыту. Калі-ж што перашкаджае гэтым ідылічным адносінам, дык гэта «кепскі эканом», які:

„Грош пану ў кішэню,
А два сабе ўложыць".

Вось такі эканом з'яўляецца адзіным злом, што ляжыць паміж панам і мужыком. І калі пан будзе ласкавы, ён прыставіць да мужыка добрага эканома, тады ўсё будзе добра: і пан, і селянін будуць здаволены і шчаслівы.

Як бачым, тыя вобразы, праз якія Баршчэўскі і Чачот паказваюць соцыяльныя адносіны часоў прыгону, далёкі ад сапраўднасці, што гэты паказ з пазіцыі памешчыкаў прыгоннікаў. Назначэнне такой творчасці, соцыяльная яе функцыя, заключаецца ў тым, каб увекавечываць прыгон, прыгонніцкую эксплаатацыю сялянства. Аднак больш поўнае і больш

глыбокае адлюстраванне прыгонніцка-памешчыцкай ідэалогіі мы маем у творчасці Дуніна-Марцынкевіча, з якой мы будзем знаёміцца пасля. Але тут трэба падкрэсліць, як характэрную з'яву, што творчасць беларускіх памешчыцкіх пісьменнікаў ярка выяўляе адзінства класавых інтарэсаў беларускага памешчыка-прыгонніка з велікарускім памешчыкам у барацьбе супроць нарастаючай сялянскай рэволюцыі.

Значна меншае месца ў гісторыі беларускай літаратуры займае Рыпінскі.

Александр Рыпінскі—таксама польскі шляхецка-панскі этнограф. Пасля польскага паўстання 1831 г., у якім ён прымаў удзел, павінен быў эміграваць у Францыю. Жывучы ў Парыжы, ён, час ад часу, чытае ў гуртку польскіх эмігрантаў лекцыі аб Беларусі. У сваіх лекцыях Рыпінскі цалкам і поўнасцю стаіць на пазіцыях польскіх паноў, што Беларусь «ёсць і будзе польская, становіць сабою непадзельную частку нашай дарагой айчызны...» Рыпінскі надрукаваў па-беларуску толькі баладу «Нячысцік». Гэтая балада выйшла ў трох выданнях. Апошняе выданне выйшла ў 1853 г. Балада пабудавана на фольклорным матар'яле. Легенда аб чорце і бабе, якая парушыла пост, забіла кабана і купіла гарэлкі, пад рукамі Рыпінскага паслужыла асновай для клерыкальнага павучэння. Баладу Рыпінскі заканчвае яўна клерыкальнай, дыдактычнай высноўкай:

„Я запісаў ту штуку
Тым жанчынам на навуку,
Што скаромнае так любяць,
А такіх у нас не мала,
Віць, цяперачка настала“.

Гэтай баладай і абмяжоўваецца творчасць Рыпінскага на беларускай мове. Аднак і гэты адзін яго твор, надрукаваны па-беларуску, ясна паказвае на класавы напрамак гэтага пісьменніка.

Беларуская рэчаіснасць таго часу ведае і рад мастацкіх твораў, у якіх выяўлены ідэі сялянскай дэмакратыі, імкненні і жаданні беларускіх сялянскіх мас, прыгнечаных прыгонам. Такімі творамі, не кажучы аб мастацкім фольклоры, з'яўляецца «Гутарка Данілы са Сцяпанам», верш «Вясна, голад, перапала», і рад іншых твораў невядомых да гэтага часу аўтароў, а таксама вершы прыгоннага селяніна Паўлюка Бахрыма. Не выключана магчымасць, што і названыя творы належаць Паўлюку Бахрыму.

Праўда, у гэтых творах беларускіх аўтароў няма яшчэ глыбокага ўсведамлення шляхоў вызвалення ад прыгоннага права. У іх часта бытуюць наіўныя манархічныя ілюзіі, наіўнае ўяўленне прыгоннага селяніна аб розніцы паміж царом і памешчыкам, вера ў цара, як сапраўднага збавіцеля ад прыгону, інакш кажучы тое, што асабліва стараліся прывіць народным масам пануючыя класы.

Возьмем «Гутарку Данілы са Сцяпанам». Зышоўшыся ў свята Даніла са Сцяпанам заводзяць паміж сабою гутарку аб сваім жыцці, аб далейшым лёсе. Па свеце ходзяць чуткі:

„Што вольнасць нам, бедным, дасць цар безадкладна,
Толькі, што з панамі не знойдзема ладу“.

У гэтым вершы ярка адлюстраваны імкненні сялянства да вызвалення ад прыгону, нянавісць да памешчыкаў, і ў той-жа час наіўная вера селяніна ў тое, што цар на баку бедных, што ўся бяда толькі ў адных панах.

„Чаго яны хочуць, то другім няміла,
Цар ім паўтарае, а яны хітруюць“.

Характэрным літаратурна-мастацкім дакументам таго часу з'яўляецца і другі верш—«Вясна, голад, перапала». Гэты верш больш праўдзіва адлюстроўвае становішча прыгоннага сялянства, якое памешчыкі аграбілі і давялі да адчаю. У параўнанні з «Гутаркай» гэты верш значна большай тэхнічнай дасканаласці, больш рытмічна вытрыманы. Ён напоўнены злосцю, нянавісцю да паноў, жаданнем хутчэй атрымаць волю. І ў гэтым вершы, як і ў «Гутарцы», адлюстраваны жаданне вызваліцца з-пад прыгону, чаканне лепшага, і ў той-жа час наіўныя лятуценні і мары прыгоннага сялянства аб яго будучыні, аб тым жыцці, якое надыйдзе пасля атрымання волі. Такога-ж прыблізна ідэйнага зместа і верш паэта—прыгоннага селяніна Паўлюка Бахрыма. Ён таксама праз верш скардзіцца на свой лёс, на сярдзітага пана, выказвае праз свой верш імкненне пазбавіцца ад паноў, ад паншчыны. Але і ў гэтым вершы, як і ў названых двух адсутнічае правільнае ўяўленне аб шляхах пазбаўлення ад прыгону. Скарга, плач, надзея, наіўныя лятуценні і мары—вось асноўны змест гэтых вершаў.

Тым не менш гэтыя вершы маюць для нас не малое гістарычна-літаратурнае значэнне. І не толькі таму, што ў іх адлюстраваны настроі прыгоннага сялянства, яго імкненні, наіўныя мары, але і таму, што гэтыя вершы выходзілі непасрэдна ад народа, прыдушанага прыгонам. Яны выяўляюць дэмакратычны струмень у развіцці беларускай літаратуры. Гэтыя вершы становяць сабою зусім іншы струмень у развіцці беларускай літаратуры, чым вершы Баршчэўскага, Чачота, Рыпінскага, Дуніна-Марцынкевіча і інш. Творчасць названых пісьменнікаў выходзіла ад пануючых класаў, ад прыгоннікаў-памешчыкаў; яна ўсхваляла прыгонны лад, служыла сродкам узмацнення прыгоннага ладу, прыгонніцкай эксплаатацыяй сялянства. Наадварот, творчасць Паўлюка Бахрыма, творы невядомых нам аўтароў, аб якіх мы толькі што гаварылі, сваім вастрыём накіраваны супроць прыгонніцтва, супроць прыгоннікаў-памешчыкаў. Гэтыя творы, праўдзіва адлюстроўваючы ў мастацкіх формах (праўда прымітыўных) прыгоннае становішча сялянства і яго імкненні да «зямлі і волі», будучы накіраванымі сваім вастрыём супроць прыгоннікаў-памешчыкаў і ўсяго прыгоннага ладу, цалкам аб'ектыўна выяўлялі ідэі антыпрыгонніцкай, сялянскай рэвалюцыі. У гэтым іх аб'ектыўны сэнс.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

**„БОЛЬШОЙ КОНВЕЙЕР“ *Якава Ільіна.* „Молодая гвардия“, выданне трэцяе, 1934 г. стар. 384, цана 3 руб. 50 коп.**

„Большой конвейер“ Якава Ільіна, маладога здольнага заўчасна памершага комсамольскага пісьменніка—вытворчы раман дакументальнага жанра. Ён цалкам напісаны на матэрыяле гісторыі Сталінградскага трактарнага. Частка персанажаў рамана—гэта выведзеныя пад іншымі прозвішчамі жывыя людзі, непасрэдныя ўдзельнікі пабудовы першага ў СССР завода канвеернай вытворчасці. Напрыклад, у вобразе Ігнатава не цяжка пазнаць начальніка будаўніцтва і першага дырэктара завода Іванова. Ільін узяў матэрыял, які хаваў у сабе багацейшыя магчымасці. У рамане паказваецца той перыяд, калі перад совецкай краінай паўстала грандыёзнейшая, складанейшая задача—задача індустрыялізацыі, узбраення перадавой тэхнікай, задача ператварэння з адсталай аграрнай у перадавую індустрыяльную краіну.

Сталінградскі трактарны быў первянцом індустрыялізацыі, на ім пролетарыят совецкай краіны і яго комуністычная партыя трымалі экзамен на ўмельства арганізаваць вытворчасць, на ўмельства рацыянальнай арганізацыі працы, трымала тэхнічны экзамен на выкананне планаў першай пяцігодкі. Трэба сказаць, што гэта быў досыць складаны экзамен. Канвеерная вытворчасць была новай справай. Завод будаваўся на голым месцы. Не было тэхнічнага вопыту, не было спрактыкаваных на гэтай справе інжынераў, тэхнікаў, майстроў, кваліфікаваных, спецыяльна падрыхтаваных для работы на складаных станках рабочых. І на працягу доўгага часу трактары не ішлі. Аўтар гаворыць пра гэта проста, з той суровай праўдзівасцю, якая заўжды вызначае шчырага мастака.

Завод быў пабудаваны паводле апошняга слова тэхнікі, завод быў пушчаны і працаваў, але трактароў не было. „Завод працаваў бесперапынна ў тры змены, лік рабочых у цэхах значна перавышаў праектныя меркаванні. Кіраўнікі завода працавалі бяззменна, не ведаючы выходных дзён. Вынікі-ж усей гэтай, здавалася, напружанай працы былі зусім мізерныя—у пяцідзёнку здымалі па аднаму трактару“. Канвеерная вытворчасць складаная і цяжкая для асваення тым, што тут патрэбна надзвычай высокая арганізаванасць тэхналагічнага працэса. Кожная дэталь павінна паступаць у свой час. Затрымка хаця-б адной на першы погляд няважнай дэталі адразу-ж адбіваецца на колькасці выпускаемых трактароў. Аўтар зразумеў, што для таго, каб зразумець і праўдзіва паказаць людзей Сталінградскага трактарнага, трэба вывучыць іхную справу, трэба вывучыць тэхнічныя працэсы завода. „Большой конвеер“ можа быць прыкладам добрасумленнага вывучэння матэрыяла з боку пісьменніка, прыкладам удумлівых адносін да нашай багатай падзеямі, змястоўнай рэчаіснасці.

У совецкага пісьменніка ёсць шчаслівая магчымасць нічога не выдумляць. Досыць таго, каб ён па сапраўднаму зразумеў тое, што адбываецца ў жыцці і здолеў паказаць гэта ў мастацкі-абагуленай форме. У літаратурным плане ў распараджэнні Ільіна быў такі матэрыял, які надзвычай спрыяў мастацкаму ўцелясненню пафасу індустрыялізацыі. Яму не трэба было думаць над тым, як даць нарастанне дзеяння, як паказаць гераічную барацьбу за індустрыялізацыю краіны. Усё гэта было ў яго ў гатовым выглядзе. Непаладкі на заводзе давалі багаты матэрыял для градацыйнага разгортвання

дзеяння, для перадачы атмасферы напружанай барацьбы за савецкі трактар. Ільін якраз і пайшоў па гэтай лініі. Сюжэтнае разгортванне рамана ён пабудаваў не на разгортванні асабістага лёсу паасобных персанажаў, не ў плане традыцыйнага псіхалагічнага рамана, а на паказе лёсу завода ў цэлым, на разгортванні барацьбы за асваенне тэхнікі, за асваенне праектнай магутнасці завода. Гэта з'яўляецца надзвычай спрыяльным для ўстаноўкі рамана на выражэнне пафаса індустрыялізацыі. Дзеянне рамана параўнальна рэдка пераносіцца на кватэру таго або іншага персанажа, усе яны паказваюцца пераважна на заводзе, у іх грамадска-палітычнай практыцы і гэта добра. У работнікаў завода мала заставалася часу для асабістага жыцця, яны жылі вытворчасцю, заводам, часта працавалі без выходных дзён, працавалі па некалькі змен узапар.

У кампазіцыі рамана аўтар скарыстаў прыём перастаноўкі дзеяння ў часе. Спачатку паказваюцца падзеі, якія адбыліся пазней, а потым тое, што было перад гэтымі падзеямі. Такія перастаноўкі звычайна розбяцца для абвастрэння інтрыгі, для большай займальнасці твору. У „Большом конвейере" гэтыя перастаноўкі былі не абавязковымі. Перастаноўкай у часе аўтар звычайна ўносіць у твор элементы тайны. Гэта робіцца для таго, каб увесь час трымаць у напружанні ўвагу чытача. У „Большом конвейере" сюжэтныя сітуацыі будуюцца па адной лініі—на матэрыяле дачынення персанажаў да завода, у вытворчым плане. Асноўны змест рамана зводзіцца да таго, дасць завод праектную колькасць трактароў ці не. Чытач наперад гэта ведае і таму перастаноўка ў часе ніякай тайны не стварае. Гэтыя перастаноўкі не вымагаліся характарам матэрыяла.

Персанажныя вобразы рамана будуюцца па прынцыпу іхных адносін да вытворчасці, да тэхнічнага асваення завода. Праз гэтыя адносіны характарызуецца кожны з вобразаў. Праз гэтыя-ж адносіны даецца і біяграфічнае разгортванне вобразаў.

Каб зразумець непаладкі, якія на працягу доўгага часу меліся на заводзе, цяжкасці тэхнічнага асваення завода, трэба было вывучыць людзей сталінградскага трактарнага і тыя ўмовы, у якіх ім даводзілася працаваць. Да гэтай задачы, як мы ўжо зазначылі, Я. Ільін паставіўся вельмі сур'ёзна. Вялікае становічае значэнне гэтае вывучэнне матэрыяла рамана мела яшчэ і таму, што багаты чалавечы матэрыял даваў вялікія магчымасці для тыпізацыі персанажных вобразаў, для паказу тыповых характараў у тыповых абставінах. Гэтыя магчымасці скарыстаны Ільіным настолькі, наколькі ён пры сваіх здольнасцях, як пісьменнік, мог іх скарыстаць. Ільін у рамане „Большой конвейер" паказаў не дрэнныя літаратурныя здольнасці, але ён яшчэ не паспеў скласціся ў буйнага майстра савецкай літаратуры. Таму ў яго ёсць намёткі тыпізацыі вобразаў і няма сапраўдных шырока абагуленых тыпалагічных характараў. Таму ў некаторых персанажных вобразаў ёсць шмат непатрэбных для іхнага тыпалагічнага выяўлення дэталей.

Матэрыял рамана сам падказваў ідэю будучага твору. Нават больш—ідэя з неабходнасцю вынікала з матэрыялу. Яна была ў ім у гатовым выглядзе. Соцыялізм ідзе пад знакам арганізаванай, дакладна спланаванай гаспадаркі. Барацьба за тэхнічнае асваенне завода—гэта барацьба супроць расхлябанасці, барацьба з адсталасцю, барацьба за высокую індустрыяльную тэхніку, барацьба за пяцігодку, за соцыялістычны уклад гаспадаркі, за бальшэвіцкі стыль у працы, за пролетарскую арганізаванасць. Гэта ідэя павінна была арганізаваць матэрыял рамана, з'явіцца яго соцыяльна-філасофскім асэнсаваннем. У Ільіна гэтая ідэя засталася скрытай у матэрыяле, яна не падкрэслена, не праведзена свядома і паслядоўна, як пункт гледжання, пад якім падаецца матэрыял рамана. Яна выразна адчуваецца толькі ў паасобных мясцінах.

Але ўжо таму, што гэтая ідэя ў скрытым выглядзе прысутнічае ў рамане, для крытыка і для чытача магчыма абагульненне і аналіз падзей і вобразаў рамана з пункту гледжання гэтай ідэі. У гэтым плане ў першую чаргу трэба спыніцца на вобразах кіраўнікоў завода. Начальнік будаўніцтва і першы дырэктар Сталінградскага трактарнага Ігнатаў—чалавек рашучы, напорысты, цвёрды. Ён добра арганізаваў будаўніцтва завода, ён пабудаваў першакласны, паводле апошняга слова тэхнікі, завод. Ён выявіў вялікую практычную здольнасць у тым, каб па самых нізкіх цэнах купіць у амерыканскіх прамыслоўцаў найлепшае абсталяванне, але ён не здолеў забяспечыць выпуска трактароў.

Авалоданне тэхнікай аказалася больш складанай справай, чым будаўніцтва завода. Майстры не маглі прывыкнуць весці графік, шасцярні падганяліся ўручную, на зборцы ставіліся дэфектныя матory, кантроль прапускаў бракаваныя дэталі. Ігнатаў пісаў загады. Гэта не дзейнічала. Выпуск быў пяць—шэсць трактароў у месяц замест сарака-пяцідзесяці ў дзень. Ігнатаву здавалася, што прычына ў дачасным пуску завода. Ён, разгублены, у ліхаманкавых пошуках выйсця піша новыя загады. Але гэта не дапамагае. Тады ён зусім губляе перспектывы і прапануе сакратару крайкома спыніць на час завод. Яго замяняе новы дырэктар, які павінен вырашыць задачу, якая аказалася не па сіле Ігнатаву. Толькі значна пазней, у часе першай канферэнцыі работнікаў соцыялістычнай прамысловасці пасля выступлення тов. Сталіна, калі ён даў свае гістарычныя шэсць умоў, толькі тады Ігнатаў зразумеў, чаму ён не мог забяспечыць выпуск трактароў.

— „Пішыце, колькі хочаце рэзалюцый,—гаварыў Сталін,—кляніцеся якімі хочаце словамі, але, калі не авалодаеце тэхнікай, эканомікай, фінансамі завода, фабрыкі, шахты, толку не будзе, адзінаначалля не будзе".

У гэтым было асноўнае. Жыццё патрабавала іншых метадаў кіраўніцтва вытворчасцю. Метад адміністравання, рэзалюцый і загадаў адыходзіў у мінулае.

У рамане на поўны рост паказваецца правадыр міжнароднага пролетарыята тав. Сталін. Аўтару пашчасціла знайсці яркія мастацкія сродкі для паказу гэтае вялізнае постаці. У вобразе Сталіна Ільін падкрэсліў правадыра, кіраўніка шматмільённых працоўных мас вялікай совецкай краіны.

З вобразаў трох дырэктароў завода—Ігнатава, Баркова і Селіверстава найбольш яркі, тыпізаваны і найбольш індывідуальна вылучаны вобраз Ігнатава. У вобразе Баркова аўтар увасабляе стаўку на сваіх, на рускіх інжынераў, якія, не будучы яшчэ спрактыкаванымі ў канвеернай вытворчасці, павінны перакрыць амерыканцаў і даць трактары. Гэты момант у характарыстыцы Баркова адыгрывае значную ролю і гэта зразумела, бо наогул вобразы рамана характарызуюцца паводле іх адносін да завода. Трэці дырэктар завода Селіверстаў у вытворчым плане праводзіць па сутнасці думку, якая аднойчы была з'явілася ў Ігнатава, але якую ён у абставінах, якія тады былі на заводзе, не мог ажыццявіць—думку пра паступовае, хоць бы і павольнае нарошчванне колькасці выпускаемых у дзень трактароў. Вобраз Селіверстава ў плане індывідуалізацыі значна лепш удаўся Ільіну, чым вобраз Баркова. Ён менш схематычны, у ім больш жывых, чалавечых рыс.

Ва ўсіх у трох гэтых вобразах падкрэслена сумленнасць і адданасць комуністаў у адносінах да справы. У вобразе Селіверстава гэтая адданасць набывае трагічныя адценні. Ён працаваў не шкадуючы сябе, без адпачынку, запрацаваўся, і гэта паслужыла прычынай яго смерці.

Вобраз сакратара парткома Маркуса шмат у чым паводле яго кампаноўкі падобны на вобраз дырэктароў завода. У ім таксама падкрэслен большэвік, кіраўнік партыйнай арганізацыі і ўсёй масы рабочых завода. Але і гэты вобраз у пэўнай ступені схематычны. Усё гэта паказвае на тое, што ў маладога здольнага пісьменніка яшчэ не ставала майстэрства на стварэнне яркага сапраўды мастацкі тыпізаванага вобраза станоўчага героя.

Але справа была не толькі ў кіраўніцтве. Справа была і ў тэхнічнай інтэлігенцыі. „Совецкія інжынеры, якія практыкаваліся ў Амерыцы на паасобных участках заводаў канвеернай вытворчасці, не маглі яшчэ асвоіць усяго працэсу цалкам і губляліся перад велізарнай колькасцю няспынных непаладак. У самым інжынерстве завода намячаліся дзве групы: староннікі амерыканскага праекта—„Нью-іоркцы" і староннікі крытычных да яго адносін—„аргаметальцы". „Нью-іоркцы" згрупаваліся вакол маладых інжынераў Ройзена і Нікалаева. Яны разважалі так: паколькі завод пабудаваны паводле амерыканскага праекта, дык трэба, „не мудрствуя лукаво", асвойваць амерыканскія метады працы і такім чынам забяспечыць выпуск трактароў". „Аргаметальцы" групаваліся вакол Секундатара, які па сутнасці быў крэатурай інжынера Стаўроўскага, былога шкодніка, інжынера-універсала, усезнайкі, супраціўніка амерыканскай вузкай спецыялізацыі, старонніка „расійскіх" метадаў працы. „Аргаметальцы" настойвалі пад сцягам соцыялістычных паправак да амерыканскага праекта на тым, што трэба займацца эксперыментатарствам. Яны і займаліся ім колькі маглі. Усё гэта ва ўмовах неасвоенасці завода прыводзіла да яшчэ большых непаладак, стварала дадатковыя цяжкасці.

Сакратар парткома Маркус у часе дыскусіі на тэхнічнай нарадзе правільна ацаніў адмоўную ролю эксперыментатарства. „Маркус, які моўчкі і ўважліва слухаў усіх, хто выступаў, адчуваў: нешта ў Секундатара ёсць патрэбнае і станоўчае, але зараз, ва ўмовах пуска, ён з яго эксперыментатарскім зудам быў акрэслена шкодным. І Маркус пачаў сваю прамову іменна з таго, што ён думаў пра Секундатара і яго работу. Ён даводзіў, што з-за лішняга эксперыментатарства і спрэчак работа ў цэхах пагоршылася".

Эксперыментатарства было адной са спроб супроцьстаўлення рускага інжынерства амерыканскаму, адной са спроб дыскрэдытацыі апошняга. Па гэтай-жа лініі ішла заява маладых савецкіх інжынераў, што „праекты не абгрунтаваны, тэрміны непасільны". Гэта было акрэслена ўплывамі на паасобныя звенні савецкіх інжынераў класава-варожай ідэалогіі. Гэтыя ўплывы ішлі з боку старога рускага інжынерства і выражалі своеасаблівае супраціўленне асваенню завода.

З прадстаўнікоў старога інжынерства найбольш тыпізаваным і мастацкі закончаным безумоўна з'яўляецца вобраз Стаўроўскага. Гэта чалавек рашучы, цвёрды, які настойліва дамагаецца правядзення сваіх мэт. Ён, калі паглядзець звонку, як-бы і сумленна працуе на заводзе, але на справе ў ім яшчэ моцна сядзіць чужак. Былое шкодніцтва было выяўленнем яго арганічных пераконанняў і яшчэ і цяпер яно моцна дае сябе знаць. Ён іранізуе з таго, што яго зноў сталі называць таварышам. Ён, хаваючы свае сапраўдныя адчуванні, у такой форме, каб захаваць свой асабісты гонар, падладжваецца пад начальства.

Цікавым вобразам з'яўляецца вобраз інжынера Баброўнікава. У яго скептычны склад розуму, ён па-дзяляцку накшталт замежнага інжынера Стэвенсона, ацэньвае становішча на заводзе. Наогул ён трымаецца „пад заграніцу". Адным словам, сярод інжынераў завода былі розныя людзі, на заводзе быў складаны пераплёт як у адносінах з боку інжынераў да вытворчасці, так і ў грамадска-палітычнай імкненасці. Наколькі палітычна-няправільная ацэнка сітуацыі на заводзе можа быць шкоднай, аўтар паказвае на выступленні падпаўшага пад уплыў контррэвалюцыйнага трацкізма Саламаціна супроць лозунга даць да вызначанага тэрміна пяцітысячны трактар.

Справа была ў майстрах. Большасць з іх прайшла вытворчую школу ў Амерыцы; некаторыя з іх працавалі надзвычай добра, давалі надзвычай высокія ўзоры авалодання вышэйшай замежнай тэхнікай, яны выпрацавалі ў сабе дысцыплінаванасць, арганізаванасць, чоткасць у працы. Другая частка прыехала з Амерыкі з той-жа „расійскай" расхлябанасцю, неарганізаванасцю, адсутнасцю вытрыманасці для роўнай, планамернай працы. Аўтар дае вобраз майстра-зборшчыка, былога партызана Качнова, які і на вялікім канвееры партызаніць—у пагоні за колькасцю ставіць дэфектныя маторы (быў выпадак, што ўвесь сутачны выпуск пашоў у дэфектную), гуляе з канвеерам, то працуе на шостай хуткасці, то з-за недахваткі дэталей—на другой.

Справа была ў рабочых. Адны з іх, не шкадуючы ні сіл, ні маладосці, ні здароўя, добра працуюць і вучацца яшчэ лепш працаваць (вобраз брыгадзіршы Ксеніі). Другія, як кавалі-ўдарнікі Варапаеў і Болатаў, якія авалодалі тэхнікай і могуць добра працаваць, але ў соцспаборніцтве даходзяць да рэкордсменства і тым зніжаюць якасць прадукцыі, часам даюць брак. Трэція, як хуліганствуючы Мітрохін, робяць прагулы, карыстаючыся адсутнасцю кантроля, вешаюць значкі і атрымліваюць грошы не працуючы, займаюцца арганізацыяй самавольнага захопу кватэр, чым дэзарганізуюць забеспячэнне рабочых і спецыялістаў кватэрамі. Чацвертыя, як люмпен—Пашка, выраз якога „Пашка не жадае" стаў сімвалам вытворчай недысцыплінаванасці на заводзе,—зрываюць вытворчую дысцыпліну і тым парушаюць нармальнае паступленне дэталей, а значыць і зніжаюць выпуск трактароў.

На заводзе не раз мянялася кіраўніцтва, мяняліся дырэктары, сакратары парткома. Дырэктара Ігнатава змяніў Баркоў, а пасля Селіверстаў. Сакратара парткома Маркуса змяніў Троекураў.

Упарта і настойліва падбіраліся людзі, якія маглі-б забяспечыць асваенне завода давесці выпуск трактароў да праектнай нормы, якія-б маглі ліквідаваць прарывы, брак і аварыі.

Не лёгка давалася вытворчасць. Цяжка было змяніць становішча ў цэхах. Але завод рос. Ільін на працягу рамана паказвае, як змяняліся, перавыхоўваліся людзі завода, як расла вытворчая дысцыпліна, узнімалася

якасць работы, рос вытворчы вопыт, паляпшаўся дабрабыт, матэрыяльныя ўмовы іхнага жыцця і іхнае культурнае абслугоўванне. Разам з гэтым расла і колькасць выпускаемых трактароў. Усё гэта і дало магчымасць Селіверставу ўзяць курс на паступовае нарошчванне „ў дзень па аднаму“, з тым, каб, замацаваўшыся на дасягнутым, не адкочвацца назад. Такім чынам завод паступова дайшоў да выпуска запраектаванай нормы трактароў. Завод тэхнічна быў асвоен.

У канцы рамана даецца параўнанне вялікага канвеера з Волгай. Гэта надзвычай удала. Вялікі канвеер сапраўды стаў грандыёзнейшай трактарнай ракой.

Аўтарскае асэнсаванне падзей у рамане даецца праз вобраз культпропа Газгана. У гэтым вобразе тыпізавана сабраны рысы комсамольскага актывіста. Ён практык, рэаліст і рамантык у той-жа час. Ён змагаецца за чыстату ў пасёлку і ў той-жа час марыць аб знішчэнні адмоўных момантаў канвеернай сістэмы, прытупляючай аднатоннасці і расшчэпленасці працы. Калі на заводзе паўстала пытанне (пасля таго, як вытворчасць трактароў у асноўным была асвоена) пра замену матора дызелем ён пачаў марыць пра пабудову завода-аўтамата накшталт завода амерыканскага прадпрыемцы Сміта. У Газгана — вялікае палітычнае чуццё. У часе адпачынку, у экскурсіі, на параходзе ён адразу-ж пазнае ў Дзмітрыеўскім ворага, контррэволюцыянера-трацкіста і адразу па-бальшэвіцку робіць з гэтага вывады, запісвае сабе ў блакнот: „Пра Дзмітрыеўскага, скрытны вораг, які моцна маскіруецца. Выкрыць“.

У вобразе Дзмітрыеўскага аўтар выкрывае контррэволюцыйны твар трацкізма, усю яго ненавісць да партыі, да разгортвання індустрыялізацыі, да пабудовы соцыялізма. Злосць і ненавісць Дзмітрыеўскага бяссільны і безнадзейны. У яго няма ніякай станоўчай праграмы, якую-б ён мог проціпаставіць лініі партыі. Гэтым аўтар падкрэслівае гістарычную асуджанасць і соцыяльную безвыходнасць трацкізма.

Раман „Большой конвейер“ — гэта вобраз нашай вялікай краіны будуючагася соцыялізма. Кніга гэтая каштоўная, патрэбная. Яе трэба ўсямерна рэкамендаваць совецкаму чытачу.

*Янка Шарахоўскі*

---

Адказны рэдактар *М. ЛЫНЬКОЎ*.

РЭДКАЛЕГІЯ: *Я. Бранштэйн, П. Галавач, П. Глебка, З. Жылуновіч, К. Зарэмбоўскі, М. Клімковіч, Я. Колас, К. Крапіва, М. Лынькоў, К. Чорны.*

АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 68, Дом Пісьменніка.**

Здана ў друкарню 10|IV—35 г. Падпісана да друку 21|V—35 г. Аб'ём 10 друкаван. аркушоў.
Знакаў у друкаваным аркушы 64.000 Зак. № 331. Уп. Галоўлітбела № Б 1780.

Друкарня ім. Сталіна, Менск, Энгельса, 2.